

Камсамолец Мікалай Мартыновіч закончыў у гэтым годзе планава-эканамічны факультэт Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя Куйбышава. Цяпер яго шлях ляжыць у калгас імя Леніна Капыльскага раёна Мінскай вобласці.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

## У НУМАРЫ:



**6** (88)

Чэрвень.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

На вокладцы малюнак мастака Г. Скамарохава.

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.265 экз. Цана 4 руб.
АТ 07309. Здадзена ў набор 1.V.60. Падпісана да друку 30.V.60. Зак. 331.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.





Анатоль Вярцінскі нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Дзямешкі на Лепельшчыне ў сялянскай сям'і.

У 1956 годзе закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Цяпер працуе адказным сакратаром рагачоўскай раённай газеты «Камунар».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

# СЛОВА ПРА ХЛЕБ

**Паэма**

Гравюры І. Немагая.

**Кружыцца, кружыцца лісце кляновае.**
**Стаіць у скверы ціш верасnёвая.**
**Уверсе — воблачка, над скверам — сінь...**
**Вітаю цябе, мой слаўны верасень!**
**Ты той жа ясны, ледзь-ледзь засмужаны,**
**Ты той жа вясёлы, ледзь-ледзь засмучаны.**
**Цябе з тваёй кожнаю прыкметаю**
**Я добра помню, добра ведаю.**
**Дзяцінства ніхто не забудзе ніколі.**
**А ты быў мне лепшым сябрам па школе.**
**Хіба не ты, прыветны і сонечны,**
**Ранкам якраз такім, як сённяшні,**
**Для нас адчыняў усе дзверы школьныя,**
**Будзіў званкамі даль навакольную.**
**І нечым яшчэ ты запомніўся, верасень.**
**Ці то цішынёй на азёрным беразе,**
**Ці спелай антонаўкай ды аскомінай,**
**Ці, можа, водарам хлебным з коміна?**
**Такую прыкмету не забудзеш,**
**Як школьны званок, яе помніць будзеш.**
**Ціш верасnёвая як нельга лепей**
**Напомніць аб тым, аб бацькоўскім хлебе.**
**Напомніць лісце вось гэта кляновае,**
**Што кружыць, шукае месца новае.**
**Яно не можа не напомніць,**
**Сэрца ўспамінам не напоўніць.**



Кружыцца ў скверы кляновае лісце,
Якое збіраў я пад хлеб калісьці.
(Парой замянялі яго і аерам).
І толькі прайду я асеннім скверам,
Зноў буду думаць аб колішнім хлебе.
Аб хлебе, што рос не ў алтайскім стэпе,
Не ў слаўных краях тых, на землях цалінных,
А вырашчан быў на суглінках ды глінах,
На ніве, дзе ведаю кожны камень,
Маімі бацькамі ды землякамі.
Аб хлебе я думаю самым звычайным,
Які нават жалі сярпом, не камбайнам,
Які з поля везлі калёсным ходам,
Які малацілі конным прыводам,
Які потым чысцілі арфай ля клеці,
Якога цярпліва чакалі мы, дзеці.
Здаваўся тады ён лепшай ядою,
Калі яго есці з соллю й вадою.
Нас дзед падахвочваў:
«Хлеб, соль і вада —
Вось маладзецкая яда».



Тады нам святочным караваем
Здаваўся хлеб новага ураджаю.
Мроіўся нам ён, хлеб гэты новы,
І ў першым завялым лістку кляновым,
І ў шэпце даспелага калосся,
І ў скрыпе нагружаных жытам калёсаў,
І ў гуле раскацістым малатарні,
І ў першых дажынках брыгады ударнай,
І ў нейкай мелодыі мажорнай,
Што мельнік насвістваў, пускаючы жорны.
Яны, згаладаўшыся па свежаму зерню,
З бурчаннем яго паглыналі бязмерна.
І мельнік, белай мукой запарошаны,
Не гнаў ад сябе нас, гасцей няпрошаных.
Падмігваў нам весела:
«Ходзіць чутка,
Што хлеб каштаваць будзем новы хутка».



Хіба забудзеш калі гэты момант!..
Ураз заціхне дзіцячы наш гоман.
Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
Адны яе рукі, адны іх рухі.
А маці з сваёй урачыстай усмешкай
Нізка схіляецца над дзежкай
(Над той, на каторай сядзела нявестай).
Яна расчыняе хлебнае цеста.
Цеста мясіла яна кулакамі,
Сценкі дзяжы абірала рукамі,
Вады падлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
Выканаць матчыны ўсе загады.
Мы ёй памаглі рукаў закасваць,
Муку падсыпаць па яе заказу.
Хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
Ці лоб выціралі матчын потны.
Было ўрачыста і ціха ў хаце —
Хлеб з новага жыта ўчыняла маці.



Усё захавалі памяці нетры.
Я водар рашчыны чую ў паветры.
Я столькі ўдыхаў калісь гэтага водару!..
Хадзіла ў дзяжы рашчына ходарам.
Хадзіла-брадзіла хлебнае цеста.
Было ў дзяжы яму, цесту, цесна.
Яно шапацела, прасіла ходу,
Хацела вырвацца на свабоду.
Ды коўдра яго закрывала шчыльна
Сачыла яна за рашчынаю пільна.
І вось пашаптаўшыся аб нечым ціха,
Рашчына знаходзіла ўсё-такі выхад
Яна запаўняла тады ўсю хату
Водарам хмельна-кіславатым.

І ён пабіваў да самага рання
Пах адцвітаўшых гваздзік і герані,
Якія раслі каля самага дома.
П'яніў ён дзіцячую свядомасць,
Спаць не даваў нам да паўночы.
Калі ж мы, нарэшце, заплюшчвалі вочы,
Нам сніліся казачныя караваі,
Сніўся хлеб новага ураджаю.



Назаўтра мы ў лес сабіраліся рана,
Выконвалі матчын наказ старанна.
Яна напярэдадні нам казала:
«Каб заўтра, дзеці, хлеб пёкся ўдала,
Па лісце кляновае раніцай збегайце».
Мы іншы раз прачыналіся б нехаця,
А тут была справа іншага роду, —
Яна абяцала ўзнагароду.
І беглі мы з братам сцяжынкай роснай
Туды, дзе шумелі клёны ды сосны.
Мы зналі да клёнаў шлях самы кароткі —
Хадзілі да іх мы па сок салодкі.
На самы узлесак выходзілі клёны.
Любілі прастор яны сонечны, дзённы.
Калі ж адчувалі дыханне слоты,
Яны пакрываліся пазалотай.
І падаў уніз пад яе цяжарам,
На ранішнім сонцы успыхнуўшы жарам,
Ліст за лістом. Аблятаў паўкружжа...
Мы іх на ляту лавілі дружна.
Збіралі, нанізвалі іх у вязку,
Пакуль не рабілася вязка важкай.
За гэткі гасцінец шчодрым клёнам
Мы ледзь не казалі «дзякуй» з паклонам.
Дамоў ішлі з радаснымі вачыма.
Весела шоргаў наш груз за плячыма.
Лісце ўручалі мы маці ўрачыста.
«Дык гэта ж не лісце,
а золата чыстае!
На цэлую восень хопіць яго мне.
Вы малайцы у мяне сягоння.
За справу такую даць вам трэба
Першую лусту новага хлеба», —
Казала маці, узняўшы вязак,
А мы, свой выканаўшы абавязак,
Сабой ганарыліся не на жарты,
На меншых сясцёр глядзелі з пагардай.





Даўно не было ў нас з табой сустрэч,
Старая, добрая руская печ!
А трэба сустрэцца, пакуль не позна.
Здарыцца, ведаеш, можа рознае.
Ходзяць упарта пагалоскі,
Што ты устарэла для новай вёскі,
Што ты аджыла і формай і зместам,
Што вельмі ўжо многа займаеш месца.
Што скажам на гэта мы, руская печ?
Факты, як кажуць, упартая рэч.
Помніцца, хата была цеснаватай,
Бо ты сапраўды займала паўхаты.
Ты мэблі нідзе не ўступала ні пядзі,
Кватэру трымала ў сваёй уладзе.
Каптур узвышаўся твой аж пад столлю.
Шчыт занімаў ільвіную долю.
Топка твая зіяла тунелем,
Падпечак быў цэлым падзямеллем.
Адным словам, печка, недарэмна
Просяць цябе сыйсці з арэны.



І ўсё-ткі, калі гаварыць па шчырасці,
Я рад, што было мне суджана вырасці
У той жа хаціне, дзе ты ўладарыла,
Дзе спраўна так грэла,
пякла і скварыла.
Дзякуй за ўсе твае добрыя справы,
За ўсе твае печывы,
твае стравы!
Бог з імі, тваімі габарытамі,
Толькі не будуць ніколі забытымі
Дні, калі ў коміне выў дзіка вецер,
А ты так умела гасцінна прывеціць.
Ты нас акружала цяплом і ласкаю,
Ціха расказвала казку за казкаю.
Змаўкала, зноў чулася ветру гудзенне.
На столі хісталіся прыцемак цені.
Гасла святло замёрзлых вокан
І ўсё змянялася навокал.

Цені рабіліся парусамі,
Героямі казачнымі — мы самі,
Плыла аж за трыдзевяць зямель
Ты, наша печка, як карабель.



І хлеб, які сёння я шчыра слаўлю,
Табе, печ, нямала ў заслугу стаўлю.
Была да яго ты прыналежная,
Ад печы тут многае залежала,
Ад поду яе, яе духу, ад жару,
Якія палілі, не знаючы жалю.
Не знаючы жалю ды знаючы меру, —
Служыла печ руская праўдай і верай...
Я жыва ўяўляю малюнак гэты.
Хлебніца чынна стаіць ля загнета.
Наведзен парадак належны у печы,
Тміну — найлепшай з вясковых спецый —
Маці ў цеста ужо замяшала.
Спрабуе, солі ў ім ці не мала.
З'яўляецца хлебная лапата,
Прылада з ручкай доўгай, гарбатай.
І вось рассцілае таропка маці
Лісце кляновае на лапаце.
На лісце сонечнае, узорнае
Кідае цеста жменяю спорнаю.
Яно нахадзілася ўжо уволю,
Яно са сваёй змірылася доляй.
Цяпер пад рукой умелай пакорна
Яно набывае пэўную форму.
Становіцца цеста боханам круглым,
І матчыны рукі спрытным рухам
Садзяць яго на чарэнь гарачую,
Жадаюць, каб быў ён, першы, удачаю...
Час настае,
і на загнеце
Дымяцца боханы лепшыя ў свеце.
Дыміцца, водар жывы выпраменьвае
Хлеб свежажытнёвы,
хлеб чарэневы,
Хлеб са скарынкай
румянай,
хрусткай,
Хлеб з печы даўняй,
цаглянай,
рускай.





Дзяцінства — мінулае далёкае —
У памяці толькі рэхам галёкае,
Калі яго клікнеш-гукнеш парою.
Дзяцінства — за казачнаю гарою.
І хлеб той чарэневы, гарачы
Для памяці — казка з пары дзіцячай.
Для сэрца ж і сёння ён быль непазбыўная,
Звычайная самая і самая дзіўная.
Пакуль з маім сэрцам нічога не станецца,
Яно з гэтай былллю не расстанецца.
Яно з ёю б'ецца верна і спраўна,
Для сэрца яна — і сіла, і праўда.
Я ведаю: выкінуць з сэрца быль гэту —
Здрадзіць бацькоўскім запаветам,
Шукаць шляхоў лёгкіх і лёгкага хлеба.
У хлебе ж такім я не маю патрэбы.
Другое жыццё мне больш да спадобы.
Мне прыклад —
сумленныя хлебаробы,
Мне прыклад —
умелыя хлебапёкі.
Душою быць з імі — гонар высокі.
Я помню заўсёды дарогі і сцежкі,
Вядуць што да роднае вёскі Дзямешкі,
Да поля з лашчынкамі ды бугаркамі,
Дзе ведаю кожны кусцік і камень.
Парою мне хочацца да болі
Вёску наведаць, выйсці у поле,
Сустрэцца з сваімі землякамі,
З іх дужымі моцнымі рукамі,
З іх словам, як рунь вясной, сакавітым,
Жывінкаю цёплаю перавітым,
З іх поглядам мудрым на справы і рэчы,
З іх радасцю шчыраю чалавечай.



А добрых навін у іх — як ніколі.
Стала радзіць іначай поле.
Доўга глушыла яго свірэпка,
У годы вайны ухапіўшыся чэпка.

З болем глядзелі хлебаробы
На жоўтыя плямы гэтай хваробы.
А зараз поле, ад краю да краю,
Сілай нябачанай патыхае.
Бродзіць яно здаровымі сокамі,
Радуе зборамі высокімі.
Дружна расце і жыта, і рэпка,
Болей не глушыць рэпку свірэпка.
Бушуюць і грэчка, і капуста —
Болей не будзе ў свірнах пуста.
А побач з імі, са старажыламі,
Да сонца цягнецца ўсімі жыламі
Сцябло развесістае, грузнае,
Для вёскі патрэбнае, кукурузнае.
Для госця паўднёвага — для сцябла
Хапае і ў нас раздолля й цяпла...
Добрыя змены на родным полі.
Людзям дае поле ўсё болей і болей.
Ад іх жа яно бярэ ўсё меней
Поту, што летам скідай хоць жменяй,
Працы, што славіцца мазолем, —
Рокат матораў плыве над полем.
Пайшоў з яго плуг услед за сахою.
Конь — у мінулым адной нагою.
Цяжка саперніčаць гнядому
З конскімі сіламі маркі вядомай.
Хутка, напэўна, і ён, і вупраж
Рэдкасцю будуць, як сёння зубры.
На выгане ж, дзе гулялі коні,
Прасторны гараж будуецца сёння.
Слухае родная мая вёска
Тэхнікі розны рокат і лёскат.
Слухаюць радасна яго людзі,
Як самую лепшую з прэлюдый.
Множацца сілы іх і надзеі,
Поступ арцельны іх цвярдзее.
Яны выбіраюць шлях самы кароткі
Да светлых вяршыняў сямігодкі,
Да дзён самых хлебных,
ураджайных,
Да дзён небывалых, незвычайных,
Што сёння ўзыходзяць над краем, як сонца,
Што будуць свяціць нязгасна,
бясконца.



Анатоль ЗНАМЕНСКІ

# ПРАМЕТЭЙ № 319

Мал. Ф. Бараноўскага.

Нас было трыста васемнаццаць.

. Трыста дзевятнаццаты з'явіўся потым.

Позна ноччу адрывіста бразнулі дзверы. Ля парога заклубіўся мароз і, распластаўшыся, як дымок адстралянай гільзы, пацягнуў да нараў. На мокрай, аслізлай падлозе я ўбачыў ногі ў рыжых пакарабачаных ботах з закасанымі халявамі. Разглядзець астатняе перашкаджалі анучы, якія сушыліся над жалезнай печкай. Смярдзючыя, пажухлыя, яны віселі ў некалькі радоў, падзяліўшы барак на дзве паловы.

Боты?

Усе мы — трыста васемнаццаць штрафнікоў-ваеннапалонных — тут, у Нарвегіі, даўно цягалі драўляныя калодкі і эрзац-лапці. А ля парога прытупвала пара стаптаных і ўсё ж яшчэ фасоністых ботаў з задзірліва загнутымі наскамі. З адваротаў нядбайна звісалі падраныя вушкі.

Я думаў, што наглядаю за чалавекам адзін. Вакол хроп, стагнаў і мучыўся пасля цяжкага дня палонны люд. Да неверагоднасці ярка палала пузатая лямпа ў пяцьсот ват, асвятляла ярусныя нары, транты, знямоглых людзей і сляпыя ад марозу аконныя шыбы.

Аднак спалі не ўсе.

— Хто там? Праходзь... — гукнулі навічка.

Пада мной рыпнулі ніжнія нары. Севасцяныч — наш выбраны старшыня — закрактаў, высунуў вузлаватую, стрыжаную галаву насустрач таму, хто ўвайшоў, і ўстаў.

— Свае... — абыякава, глуха адказаў чалавек ля дзвярэй і зрабіў крок на голас, да сярэдзіны барака. Рэзкі, падобны на кажана, цень яго зламаўся ў кутку і раптам, кінуўшыся за ім, знік пад ботамі.

Пад лямпай, за тры крокі ад мяне, стаяў скуласты хлопец у доўгай ватоўцы без хлясціка і ў нямецкім зімнім картузе набакір, з торбай за плячыма.

На шэрым, зморaным твары, як на негатыве, бялелі вылінялыя бровы. Расшпілены каўнер паношанай гімнасцёркі агаляў жылаватую шыю і моцныя ключыцы. Навічок быў яшчэ моцны — палон не паспеў знясіліць яго цела.

Распытваць людзей і наогул шмат размаўляць у лагерах не прынята. Але, калі новы чалавек з'яўляўся ў нашым бараку, які на нямецкі лад звалі «блокам», разам з ім уваходзіла яго слава. Сюды не траплялі выпадкова: на поўнач ад нашага лагера, па агульнай думцы, быў канец свету.

Севасцяныч мераў навічка дапытлівым позіркам: было ў ім нешта абыякавае, была раўнадушная гатоўнасць да ўсяго, што прынясе лёс.

— Уцякаў? — напаўголаса спытаў Севасцяныч, па прывычцы аглядаючыся на нары.

— Ды не... — з ранейшай абыякавасцю запярэчыў хлопец. — Так, глупства. Трапілася... Накрыў там аднаго запыленым мяшком.

Навічок выразна варухнуў амаль парожняй торбай, ляніва дадаў:

— Да смерці, здаецца... Пакуль справа разбіраецца — да вас. Падследны, значыцца... Месца знойдзецца?

Парныя нары-вагонкі стаялі так цесна, што ў прамежках ледзь мог прайсці чалавек. Па суседству са мною ўчора вызвалілася месца: пахавалі Зайцава.

Старшыня моўчкі кіўнуў галавою, хлопец усціснуўся ў праход, кінуў на голыя дошкі торбу і, абапіраючыся рукамі, лёгка ўскочыў наверх.

— Завуць як? — шэптам спытаў Севасцяныч.

— Валодзька...

Нязручна скурчыўшыся пад нізкай столлю з жэрдак, хлопец сцягнуў з сябе ватоўку, разаслаў, сунуў у галовы торбу і лёг, адвярнуўшыся спіною.

Здаецца, я галасна ўздыхнуў, успомніўшы другога Валодзьку, што займаў месца поруч, да Зайцава. Навічок зразумеў, што я не сплю, і павярнуўся на другі бок — тварам да мяне.

— Ішачыць куды ганяюць? — спытаў ён хрыпла.

— У лес. Дровы пілуем...

Трэба было б яшчэ сказаць, што дрывамі на нашым паўстанку грузіліся саставы для паўднёвых цэментных заводаў. Немцам з восені мінулага года спатрэбілася вельмі многа цэменту для дотаў: яны адступалі па ўсяму фронту.

Але я не сказаў гэтага: раптам убачыў жорсткі барвяны шрам на твары суседа. Старая рваная рана пакінула вузлаватую падкоўку ад скроні да падбародка — кляймо.

— Немцы? — спытаў я.

— Не... Па п'янай справе... — здзекліва зірнуў ён на мяне, быццам па свежай ране, правёў далонню па шчацэ і раптам засоп. Позні час, цяжкі дух барака марылі на сон.

«Што за чалавек?» — думаў я, засынаючы.

Ноч у лагеры — кароткі паратунак ад смяротнага дня, яна — як імгненне. Не паспееў заснуць, цела яшчэ баліць і просіць адпачынку, а на вахце ўжо б'юць па рэйцы, за зонай узнімаецца ашалелы сабачы брэх.



Немцы-наглядчыкі бягуць удоўж блокаў, сцягваючы з нараў кожнага, хто рызыкне парушыць рэжым. Каля кухні, у цемры, выстройваецца чорная, маўклівая чарга. Бразгаюць кацялкі, плюхаецца смярдзючая баланда. Пах бульбы, бручкі і рыбнай сырасці зводзіць сківіцы.

Вывад на работу — «без апошняга».

Апошняга б'юць гумавымі і жалезнымі палкамі для страху астатнім.

Я спяшаўся да вахты, падганяў новага суседа, але беспаспяхова. Валодзька збіраўся занадта марудна, старанна закручваючы анучы, быццам старшыня-інструктар, які вучыць навабранцаў. Дзягу зацягваў, як сапраўдны лесаруб. Ён выйшаў з блока адным з апошніх і ўсё ж дайшоў да брамы не набіты.

Я здалёк бачыў яго. Валодзька ішоў моцна сутулячыся, нагнуўшы галаву, зверавата аглядаючыся па баках.

Было ў ім нешта ваўчынае. Так пры аблаве маруднай, цяжкай рыссю знікае ў лясістай лагчыне стары воўк... Гончыя могуць і дагнаць яго, але ніводны не рызыкне схапіць першы.

За брамай лагерны люд разбіўся на пяцёркі. На кожную — сані з вупражжу. Чалавек-карэннік накідвае сабе на шыю шлях, што сцягвае аглоблі, бярэ іх пад пахі, а два прыпрэжаных закідваюць на плечы кожны свой пастронак. Астатнія два ўпіраюцца шастамі ў сані ззаду.

— Іржаць, хаця, гады дазваляюць? — спытаў Валодзька, беручы жэрдку.

Ніхто яму не адказаў.

Працэсія расцягваецца на паўкіламетра. На дзялянку за пяць кіламетраў мы цягнем пустыя сані, а вечарам давядзецца прывалакчы ў лагер на кожных па два кубаметры дроў. Потым пагрузіць у вагоны. Кароткага ж зімовага дня не хапае нават на нарыхтоўку дроў.

Вузкая дарога — быццам канава ў глыбокім снезе. Пільнуюць нас чатыры лядашчых немцы-татальнікі. Два ідуць наперадзе з карабінамі ў руках, два замыкаюць строй. Узімку варта аслабленая, сабак няма. Ды і куды пабяжыш, калі вакол снег па пояс, а адзіная сцежка вядзе да станцыі і кантрольнага пункта.

Блакітная нарвежская раніца з лёгкімі сняжынкамі паступова бялее, праясняюцца абрысы дрэў. Узнімаецца ветрык, віхрыць пароша, дарога пляміцца адбіткамі драўляных калодак і лапцяў. Крок у крок за полазам ідзе кожны з нас...

Дзялянка чарнее ад учарашніх вогнішчаў. Старэйшы канваір — чыста выгалены крываногі Генке — кладзе запальніцу на пень і адыходзіць у бок. Ён давярае яе нам: трэба развесці чатыры вогнішчы для іх і адно — для сябе. Кастры разгараюцца. Севасцяныч застаецца апальшчыкам ля канвойных, а нам трэба лезці ў снег, валіць лес.

Я падняў з саней двухручную рускую пілу, клікнуў Валодзьку. Ён скептычна глянуў на пілу, потым на мае вострыя плечы, доўгія рукі і адвярнуўся.

— Цягаць цябе на ёй? — мармытаў ён і, падхапіўшы станковую лучкоўку, пайшоў адзін да бліжэйшага дрэва.

— Ваўчуга! — гукнуў стары Фядосаў услед Валодзьку і перахапіў канец маёй пілы.

Мы абтапталі снег вакол шурпатай яліны, а Валодзька доўга стаяў ля суседняга дрэва, задзёршы галаву і заваражана гледзячы на верхавіну. Нязлосна зірнуў у наш бок, усміхнуўся:

— Высока ад нас сённяшні акраец з баландай! На са-амай верха-

туры! — І раптам са злосцю рвануў па ствале пілкай з добра разведзеным канадскім зубам.

...Пад вечар мы выбіваліся з сіл.

Мы пілілі па тры і чатыры кубаметры на брата пры норме — пяць. За гэта нас трымалі ў лесе да глыбокай цемры. Забаранялася падыходзіць да агню. Канваіры тады стралялі па нашаму вогнішчу.

Але жах яшчэ ніколі не падвойваў чалавечыя сілы.

Худы, нязграбны італьянец Джавані і яго напарнік — друзлы, з выбітымі зубамі француз з Латарынгіі Жан уселіся ў глыбіні дзялянкі пад вяршалінай. Ім усё роўна. Нават стрэлы не маглі б іх цяпер узняць і прымусіць пілаваць.

Валодзька падсеў да іх, закурыў танюсенькую самакрутку, з цікаўнасцю разглядаў незнаёмых людзей. Хлопцаў змарыла праца і голад, яны сядзелі, стуліўшыся, і кожны з іх безуважліва сачыў пустымі вачыма за палётам белых снежных хмар над сінім грэбнем лесу. Куды плылі аблокі? Можа ў паўднёвы бок, да ламбардскіх далін і вінаграднікаў Латарынгіі?

Людзі былі бездапаможныя і вартыя жалю. А Валодзька, відаць, не цярпеў чалавечай слабасці. Блытаючы нямецкія, французскія і рускія словы, ён спрабаваў распытваць іх аб чымсьці, а яны то пужліва азіраліся на яго, то беспрычынна ўсміхаліся, пазіраючы на недакурак, закушаны ў яго сініх губах.

Недакурак трашчаў, абпальваючы і рот і пальцы.

Валодзька ўпарта смактаў яго, падціскаючы губы, моршчыўся і ссоўваў да пераносся бровы, потым злосна адкінуў у гурбу. На белым снезе засталася чорная метка — быццам след кулі. Суседзі расчаравана ўздыхнулі, сочачы прагнымі вачыма за палётам маленькай цёплай іскры.

— Цябе, значыць, Джавані завуць? А цябе Жан? — раптам, прыўстаўшы на калені, торкнуў Валодзька кожнага пальцам у грудзі. — Вось, браткі, якая справа выходзіць. Абодва, значыцца, вы Іваны, толькі і дзялоў. І, пагляджу, у вас гэтых Іванаў нават больш, чым у нас! Але не паспеў смажаны певень дзёўбнуць як мае быць — вы ўжо і крылцы апусцілі.

Я прысеў поруч, пацягнуў земляка за рукаў:

— Адчапіся ад людзей! Абодва з мінулага тыдня лыжы на той свет навастрылі, не бачыш, ці што?

— Адкуль яны тут узяліся? — не разумее Валодзька.

Адкуль узяўся ў нарвежскім лагеры француз, ніхто не ведае. Затое гісторыя Джавані вядома некаторым з нас. Пра яе ніхто нікому не гаворыць, але я чамусьці давяраюся Валодзьку.

У мінулым годзе італьянец перабег да нашых партызан. Яго яшчэ не паспелі як след праверыць, як немцы ўзялі атрад у абцугі і поўнасцю ліквідавалі яго.

Калі немцы вызначаць асобу Джавані — яму не мінуць ліха. Валодзька адчувае сябе так, быццам яму за каўнер насыпалі кастры.

Бачу, што цяпер ён нізавошта б не дакурваў цыгарку да канца. Ён гатовы скруціць новую, каб згладзіць сваю віну, але ў кішэнях у яго няма больш махоркі...

Зусім сцямнела. Канвой загадаў строіцца.

* * *

У лагеры існуе гадзіна агульнай, поўнай цішыні. Гэта гадзіна вячэры.



За час вайны шмат хто пазнаў, што такое голад. Але што такое псіхічны голад — заўсёднае, шматгадовае галаданне, якое запаўняе ўсю істоту, як непатольная жорсткая страсць, ведаюць, напэўна, толькі людзі, што паспрабавалі блакады і палону.

Кацялок на дзіва малы, напаўняецца ён пустой жыжкай, якая ледзь прыкрывае ржавае донца. І кавалачак эрзац-хлеба — сапраўднага ласунку. Яго называюць акрайцам, крылаткай, птушкай — на розны манер, бо ён знікае ў нашых пустых страўніках, як трапяткая, пужлівая птушка.

Людзі сядзяць на нарах, абняўшы кацялкі, сутаргава рухаючы скіўцамі, малітоўна сузіраючы порцыю ежы, якая ўбывае неверагодна хутка. А ў ёй — жыццё...

Пасля таго як кацялкі апарожнены, яшчэ мацней хочацца есці. Толькі страшэнная стома і слабасць могуць прымусіць галоднага заснуць. І ў сне ён бачыць ежу... Гэта насланнё. Чалавеку сняцца — не, не прысмакі, а самыя грубыя калдуны, жоўтая развараная, запраўленая топленым маслам прасяная каша, горы аладак, варэнікаў, разліўное мора малака і цагляная мурожка з добрых рускіх фармавых боханаў.

Перад сном нехта не вытрымлівае, спрабуе расказаць, якія прысмакі яму даводзілася ўжываць дома, у калгасе, на вяселлі, у суседа на імянінах, якім дурнем ён быў аднойчы, калі не даеў патэльню смажанай бульбы ў механіка МТС... Яго груба абрываюць: на размовы аб ежы па агульнай маўклівай згодзе накладзена забарона.

Валодзька пасля ежы сядзеў, не разуваючыся, на нарах, скрыжаваўшы па-азіяцку ногі, моўчкі, тупа ўтаропіўшыся вачыма кудысьці паўз мяне ў пустэчу, і на твары яго застыла дзіўная засяроджанасць.

— Як думаеш, раздачу ўжо скончылі? — раптам спытаў ён.

— Час... — сказаў я.

Ён звесіў адну нагу з нараў і няўлоўным рухам выцягнуў з-за халявы нож. Потым сунуў яго ў грудную кішэню, саскочыў і, прыхапіўшы кацялок, знік з барака. Ніхто не звярнуў на яго ўвагі.

Я не спаў, калі ён вярнуўся.

Ён паставіў на нары кацялок, поўны рэдкай кашы — таго, што, як я ўяўляў, заставалася на дне катла пасля раздачы супу, і, стоячы, пачаў есці.

Галава яго была на ўзроўні другіх нараў, і кацялок стаяў ля самага твару. Локці, моцна ўладкаваныя па абодва бакі пасудзіны, амаль не рухаліся, але затое вушы несціхана хадзілі ўгору і ўніз ды чамкаў рот.

Лепш бы мне заснуць, не трывожыць сябе! Але я не мог спаць. Хацелася запусціць у яго табурэткай, вырваць кацялок. Я ляжаў, добрасумленна імкнучыся заснуць.

Валодзька недзе ведаў, што я не сплю.

Бразнуўшы лыжкай аб дно, ён ляніва павярнуўся і раптам паставіў кацялок мне на грудзі.

— На, саскрабі там...— спакойна сказаў ён, — і — памый.

Як узненавідзеў я яго ў гэтую хвіліну! Але рукі мае прагна схапілі кацялок, шчодра запэцканы знутры кашай-размазанкай.

Не, ён даў мне не пусты кацялок. Там можна яшчэ было набраць тры-чатыры лыжкі ежы, тыя тры-чатыры лыжкі, што часам могуць зберагчы чалавечае жыццё на цэлыя суткі! Суткі жыцця...

Я з'еў яго дар, але стаў з гэтага дня глядзець на яго, як на вылюдка. А Севасцяныч чамусьці пранікнуўся да Валодзькі даверам.

Назаўтра ўвечары наш выбраны старшыня доўга сядзеў у яго на

нарах, распытваў пра жыццё, расказваў сваю гісторыю, і я быў па іх маўклівай згодзе сведкам размовы.

Дзякуй богу, людзі ніколі, нават у самых небяспечных абставінах, нават у бараках з доўгімі вушамі, не баяліся пры мне адкрываць свае душы.

Магчыма таму, што думкі мае заўсёды супадалі з думкамі сяброў. І любіў і ненавідзеў я не адзін, а разам з людзьмі.

Севасцяныч схіліўся да Валодзькі і быццам дрэмле. Ён засланяе мне электралямпу, і я добра бачу яго згорблены чорны сілуэт на хісткім фоне святла.

Стары ў акупацыі пад Гродна працаваў конюхам у нямецкай камендатуры. Ён шчыра апавядаў пра гэта і раней, каб не абуджаць празмерных падазрэнняў нямецкай агентуры ў лагеры. Але я адчуваю, што гэты чалавек не «ішоў служыць» немцам. Я вельмі добра ведаю яго. Гэта наш чалавек.

Валодзька ж не разумее гэтага. Ён раптам ускоквае на нарах, стукаючыся галавою аб жэрдкі столі, сціскае рукою плячо старога:

— Да га́даў пайшоў?

На твары Валодзькі барвавее шрам.

Севасцяныч спакойна адхіляе яго руку:

— Ляжы, не вякай. Слухай далей...

У яго голасе я чую шкадаванне.

— Далей усё было б добра, брат ты мой, ды адзін выпадак падвёў, даруй мне божа, бо не даруюць мне гэтага людзі...

Я прысоўваюся на самы край, напружваю слых.

— Прыехаў аднойчы нейкі важны чын...— працягвае Севасцяныч.— Не ведаю, ці то обер-штурм-фурэр, ці то вышэй...

Ён так і кажа: «фурэр».

— Прыехаў, значыцца, і трэба яго везці ў суседнюю вёску, у калясцы. Лесам... Сеў поруч з ім сам начальнік паліцыі, сволач земляная, а мяне за фурмана...

Стары ўздыхае, схіляецца яшчэ ніжэй.

— Паглядзеў я на обер-фурэра, калі садзіўся на козлы. Нічога сабе немец, пажылы, самавіты і вочы разумныя. Вось жа і сярод іх трапляюцца чалавечыя фізіяноміі... На гэтым я і загінуў. Стаў ён распытваць, заўваж — на чыстай рускай мове, хто я, ды адкуль, ды колькі зямлі да калгасаў меў. А я, праўду кажучы, ніколі ў бедняках не хадзіў. І чую, па душы яму мая біяграфія. «Бауэр»,— кажа. Потым пытае, д'ябал, гэтак проста, па-свойску ў мяне: «Што, маўляў, дзед, думаеш: пераможам мы Расію ці, можа, не?»

Я адчуваю, што вось-вось звалюся з нараў. Севасцяныч пасуравеў, быццам шукаючы падтрымкі, зірнуў у мой бок.

— Як калом ён мяне па галаве ўзгрэў. Што яму ў маім стане адкажаш? Сказаць: пераможаце, маўляў,— дык чалавек ён разумны, плюне мне ў спіну, за чарвяка палічыць. Ведае ж ён, недзе, гад, што я на самай справе думаю... Але скажы: не, кішка ў вас тонкая, маўляў,— проста ж кулю ў патыліцу ўсадзіць. А жыць жа хочацца, браце ты мой! Як адкажаш?

Падумаў я трошкі, коней пужкай патрывожыў і кажу: «А як, пан афіцэр, ці ведаеце вы хоць прыблізна колькасць вашай арміі?» «Ведаю, вядома»,— адказвае. «Што ж,— кажу,— ці хопіць хаця па аднаму вашаму салдату на кожную вёску?» Чую, быццам усміхнуўся ён майму пытанню і сур'ёзна адказвае: «Так, вядома, не больш як адзін наш салдат прыйдзецца на кожную рускую вёску...» «Дык што?— спытаў я тады.— Адзін салдат, выходзіць? Аднаго ж вашага салдата ў нас бабы ля студні карамысламі папросту ўкакошаць».

Я прыўзняўся на нарах, здзіўлена ўтаропіўся на апавядальніка. Што ж далей? Шрам на Валодзькавым твары пабялеў, стаў сінець і знікаць у прыцемку.

— Чую, торгае обер-фурэр мяне за плячо і падае пачак сігарэт. «Не спалохаўся,— кажа,— бауэр. Бяры ад мяне асабіста і куры на здароўе...» А сам задумаўся потым і да канца паездкі рота не раскрыў. Як відаць, вельмі я яго абзадачыў гэтай арыфметыкай, каб ёй кадук. Таму што на другі дзень спісалі мяне са стайні, як падазронага, і — у лагер. Вось, брат, як я схібіў.

Стары змоўк, аб чымсьці бядуючы. А Валодзька вылаяўся і з'едліва заўважыў:

— Морды ў іх і сапраўды бываюць іншы раз прыстойныя... А ў рот палец не кладзі!

Яны доўга маўчалі. Потым Валодзька расказаў сваю гісторыю.

У лагеры, дзе іх трымалі, прасачылі даносчыка і доўгі час не маглі знішчыць так, каб можна было пазбегнуць рэпрэсіі. Валодзька не вытрымаў, паклаў у клунак цагліну, падпільнаваў правакатара ў прыбіральні.

— Сядзіш?— са звыклай лянотаю ў голасе спытаў ён рылатага хлопца.— Ну, сядзі.

І з пляча ўдарыў яго мяшком па галаве.

Тых, каго падазравалі ў забойстве, накіравалі ў зондарблокі. Валодзька прыбыў у наш «Паўночны тупік»...

Гісторыя гэта пасля апавядання Севасцяныча не ўразіла мяне. Але сам Валодзька запамятаўся на ўсё жыццё, хоць прабыў у нас яшчэ толькі адзін тыдзень.

* * *

У канцы дня старэйшы канваір Генке застрэліў ля кастра Жана.

Француз, які сутула горбіўся над пагаслымі паленнямі, пасля стрэлу сядзеў некалькі секунд нерухома і раптам, быццам падушка, мякка паваліўся ніцма, тварам у кучу попелу.

Нічога, што выходзіла за рамкі звычайных лагерных правіл, як быццам не адбылося. Але пагрузка бярвенняў у гэты вечар зацягнулася ў нас далей, чым звычайна, пачалася страляніна, і канвой паспяшыў зняць нас з дзялянкі раней, да наступлення цемры.

Жана паклалі на воз, паўзверх бярвенняў. Ён ляжаў, утаропіўшы ў безуважнае неба чорны, знявечаны твар. На марозе горка дымілася прысмаленая вопратка.

Джавані зусім аслабеў.

— Ты сёння станеш у карэннікі,— сказаў мне Севасцяныч.— Яшчэ здаровы, дзякаваць богу! Італьянца вазьмі ў прыпрэжку, няхай за аглоблі прытрымліваецца...

Мае сані пайшлі другімі. Перада мною, перавальваючыся, рухаўся Валодзька, ён быў з шастом ля пярэдняй запрэжкі.

Самае цяжкае — выцягнуць гружаныя сані па сыпкаму снегу да наезджанай дарогі. Палазы глыбока, на ўсю вышыню капылоў, тонуць у растаптанай кашы, а на возе трохі не тона і — абгарэлы, падобны на вялізную галавешку чалавек.

Я падаю ўсім целам наперад, ірву ўлева, потым з левай нагі кідаюся ў працілеглы бок. Цяжка рыпяць аглоблі. Наперадзе завіхаецца з жэрдкай Валодзька, і мне здаецца, што і мае памочнікі стараюцца не горш — воз неяк жа выпаўзае на дарогу.

Адразу становіцца лягчэй. Але тут, на цвёрдай сцежцы, я палохаюся. Я чую, як цяжка трымаць левую аглоблю. Джавані цалкам паспадзяваўся на мяне, вісне, ледзь перастаўляючы ногі. Але гэтак і я не вытрымаю да канца дарогі. А яшчэ трэба грузіць вагоны.

— Ну ты, Трэці Рым! — хрыплю я ў ярасці, не павяртаючы галавы. Шыю нясцерпна рэжа вузкая шляя.— Лягчэй, дружа, мацуйся якнебудзь, бо прападзем. Я ж не трактар!

Ён спрабуе ісці сам, налягае на пастроначную пятлю і нацягвае, павісаючы на ёй. Я ўспамінаю раптам, што сярод іншай вупражы на каня кладуць падсядзёлак, каб не збіць спіны жывёле. А ў лагеры да гэтага яшчэ не дадумаліся...

Бяжыць наперадзе полаз, парыпваюць Валодзькавы боты. У скронях хваробліва пульсуе кроў. «Пяць вёрст, пяць вёрст, пяць вёрст!...»— напружана стукае пульс. Ці ўдасца яму дастукаць да вызвалення? А да канца гэтай змены?

Мы адолелі не больш сотні крокаў, і Джавані зноў павісае на пастронкі. Упасці ён не хоча — прыстрэляць.

Пракляты Севасцяныч! Гэта ён запрог мяне ў смяротныя аглоблі! Напэўна не вытрымаю.

Адпачыць бы! Але за намі паўзуць яшчэ паўсотні запрэжак...

Як быць? Куды падзеўся Севасцяныч? Ён жа не вязе саней, мог бы памагчы...

Усё мацней рэжа карак вузкі рамень. Джавані напружваецца з апошніх сіл і ўсё ж вісне на мне, а я гнуся разам з ім у перакошаных аглоблях. Праз колькі хвілін мы звалімся абодва.

Ударыць яго, выкінуць з пастронкаў на абочыну? Я ўратую сваё жыццё, яго ж прыстрэляць на месцы.

— Джавані, скаціна! — хрыплю я. Пот выядае мне вочы. Я гатовы сабраць сілы і адштурхнуць італьянца.

Але стары! Які наш стары! Ён з'явіўся ўсё ж, д'ябал печаны! Ён падхапіў італьянца пад левы локаць, мармыча нешта суцяшальнае яму ў вуха, ужо выраўняліся аглоблі. Можна ўздыхнуць, праклінаць сябе за ганебную думку, што прамільгнула хвіліну назад.

Я раўняю крок, але здараецца непапраўнае. Падтрымка адразу вытрасла з Джавані рэшткі волі.

— Сэрца! Сэрца! — застагнаў ён і ўпаў на калені.

Севасцяныч, перапалохаўшыся, яшчэ цягнуў яго ўперад, валок па дарозе.

Крок, яшчэ крок наперад... Трэба спыніцца, чалавек жа можа адпачыць, чалавек яшчэ можа жыць.

Азірнуўся Валодзька.

А што ён можа зрабіць? Што я магу зрабіць?

Шрам у Валодзькі ўспыхвае барвовай, крывавай ранай.

Топчуцца на снежнай утрамбаванай дарозе пакарабачаныя боты з закасанымі халявамі. Над трапяткім парваным вушкам правага бота я мімалётна заўважаю ручку нажа...

Валодзька шпурнуў шост уперад, на воз, і раптам у два скачкі абагнаў свае сані. У дзесяці кроках перад ім — канвой. Што ён задумаў, шалёная галава?!

Нічога асаблівага. Ён сядае раптам на дарогу, склаўшы накрыж ногі, і ляніва лезе ў кішэню нагавіц.

— Перакурым гэту справу? А, браткі?

Валодзька глядзіць на нас, і ў яго спакойных вачах застылі рашучасць і адвага.





Калона спынілася, ззаду далятае стрэл. Страляюць угору для высвятлення прычыны. Пярэднія канваіры з карабінамі ў руках кідаюцца да Валодзькі.

— Ауф!

Чалавек марудна выграбае з кішэні рэшткі махоркі і рознае смецце. Тытуню, відавочна, у яго няма, але ён усё ж скручвае самакрутку.

— Ауфштэйн!

Немцы чамусьці не страляюць у яго. Ён дастае крэсіва — «кацюшу», пачынае высякаць агонь. Ляніва з'яўляецца дымок, смярдзіць цэрай. Валодзька сядзіць, курыць. Генке насоўваецца на яго, пагражае штыком. Але сабака смяротна баіцца чалавека, які сядзіць на зямлі. Гэтае пачуццё, відаць, зазнае і канваір.

Валодзька спадылба глядзіць знізу ўверх у вочы Генке:

— Я т-тва-ю... гад!

Немцы не страляюць.

Севасцяныч паспешліва выслабаніў Джавані з пастронка, паставіў поруч з санямі: трымайся за бервяно! Сам улез у пастронак. Джавані цяжка дыхае, хапаючыся за грудзі, у яго цякуць брудныя, буйныя, як боб, слёзы. Ён не выцірае іх, ён уздрыгвае ад глухіх рыданняў.

Валодзька зацягваецца едкім папяровым дымам, усё так, як раней, рэжа вачыма татальнага канваіра.

— Штэйн ауф, канальен!

— Эх ты, краматорый, сучая морда! — хрыпіць ярасна Валодзька і падымаецца. Абкалаціўшы з абвіслага заду портак снег, ён, перавальваючыся, ідзе на сваё месца.

— Пагаманілі, паехалі... — мармыча сабе пад нос.

Валодзька смяротна стаміўся за гэтыя пяць хвілін. Я заўважаю гэта па яго нагах, якія дрыжаць, па галаве, што нізка схілілася, па плячах, якія панніклі.

У барак, пасля пагрузкі, мы вяртаемся змардаваныя. Сілы пакідаюць людзей, але яшчэ трэба выстаяць гадзіну ля кухні, праглынуць ежу...

Лежачы на нарах, я збіраю ўсе сілы, паварочваюся да суседа.

— Як жа ж ты... адолеў гэта, братка? Няўжо ў замоўнае слова вераш? Або дзве скуры ў цябе?

— А не забілі ж гады! — злосна шэпча Валодзька. — Вось чаго вы не зразумелі, гэта — нямецкай душы. Яны ж цвёрда ведаюць, што праз тры дні, а магчыма праз тыдзень павінны расстраляць мяне. Згодна парадку. Зразумеў? І таму цяпер, што б я ні зрабіў, яны нізавошта мяне не заб'юць...

З'явіўся шэф, учыніў вобыск і адняў у Валодзькі «кацюшу»...

Нож Валодзька неяк паспеў схаваць.

Я засынаў, думаючы аб людзях, аб гэтым амаль незнаёмым мне хлопцы з барвовым шрамам цераз усю шчаку і жалезным здароўем. Як сумясціць учарашнюю кашу з сённяшнім «перакурам»? Учарашнюю грубую бесцырымоннасць Валодзькі з Жанам і Джавані і яго гатоўнасць памерці за іх?

Я нічога не вырашыў. Душа чалавечая была для мяне цёмнай.

Але хутка Валодзька перасягнуў самога сябе...

* * *

Надвор'е змянілася нечакана.

Тры дні дзьмуў паўночны вецер, абрушыўшы на ўскудлачанае чарналессе ўсю лютасць асатанелай зімы. Ледзяны ўраган змяшаў у калючую мешаніну неба і зямлю, раскідаў кудлы завірухі над прыбярэжнымі таросамі і рынуў у глыб мацерыка.

Нізкарослыя бярозкі і наскрозь прамёрзлы, хрусткі вербалоз прыляглі ў снег. Але спераду выступала грозная сцяна старажытных лясоў, і, натыкаючыся на яе, белы, пасінелы з краёў смерч уставаў на ўсю вышыню неба. Струмені ледзянога ветру, быццам у рукавы, мкнулі тады ўсцяж фіёрдаў, вялікіх і малых рэчышч далей, на поўдзень — у глыбіню лясоў, стылых балот і цёплых імшар ішла нябачаная сцюжа. Трашчалі старыя сосны і лопаўся лёд на адкрытых балотах. На сотні вёрст вакол замерла жыццё.

А нас гоняць на працу.

Мы накідваем на сябе ўсё, што магчыма сабраць з нараў: коўдры, ручнікі, закручваем трантамі ногі. Мы падобныя на пачвар.

Калі ныраеш з барака ў белы туман, здаецца, што ў абутак, у рукавы, за пазуху наліваецца ледзяная вада. Імгненна карчанее твар, рукі робяцца лубянымі, потым зусім дрантвеюць.

Знясіленыя людзі з апошніх сіл бягуць рыссю да вахты, каб не прымерзці да зямлі.

Неверагодна рэзкія гукі. Нехта ўпусціў прыўзнятую аглоблю — трэснула, быццам абухам аб лёд.

Пяць кіламетраў рысі выматалі з нас апошнія сілы. Дыхаць трэба толькі носам, інакш запаленне лёгкіх і, значыць, яма. Ледзянее нос. Няголеныя твары тапырацца сівізной, бы ў нябожчыкаў.

Пільнуюць нас два вартавых. Генке самога няма. Значыцца, іх зменяць у поўдзень. А хто вызваліць з гэтага пекла нас?

Дзялянка сустрэла цішынёй. Пасля з барабанным пошчакам падалі аглоблі, людзі спяшаліся адцёрці памарожаныя рукі і твары, вызваліцца ад вупражы.

Але як лезці ў такі мароз у снег? Як узяць у акамянелыя рукі тапарышча і пілу?

Абагрэцца!

— Фойер! Фойер! — лемантуе юны Фрыц, часовы начальнік канвоя.



Немцам лягчэй. Яны, вядома, хапілі перад нарадам шнапсу, закусілі салам. І ўсё ж Фрыц нервуецца, просіць цеплыні.

Севасцяныч звыкла накіраваўся да высокага пня, дзе звычайна пакідаў Генке сваю запальнічку. Але пень, прыпарошаны танюткім пылком намаразі, чысты — на ім нічога няма.

— Фойер! Дай фойер! — у сваю чаргу крычыць Севасцяныч канваіру.

Валодзька тым часам корпаецца ў старым, адталым да зямлі вогнішчы, укладае старыя галавешкі і вуголле ў парадак, каб ад адзінай іскры раздзьмухаць агонь.

— Што цягнуць, чэрці! — узнімае ён абкручаную ручніком галаву. — Дайце ж агню!

Немец вінавата ляпае сябе па кішэні: няма ў яго запальнічкі, не курэц ён, здароўе беражэ.

Севасцяныч ідзе на другі канец паляны. Але і другі канваір таксама не можа памагчы, хоць і сам уцягнуў галаву ў плечы.

— С-сабакі!.. — утрапёна лаецца Валодзька. — Браткі, давайце «кацюшу». Умомант раздзьмухаем.

Адбываецца нешта жахлівае. Уначы, выяўляецца, ва ўсіх курцоў канфіскавалі крэсівы.

Яшчэ не ўсе разумеюць, што здарылася. Але Джавані ўжо бязвольна апусціўся на кукішкі, абхапіў галаву рукамі, прыціх. І ніхто не можа яму памагчы. Трэба цеплыня, якой у людзей няма.

Не, не мароз, а сапраўдны слупняк скоўвае мяне. Я добра бачу, як паніка ахоплівае людзей; твары завострываюцца, рукі і позіркі вянуць. І над усім вісне страшная лаянка Валодзькі:

— Гады, сволачы! Паадбавалі апошняе — прыкурыць няма чым! Калейце цяпер! У-у, макітра дурная!

І б'е сябе па галаве.

Зняць нас адсюль Фрыц не мае права.

Канцы.

Калі хто і ўцалее да вечара, — будзе ўвесь абмарожаны і наскрозь прастуджаны. Крэматорый або яма. Тут, у Нарвегіі.

Стадны інстынкт ахапіў людзей. Яны ціснуцца адзін да аднаго, штурхаюцца. Над чорным натоўпам стаіць пара. Мне здаецца, што пара безупынна тае, знікае цеплыня. Яе хопіць на гадзіну, мо' на дзве, не больш...

Некаторыя, як Джавані, бязвольна апускаюцца на кукішкі, хаваюць галовы ў каленях.

«Гэтага не можа быць!» — крычыць душа, але я не ведаю, што трэба рабіць. Я таксама спрабую ўціснуцца ў сярэдзіну гурту, наіўна веру, што там цяплей. Ідзе маўклівая барацьба за сярэдзіну, людзі працуюць плячыма, штурхаюцца, адціскаючы адзін аднаго.

Цераз галаву бачу канвойных. Быццам алавяныя салдацікі, яны тупаюць каля былых вогнішчаў, уцягнуўшы галовы ў плечы. Не, зняць нас адсюль яны не збіраюцца.

Моцная рука прасоўваецца мне пад локаць, выцягвае мяне з натоўпу. Гэта — Валодзька. Ён не глядзіць на мяне, ён вывучае позіркам канвaіраў.

— Ірванём? — трывожна шэпчуць вусны Валодзькі.

У мяне халадзее душа.

— Праз гадзіну і ім канец... — ледзь улоўным рухам ківае ён у бок Фрыца. — Ірванём, га? Адзін чорт здыхаць!

Я апускаю абледзянелыя павекі, гляджу на свае калодкі: ногі

ў іх ужо не адчуваюць холаду. Мне не будзе чым ісці! І куды ён думае бегчы?

Зусім блізка згорбіўся на кукішках Джавані. Ён нерухомы. Некалькі імгненняў мы абодва глядзім на яго, і Валодзька выпускае мой локаць.

«Ён мацнейшы за ўсіх, — варушыцца ў маёй галаве раўнадушны, бязвольны жаль. — Ён яшчэ можа ўцячы. А я ўжо нікуды не варты...»

Мяне зноў цягне ў натоўп, агортвае апатыя.

Нашто раней я так імкнуўся зберагчы сваё жыццё? Нашто, цяжка паранены пад Белай Глінай, пераадольваючы страшэнны боль, драў зубамі гімнасцёрку і імкнуўся спыніць кроў, калі даводзіцца так па-дурному гінуць? Чаму не стрэліў апошнім патронам ва ўласнае сэрца, калі замест санітараў да мяне падышлі фашысты?

Чаму?

Але ж я і цяпер магу кінуцца на канваіра і ён прыстрэліць мяне... Дык чаму ж я не кідаюся на яго, а ціснуся ў самую сярэдзіну натоўпу?..

Ног уласных я ўжо не чую, толькі дробна, па-сабачаму, дрыжаць лыткі.

Зусім поруч нехта сячэ дровы. Ад моцнага ўдару разляцеўся яловы чурбак. Так, з такім сухім звонам рассякаецца толькі яліна. Музыкальная яліна...

Натоўп разам глядзіць у адзін бок. Каля чорнага згаслага вогнішча над рассечаным з маху чурбаком стаіць з сякерай Валодзька.

Значыць, ён не пайшоў? Застаўся!

Злосна глянуўшы на нас, ён моўчкі рве з сябе брудны ручнік і чамусьці скідвае шапку, б'е ёю аб зямлю.

Потым у тры трапныя, спрытныя ўдары высякае ў зледзянелым снезе прадаўгаватую яміну. Штуршком заганяе ў яго палову чурбака, роўным бокам дагары. Я нічога не разумею, не разумею нават, як ён можа каменнымі пальцамі трымаць ледзяную сякеру.

Валодзька расхінае ватоўку. Наском сякеры раптоўна распаласоўвае подбіўку і, скінуўшы рукавіцы,— гэта немагчыма!— выхоплівае вялізны жмут ваты.

Ён адважыўся на нешта невядомае.

Жмут ваты ператвараецца ў яго пальцах у тоўсты скрутак.

Мароз душыць, здаецца, яшчэ мацней.

Валодзька паспешліва, не пазіраючы на нас, зноў нацягвае рукавіцы, падае ля чурбака і хапае ў рукі другое палена. Ватны жмут заціснуты паміж паленняў...

Моцным рухам круглявых плячэй ён штурхае плаху ўперад і адразу ж ірве на сябе. Рухі пачашчаюцца, ён качае вату з раз'юшанасцю, скачвае яе ў тонкую вяроўку, ганяе без канца паміж паленняў.

Не, бадай нічога няма ў ім ваўчынага. Зараз, распластаўшыся над плахамі, ён хутчэй нагадвае каршуна, які ўпаў да нас невядома адкуль і жорстка шкумутае здабычу.

Але ніякай здабычы няма. Ёсць два палены і жгуток з ваты. Ды ці магчыма такім манерам здабыць агонь на саракаградусным марозе?

Калоціцца яршыстая галава, гудзяць паленні, мільгаюць рукі Валодзькі. Я чую пах смаленай ваты — пранозлівы горкі пах!

Нехта верыць у яго работу!

Як лямант аб паратунку, цішыню разрывае крык:

— Хопіць!.. Ірві!



І, быццам падпарадкоўваючыся загаду, Валодзька адкідвае верхнюю плаху, паспешліва раздзірае пасярэдзіне счарнелы жгуцік.

Яшчэ мацней непакоіць пах смаленага. Але агню няма. Канцы разнятага жгуціка толькі трошкі счарнелі.

Валодзька ўскідвае барвовы твар, у яго шалёныя вочы. Ён можа цяпер забіць.

— Хто гарлапаніў? — задыхнуўшыся, ярасна выціскае ён з грудзей.

Маўчанне.

Ён абводзіць кожны твар шалёнымі вачыма.

І моўчкі, усеўшыся на кукішкі, пачынае скручваць вату нанава. Ён зноў без рукавіц.

Вакол яго ўтварыўся чорны заслон, пярэднія схіліліся над Валодзькам, прагна сочаць за яго спрытнымі рухамі. Немцы трывожна пазіраюць здалёк.

Цяпер Валодзька ганяе плашкі голымі рукамі.

Ганяе без канца, і я бачу, як сінеюць яго пазногці і канцы пальцаў. На ілбе выступіў пот, на канцы носа дрыжыць кропля — кропля цярпення і ярасці.

Зноў узнікае смурод гарэлай ваты. Усе затаілі дых, слова забаронена, маўчанне нараджае веру.

Валодзька ганяе палена, круціцца кволы жгуток. Смуродліва курадыміць вата. З хрыпам дыхае стомлены хлопец, аддае апошнія сілы.

У знямозе ён падае на зямлю, лежачы, раздзірае дымны кнот.

Канцы, абвугленыя па краях, падміргваюць нам двума чырвонымі іскрынкамі. Не ўстаючы, стомленым рухам Валодзька працягвае адзін кнот мне. Я хапаю яго і пачынаю раздзьмухваць.

Вугалёк разгараецца, палымнее, у нос і вочы мне лезе задушлівы, едкі дым, я захлынаюся слязамі і слінай, але дзьмухаю і дзьмухаю.

Севасцяныч ужо раздзьмуў старыя галавешкі, асцярожна прасоўвае ў асяродак кучаравыя берасцяныя стружкі...

Дзікі лямант у сто глотак хістае лес.

Бяроста ўспыхнула!

Валодзька ляжыць ля вогнішча, хваравіта моршчыцца, расціраючы снегам прымарожаныя пальцы.

Я моўчкі гляджу на яго.

Дзе мяжа чалавеку?

Поруч, апусціўшы павекі, не дыхаючы, сядзіць Джавані. Ён яшчэ будзе жыць, таму што цяпло ўсё ж існуе на гэтай няшчаснай зямлі...

Трашчыць мёрзлае паленне.

Бушуе цеплыня.

Увечары Генке зноў адагнаў нас ад вогнішча, трэба было грузіць сані, але агонь саграваў нас і здалёк.

... Да канца змены было гадзіны дзве, калі на дзялянцы з'явіўся немец з сабакам. Сабака прыціскаўся да ног праваднікa, глядзеў яму ў твар: баяўся сцюжы.

Немец параіўся з канваірамі, падышоў да вогнішча.

— Хто ёсць Іванофф?

Мы пераглянуліся, быццам зноў знаёміліся адзін з адным. Сярод нас не было Іванова.

— Хто ёсць Іванофф?

З-за чорнага куста выйшаў Валодзька.

— Я — Іваноў.

Канваір упяўся вачыма ў нагрудны знак «319».

— Ком! Уперад!

Сабака нацягнуў павадок. Валодзька абвёў дзялянку пільным позіркам, развітальна кіўнуў Севасцянычу і мне і сутула рушыў да дарогі.

Мы, збіўшыся зноў у кучу, моўчкі глядзелі яму ўслед.

Мы ведалі, куды вялі Валодзьку.

Калі за пнямі і лаўжамі апошні раз мільгануў яго нямецкі картуз, Джавані дрыготкай рукой паправіў анучу на шыі, ля самага горла, і вымавіў па-італьянску:

— Праметэо...

Стары Фядосаў крануў мяне за рукаў, паказаў вачыма на італьянца:

— Што кажа? Не ведаеш?

Я маўчаў.

Джавані ўважліва, выцягнуўшы шыю, глядзеў у канец дзялянкі, туды, дзе нас падпільноўваў з карабінам Генке, потым перавёў позірк на сіратлівы касцёр Валодзькі.

— Праметэо... — паўтарыў ён шэптам і, неяк увесь сабраўшыся, пакрочыў да вогнішча, якое неўтаймавана клікала да сябе...

Пераклад з рускай мовы.





**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

# ДЗЯЎЧАТЫ



На бярвеннях дзяўчаты запелі
Пра вячэрнюю стому сваю.
Песня ў цемры і кофты белыя
Ўсім прахожым іх выдаюць.
Я іх бачыў днём на пракосах,
У вясёлым звоне зямлі.
Нават косы, дзявочыя косы
Падвязаць не было ім калі.
Падарункі іхнія з вілаў
Я хапаў, выводзячы стог,
А яны мяне пакацілі
І жывым закапалі ў мурог.
І цяпер, калі ў росах травы,
Тут, са мною, сядзяць яны
Вельмі ціхія, вельмі ласкавыя,
Як кахання першага сны.
Я пайшоў бы ўдваіх з каторай
Да ракі праз начныя палі
І глядзеў бы з ёю на зоры,
Каб цябе не было на зямлі.
Ледзьве чутная песня точыцца.
Разам з ёю асіны звіняць
Пра вярбу ды пра сінія вочы,
Пра грывастага ў лузе каня,
Пра дурненькую перапёлку,
Што гняздо пры дарозе звіла,
І пра хлопца, што ноччу золкай
Ад сяла ідзе да сяла.
Ў іхніх песнях — уся Радзіма,
А без гэтага чалавек,
Быццам тонкі струменьчык дыму,
Што плыве абалоннем рэк.

## ЧАЙКА



Проста ў хвалі, што чарадою
Гоніць злосны пастух-ветрадуй,
Чайка падае перада мною:
«Пашкадуй мяне, пашкадуй.
Не страляй мяне, чалавеча,
Стрэльбу страшную апусці.
Сэрца рвецца. На хвалях вецер
Грывы белыя закруціў».
Супакойся.
Плакаць не трэба.
Лі спакойна крыклівы жаль
Пад чырвоным, ветраным небам
На узгоркі бурыя хваль.
Я, каханнем сваім расстраляны,
Ўсё жывое шкадую цяпер,
І мяне на лясных палянах
Не баяцца птушка і звер.
І ў руках не стрэльба, а палка,
І іду я ў далёкі шлях
Ад прыгожай, ад лепшай, ад палкай,
Ад пагарды ў шэрых вачах.
Я іду спакойна, — ты бачыш, —
Мернай, цвёрдай сялянскай хадой...
Толькі часам сэрца заплача,
Быццам чайка над сівай вадой.

* * *



О мой цудоўны край,
Мой заснежаны рай...
Ціхі званочкаў смех.
Снег у лесе начным,
Смех у садзе пустым,
Коней спакойны бег.
Штосьці часцей і часцей
Мару, што шэрань цвіце,
Падае з чорных сукоў
І што з табою ўдваіх
Еду між дрэў начных
Госцем да сваякоў.
Плечы твае абняў.
Роўная рысь каня.
Лес радзейшым стае.
Шэрань заткала бары,
Скроні мае серабрыць,
Беліць вейкі твае.
Бачу сялібу ў садах,
Бачу загурблены дах,
Нізкі, натоплены дом.
Хутка між яблынь густых
Будзеш смяяцца і ты.
Бачыш, страчаюць з агнём.
Вязкі цыбулі вісяць.
Скварыцца каўбаса.
Водар смалы, сасны.
Дроваў адталы дух.
Печка. Калматы кажух.
Сны.



* * *



Месяц заснуў на коміне хаты,
Кінуў адбіткі на люстра вады.
Дрэвы густыя ў бліскучых латах,
Як вартавыя, вартуюць сады.
Ў цьмянае поле гляджу з-пад далоні,
Полымя бухае, нібы ў трубу,
Коні начлегу, ружовыя коні,
Месяца іскры з травою скубуць.
Добра усім. А мая беласнежка
Полем не пройдзе каля лазняка,
Не прыбяжыць гэтай цёплаю сцежкай
Бульбіну не пакачае ў руках.
Позіркам ясным мяне не адорыць,
Каля агню не ляжа ў мурог,
І не папросіць, каб сеў я поруч
І ад бяды невядомай бярог.
І не прыкрыюць вачэй яе сонных
Цёплыя пальцы маёй рукі...
Вельмі далёкія перагоны.
Вельмі марудныя цягнікі.

## МІМОЗЫ



Апошні снегапад забіў марозы,
Стаў на халву падобны брудны снег,
І раптам залацістая мімоза
Галінкі працягнула да мяне.
Ва ўсіх прахожых прамакаюць ногі,
Бруіцца ля панеляў каламуць,
А тут краплінкі сонца залатога
За змятую траячку ўсім даюць.
Пяшчотны, залацісты пух гусіны.
Каму цябе падорыць добры гном?
Хіба што гэтай маладой дзяўчыне,
Што тузае машынку за акном.
У тлуме уваходных і выходных
Хай на хвіліну усміхнецца мне,
Успомніць пра вясну, пра лес свабодны,
І адпачынак дасць сваёй спіне.
Шуміць па вуліцах халодны вецер,
А я прынёс праменні ў цёмны дом,
І стала трошкі больш святла на свеце,
І ў сэрцы дзеўчыны, што за акном.



Вечаслаў АДАМЧЫК

# ЗА ПЕРАГАРОДКАЙ

Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

Аўтобус, пакалыхваючыся з боку на бок, выплыў з каўдобістай вулачкі на шырокую местачковую плошчу і, мінуўшы шэры драўляны касцёл, спыніўся ля сіняй дашчатай будкі. Коса прыбітая шыльда над яе малюсенькім акенцам абвяшчала: «Білетная каса».

— Стаім дваццаць мінут, — павярнуўся шафёр да пасажыраў.

Расчыніліся дзверцы, у аўтобус хлынула свежае, дрыготкае паветра з нейкім мяккім халодным пахам,— так яно пахне заўсёды, калі выпадзе першы снег,— і Андрэю Сідорчыку зрабілася адразу вальней. Ён адчуў бадзёрасць, прыемную лёгкасць «А можа, выйду?— падумаў.— Насядзеўся. Столькі ж ехаў». І, памогшы гарбаценькаму вастраносаму пасажыру закінуць на плечы цяжкі, напакаваны невядома чым мяшок, выйшаў з аўтобуса.

Снег выпаў пасля ночы. Памаладзеў, абнавіўся свет. Павесялела неба. І гэтае старое, незнаёмае Андрэю мястэчка з шырокай плошчай, якую няроўным трохкутнікам абступалі двухпавярховыя даўнішняй пабудовы цагляныя дамы, здалося незвычайна харошым, па-зімоваму чароўным, прывабным.

Сіняватая ранішняя сцішанасць панавала над мястэчкам. Часам яе абуджаў звонкі крык галак ды глухі шум грузавых машын, калі яны пераязджалі плошчу, шпурляючы коламі снег і бразгаючы ланцугамі.

Сідорчык, агледзеўшыся, абабіў з паліто скуранай рукавіцай пацяруху, што набралася ад мяшка, закурыў і, не маючы дзе збавіць час, пайшоў да магазіна з высокімі цэмянтовымі прыступкамі. Прачытаў кароткую аб'яву пра распарадак дня ў магазіне і, пабойваючыся, каб часам хто не заняў яго месца, вярнуўся назад.

У аўтобусе ўжо сядзелі новыя людзі, але месца яго пуставала. Ён яшчэ крышку патупаў ля дзверцаў, не ведаючы, ці то садзіцца, ці то не. Але з сіненькай дашчатай будкі, прыгнуўшыся, выбег шафёр, за ім, кідаючы недакураныя папяросы, пацягнуліся мужчыны, і Андрэй ускочыў у аўтобус.

— Усе з білетамі? — крыкнуў шафёр у адчыненыя дзверцы.

— Ды ўсе, чаго ты! Хіба толькі мой каток? — адказаў з апошняга сядзення чалавек у доўгім кажусе і падняў з кошыка рудога ката.

— Ну, ладна, — незалюбіў шафёр і паклікаў некага яшчэ: — Ліда, будзеш правяраць білеты?

— Не, — азваўся з будкі жаночы голас.

— Як сабе хочаш...— шафёр гупнуў ботам па коле і пайшоў на другі бок аўтобуса, у кабіну.

Матор глуха фыркнуў, аўтобус задрыжаў і памаленьку кранўся з месца. З будкі выбегла маладзіца ў зялёным драпавым паліто, у шэрай пуховай хустцы, махнула рукой шафёру і, смеючыся, папрасіла:

— Дзімка, пачакай!

Аўтобус спыніўся, і пярэднія дзверцы нячутна і мякка раз'ехаліся.

Маладзіца абвяла ўсіх вачыма з той цікавасцю і строгай увагай, з якой заўсёды аглядаюць кантралёры пасажыраў перад тым, як пачаць праверку білетаў, і, адкінуўшы крысо паліто, па-жаночаму асцярожна і разам з тым неяк упэўнена і вольна прысела на доўгае, нікім не занятае сядзенне ля кабіны.

Андрэй даў ёй год дваццаць пяць. Але мела яна, напэўна, больш. Жанчына была таго ўзросту, у якім звычайна цяжка вызначыць, не завышаючы або не заніжаючы, колькі чалавеку год. На яе чыстым, бялявым тварыку ляжаў прыкметны клопат і нейкая разгубленая суровасць. Сінія вочы свяціліся мякка, цёпла, у іх была дабрата, шчырасць.

І яму здалося, каб да гэтай жанчыны хто загаварыў, то яна з веткласцю і ахвотай пачала б размову і, пэўна, гаварыла б больш сама, няхай сабе аб дробязным, нязначным, але так, як гэта ўмеюць гаварыць зычлівыя, сардэчныя людзі.

Андрэю Сідорчыку захацелася раптам загаварыць да маладзіцы. «Але з чаго пачаць? Каб была якая зачэпка», — меркаваў ён. — Спытаць, ці ведае яна тутэйшую мясцовасць? Бо тут недзе, недаязджаючы да Нёмана, перадляском, як казалі яму ў рэдакцыі, ён павінен выйсці. Тут і будзе той калгас, адкуль ён, Андрэй Сідорчык, павінен вярнуцца ў Мінск з карэспандэнцыяй ці нават нарысам. Але ўсіх пасажыраў, вядома, здзівіць, чаму ён будзе распытваць у жанчыны, якая сядзіць далёка ад яго, а не ў бліжэйшых каго, ну хоць бы ў гэтага, што сядзіць поруч, відаць, дэмабілізаванага з арміі хлопца ў шынялі з бурачковымі пятліцамі.

Не, гэта ўсіх здзівіць. Лепей маўчаць, лепей сядзець так: адсюль добра відаць яе сінія палахлівыя вочы і вільготныя, па-дзіцячаму надзьмутыя вусны. Так лепш...

Жанчына расслабіла туга завязаную пуховую хустку, лёгка, вольна пакруціла маленькай галавой, а потым пачала расшпільваць паліто, доўга і пільна ўглядаючыся ў Андрэя.

Ён злавіў яе позірк і зачырванеўся. Сэрца яго затахкала і стаілася.

«Што са мною?» — наракаючы на сябе, адвярнуўся ён да акна.

Сцішыўшы ход, аўтобус ішоў на грудок. Голыя, рэдкія бярэзінкі на адхоне кружыліся, забягалі адна за адну і аставаліся ззаду. Цягнуліся

густыя правады, ірваліся на белых кубках і цягнуліся далей. Засланяючы далёкі сіні лясок, паднімаў гарбатыя белыя плечы ўзгорак, знікалі адны і набягалі іншыя малюнкі позняй зімовай раніцы і незнаёмых абшараў поля, але ў вачах Андрэя ўсё іх хараство мяшалася і неяк бясследна нікла. Ён бачыў толькі дробненькі твар маладзіцы, і яму чамусьці здавалася, што яна, напэўна, цікуе за ім.

Аўтобус нахіліўся. Сідорчыка кінула да акна, ён прыпаў шчакою да халоднага шкла і доўга глядзеў, як плыло назад белае, што аж адбірала вочы, поле. Воддаль шашы мільганула невысокая ялінка, і Андрэю здалося, што гэта стаіць жанчына ў пуховай хустцы, у зялёным драпавым паліто і махае яму рукою.

Ён нават спачатку не ўцяміў быў, ці верыць гэтаму раптоўнаму, нечаканаму цуду, але ялінка паступова аддалялася і неўзабаве знікла. Там нікога не было.

Расчараваны, нібы што згубіўшы, Андрэй кінуў вачыма ў той бок, дзе павінна была сядзець жанчына і, убачыўшы яе, павесялеў, ажывіўся. Узрадаваўся, што яна тут, зусім блізка, і кінуўся ў гутарку да хлопца ў вайсковым шынялі:

— Самі, мусіць, нядаўна з арміі?

Хлопец здзівіўся нечаканаму запытанню незнаёмага чалавека, але, павярнуўшыся, адказаў з ахвотай:

— Ды ўжо месяцаў два, як дэмабілізаваўся.

— А далёка дзе едзеце?

— Што кажаце?.. Не, недалёка.

— Можа, у «Савецкую Беларусь», у Зачэпічы, часам?

— Ага.

— От, не спадзяваўся, што спадарожнік трапіцца, — Андрэй, узрадаваны, выгукнуў так моцна, што людзі паглядзелі ў яго бок, але ён заўважыў толькі позірк і скупую прыхаваную ўсмешку дзяўчыны, што сядзела ля кабіны. І, відаць, зразумеўшы, што парушыў звычайны гармідар аўтобуса, збянтэжыўся, астыў, пэўна болей ад таго, што маладзіца не зводзіла з яго вачэй.

— Калі ў адну дарогу, то нам пара выходзіць, — паднімаючыся з сядзення, папярэдзіў салдат.

— Выходзіць? — перапытаў Андрэй, не даўшы веры чутаму.

«Ды як жа гэта? А яна?.. — ён адчуў, што ногі адзеравянелі. — Вось табе, нават і не загаварыў. — Але раптам падумаў: — А можа і яна выйдзе на гэтым прыпынку?», — і падаўся за хлопцам.

— От і прыехалі, — сказаў той, выходзячы з аўтобуса.

Андрэй спусціўся на прыступку, але не вытрымаў, азірнуўся.

Яна, нагнуўшы галаву, туга завязвала на спіне хустку.

«Няўжо выходзіць?.. — І ён, узрадаваны, як сам не свой, скочыў на снег — цвёрды і слізкі, як лёд, пакаўзнуўся, але не ўпаў. Чорная коцікавая шапка слізганула з яго галавы. Растапырыўшы і выцягнуўшы рукі, нібы лавіў курыцу, Сідорчык кінуўся паднімаць шапку, а калі агледзеўся, аўтобус, пыхкаючы сінім дымком на шашу, памаленьку, але з кожнай хвілінай набіраючы хуткасць, адыходзіў усё далей і неўзабаве схаваўся за блізкім ляском.

Андрэй Сідорчык глядзеў на сіні лясок, прыслухоўваўся да нязвыклай зімовай цішыні поля, і неяк не верылася яму, што ён застаўся з гэтым дэмабілізаваным вайскоўцам, а людзі паехалі ў нейкі невядомы свет, куды паехала і яна са сваімі марамі, клопатамі і, пэўна, ніколі не здагадаецца аб тым, што ён, незнаёмы, чужы ёй чалавек, думае пра яе.

— Як смешна падчас здараецца ў жыцці... — сказаў уголас Андрэй, бязвольна, як не сваімі рукамі, нацягваючы на галаву шапку. — Вось



сустрэнеш чалавека ў дарозе, глянеш на яго адзін толькі раз і запомніцца ён табе на ўсё жыццё, а з іншым гады пражывеш і, каб хацеў, твару не прыгадаеш.

— Не кажыце,— хацеў патрапіць Сідорчыку хлопец.

— Дык што, можа, падыбаем у тыя Зачэпічы? — перабіў гутарку Андрэй. — Далёка яны адсюль?

— Кіламетр які, не больш. Вунь там, — і хлопец паказаў на хмызняк, куды з шашы зварочвала добра ўжо ўезджаная санная дарога.

Да вёскі было не так і блізка, дарога здоўжылася. Хлопец болей маўчаў, не знаходзіў, з чаго зноў пачаць гутарку і Сідорчык.

Дарога вяла парадзелым маладнячком. Прысадзістыя хвойкі неяк далікатна трымалі на жаўтавата-зялёных лапках чысцюткі, белы снег. Весела выглядаў густы ядловец, сумаваў голы, шэры алешнік. Адзінота, перамешаная з трапяткой зацішнасцю, панавала над хвойнікам.

Лес скончыўся, і душу весяліла шырыня і бель поля.

На спадзе грудка было відаць недагледжанае, з голымі латамі гумянцо. Воддаль стаяла новая, пад нямецкі вугал хата. Заўважыўшы людзей і нарабіўшы брэху, з-пад хаты выбег пярэсты цыбаты сабака.

— Нешта тут не ссяляюцца з хутароў? — першы азваўся Сідорчык.

— А тут усяго і хутароў, што гэтая хата. У нас дык летась ссялілі,— адказаў хлопец.

— А вы што, не з гэтай вёскі?— Андрэй глядзеў, як хлопец, падаўшыся грудзьмі ўперад, ківаў галавою ў такт хадзе і неяк смешна целяпаў доўгімі рукамі.

— Я аж з Прылук. А тут да арміі на трактары рабіў. Тры гады. Кожны патайнік ведаю на зачэпіцкім полі. Не адзін нарог зламаў. Зямля камяністая, хай яе... — прыпыніўся хлопец, чакаючы Сідорчыка. — Але калгас не кепскі. Людзі жывуць добра. Хочаце верце, хочаце не, але ад старшыні яно многа залежыць. Яшчэ за маю памяць быў тут Лябецкі. Вунь які дом у мястэчку паставіў. Калгаса не глядзеў. Потым з райкома Цагельскага прыслалі, то гэты, нябось, за людзей стаіць. Вельмі разумны чалавек. Вы то, пэўна, не заўважылі, каля самай кабіны сядзела дзяўчына — то гэта ж, кажуць, яго дачка кантралёрам аўтобусаў тут.

Сідорчык адчуў, як пахаладзела за плячыма.

— Замужам яна? — спытаў ён і паглядзеў, здзівіць гэта хлопца ці не.

Той нічога не адказаў, паціснуў толькі плячыма.

Дайшлі да гумянца. Пярэсты сабака, скачучы па снезе, кінуўся пад хату. І там ужо, асмялеўшы, зайшоўся ад густога брэху.

Гаўкаў доўга, пакуль Сідорчык з хлопцам не выйшлі на бязлесы ўзгорак, за якім пачыналася доўгая ў адну вуліцу вёска.

Ад калодзежа без хусткі, мільгаючы белымі нагамі і разліваючы з поўных вёдзер ваду, на другі бок вуліцы спяшалася маладзіца. Прыпынілася за веснічкамі і, паставіўшы вёдры, нібы перадыхнуць, доўга прыглядалася да чужых людзей.

«Незнаёмы чалавек у вёсцы, як дрэва ў полі,— заўсёды на віду», — усміхнуўся сам сабе Андрэй і, абводзячы вачыма хаты, спытаў у хлопца:

— А праўленне далёка дзе?

— Ды вунь за школай, — махнуў той рукою ў бок доўгага ашаляванага будынка з цёмна-сінімі вокнамі, што стаяў уздоўж вуліцы, за высокім плотам.

Развітаўшыся з хлопцам, Андрэй Сідорчык звярнуў у вулачку і натрапіў на сцежку да белага цаглянага доміка ў старых прысадах.

У праўленні было людна. Убачыўшы ля парога незнаёмага мужчыну, усе, нібы змовіўшыся, сціхлі і з інтарэсам змералі яго з ног да галавы.

— Дык што, Лазарук, едзеш ці не? — з покуця, яшчэ ўсё не заўважаючы Андрэя Сідорчыка, пытаўся гладка паголены чалавек.

— Ну, еду, чаго там! — нехта злосна азваўся з-за грубкі.

— Даўно сказаў бы так, — вочы голенага пабеглі ў другі бок, натрапілі на Андрэя і — спачатку прыжмурыліся, потым заплюшчыліся: — Вы да мяне?

— Калі вы старшыня, то да вас, — збянтэжыўся Сідорчык, не ведаючы, што рабіць: ці то стаяць ля парога, ці то падысці да стала.

— Я зараз, — нагнуў круглую галаву старшыня. — Пачакайце хвіліначку.

У хаце стаяла духата ад мноства людзей і гарката ад густога тытунёвага дыму. Андрэй успомніў пра дзяўчыну, і яму захацелася волі, прастору, адзіноты, і ён выйшаў на ганак.

Да канторы пад'ехалі двое: адзін — яшчэ падлетак, у картовай кепцы, у кароткай фуфайцы і без рукавіц, другі — у гадах — вусаты, дзябёлы ў суконнай бурцы з башлыком на галаве.

Падлетак спрытна саскочыў з вазка і, паціраючы чырвоныя, як буракі, рукі, кінуў на спіну каню лейцы ды пабег у праўленне. Вусаты, адкладаючы башлык, прывітаўся з Андрэем. Моўчкі патупаў каля вазка, а потым асмеліўся:

— Скажыце...

Мусіць, хацеў спытаць пра старшыню, але, убачыўшы, што той выходзіць з праўлення, неяк па-жаночаму падняў крыссе буркі і патрухаў да ганка.

— То як, Дарафей Піліпавіч?

— А я ўжо сказаў яму,— старшыня кіўнуў на хлопца,— што трэба ехаць па сена. Цэлы тыдзень прыціскаў марозік, а сёння нават снегу падкінула.

— У чым справа, пад'едзем, — варухнуў шырокімі плячыма вусаты.

— Ты глядзі ў мяне, рак-вусач, — ні то жартам, ні то са злосцю сказаў старшыня, беручы Андрэя Сідорчыка пад руку. — Ось так, падсыплеш перцу — і работа ідзе весялей. А вы хто будзеце? — і заглянуў Андрэю ў вочы.

— Карэспандэнт.

— З Гродна?

— Не, з Мінска, — адказаў Андрэй і, успомніўшы пра тое, што надоечы пачуў ад дэмабілізаванага салдата, прыгледзеўся да Цагельскага, шукаючы ў гэтым рухавым, яшчэ моцным чалавеку падабенства з той маладжавай жанчынай.

Але старшыня каліва ў каліва нагадваў загадчыка сельгасаддзела рэдакцыі, які заўсёды, калі браўся пісаць, атрасаў сваю старую, сапраўды вечную ручку, заліваючы сінімі чарнільнымі кроплямі сцены і падлогу.

«Ашукаў хлопец»,— падумаў Андрэй.

Але думкі яго падчас двоіліся і недзе на сподзе душы тлела ўпартае спадзяванне, што стрэчы з дзяўчынай не мінуць, няхай сабе не ў гэтай вёсачцы, няхай сабе не так скора...

...На шарай гадзіне Андрэй сядзеў у хаце Цагельскага. Добра напаленая кафельная грубка дыхала распараным цяплом яму ў плечы, і вейкі яго зводзіў сон.



Раз-пораз, бразгаючы клямкай, у сенцах моцна грукалі дзвярыма, на кухні, чуваць было, упраўляліся нанач.

У вокнах сінеў ціхі марозны надвячорак. Зашлёпаўшы галошамі, з-за перагародкі выйшаў старшыня, уключыў святло: вокны раптам сталі фіялетавыя, неўзабаве пацямнелі, адбіваючы вялікую, як бомба, лямпачку, люстэрка, глінянага сабачку на шафе і кафельную печку.

— Можа даць вам які занятак? — Цагельскі перакінуў на стале канторскія кнігі і газеты, але не знайшоў нічога, паскроб патыліцу і пайшоў за перагародку, услых гаворачы:— І што ж вам цікавае знайсці...

Там недзе спатыкнуўся і нарабіў крыку:

— От, ужо відаць, што дадому з'явілася, заўсёды што-небудзь пад ногі кіне.

— Дык я зараз прыму, татусік,— азвалася недзе аж з кухні ліслівым, тоненькім, не сваім галаскам, відаць, дачка.

«Яна, напэўна, яна!..— І крэсла пад Сідорчыкам зарыпела. Ён устаў, пацёр рукі і зноў сеў. — Яна, так і ёсць — яна» — І ўявіў сабе недзе там, за перагародкай, расчырванелую пасля марозу, без хусткі, з яшчэ не прычасанымі валасамі, маладзіцу.

Рыпнулі, мусіць, дзверы шафы, і нешта лёгка ўпала на падлогу.

Андрэй насцярожана стаіўся і ўвесь аддаўся слыху. У хаце ўсталявалася густая цішыня. Сідорчык аж задыхнуўся.

За перагародкай штосьці зашастала і раптам затупалі ногі. Худзенькая белая рука адкінула ў дзвярах занавеску. Раптам у вачах Андрэя і падлога, і шпалеры на сценах, і ўсё начыста ў хаце асвяцілася нейкім іншым, празрыстым святлом і — змянілася, пахарашэла. Ён убачыў той самы дзявочы твар.

Жанчына прывіталася абыякава, не хочучы:

— Добры вечар... — але заўважыўшы ў Андрэю нешта знаёмае, сумелася: — Ой, дык я вас бачыла, — і голас яе падабрэў, палагоднеў.

На ёй быў шэранькі, стракаты, аж да самых пят халацік, туга падпяразаны ў поясе, зялёныя тапкі з залацістымі банцікамі. Густыя, дбайна падабраныя валасы яе адсвечвалі каштанавым колерам. Белая худзенькая рука моцна сціскала атласны каўнерык халата.

— Ці не вы гэта ехалі гродзенскім аўтобусам? — спытала яна з нейкай паспешнасцю і ўсміхнулася, чакаючы адказу.

— Ехаў. І нават бачыў вас.

Густымі вейкамі дзяўчына змахнула з вачэй усмешку.

— Я так і падумала, што вы карэспандэнт.

«Вы думалі пра мяне?» — трохі не спытаў Андрэй, але схамянуўся, апомніўся і пажартаваў:

— А хіба я карэспандэнт?

— Не прыкідвайцеся, ведаю.

Трымаючы ў адной руцэ талерку семак, увайшоў старшыня. Паставіў на стол талерку:

— Частуйцеся.

— Бярыце, чаго вы, — нагнаўшы ветру, з-за перагародкі выбегла прысадзістая маладжавая гаспадыня. — Бярыце, бярыце, — і, сарамліва ўсміхаючыся, паднесла госцю талерку.

— Ой, дзякую,— збянтэжыўся Андрэй і ўзяў шчопці семак.

Раптам за акном затупалі і, счакаўшы, у шыбу нямоцна забарабанілі.

Цагельскі кінуўся да акна.

— Дарафей Піліпавіч, з Зянцёла прыехалі, — гукнуў нехта, — па голасе можна было пазнаць, што хлапчук.



— Скажы, што іду, — на ўсю хату крыкнуў старшыня, зашморгваючы занавескі.

— Чаго ж гэта там? — следам за мужам у сенцы выбегла гаспадыня.

— І нашто яму быў патрэбен гэты калгас? На старасці год захацелася клопату. Я так угаварвала, — сказала ў цішыню маладзіца і падышла да этажэркі.

— Вы любіце праглядаць альбомы? — спытала, перабіраючы вобмацкам кнігі. Халацік на грудзях расхінуўся. Але яна заўважыла і, усміхнуўшыся, сцягнула зноў леваю рукою каўнерык.

Андрэй апусціў вочы:

— Калі ваш, то з вялікай цікавасцю.

Яна паклала на стол кароценькі пухлы фотаальбом з трыма белымі цвёрдымі кветкамі на карычневай вокладцы. Прынесла аднекуль табурэцік. Узлезла на яго з каленьмі. Паставіла вострыя локці на стол, падпёршы кулакамі шчокі, і павярнула твар да госця:

— Прысаджвайцеся.

Падносячы крэсла, Андрэй адчуў змешаны пах адэкалону — удушлівы і крэпкі.

Андрэй зморшчыўся.

— Вам нядобра сядзець? А вы, як я. Не саромейцеся. Не бойцеся, крэсла не зломіцца.

— Нічога, нічога, мне добра, — аднекваўся ён.

— Ну, гартайце,—локцем яна падсунула альбом да Андрэя.—Толькі не глядзіце першую старонку. Не трэба. Добра?

Яна нахінулася і дакранулася да яго рукі. Андрэю зрабілася горача, ён адчуў, што чырванее. Ад гэтай нечаканай жаночай блізкасці ён хмялеў, да яго падступаў нейкі гонар, задавальненне, весялосць, але над усім брала верх сарамлівасць, нейкая зацятасць.

Нешта сілком нагнула яго да альбома. Адтуль, з адглянцаванай у дробных зубочках карткі глядзеў твар незнаёмай дзяўчыны, поруч сядзеў маладзюсенькі лейтэнант пад вусікамі.

— Харошанькі, праўда? — сказала яна наконт лейтэнанта, лізнуўшы вострым языком сухія губы.

— Нічога сабе, відны, — Андрэю здалося, што ён праглынуў нешта даўкае.

— Пазнаеце? — яна паказала мезенцам на вялікі на ўсю старонку здымак. — Мяне тут ніхто не пазнае.

Андрэй кінуў вокам на гурбу дзяўчат у белых халатах, што стаялі перад ганкам нейкага шматпавярховага дома, і пакруціў адмоўна галавою.

— Медсястра. Не бачыце? — тоненькі няроўны мезенец яе ткнуўся ў нейчы тварык. — Фу! Бальніца... — вострыя худыя плечы жанчыны здрыгануліся. — Аж цяпер калоціць.

— А хіба вы працавалі медсястрой?

— Была некалі. Наглядзелася ўсяго. І якія ж гэта дурныя людзі вучацца на дактароў. Мяне каб азалаціў, не пайшла б...

Кончык носа яе заварушыўся.

— О, вы не ведаеце, што такое бальніца! Але не было куды дзецца. Тут жа ў Зачэпічах глухата. А хлопцы: то пастух, то конюх... Усе яны нейкія... — вочы яе заплюшчыліся, роцік скрывіўся. — Ой, вы перагарнулі Дзімку, — востры локцік кальнуў Андрэю ў плячо. — Гэта ж той шафёрык, што вас уранку вёз.

Як нейкай вялікай, але мяккай падушкай кінулі на Андрэя Сідорчыка. Яму зрабілася горача, не было чым дыхаць.

Андрэй непрыкметна нахіліўся на другі бок стала. Але і там, яму здавалася, падсцерагаў яго востры локцік.

У сенцах грукнулі дзверы, зашоргаў венік, абіваючы снег.

— Лідачка!.. — там адазвалася гаспадыня.

Лідачка выпрасталася, скокнула з табурэткі, з нейкім расчараваннем сказала, што вярнулася мама, і нячутна пайшла за перагародку.

На кухні загаварылі, потым Лідачка смяялася, моцна, душачыся гэтым смехам, і яму падумалася, што яна смяецца з яго.

«Якая ж яна...» — ён закрыў далонямі вушы.

Але ўвайшла гаспадыня, убачыла, што госць сядзіць, як сам не свой, абхапіўшы рукамі галаву, і здзівілася:

— Што? Вам нездаровіцца? — нават паспачувала. — Цяпер прастудзіцца не дзіва, гэткае надвор'е, дзе ж вы бачылі!

— Скразнякі ў аўтобусе, — панура адказаў Андрэй.

— То, можа, павячэралі б з намі. Чай на ліповым цвеце — першае лякарства ад прастуды.

— Дзякую, вячэраў.

— Ужо і не ведаю, як вас прасіць, — яна схавала рукі пад фартух. Загаварыла з мацярынскай пяшчотаю, дабратой. — Вядома, здарожыліся. То можа пасцялю, адпачывайце сабе на здаровейка.

Ад гэтай чуласці ў Андрэя адлягло, падабрэла на сэрцы. Ён павесялеў.

Нізкую на круглых ножках кушэтку, над якой вісела вышытае сэрца-капшучок, куды хаваліся напарсткі і ўтыкаліся іголкі, — засцілала сама Лідачка. Босая, пераадзетая ў лёгкую паркалёвую сукенку, яна выглядала маладзейшай, бадай што падлеткам.

Лідачка невядома чаго лішне развесялілася і ўсё нешта гаманіла, жартавала, падсмейвалася з Андрэя, але ён, безуважны, глядзеў на яе голыя рукі і думаў, якія яны ў яе нядужыя і недалікатныя.

— Ну вось, можаце адпачываць,— яна падбіла падушку і, махнуўшы шырокім падалом сукенкі, скокнула да выключальніка.

Цемната паглынула ўсё: хату, гукі, Лідачку.

— Ой, як баюся я мышэй, калі ў хаце няма святла, — адазвалася Лідачка, і Андрэй заўважыў яе невыразную ў цемнаце постаць. — Ты заўтра паедзеш? — яна неяк раптоўна і нечакана для Сідорчыка перайшла на ты.

Яму зрабілася брыдка, сорамна. Ён не ведаў, як сябе паводзіць, што адказаць.

— Паедзем разам, — голас у Лідачкі быў ціхі, не свой. — Ты хочаш, каб мы ехалі разам?

Ён не азваўся, прысеў на канапу і пачаў разувацца.

— Я табе перашкаджаю? — яна не спытала, яна крыкнула са злосцю, раздражнёна.

«Так!» — хацеў сказаць ён, але стрымаўся.

Яна ўздыхнула.

— Добра...

Ён падняў галаву, каб суцешыць яе, сказаць нешта шчырае, але пачуў, што яе рукі шастаюць па шпалерах, шукаючы дзвярэй, і ўзрадаваўся, што ўсё скончылася як мае быць.

Стомлены дарогай і гэтай гутаркай з Лідачкай, Андрэй ляжаў на нізенькай скрыпучай кушэтцы, прыслухоўваўся да цягучага млявага болю ў спіне, у нагах і думаў, што ў гэтай кароткай, але далёкай камандзіроўцы ён змучыўся, як ніколі, і што заўтрашнім днём трэба збірацца дадому.

— Досыць ужо строіць хітрыкі, досыць! — пачуў ён злосны моцны



голас, але ніяк не мог разабраць чаму за перагародкай гаворыць мужчына.

— Ціха, чалавека разбудзіш, — папрасіла гаспадыня, і Андрэй нарэшце ўцяміў, што ён задрамаў і не пачуў, як вярнуўся старшыня.

А той крычаў на ўсю хату, не зважаючы ні на кога.

— Не заступайся, хопіць. Я нават саромеюся людзям у вочы глядзець. Заўтра ж няхай едзе за сваім дзіцем. Мужа кінула... Дзіцяці адраклася... Не ўжыліся. І пара кінуць гэтае кантралёрства. І ў калгасе ад работы рукі не адваляцца. Выняньчылі гэтакую...

Устрывожаны, але ціхенька, каб не пачулі, Андрэй Сідорчык прыўзняўся на локці, гатовы з прагнасцю лавіць кожнае слова Цагельскага. Але той змоўк.

За перагародкаю, чуваць было, шапталіся.



Кастусь ЦВІРКА

# КАЛГАСНЫ ХОР



Заслона ў клубе — убакі,
І нібы вырас хор:
Касцы, даяркі, пастухі,
Камбайнер і шафёр.

Прапахлі рукі мурагом,
А ветрам — твары іх.
І клуб, што ўвесь гудзеў кругом,
Як анямелы, сціх.

Шукала песня слухача,
Цякла — чысцей расы.
Я чуў: звінеў лясны ручай,
Шапталі каласы.

Здалося: сыпала ў прыпол
Маленства арахі...
Заварушыліся наўкол
Ватоўкі, кажухі.

А песня білася між сцен,
Лілася ўжо ракой,
І доўга з месц — ёй узамен —
Біў воплескаў прыбой...



# ПЦІЧ



Паўз бераг — зялёнаю хваляй асокі.
Вада нібы сінька — на фарбу пазыч.
Цячэ, пазбіраўшы па свеце аблокі,
Нікім не апетая Пціч.

Не ўбачыш на люстры яе парахода,
Курортны палац не засвеціць з-за ліп.
Варушыць чарот ад усхода да ўсхода,
Люляе, люляе чаўны ля сяліб.

Пры мосце жанкі, падкасаўшы спадніцы,
За хвалю бяруць яе мыць ручнікі.
Яна вырываецца з рук, балаўніца,
Імчыцца, адносячы пены шматкі.

Ды доўга няма як разгульвацца плыні:
Нясе на спіне за плытамі плыты,
Варочае жорны каменныя ў млыне
Ды сонцы развешвае ўсцяж на драты.

Бяжыць, падбіраючы следам крыніцы,
Дубы падмывае — шторазу дужэй.
Хай песень не чуў я аб ёй, працаўніцы,
А толькі яна мне ўсіх рэк прыгажэй!

Эдуард ЯРАШЭВІЧ

## СУВЕНІР



Горадам праходзіў ён няспынна,
Аглядаў з усіх бакоў дамы.
Мноства рэчаў бачыў у вітрынах,
Гаварыў, узрушаны, з людзьмі.

Нават бровы ад здзіўлення ўзняты:
Іншым малявалі гэты край,
Ад якога быў малым адняты
І завезены ў заморскі «рай».

Як і ўсе замежныя турысты,
Звычаю даніну ён аддаў:
Рэчаў некалькі купіў карысных —
Не запоўніў імі чамадан.

А збіраючыся ў шлях зваротны,
Надвячоркам выклікаў таксі.
Ён за горадам пры паваротцы
Ля бяроз спыніцца папрасіў.

Падышоў да дрэў. І мо' з хвіліну
Аглядаў зялёны карагод.
Потым ліст сарваў. Адным-адзіны.
І паклаў у чысты свой блакнот.





Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ

## ГАНЯ

### Апавяданне старога настаўніка

Мал. І. Пучынскага.

Мне ішоў васемнаццаты год. Такі ўзрост, калі ўсё на свеце здаецца светлым, бясхмарным, шчаслівым, калі ў душы жыве надзея на будучае, калі, здаецца, на свеце няма такіх вышынь, якіх ты не здолееш узяць. Маладосць! Шчаслівейшая пара ў жыцці чалавека, і як шкада, што мы іншы раз вельмі безадказна адносімся да гэтай непаўторнай пары.

Нялёгка нам жылося. Гэта былі незабыўныя трыццатыя гады. Пра іх мы цяпер успамінаем з захапленнем і з гордасцю, што мы былі ўдзельнікамі тых слаўных спраў, якія тварыліся савецкімі людзьмі. Не буду гаварыць пра цяжкасці. Яны сустракаліся на кожным кроку. Размова будзе не аб іх.

Мы працавалі на будаўніцтве рабочага пасёлка ў глухой Уральскай тайзе. Тады ўводзіўся ў строй Урала-Кузнецкі камбінат. Я са сваім таварышам Адамам Лявончыкам пілаваў дошкі прадоўжнай пілой. Ён наверсе, я — унізе. Усяго нас было семнаццаць чалавек — усе беларусы, амаль з аднаго раёна. Хлопцы і дзяўчаты. Хлапцоў дзевяць, дзяўчат восем. Былі ў нашым калектыве і цесляры, і сталяры, і пільшчыкі, але дзяўчатам даводзілася горш, чым усім нам. Яны рыхтавалі на будаўніцтва лес. Можна ўявіць: цэлы дзень у забалочанай тайзе. Камары, мошкі, авадні... А бярвенні трэба было і абкорваць і траляваць. Але ніхто не скардзіўся, што яму цяжка, ніхто не гнуўся і не стагнаў.

Гатовых дамоў на пасёлку было мала. Мы жылі ў пустой хаце мяс-

цовага жыхара, які пераехаў у вёску, калі пачалося будаўніцтва. Жылі ўсе ў адным пакоі. Спалі на палацях, на падлозе, на лаўках, а Міша Назарэўскі на паліцы. Паліца была шырокая, прымацаваная да столі. І вось Міша на ёй спаў. Не таму, што ён быў дзівак, бо месца хапала і на падлозе, але яму падабалася паліца. Бывала, летам усе развядзем гаворку, а Міша з вышыні падае свой голас, нібы бог з неба!

Хлеб мы атрымлівалі мукой. У хаце была прасторная руская печ. Косця Верабей зрабіў дзяжу, дзяўчаты пяклі хлеб. Ды які хлеб!

Няважнае было наша харчаванне. Паёк. Але нас выручалі грыбы і ягады. Кожны вечар мы хадзілі ў грыбы, варылі іх, смажылі. У выхадныя дні збіралі ягады. Безліч было ў лесе і чарніц, і брусніц, і журавін.

Я ўжо казаў, што мы жылі ў адной хаце — і хлопцы, і дзяўчаты. Пасля многія з нашага калектыву пажаніліся між сабой, завялі немалыя сем'і, але мабыць і цяпер самым шчаслівым успамінам паўстае ў іх памяці той дом на пагорку каля лесу.

Аднак я загаварыўся... Была сярод нас Ганя Малінская — дзяўчына гадоў дваццаці. Вельмі прыгожая. Усё у ёй было міла — круглы тварык, стройная, пругкая. А вочы! Яны былі не тыя вочы, пра якія гавораць, што яны блакітныя, як неба, і глыбокія, як мора. Гэта былі звычайныя шэрыя вочы, затое колькі ў іх хавалася пяшчоты, дабраты і шчырасці!

Мы ўсе былі закаханы ў Ганю. І ўсе адносіліся да яе, як рыцары. Не прыставалі, не надакучалі сваімі прызнаннямі. Па маўклівай згодзе мы чакалі, да каго з нас схіліцца яна сама. Якія мы былі наіўныя... Справа мінулая. Пазней я даведаўся, што сама шчыра кахаў яе Міша Назарэўскі, той, што спаў на паліцы. Ён пранёс гэтае каханне праз усё жыццё.

Быў сярод нас Сцяпан Шэлест, цясляр. Мы празвалі яго драўляным. Не таму, што па сваёй рабоце ён меў справу з дрэвам. Хлопец, не паспеўшы стаць маладым, раптам узяў ды састарыўся. Усё ў ім было нейкае драўлянае, нават твар. Ніякіх пачуццяў не адбівалася на ім, акрамя хіба скваптнасці. Мы любілі спяваць, Сцяпан не любіў спеваў. Мы хадзілі на танцы ў школу, бо клуба на пасёлку яшчэ не было, а Сцяпан сядзеў дома і майстраваў сундучкі, якія, дарэчы, выходзілі ў яго касыя. Гэта аднак не замінала яму выгадна прадаваць іх мясцовым жыхарам. Дзяўчат ён называў выдрамі і аб каханні, мабыць, меў такое ж уяўленне, як аб санскрыцкай мове. Аднак за намі ён падглядаў. Абы каторы-небудзь з нас аставаўся адзін на адзін з дзяўчынай, Сцяпан ведаў усе падрабязнасці такой сустрэчы. Ён нават пацалункі нашы лічыў.

Я таксама быў закаханы ў Ганю. Закаханы першы раз... Хадзіў, як ачмурэлы, думаў толькі аб ёй. Каханне гэта адбірала ў мяне жыццё. Я лічыў сябе самым горшым, самым апошнім з усіх хлопцаў, пры тым я быў яшчэ самы малодшы. Пры ўсіх маіх недахопах ды яшчэ і гэты... Так, прынізіўшы сам сябе, я стаў няшчасным, адзінокім і баязлівым.

Я хацеў хоць раз астацца адзін на адзін з Ганяй. Але гэта было амаль немагчыма, калі нас па меншай меры шэсць чалавек жадалі такога шчасця. Мы проста заміналі адзін аднаму.

І ўсё-такі мне пашанцавала. Неяк у канторы лесаўчастка я выпісваў харчы для сваіх пільшчыкаў. Там была і Ганя, таксама выпісвала харчы для дзяўчат-лесарубаў. Зірнула яна на мяне прыхільна, і я адчуў, што яна не лічыць мяне такім нікчэмным, як я лічыў сам сябе. Гэта ўзняло мой дух.

— Мы, Андруша, разам пойдзем, а то... трапляюцца на дарозе нейкія...

Ого! Яна ўпэўнена, што я магу абараніць яе! Вядома, магу! Ды я рынуўся б на дзесяцёх па аднаму яе знаку.

Справіўшы ўсё, што трэба, мы пайшлі. Жніўеньскі вечар быў цудоўны... Сапраўды цудоўны для мяне, бо са мной ішла Ганя. Мне хацелася абхапіць яе і цалаваць. Я, прызнацца, ні аб чым больш і не думаў усю дарогу. А яна была не такая і доўгая.

І вось мы каля нашага дома на пагорку. На дварэ пачало цямнець.

— Ганя... — прамовіў я і працягнуў да яе рукі.

— Што, Андруша?—ціха запытала яна, і мне здалося, што яна падалася да мяне. Я схапіў яе і пачаў цалаваць.

Гэта былі першыя мае пацалункі. Яна слаба супраціўлялася, не адказвала на іх, але я і не чакаў лепшага. Я шчаслівы быў тым, што магу цалаваць яе.

— Хопіць, Андруша, — сказала яна. — Яшчэ хто-небудзь выйдзе з хаты.

Я задыхаўся ад шчасця. Я не верыў, што адбылося тое, аб чым я толькі марыў. Ганя стаяла перада мной і неяк сарамліва і ласкава ўсміхалася.

Я ўвайшоў у хату, як сляпы, і амаль нічога не бачыў. Раптам адчыніліся дзверы і ў іх паказаўся Сцяпан. Шэльма! Ён усё бачыў. Я непрыкметна пагразіў яму кулаком, і ён пакінуў крыўляцца.

У той вечар і многа дзён яшчэ майму шчасцю не было канца. Я працаваў без стамлення, а пілаваць дошкі — гэта нялёгкая работа, і мой напарнік Адам гаварыў мне:

— Ты ачмурэў, Андрэй! Дай крыху перадыхнуць.

А я ў звоне пілы чуў словы Гані, чуў іх у лясным шуме, у бульканні дажджавых кропель, у павевах ветру, — усюды! Ганя! Яна заўсёды стаяла перада мной, памагала жыць і працаваць.

Хлопцы не разумелі, што робіцца са мной. А я ведаў, што люблю Ганю, і быў шчаслівы.

Мы з Ганяй умудраліся сустракацца кожны дзень. Хоць на пяць хвілін, хоць на адну хвіліну, абы зірнуць адно на аднаго без сведак. Мы чакалі і шукалі такіх хвілін.

Аднойчы ў нядзелю ўсе мы пайшлі ў брусніцы. У хаце пакінулі аднаго Сцяпана Шэлеста. Выйшлі раніцай. Дзень выдаўся сонечны. Ды я і не ведаю, ці былі ў той час дажджлівыя або хмурныя дні.

Скора мы з Ганяй аддзяліліся ад гурту. Яна ведала ўсе ягадныя мясціны і вяла мяне туды. Я не думаў пра ягады. Хай яны праваляцца скрозь зямлю! Я думаю пра Ганю. Я бачыў толькі яе лёгкую постаць і нічога не прыкмячаў наўкол.

— Ну, от мы і прыйшлі, Андруша, — сказала яна, і я нібы абудзіўся ад сну.

Я абняў яе. Яна даверліва прытулілася да мяне, і я зразумеў, што і яна кахае мяне так, як я яе.

— Трэба збіраць ягады, Андруша, — сказала яна. — Нельга нам прыйсці дадому з пустымі вёдрамі.

Гэта была праўда, і мы пачалі збіраць. Брусніцы былі спелыя, буйныя, мы іх бралі жменямі. Я не адставаў ад Гані.

Потым яна развязала вузялок і дастала хлеб. Якія запаслівыя гэтыя дзяўчаты! Мы елі той хлеб з брусніцамі, і за ўсё сваё жыццё я нічога смачнейшага не еў.

Нарэшце вёдры былі поўныя. Пара ісці дамоў — сонца ўжо перавaліла цераз поўдзень.

Мы зноў цалаваліся. Я адчуваў, як трапечацца Ганіна сэрца, глядзеў у яе вочы і думаў, што і яна такая ж шчаслівая, як і я.

— Ах, Андруша... — гаварыла яна. — Блага мы з табой робім.

— Чаму, Ганя? Што ж тут благое?

— Люблю я цябе, Андруша... — сказала раптам яна. — Бяда ты мая, гора ты маё.

Я стаяў і нічога не разумеў.

— Што ты гаворыш, Ганечка! Дык і я ж люблю цябе. Ты мая радасць... Чаму ж я тваё гора ды бяда?

— Дурненькі ты яшчэ, Андруша... Нічога не ведаеш... От убачыў мяне і пакахаў... А потым другую сустрэнеш, прыгажэйшую... Маладзенькі ты яшчэ... Ах, ды я сама яшчэ дурнейшая... Нашто я дала сабе волю, пакахала цябе такога маладзенькага...

— Ганя! Я цябе буду кахаць усё жыццё...

Яна тужліва ўсміхнулася, потым кінулася мне на шыю і заплакала. Я спрабаваў супакоіць яе, а сам гатовы быў плакаць разам з ёю.

— Ганечка! — гаварыў я. — Любая Ганечка...

— Сцёпа Шэлест мне спакою не дае, — шаптала яна. — Жаніцца прапануе... Кожны дзень...

— Драўляны... — закрычаў я, як ашалелы. — Я заб'ю яго!

Яна глядзела на мяне, як на малога, і ўсміхалася.

— А за што яго забіваць... Не будзь дурненькі, Андруша, — сказала яна.

— Няхай не лезе, куды не трэба! — закрычаў я.

Я думаў, што толькі я маю права кахаць Ганю.

Мы вярнуліся дадому.

І вось з гэтага часу нешта стала не так у нашым каханні. Мне здавалася, што я паразумнеў пасля таго дня. Пасталеў. Загаварыла самалюбства, знікла шчырасць, з'явіліся вар'яцкія падазрэнні. Усё гэта сляпіла мяне...

Перш за ўсё я даведаўся, што наша каханне з Ганяй ні для каго не сакрэт. Пра яго ведалі ўсе, пачынаючы ад драўлянага Сцяпана і канчаючы Мішам Назарэўскім. Цяпер то я зразумеў, што Міша любіць Ганю і любіць шчырэй, чым я. Хлапец зусім сох. Якія позіркі ён кідаў у яе бок, як стараўся заўжды памагчы. Бяжыць за яе па ваду, па дровы, памагае распальваць печ. Раней я не звяртаў на гэта ўвагі, а цяпер ва мне загаварыла рэўнасць. Я ва ўсім вінаваціў Ганю. Яна ласкава ўсміхаецца яму, называе Мішачкам... А можа дзе-небудзь і дазваляе цалаваць... У мяне кіпела ўнутры ад такіх думак.

Мне не падабалася таксама і тое, што ўсе ведаюць аб нашых з ёю адносінах. Здавалася, што на нас глядзяць, як на жанатых. Я і ў гэтым вінаваціў Ганю. «Яна сама расказала пра ўсё, — думаў я. — Расказала знарок, каб я не мог ад яе адвязацца».

Я і цяпер дзіўлюся, які я быў дурань. Сцяпан Шэлест падглядзеў першыя нашы пацалункі. Хіба ён нікому пра гэта не сказаў?..

І чым больш я думаў, тым больш знаходзіў незразумелага. «Нашто яна расказала мне, што Сцяпан Шэлест хоча з ёй ажаніцца? — разважаў я. — Таксама знарок. Яна проста намякала: «Калі не ты, то знойдуцца іншыя! Той самы Шэлест». Гэта мяне абурыла. Я пачаў лічыць яе хітрай дзяўчынай, у якой адна мара: выйсці замуж. А паколькі я хлопец не абы-які, то яна выбрала мяне. Мяне! Як бачыце, у той час я меў аб сабе немалое ўяўленне. Аднак мне і ў галаву не прыходзіла, што гэта яе каханне ўзняло мяне ва ўласных вачах. Каб яна адштурхнула мяне, я быў бы па-ранейшаму няшчасны, адзінокі і непрыгожы...

Мае падазрэнні пайшлі далей. Я ўспомніў, як мы ішлі з канторы разам дамоў. Яна сказала тады, што да яе прыстаюць незнаёмыя хлопцы. «Глупства! — думаў я. — Ніхто да яе не прыставаў. Яна сама хацела ісці са мной! Чаму яна не адштурхнула мяне, калі я стаў яе цалаваць? Чаму яна не ўдарыла мяне? Бо так робяць сумленныя дзяўчаты, якія ведаюць сабе цану... Значыць, такія рэчы для яе не навіна... Я ў яе не першы...» Я распальваў сябе і гарэў, як на агні.



Я не казаў Гані пра свае думкі і падазрэнні. Але яна, мабыць, сама пра іх ведала. Мы сустракаліся па-ранейшаму, але не хапала ў нас тае шчырасці, якая была дагэтуль. Ганя заўсёды была нейкая маўклівая і задумлівая.

— Ты ўжо не любіш мяне так, як раней, Андруша, — гаварыла яна з жалем.

— Ганечка, што ты! — пярэчыў я.

— Ведала я гэта, Андруша... Я гэта адразу ведала...

Гэтая дзяўчына варта была не такога кахання, як маё... А я думаў, што яна і цяпер гаварыла няшчыра.

А потым? А потым мяне выклікалі ў райком камсамола і далі накіраванне на шасцімесячныя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў.

Я развітаўся з Ганяй асеннім асклелым ранкам ля нашага дома. Усе шаснаццаць чалавек выйшлі праводзіць мяне, і я шчыра шкадаваў, што не магу развітацца з Ганяй, як хацеў.

І вось апошнія хвіліны. Ганя была недзе ззаду. Раптам яна выбегла наперад.

— Дай я пацалую цябе, Андруша, апошні раз, — сказала яна пры ўсіх, і губы яе задрыжэлі. Яна абняла і пацалавала мяне так моцна, колькі ў яе хапіла сілы...

Я толькі цяпер зразумеў, што расстаюся з ёю назаўсёды...

Не скора я забыў Ганю.

Я скончыў курсы і быў прызначаны настаўнікам у адзін з далёкіх раёнаў. Калі дасюль я яшчэ атрымліваў лісты з дома на пагорку, то цяпер старыя сувязі абарваліся. Настаўнічаў я два гады, потым паступіў у педагагічны інстытут.

Ішлі гады. Я пасталеў, але першае каханне жыло ў маёй душы. Лясны пасёлак і дом на пагорку часта ўспаміналіся мне. Я ўжо інакш усведамляў усё тое, што адбылося са мной у ранняй маладосці. І мяне пацягнула туды, у той далёкі пасёлак.

Атрымаўшы прызначэнне, я неўзабаве выехаў туды.

Пасёлка не пазнаў. Гэта ўжо быў не пасёлак, а гарадок. Дом, што стаяў на пагорку каля лесу, знеслі. Замест яго стаяў прыгожы будынак канторы лесаўчастка. Я зайшоў туды і спыніўся ў калідоры каля дзвярэй з шыльдачкай: «Начальнік лесаўчастка». Мне не было справы да



таго начальніка і я хацеў павярнуць назад, калі раптам дзверы адчыніліся і перада мной апынуўся не хто іншы, як Міша Назарэўскі. Ён пасталеў і, здаецца, нават падрос, але быў той жа самы Міша. Мы доўга сталі, як аслупянелыя, потым пачалі абдымацца.

— Заходзь жа, браце, заходзь, пасядзім, пагутарым... — прапанаваў Міша, адчыняючы дзверы з шыльдачкай. Зайшлі. Міша расказаў пра ўсіх сяброў, з якімі мы разам жылі і працавалі.

— Шэлест Сцяпан брыгадзір цесляроў. Школу вунь якую адмахаў. Ты ж у ёй працаваць будзеш. А Лявончык Адам вучыцца ў Свярдлоўску, геолагам будзе...

— Пачакай, Міша, — перабіў я. — Ты лепш пра сябе раскажы! Помніш, як ты спаў на паліцы?

Міша засмяяўся.

— Чаму не помню! Ганя і цяпер смяецца з мяне, тую паліцу ўспамінаючы.

— Ганя... — ледзь не крыкнуў я. — Дык чаму ж ты маўчыш!

— Таму, што ты не пытаеш. Ганя, браце, мая жонка. Кончыла яна медыцынскае вучылішча і цяпер працуе ў нас загадчыцай медпункта. А пра сябе што гаварыць... Сам бачыш. З лесатэхнікума сюды накіравалі, спачатку тэхнарукам. Я і не пярэчыў. Ды што тут гаварыць! Хадзем да мяне. І Ганю пабачыш, і...

Ён па-сяброўску ўсміхнуўся:

— У нас ужо, браце, і сынок ёсць...

---

Алесь НАЎРОЦКІ

## НА ПОЛІ КАЛГАСНЫМ



Трактар арэ. Дожджык цярусіць.
І раптам на табе — нечаканы падвох:
У трактарысткі Марусі
Трактара матор заглох.

Крутнеш ручку, а матор кароткае —
«трррускулы»...
І ніяк не завесці яго, праклятага,
Ужо слабымі аказаліся мускулы
У хлопца пятага.

Падышоў шосты. Мы сачылі за ім, нямыя,
Як ён рукавы закасваў, у перавазе сваёй
заспакоены,
Сілы, і без таго немалыя,
Пад паглядам Марусі патроены.

Шостага сёмы змяніў. Мускуламі тугімі
Пачалі любавацца ўсе.
Ну, гэты не толькі матор завядзе, а трактар
падніме
І на руках панясе.

Сёмы таксама выдахся. Пачаў хістацца, як хворы.
Нарэшце Маруся сама падышла,
Пакорпалася крыху ў непаслушным маторы,
Крутнула ручку і... завяла.

Сонца выглянула. Зноў акорды
Пачаў спрабаваць жаўрук, што заціх.
Сядзела Маруся за рулём непадступная, гордая,
Пакінуўшы нас семярых.

## КАХАННЕ



Ураніла дзяўчына усмешку ў садзе пад слівай,
Потым другую, трэцюю... Тры усмешкі ўсяго.
Хлапец падышоў, падабраў іх беражліва,
Прыціскаючы рукамі да сэрца свайго.
Дзяўчына пайшла. І па дарозе усмешкі раняла.

Ён ішоў за ёй ціха, украдкам, без слоў
І падбіраў усмешкі. А яму ўсё было мала,
І ён нагінаўся, ён падбіраў іх зноў і зноў.
Поўнілася сэрца салодкім пукучым болем,
І сіл не ставала стрымаць радасць сваю.

Няўжо няма яе? Няўжо не ўбачу яе ніколі?
Няўжо ў тым хлапцу я самога сябе пазнаю?
І няўжо усмешку адну-адзіную,
Уцеху апошнюю трымаю рукой
І яна растае з кожнай новай хвілінай,
Як іскрынка снегу вясной?

## НАРЭШЦЕ



Бегала, бегала, абнюхала ўсе магазіны,
Прыйшла дадому з пудрай, грэбнем, карункамі...
Нарэшце падрыхтавалася.
Адны толькі вусны рамантавала паўгадзіны,
Каб абсыпаць каханага падрамантаванымі пацалункамі.





# НАРОДНЫ ПАЭТ

### Да 50-годдзя Аляксандра Твардоўскага

Гэта было ў суровыя дні Айчыннай вайны. З фронта на дзён колькі прыехаў у Маскву Аркадзь Куляшоў. Ён прывёз тады сваю цудоўную паэму «Сцяг брыгады». Добра памятаю, як некаторыя паэты крывіліся, чытаючы новую паэму Аркадзя Куляшова: маўляў, не па правілу напісана, радкі паламаныя, адзін доўгі, другі кароткі. Што ж гэта ён робіць?

— Правільна робіць! — цвёрда заявіў тым крытыкам Аляксандр Твардоўскі. — Шаблон і штамп ломіць, сапраўдную рэвалюцыю робіць у паэзіі сваёй паэмай беларускі паэт. Цудоўна! Хвалю таварыша!

Моцна абняў і пацалаваў Аляксандр Твардоўскі аўтара новай паэмы. Я добра бачыў, як цёпла, ясна свяціліся вочы ў Аляксандра Трыфанавіча, як сардэчна, шчыра радуецца ён поспеху і ўдачы таленавітага паэта. Так мог захапляцца толькі сапраўдны, сумленны паэт, які не баіцца, як гаворыцца, «канкурэнцыі», творчага спаборніцтва.

Завязалася моцная дружба двух таленавітых паэтаў. Аляксандр Твардоўскі часта сустракаўся з Аркадзем Куляшовым. У таварыскіх гутарках ён выказваў сваё вялікае захапленне многімі беларускімі паэтамі.

З нейкім асаблівым замілаваннем гаварыў ён пра народнага нашага песняра Янку Купалу.

— Хто такі Купала? — і сам адказаў: — Купала — акіян паэзіі: пі — не вып'еш, чэрпай — не вычарпаеш!

Прыемна было нам слухаць гэта, а ён, Аляксандр Трыфанавіч, прызнаваўся:

— Чаго таіцца, сябры мае: асвяжала і мой голас чыстая, крынічная і прамяністая купалаўская паэзія.

І ў доказ таго, што і ягоная паэзія выцякае з народнай плыні, Аляксандр Твардоўскі чытаў нам некаторыя раздзелы з паэмы «Дом ля дарогі». Чытаў ён не з ліста, а па памяці, шчыра, выразна, голас яго прыкметна дрыжэў:

Ты абапёрся на касё,
Стаяў праставалосы.
І зразумеў ты ўміг усё,
І не дайшоў пракоса.
Не дакасіў ты росны луг,
У шлях падпе(?)разаўся,
А ў тым садку ўсё той жа гук,
Здаецца, разлягаўся:
Касі, каса, пакуль раса,
Раса далоў — каса дамоў...

Было відаць, як балюча перажывае паэт за тых працавітых і шчырых людзей, якія паказаны ва ўсім іх вялікім горы ў задушэўнай паэме «Дом ля дарогі». Нязгасным гневам да ворага, пяшчотнай любоўю да савецкіх людзей, якія трапілі ў пякельны агонь вайны, напоўнены кожны радок паэмы.

Весялейшым рабіўся Аляксандр Трыфанавіч, калі пачынаў расказваць, як нараджаўся, рос, сталеў ягоны герой Васіль Цёркін. Даўно, яшчэ з фінляндскай вайны, працаваў паэт над паэмай «Васіль Цёркін». У гэтым творы, як з высокай трыбуны, на ўвесь магутны голас натхнёна гаворыць паэт пра жалезную волю і бязмежную мужнасць савецкага воіна, перад якім не толькі вораг, а нават няўмольная смерць адступае. Паэма «Васіль Цёркін», як гаварыў сам паэт, — ягоная лірыка, публіцыстыка, паэзія гераічнай барацьбы і перамог.

Светлы і дасціпны гумар, вясёлыя і разумныя жарты, каларытная і вельмі свежая, ёмкая народная мова дапамаглі паэту раскрыць характар кемлівага, дасціпнага, смелага і жыццерадаснага Васіля Цёркіна, які весяліў і натхняў байцоў праз усе цяжкія гады вайны.

Мне прыгадваецца такая размова. Хтосьці запытаў у Аляксандра Трыфанавіча, якую са сваіх паэм ён цэніць больш за ўсе свае творы? На нейкі момант ён задумаўся, а пасля ўсміхнуўся і пачаў расказваць пра першую спробу пяра, пра свае літаратурныя вопыты. І было добра відаць, што не забыўся ён, як пісаў першыя заметкі ў смаленскія газеты аб камсамольскіх суботніках і дзіравых мастах у сваёй воласці, як ішлі ў тыя далёкія дні да яго вяскоўцы са скаргамі «працягнуць праз газетку непарадак» у воласці... Жартаўліва, з добрым гумарам, на які ён вельмі здатны, Аляксандр Трыфанавіч расказваў нам, як яшчэ ў маленстве пачаў пісаць вершы, а там «ні ладу, ні раду — нічога ад верша». Аднак пісаў, дамагаўся таго патрэбнага «ладу і раду». Налаўчыўся, гладка пайшло. Настаўніку паказаў свае вершы, а настаўнік прачытаў ды і кажа:

— Кепска.

— А чаму?

— А таму, што ў тваіх вершах вельмі ўсё проста, вельмі ўсё зразумела. Цяпер гэта не ў модзе, устарэла. Цяпер закруціць трэба так, каб раскруціць назад нельга было.

Расказвае пра ўсё гэта Аляксандр Трыфанавіч, а ў яго блакітных вачах хітраватыя іскрынкі свецяцца: маўляў, круціў, закручваў так, што з ніякага канца незразумела было. Грашыў, чаго таіцца...



Толькі прадаўжалася гэтая крутаніна нядоўга. Думамі, уражлівым сэрцам пранікаў юны паэт у жыццё народа. Пачаў пісаць проста пра навакольнае жыццё, пра ўсё тое, што было блізка і дорага яму, што хвалявала душу і сэрца паэта.

Першы верш «Новая хата» надрукаваны быў у газеце «Смоленская деревня». З гэтага часу, з лета 1924 года, і пачаў друкавацца Аляксандр Твардоўскі.

У тыя гады ім было напісана многа вершаў, нарысаў і паэма «Шлях да сацыялізма», якая выйшла асобнаю кніжкай у выдавецтве «Маладая гвардыя». І многія вершы, і паэма былі прыхільна, добразычліва сустрэты крытыкай. На шырокую літаратурную дарогу выйшаў паэт са Смаленшчыны. Толькі слава не ўскружыла яму галаву. Працуе, большага дамагаецца. Сэнсам усяго ягонага жыцця стала паэзія. Новая паэма «Краіна Муравія» яшчэ больш узвялічыла літаратурную славу паэта. Прыехаў ён са Смаленшчыны на сталае жыхарства ў Маскву. Тут уступіў у родную камуністычную партыю. Гэта быў вялікі паварот у жыцці паэта.

Высока ацаніў наш народ паэму «Краіна Муравія», якой была прысуджана Сталінская прэмія. З гэтай паэмы, як прызнаецца сам паэт, і вядзе ён лік сваіх твораў. У ёй Аляксандр Твардоўскі па-сапраўднаму арыгінальны і самабытны, са сваім уласным почыркам, свежым голасам. Толькі вялікі мастак можа намаляваць такія дакладныя, яркія карціны, такія прывабныя, родныя сэрцу малюнкі вясновай прыроды:

... І шапкі пены снегавой
Бялеюць ля кустоў,
І пахне смолкай маладой
Бярозавы лісток.
З куста альховага дымок
сплывае спакваля.
— Бывай, — махае Маргунок, —
Бацькоўская зямля!..

З роднага дому, ад бацькоўскай зямлі, праз густы водар маладой вясны едзе Мікіта Маргунок шукаць краіну Муравію, едзе туды, дзе нібыта:

Ары зямлю харошую,
Сябе там паважай.
Касіць пайшоў — пакошваю.
Мне ехаць? — Выязджай.
І ўсё маё перада мной,
Хаджу сабе, паплёўваю.
Калодзеж мой, і ельнік мой,
І шышкі ўсе яловыя.
Усім сялянскім правілам
Адданая яна —
Муравія! Муравія!
Э-эх, што за старана!

З нейкім асаблівым жалем пазірае паэт на тую далёкую дарогу, на якой і конь падбіўся, і Маргунок учарнеў, «дарэмна безліч працадзён праездзіўшы з канём»...

З вялікай прыемнасцю перакладаў я гэтую цудоўную паэму на беларускую мову. Чаму? А таму, што яна вучыць высокаму майстэрству верша, яна — згустак, залаты злітак сапраўднай народнай паэзіі. Нельга не згадзіцца з тымі крытыкамі, чытачамі, якія сцвярджаюць, што паэма «Краіна Муравія» — узор паэтычнай творчасці, твор сацыялістычнага рэалізма.

Многа зім, многа лет прамінула з таго часу, калі была напісана «Краіна Муравія». Цяжкія дарогі вайны прывялі паэта праз агонь і папялішчы па роднай краіне; пабыў ён і пад чужым небам замежных дзяржаў. Нарысы, карэспандэнцыі, апавяданні складаюць новую кнігу Аляксандра Твардоўскага «Радзіма і чужына». Высока ацэнена і гэтая кніга прозы нашай крытыкай. Я хачу спыніцца на адным яе раздзеле — «Сэрца на-

рода», у якім Аляксандр Твардоўскі з вялікім замілаваннем піша пра наш родны Мінск, пра зямлю беларускую і працавітых людзей гэтай зямлі. Вось як ён апісвае ўезд у Мінск, падпалены нямецкімі акупантамі перад тым, як уцячы з горада:

«Гурган агню і выбухі ў горадзе. Насустрач савецкім машынам, танкам бягуць мінчане. Кідаюць кветкі танкістам, артылерыстам, пехацінцам. Чуюцца радасныя галасы:

— Хай жыве!..

Вось так жа гэта сардэчнае: «Хай жыве!» — гучала ў былыя, у даваенныя дні каля Дома ўрада пад яснымі сцягамі ў вялікія рэвалюцыйныя святы.

— Хай жыве!..»

А яшчэ такія прачулыя, задушэўныя словы: «Мы ў глыбіні Беларусі. За намі Мінск — сталіца рэспублікі, цэнтр беларускай культуры, горад Янкі Купалы... Барацьба беларускіх партызан супраць акупантаў у дні Айчыннай вайны складзе гордыя і павучальныя для нашчадкаў старонкі гісторыі гэтага народа... Беларусы — народ глыбока паэтычны, народ са шчырым, сумленным і вясёлым сэрцам»...

Прыемна і радасна пачуць беларусу такія словы ад такога славутага, шчырага паэта.

За апошнія гады Аляксандр Твардоўскі праехаў Урал і Забайкалле, Далёкі Усход і Якуцію. Гэтыя паездкі далі свае плённыя вынікі. У нарысах, рэпартажах дасканала паказаны працоўныя гераічныя подзвігі савецкіх людзей на вялікіх будоўлях камунізма. Нядаўна Аляксандр Твардоўскі закончыў шматгадовую работу над сваёй новай буйнай паэмай «За даллю — даль». Як невычарпальныя нетры Урала, невычарпальны і своеасаблівы каларыт, высокае дыханне, паэтычная акрылёнасць у паэме «За даллю — даль».

Вось, напрыклад, раздзел «Дзве кузні», у якім паэт паказвае спачатку сваю бацькоўскую старую кузню ў глухім хутарскім Загор'і:

Дзе на хмызняк балота лезе,
Дзе журавоў працяглы крык;
Дзе мог бы ўсё сваё жалеза
Пад паху лёгка ўзяць мужык...

І ўсё-такі:

Было б на той часцінцы свету
Усім без кузні, як без рук:
Служыла клубам і газетай,
І акадэміяй навук.

А вось новая кузня Урала:

Пякельнай спёкай адганяла
Мяне пад ветрык ад акон.
Зямлю пад пяткамі хістала
Кувалда ў сотні тысяч тон:
Агню, вугалляў пах знаёмы,
Расплаўлены металу шквал, —
Было ў той кузні ўсё, як дома, —
Хоць ведаў я — грыміць Урал!

Звініць і гудзе кожны радок, народжаны магутным гулам індустрыяльнага цэнтра краіны. І пра што б ні пісаў, у кожнай страфе, у кожным раздзеле гэтай наватарскай цудоўнай паэмы — выключная дакладнасць, урачыстая патэтыка, гарачае дыханне нашай сучаснасці!

І проза, і вершы, і паэмы Аляксандра Твардоўскага — гэта вялікае дасягненне сучаснай савецкай літаратуры, гэта творы сапраўднага народнага паэта, які яснымі думамі сваімі, шчырым сэрцам сваім жыве ў вялікіх справах народа, партыі, Радзімы.

І ў гэтыя дні, у дні яго слаўнага юбілею, ад усяго сэрца жадаем цудоўнаму паэту сучаснасці, добраму і слаўнаму другу нашаму Аляксандру Твардоўскаму найлепшага здароўя, найвялікшых творчых поспехаў!

**Антон БЯЛЕВІЧ.**

---

**Міхась ПАРАХНЕВІЧ**

# ХЛАПЧУК



Я шчэ не чуў хлапчук пра Ушакова
І з букваром 'шчэ не хадзіў у клас,
Але затое з лодкай папяровай
Ля ручая блукае кожны раз.

Твар у вяснушках. З непакорным чубам.
Кароткі для яго вясновы дзень.
Яму, гарэзу, радасна і люба
Вадзіць на нітцы лодку па вадзе.

Марак, што бачыў многія прычалы,
Сказаў яму: «Такім вось быў і я!»
І хлапчуку, як быццам адміралу,
Ён раптам чэсць аддаў ля ручая.

* * *



З бажыну вырошчваў я, манцёрыў,
Тры гады ў салдацкім быў страі,
Піў ваду ў Карэліі з азёраў,
Бачыў прыбалтыйскія краі.

Дзён былых узрушылі ўспаміны...
Лепш пра ўсё скажу без лішніх слоў:
Лёс любы куды б мяне ні кінуў —
Не шукаў там лёгкіх я шляхоў.

На'т не думаў, дзе цяпло здабуду,
Не шукаў, дзе лепш ды спакайней...
Знаў адно: я малады і ўсюды
Усё ў жыцці пад сілу будзе мне.

Вось чаму сваім гарачым сэрцам
Многае люблю, што ў свеце ёсць...
Без жыцця такога, мне здаецца,
Не адчуць ніяк вам маладосць.

# Малавядомыя творы Кузьмы Чорнага

*Спаўняецца 60 год з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага (Мікалая Карлавіча Раманоўскага). Ён нарадзіўся 24 чэрвеня 1900 года (ст. ст.) у маёнтку Боркі на Случчыне. Яго бацька працаваў тады батраком у пана.*

*У сваёй аўтабіяграфіі Кузьма Чорны пісаў, што дзіцячыя гады яго прайшлі ў беднасці і галечы: «Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства. Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка, адна на год, здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся. Так жыў народ».*

*З 1920 года Кузьма Чорны жыў у мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна, працаваў некаторы час настаўнікам сямігадовай школы.*

*Жывучы ў гушчы народа, Кузьма Чорны добра ведаў яго інтарэсы і імкненні, надзеі і спадзяванні. Гэта і абудзіла ў ім пісьменніка.*

*У № 98 газеты «Савецкая Беларусь» 5 мая 1923 года было надрукавана першае апавяданне К. Чорнага «На граніцы», якое паклала пачатак яго літаратурнай дзейнасці.*

*Неўзабаве Кузьма Чорны пераязджае ў Мінск і паступае на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Услед за апавяданнем «На граніцы» ў беларускіх перыядычных выданнях з'яўляюцца яго новыя творы «Вёска», «Маё дзела цялячае», «На варце» і іншыя.*

*У 1925 годзе выходзіць з друку першая невялічкая кніжка пісьменніка «Апавяданні», у якую ўвайшло тры творы — «Быльнікавы межы», «Мяшчане ў густой пары» і «Максімка». Ужо гэтыя апавяданні вызначаліся характэрным для пісьменніка ўменнем глыбока пранікаць у складаную псіхалогію сваіх герояў, якія марылі аб шчаслівым жыцці без «быльнікавых межаў» і ў той жа час былі яшчэ ў палоне перажыткаў мінулага.*

*Большасць сваіх ранніх твораў К. Чорны публікуе ў часопісах «Маладняк», «Полымя», «Чырвоны сейбіт», «Беларуская работніца і сялянка», у газетах «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска», «Беларускі піянер» і іншых.*

*У 1925 — 1926 гадах Кузьма Чорны актыўна супрацоўнічаў і ў беларускім двухтыднёвіку «Малады араты». Гэты часопіс выдаваўся ЦК ЛКСМБ для сельскай моладзі. У ім побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам друкаваліся яшчэ маладыя ў той час беларускія празаікі і паэты К. Крапіва, П. Глебка, М. Лужанін, У. Дубоўка, П. Трус, А. Александровіч, А. Якімовіч, А. Звонак, П. Галавач, А. Дудар, Р. Кобец і іншыя. У № 4 за 1925 год было надрукавана апавяданне Кузьмы Чорнага «У вёсцы» (першапачатковая яго назва — «Малюнак»); у № 9 за 1926 год — «Гутарка ноччу ў дарозе» і ў № 12 за той жа год — «Буры». Усе яны былі падпісаны шырока вядомым псеўдонімам пісьменніка — «Кузьма Чорны».*

*Аднак да апошняга часу не было вядома, што ў К. Чорнага было і другое літаратурнае імя — «Сусед-Вясёлы».*





**Кузьма Чорны ў маладыя гады.**

*Пад гэтым псеўдонімам пісьменнік апублікаваў у часопісе «Малады араты» 5 апавяданняў: «Заработак» (1925, № 1), «Папоўскі вялікдзень» (1925, № 2), «Фэст» (1925, № 3), «Дзядзькі поплаў мераюць» (1925, № 14), «Вучоны» (1926, № 6). У гэтых апавяданнях высмейваюцца перажыткі мінулага ў свядомасці людзей.*

*Вастрыё сваёй сатыры пісьменнік накіроўвае супраць рэлігійных забабонаў (апавяданні «Папоўскі вялікдзень», «Заработак», «Фэст»), супраць невуцтва і гультайства («Вучоны»), супраць дзікіх норавў старой аднаасобніцкай вёскі («Дзядзькі поплаў мераюць»).*

*Пад псеўдонімам «Сусед-Вясёлы» К. Чорны друкаваўся не толькі ў часопісе «Малады араты», але і ў іншых выданнях. У газеце «Беларуская вёска» № 76 за 21 жніўня 1927 г. К. Чорны падпісаў гэтак сваё апавяданне на антырэлігійную тэму «Для ачысткі голасу».*

*Псеўдонім «Сусед-Вясёлы» быў добра вядомы тым пісьменнікам, якія супрацоўнічалі з К. Чорным у «Маладым аратым» і ў «Беларускай вёсцы». У прыватнасці, гэты факт добра вядомы паэту Максіму Лужаніну. Яму мы шчыра ўдзячны за тую дапамогу, якую ён аказаў у адшуканні забытых твораў Кузьмы Чорнага.*

*Н. ВАТАЦЫ,*
*Н. ЛАПІДУС.*

# ЗАРАБОТАК

**Апавяданне**

Як бы не верыў,
Абы намераў...
КРАПІВА.

Царкоўны стараста Міхал Шабалдзей глянуў па пустой вуліцы ўправа, глянуў улева, пасля, не спяшаючы, уцягнуў у пачырванеўшы ад холаду нос з вусоў вялікую каплю нечага густога і слізкага і сцебануў сурамцовую пугаю каня.

— Ну, каб цябе ваўкі ўклалі, воўчае мяса, — раўнуў ён на ўсю вуліцу і яшчэ раз чмыхнуў носам.

Конь страсянуў грываю і пацягнуў цяжкія сані.

— Тпр-рр, — абазваўся цераз паўхвіліны Міхал.

Конь стаў. Міхал улажыў пальцы рук у рукавы і прысеў на край саней.

— На, Міхал, сып, — сказаў Змітрок Шапавал, цягнучы паўасміну жыта.

Міхал Шабалдзей усыпаў жыта ў мяшок і зноў сцебануў каня. Конь зноў падцягнуў сані на некалькі крокаў.

— Ну, як, Міхал, — сказаў весела бацюшка, выходзячы ў сіняй рызе і з крыжам у руках з суседняга двара.

— Дзякуй богу, даюць, ужо ледзьве конь плішчыць, — бойка адказаў Міхал.

— Ну і добра, — сказаў бацюшка і паблытаў у суседнюю хату чытаць малітву.

А на вуліцы каля Міхала з саньмі пачаў збірацца гурт. Ішоў з гумна Сідор Апенька ды стаў пагаварыць з Міхалом. За Сідорам падышоў закурыць чужой табакі Паўлюк Храпа. А к гэтым падышло яшчэ некалькі, і хутка за народам не відаць стала ні Міхала, ні саней, ні каня. Міхал з генеральскім выглядам узлез на сані дый пад'язджаў паволі па вуліцы, услед за бацюшкам, які шпарка перабягаў з хаты ў хату. А пасля папрыбягала аднекуль малых хлапчукоў і стала весела на вуліцы.

— А браткі ж, — шапталіся ззаду хлапчукі: — чаму гэта ў дзядзькі Міхала Шабалдзея вельмі вусы мокрыя?!

— А чорт яго ведае, — адказвалі другія, — мусіць гэта ў яго з носу.

— Дык жа на дварэ мароз, не павінна цячы, — шуцілі трэція.

— Ха-ха-ха-ха, — заліваліся ўсе вясёлым рогатам і падыходзілі бліжэй.

— Дзядзька, чаму ў цябе на губе мокра? — запытаўся з рогатам у Міхала Грышка Марылін, самы прахвост і зладзюга на ўсю вёску.

— Няхай у цябе ў калошах будзе мокра, — адказаў сярдзіта Міхал і зноў сцебануў каня. Мужчыны і хлопцы падышлі ўслед за санямі.

— Чаго ж ты злуеш? — сказаў Міхалу Сідор, — важнае дзела — малы шчанюк дзяўкнуў, а ён ужо злуе.



— Чаго вы работы якое не робіце ды цягаецеся за мною? — абазваўся сярдзіты Міхал.

Мужчыны зарагаталі.

— Цьфу, — плюнуў Міхал, — усё роўна, як блазны якія.

— Ну, Міхал саўсім ужо ганаровым стаў, — сказаў Сідор, — як пахадзіў паўгода каля папа, дык і гаварыць не даецца.

— А што, браткі, думаеце? — адказаў Паўлюк Храпа: — як яшчэ ён паходзіць каля папа месяцаў два, дык гатоў за дыякана выйсці.

— А-яй-яй, а гвалт, ха-ха-ха-ха! — гранулі ўсе рогатам: — от будзе дыякан!..

— Пайшлі к... ядронай мацеры! — раўнуў Міхал і шалыгнуў путальнём капю па хвасце. Конь пацягнуў сані, а мужчыны з рогатам засталіся.

— От будзе дыякан!.. ха-ха-ха-ха!..

— А голас, голас! ценарцом будзе кандакі выспеўваць!..

— Ён тады яшчэ гатоў, падла, папа абярнуць, калі шмарганецца аб яго!..

Хлапчукі пастаялі каля мужчын ды пасля зноў пабеглі па вуліцы, прыглядаючыся, хто што выносіць для бацюшкі. Хутка прыкмецілі яны, што ўдава Аўдоцця вынесла цэлую кілбасу. Міхал Шабалдзей весела ўзяў кілбасу, патрос у руцэ, пасля выцягнуў з саломы на санях вялікую торбу і сунуў туды кілбасу.

— Вось назбіраў, халера, цэлую торбу кілбас ды сала, — загаварылі хлопцы.

— Чаму ты, цётка, кілбасу папу даеш, няхай бы сама з'ела, а то цэлы век посціш? — запытаў Грышка.

— Цьфу, каб на вас халера, канцамолы чортавы, — адказала Аўдоцця, — бацюшка за кілбасу богу моліцца, малітву ў хаце чытае.

— А без кілбасы не чытае?

— А няхай ужо нечага над вамі псалтыр пачытаюць, — адказала Аўдоцця і шмыганула скаранька ў двор.

— Няма на вас лому якога, — забубніў Міхал Шабалдзей, седзячы на санях: — гэта жартачкі, бацюшка парафію з малітваю аб'язджае, а яны зубы вышчараюць. А каб вы папруцянелі, смаркачы аблезлыя!..

— Дзядзька, не злуй!

— Ідзі, дзядзька, пакоўзаемся каля калодзезя!

— Няхай ты бокам коўзайся, — прабубніў Міхал, хаваючы новую кілбасу ў торбу.

Грышка падкраўся к саням і глянуў у развязаную торбу. Аж сліна ў яго пацякла.

— От, каб яго растрыбушыла, — падумаў ён: — пройдзе падлагультаіна з крыжам па вуліцы, дый мае на цэлы год. А гэта малацімалаці з бацькам, ды заўсёды цыбулю з квасам еш.

На вуліцы пачуўся крык і свіст. Грышка азірнуўся і ўбачыў, што хлапчукі гналі па вуліцы паповага сабаку Лыску. Лыска бег, хвост падтуліўшы, а хлопцы аж енчылі з рогату, бегучы ззаду.

— Гэта ж Лыска бацюшкаў, — крыкнуў Міхал, саскочыўшы з саней. — Ах вы, прахвосты, сукіны сыны. На-цю-на, каб ты здох!

Хлопцы сталі, а Лыска падбег да саней і лізнуў у твар знаёмага Міхала Шабалдзея.

— О, так, о, — усміхнуўся Міхал, — бегаеш, падла, па чужых дварах; няма, каб пільнаваўся сваіх.

— Чаго ты круцішся, каб на цябе дохлая, — дадаў Міхал, угледзеўшы, што Лыска нешта вакол саней увіхаецца.

— Хлопцы, — зашаптаў Грышка ў кучы, — Лыска бацюшкавы

кілбасы знюхаў. От, каб як гэта дзядзьку Міхала адазваць на момант ад воза.

— Дзядзька Міхал, — сказаў ён моцна, — ідзеце закурэце, у мяне вельмі бесарабчык добры, я ў бацькі ўзяў трохі.

— Ка'аш добры? — працягнуў Міхал.

— Добры. Такі моцны, што мой бацька калі закурыць, дык ва ўсіх, хто нюхае дым, аж язык у гэтае ўцягвае.

— Ну?!

— Яй права.

— Ну, Лыска, сцеражы воза, — сказаў Міхал, пагладзіўшы Лыску па шыі.

Лыска падскочыў вышэй Міхала, а Міхал, ускінуўшы каню на спіну лейцы, падышоў к хлопцам.

Лыска, адчуўшы сябе гаспадаром, гоцнуў на воз, упіліўся зубамі ў торбу з кілбасамі ды звалок яе на снег. Некалькі кускоў сала вываліласа на зямлю, а торбу Лыска павалок у зубах па снягу. Па дарозе яшчэ некалькі кілбас вывалілася, і з астаткамі Лыска ўва весь дух драпануў па вуліцы.

Бацюшка праз акно з хаты ўгледзеў сабачыя справы каля саней і, не кончыўшы малітвы, выскачыў на вуліцу. Міхал сама што ўсмак зацягнуўся моцнаю табакаю і аж павесялеў.

— Міхал! — крыкнуў бацюшка, выскачыўшы на вуліцу, — чаго ты глядзіш!

— Што? — абазваўся перапалоханы Міхал.

— Вунь, бачыш?

Міхал глянуў, аж абамлеў. Далёка ўжо ад саней, падтуліўшы хвост, пёр Лыска з торбаю ў зубах. За ім бегла яшчэ некалькі сабак і нават яго рыжая сучка. А ззаду маршыравала некалькі свіней, выцягнуўшы лычы.

Пакуль Міхал агледзеўся, бацюшка, як стаяў у аблачэнні з крыжам у руках, кінуўся ўва весь дух за Лыскам адбіраць кілбасы. Міхал шмыгануў услед. На вуліцу навыбягала людзей. Падняўся рогат і крык...

Лыска, дабегшы да ваколіцы, драпануў на агароды. Бацюшка вярнуўся назад, сарваў са злосці з сябе рызу, кінуў на воз і аблаяў Міхала.

— За што ж вы, бацюшка, лаецеся?

— А няхай цябе перуны, гэтакі заработак, — гукнуў бацюшка, — маліўся, маліўся цэлы дзень дый хвост сабачы вымаліў. Няма рахунку больш хадзіць, згарыць яно няхай!..

І бацюшка ўзабраўся на воз, шалыгнуў ляйчынаю каню па задніх нагах і паехаў дадому, не кончыўшы малітвы.

Міхал Шабалдзей стаяў пасярод вуліцы, чмыхаў носам ды, апусціўшы вочы, слухаў, як над ім рагатала грамада людзей.

— Ну, можа за дыякана хутка будзеш высвенчвацца?—пыталі ў яго.

— Згарыць яно няхай і з дыяканствам і з стараствам. Я больш царкоўны не прычэтнік!

**Сусед-Вясёлы.**

# КУЗЬМА ЧОРНЫ І МАЛАДЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

Кузьма Чорны належыць да ліку тых пісьменнікаў, якія лічаць сваім прамым абавязкам не толькі ствараць літаратуру, але адначасова і выхоўваць маладое пакаленне пісьменнікаў. У гэтых адносінах у К. Чорнага ёсць шмат агульнага з Максімам Горкім, які нястомна сачыў за развіццём маладых талентаў, дапамагаў ім то добрай парадай, то строгай, але справядлівай крытыкай.

Добрую памяць аб «пісьменніку вялікай душы», як назваў К. Чорнага Кандрат Крапіва, назаўсёды захаваюць у сваім сэрцы многія цяпер ужо вядомыя беларускія пісьменнікі, якім ён у пару іх літаратурнай маладосці працягнуў сяброўскую руку дапамогі.

«У тую пару, — успамінае Іван Грамовіч, — не адзін я звяртаўся за кансультацыяй да Кузьмы Чорнага. Многія пачынаючыя аўтары так, як і я, прыходзілі да яго... Ён лічыў гэту працу як абавязковую і пачэсную. Да пачынаючых аўтараў адносіўся ўважліва, клапатліва, як бацька».

Да вайны ў Мінску на рагу Савецкай і Камсамольскай вуліц знаходзіўся Дом пісьменніка, у адным з пакояў якога размяшчаўся кабінет маладога аўтара. Сюды часта прыходзілі пачынаючыя паэты, пісьменнікі і драматургі. Яны прыносілі свае рукапісы і з хваляваннем чакалі, што ім адкажа загадчык гэтага кабінета Кузьма Чорны, кнігі якога яны паспелі горача палюбіць і высока ацаніць.

«За сталом у цёмным кутку сядзеў поўны, невысокага росту мужчына, вельмі сур'ёзны з выгляду», — успамінае пісьменнік Рыгор Няхай, які восенню 1933 г. разам з Алесем Бачылам з хваляваннем пераступіў парог кабінета маладога аўтара і сустрэўся з Кузьмой Чорным. «Ён падрабязна распытаўся, хто мы такія, адкуль, як жывём, якія кніжкі чыталі. Рукапіс ён толькі пагартаў і папрасіў зайсці заўтра». На наступны дзень дакладна ў прызначаны час Мікалай Карлавіч ужо чакаў маладога пісьменніка, а у руках у яго быў рукапіс, спярэшчаны шматлікімі заўвагамі.

Нават у суровыя гады Айчыннай вайны Кузьма Чорны не парываў сваіх сувязей з маладымі беларускімі пісьменнікамі. Аб гэтым з вялікай цеплынёй успамінае Іван Мележ, які сустрэўся з пісьменнікам у Маскве, у гасцініцы «Якар», дзе ў той час жыў Мікалай Карлавіч. Іван Мележ, тады студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які размяшчаўся на Сходні, пад Масквой, перадаў праз дацэнта ўніверсітэта М. Р. Ларчанку сшытак са сваімі апавяданнямі К. Чорнаму. Кузьма Чорны быў тады цяжка хворы. І тым не менш ён прачытаў апавяданні пачынаючага пісьменніка і адказаў яму падрабязным пісьмом, у якім зрабіў шэраг каштоўных заўваг аб прысланых апавяданнях.

Пра чулыя адносіны Кузьмы Чорнага да маладых літаратараў, пра клопаты аб іх лёсе, пра страсную любоў яго да роднай літаратуры расказваюць у сваіх успамінах Усевалад Краўчанка, Антон Бялевіч, Іван Грамовіч і многія іншыя пісьменнікі.

К. Чорны не абмяжоўваўся

толькі кансультацыяй пачынаючых пісьменнікаў. У сваіх выступленнях на канферэнцыях і злётах маладых паэтаў і празаікаў, у артыкулах ён падымаў важнейшыя праблемы літаратурнай вучобы.

У сакавіку 1932 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» (№ 2, ад 6.III) былі апублікаваны вельмі цікавыя нататкі К. Чорнага пад назвай «Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства». Праз год К. Чорны публікуе на старонках гэтай жа газеты тры праблемныя артыкулы: «Заўвагі пра драматургію», «Сіла нашай культуры — у інтэрнацыяналізме», «Працу з кадрамі — у творчы план». З наступных выступленняў К. Чорнага ў друку можна адзначыць яго артыкулы: «Пра вучобу і творчасць пачынаючых», «Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў», «На новыя высоты», а таксама даклад на ўсебеларускім злёце літаратуразнаўцаў у 1934 годзе на тэму «Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў», выступленне на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у Маскве ў 1934 г. і іншыя.

Ва ўсіх сваіх артыкулах і выступленнях, прысвечаных пытанням літаратурнай вучобы і выхаванню маладых пісьменнікаў, К. Чорны падкрэслівае думку, што літаратар павінен быць цесна звязаны з жыццём, добра яго павінен ведаць і па-мастацку адлюстроўваць у сваіх творах.

«Мы павінны дамагацца, — пісаў К. Чорны, — каб кожная новая кніга, што выходзіць у свет, ішла ў арсенал бальшавіцкае зброі. Літаратура накіроўвае, паказвае, вучыць. А няма лепшага настаўніка, як сама рэальнасць. І от кожны літаратурны твор павінен быць гэтакім шматгранным, як сама рэальнасць. Сіла літаратуры ў яе вялікай ідэёвасці, у зямной яе рэальнасці, у яе агні і напорнасці».

У трыццатыя гады ў нашу літаратуру ўваходзіць многа маладых пісьменнікаў, якія ўжо мелі за плячыма пэўны жыццёвы вопыт. «Маладыя аўтары ідуць у нашу літаратуру найбольш з заводаў і калгасаў, — пісаў К. Чорны ў артыкуле «Працу з кадрамі — у творчы план». — Гэта асноўнае і пераважнае ядро ў прыліве маладых сіл на літаратурны фронт. Гэтыя людзі самі ўдзельнікі сацыялістычнага будаўніцтва, ім дасканала знаёмы працэс сацыялістычнай вытворчасці, яны маюць багаты вопыт у гэтай вытворчасці... Іначай кажучы, яны маюць вялікі матэрыял для свае літаратурнае работы, здабыты імі сваёю ўласнаю практыкаю. А гэта самае важнае ў работніка літаратуры».

Перад маладымі літаратарамі, што прыйшлі з гушчы жыцця, паўстала складаная задача — авалодаць майстэрствам пісьменніка. Гэтаму вучыў іх К. Чорны. Трэба вучыцца, сцвярджаў ён, канцэнтраваць падзеі з шырокага круга ў адзін пункт, якім з'яўляецца літаратурны твор. Усе факты, узятыя непасрэдна з жыцця, павінны атрымаць філасофскае асэнсаванне. «...Мы павінны нашу работу з маладымі аўтарамі праводзіць «у філасофскім плане» — гэта значыць, у плане станаўлення марксісцкага светапогляду маладога пісьменніка. Без гэтага наш аўтар не навучыцца майстэрству», — пісаў К. Чорны.

Асаблівую ўвагу ён аддаваў мове. «Мова, — пісаў ён, — жывая істота. Яна жыве, а не існуе». Без работы над словам немагчыма ніякая літаратурная вучоба. «Выразнасць, точнасць, меткасць слова і фразы, — от над чым трэба заўсёды працаваць літаратару». К. Чорны раіў слухаць і прыкмячаць, як гаворыць народ.

«Сачыце за чыстатой свае мовы, — пісаў К. Чорны Івану Мележу. — Напр. замест пакой Вы пішаце комната і г. д. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай. Ведайце, што мова — гэта аснова літаратуры». Цікавы прыклад таго, як уважліва адносіўся Чорны да слова, прыводзіць у сваіх успамінах В. Вітка. К. Чорны крытыкаваў адну п'есу за тое, што ў ёй была такая сцэна: «Бяжыць сялянка і крычыць: «У чым справа, у чым справа?» Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ён думаў: «в чем дело» і пісаў «у чым справа».

Сам К.Чорны ўважліва прыслухоўваўся да таго, як гаворыць народ. «Бывала, нечакана сустрэнеш яго на вакзале, або на рынку, — успамінае Рыгор Няхай. — Стаіць і слухае, як гавораць дзядзькі. Аказваецца, вось у каго ён вучыўся каларытнасці, выразнасці і дакладнасці мовы».

Адным з важных элементаў літаратурнай вучобы, на думку К. Чорнага, з'яўляецца творчае асваенне шматвяковага вопыту класічнай літаратуры. К. Чорны цудоўна ведаў рускую класічную літаратуру і раіў маладым аўтарам вучыцца ў класікаў рускай літаратуры, у прыватнасці ў М. Горкага, Глеба Успенскага і многіх іншых пісьменнікаў.

Неаднаразова спасылаўся К. Чорны і на творчую практыку класікаў замежнай літаратуры — В. Гюго, Бальзака і Мерыме. «Агнём і полымем замілавання і нянавісці дыхаюць творы Віктара Гюго, на мяжы з навукай стаіць аналіз у творах Бальзака».

Аднак пісьменнік папярэджваў маладых літаратараў ад механічнага капіравання і перайманя класічных узораў. Неабходна творчае і крытычнае асваенне спадчыны мінулага.

К. Чорны нястомна змагаўся са спрошчанасцю ў літаратуры. «Ганебныя рэшткі спрошчанасці — вось вораг літаратурнай культуры». З'едліва высмейваў ён тых крытыкаў, якія выказвалі такія думкі: «Ідэйнае афармленне аповесці вельмі добрае, але мастацкае афармленне слабейшае». Гэта значыць, іранізаваў К. Чорны, што ў мастацкім творы ідэя можа існаваць асобна ад формы, а форма асобна ад ідэі.

К. Чорны засцерагаў маладых пісьменнікаў ад літаратурных штампаў, ад сляпога следавання літаратурным канонам. «Часам бывае, — пісаў ён, — малады аўтар прыносіць свае першыя літаратурныя спробы. Здаровы малады чалавек цэлы дзень працаваў на заводзе пры машыне, чалавек з нашым здаровым светапоглядам, жыццерадасны. А ў творы яго — пейзажы «з бавоўнянымі воблачкамі», з «пахучымі ветрыкамі» і г. д. Гэта простае перайманне з літаратуры дрэннага гатунку. Самая пабудова фраз, самая мова, ідучы ад гэтага стылю, набывае нездаровы характар».

Практыка работы з пачынаючымі аўтарамі паказала, — адзначаў К. Чорны на аснове свайго вялікага вопыту ў галіне літаратурнай кансультацыі, — што кожнага таленавітага аўтара трэба выводзіць са сферы прывітых яму вельмі вузкіх, а часам і косных поглядаў на літаратуру. Часам даводзіцца яшчэ, з іроніяй пісаў К. Чорны, даказваць маладому аўтару, што лаяць капіталіста — гэта яшчэ не значыць стварыць вобраз або тып паразіта на целе чалавечага грамадства.

Некаторыя нашы літаратары, працягваў сваю думку К. Чорны, любяць гаварыць аб велічнасці нашай эпохі. «Але яны не задумваюцца над тым, што веліч нашай эпохі відаць з самой эпохі, і літаратарам трэба працаваць так, каб веліч нашай эпохі была відаць і з мастацкіх твораў».

Вопытныя пісьменнікі, дапамагаючы маладым, самі ўдасканальваюць сваё майстэрства. Гэтую думку К. Чорны выказаў у сваім дакладзе на ўсебеларускім злёце літгурткоўцаў. «Калі правільна паставіць гэту справу для пісьменнікаў, — сказаў К. Чорны, — то яе вельмі цяжка аддзяліць ад самой літаратурнай работы. Работа з маладымі аўтарамі ўжо сама па сабе ўздымае пытанне стылю. Я лічу, што на нашай цяперашняй нарадзе мы павінны заастрыць увагу на тым, каб у работу з маладымі аўтарамі былі ўцягнуты ўсе нашы лепшыя пісьменнікі».

Гэтыя словы, сказаныя больш чвэрткі стагоддзя таму назад, не страцілі свайго значэння і ў нашы дні.

Шматлікія выказванні К. Чорнага па пытаннях літаратурнай вучобы, мастацкія творы самога пісьменніка — гэта тая крыніца, з якой нашы маладыя аўтары змогуць пачэрпнуць многа карыснага для павышэння свайго пісьменніцкага майстэрства.

**Н. ВАТАЦЫ,**
**Н. ЛАПІДУС.**

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# ПАМЯТНЫЯ СУСТРЭЧЫ

### З успамінаў

Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік) здзіўляў нас выключна шчырай і непасрэднай творчасцю, а ў асабістым жыцці зачароўваў цёплым словам спагады. Калі я першы раз сустрэў Бядулю, дык мне здалося, што я даўно дзесьці яго бачыў і нават размаўляў з ім. Такі ветлівы і спагадлівы выраз твару, такія добрыя вочы, такая лагодная гутарка, поўная разам з тым трапных прыслоўяў, сустракаюцца не часта.

У 1926 годзе З. Бядуля працаваў у Інстытуце беларускай культуры рэдактарам краязнаўчага часопіса «Наш край», а я быў карэспандэнтам гэтага часопіса. Я ўжо добра ведаў пісьменніка па яго творах, бо рыхтаваўся для паступлення на рабфак. На шматлікія допісы са Слуцка мне акуратна адказваў Бядуля, і ўжо за вочы мы былі амаль што знаёмыя. Калі я зайшоў у пакой рэдакцыі часопіса «Наш край», дзе было нейк мала наведвальнікаў, я адразу пазнаў яго.

— Дык гэта вы і ёсць Чарнушэвіч Мікола? Вельмі прыемна быць знаёмым. Прашу, сядайце, — і ён паказаў рукою на крэсла. — Вось свежы нумар нашага часопіса... Пазнаёмцеся, а я тым часам закончу свае справы.

Я чытаў часопіс, а да Бядулі падыходзілі людзі, віталіся з ім і, як мне тады здавалася, кожны з іх меў нейкую пільную да яго справу. Большасць наведвальнікаў была моладзь. Высокі і тонкі, як жэрдка, бледнатвары юнак нясмела падышоў да стала і працягнуў аб'ёмісты сшытак у чорнай цыратавай вокладцы. Як толькі Бядуля закончыў размову з гэтым юнаком, да яго падышоў каржакаваты хлапец у кажушку і даматканым галіфэ. (Як потым мне сказалі, гэта быў Паўлюк Трус.) Размова між імі запамяталася мне.

— Я прыйшоў да вас, дзядзька Змітрок, запрасіць на вечар маладнякоўцаў, які мае адбыцца ў нашым педтэхнікуме. Не адмоўце, калі ласка, мы будзем чакаць...

Я заўважыў, як засвяціліся вочы ў Бядулі і як ён па-простаму і сціпла адказаў:

— Да вас на вечар? Чаму ж не прыйсці... У вас жа, калі падлічыць, дык амаль палова «Маладняка» зараз. Я ўжо чуў і пра Глебку, і пра Лужаніна. Здольны ў вас хлопец і Сяргей Дарожны... Дык лічы, што дамовіліся, — і ён на развітанне працягнуў руку Паўлюку Трусу.

Пасля кароткай сардэчнай гутаркі я таксама парашыў закончыць сваю аудыенцыю і, папрасіўшы прабачэння, намерыўся ісці. Але Бядуля дастаў з шафы некалькі беларускіх кніжак і сказаў мне:

— Хачу табе, як актыўнаму карэспандэнту, падараваць гэтыя кніжкі. Гэта выданні нашага Інбелкульта, краязнаўчай секцыі. — На адной з іх ён зрабіў уласнаручны надпіс.: «Актыўнаму краязнаўцу. Рэдактар З. Бядуля».

Я шчыра падзякаваў і, развітаўшыся, выйшаў на вуліцу. У маіх вушах яшчэ доўга гучаў прыемны Бядулеў голас. «Яго вочы, як і яго душа, добразычліва і прыветна свецяць кожнаму», — падумалася мне.

... Неяк неўзабаве пасля гэтага я пазнаёміўся з малодшым братам Змітрака Бядулі — беларускім паэтам Ізраілем Плаўнікам. Гэтае знаёмства адбылося ў 1927 годзе. Я тады працаваў у рэдакцыі «Чырвонай змены». У друкарні працаваў карэктарам Ізраіль Плаўнік, вершы якога ў той час з'яўляліся часта ў перыядычным друку.

Аднойчы пасля работы мы разам выйшлі з друкарні. Ішлі павольна па вуліцы. Гутарачы аб паэзіі, не заўважылі, як падышлі да самай кватэры Змітрака Бядулі, дзе жыў у той час Ізраіль Плаўнік.

Невялічкі драўляны домік з белымі аканіцамі на Даўгабродскай вуліцы. Тады гэта была ўскраіна горада. Пачынаючы ад цяперашняй вуліцы Янкі Купалы за мастом аж да самай Даўгабродскай была такая багна, што не вылезці. Па абодва бакі вуліцы цягнуліся глыбокія канавы, поўныя вады. На Даўгабродскай вуліцы стаялі звычайныя сялянскія хаціны, толькі дзе-нідзе пракідаліся будынкі гарадскога тыпу. Тут жыла тады чамусьці большасць беларускіх пісьменнікаў: Якуб Колас, Міхась Зарэцкі, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Кузьма Чорны, Уладзімір Хадыка, Алесь Звонак, Эдуард Самуйлёнак, Барыс Мікуліч, Юрка Лявонны, Міхась Багун і другія.

Ізраіль Плаўнік так настойліва запрашаў зайсці, што я не мог адмовіцца, і мы пастукалі ў дзверы. Адчыніла нам жонка Бядулі Марыя Ісакаўна, папярэдзіўшы, што



Змітрок Бядуля.

Змітрок працуе і не трэба яму перашкаджаць. Мы прыселі ў сталовай і заняліся сваімі справамі. Ізраіль чытаў новыя вершы.

Неўзабаве да нас далучыўся Змітрок Бядуля. Распытаўшы ў мяне, дзе я жыву, як вучуся, ён пахваліў мой верш аб разгроме беларускай Грамады, надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь». Гэта для мяне было нечаканасцю, і я вельмі засаромеўся.

— Давайце, хлопцы, будзем вячэраць, — сказаў раптам Бядуля, — напэўна, рабфакаўскія харчы не надта трывалыя...

Я ўсялякім чынам адмаўляўся і прасіў не турбаваць гаспадыню, але не такі быў гаспадар, каб паддацца на мае хітрыкі.

За вячэрай гутарка зайшла пра паэзію Максіма Багдановіча. Бядуля памешваў лыжачкай моцны чай і расказваў нам аб сваёй дружбе з выдатным беларускім паэтам, многія творы якога мы ведалі напамяць. Яго «Зорку Венеру» спявалі тады ўсе студэнты, настаўнікі, яна прабівала сабе шлях да шырокіх мас.

— З 1916 года Максім Багдановіч жыў у нашай сям'і, — расказваў Бядуля. — Не магу за-

быць, як я збіраў грошы, каб адправіць яго лячыцца ў Крым. Максім быў маім хросным літаратурным бацькам. Ён першы напісаў аб маёй творчасці артыкул у «Нашу ніву». Жывучы з ім у адным пакоі, я быў сведкам нараджэння яго цудоўных санетаў. Працаваў ён да самазабыцця, нягледзячы на сваю хваробу. Усю ноч не выпускаў алоўка з рук, а раніцаю дробным почыркам перапісваў усё напісанае і зноў папраўляў. Багдановіч ведаў французскую мову, чытаў у арыгіналах заходнееўрапейскіх паэтаў. Няма чаго казаць пра тое, як добра ведаў ён рускую класіку. Любімым яго паэтам быў Пушкін... Мне хочацца напісаць свае ўспаміны пра Максіма Багдановіча, бо, акрамя мяне, ці знойдзецца чалавек, з якім ён так адкрыта і шчыра дзяліўся б сваімі думкамі...

Размова зацягнулася да позняй ночы. Калі я пачаў збірацца дамоў, Бядуля запаліў ліхтар і сказаў брату:

— Правядзі Міколу да маста. Яму ж нашы дарогі незнаёмыя.

Ідучы да свайго рабфакаўскага інтэрната, я ўвесь час думаў аб нашай гутарцы. Колькі прастаты было ў ёй, быццам бы я пасядзеў дома ў кругу сваёй сям'і.

... У 1929 годзе я жыў на Шпітальнай вуліцы, непадалёку ад Свіслачы. Мне і раней казалі, што гэтая ціхая рачулка часам паказвае свой нораў. І ў гэты год яна разлілася так, што затапіла ўсю Нямігу, Садовую вуліцу, электрастанцыю. Служачыя, што жылі па гэты бок Свіслачы, не маглі дабрацца на работу. Драўляныя масты каля лазні і гарадскога саду пазносіла паводка, і «пісьменніцкі квартал» быў адрэзаны ад цэнтра горада.

Неяк надвечар да мяне зайшоў Уладзімір Хадыка, і мы пайшлі глядзець паводку. Каля рэчкі сустрэлі Кузьму Чорнага і разам парашылі наведаць Бядулю. Марыя Ісакаўна і Бядуля абрадаваліся нашаму прыходу. Нас запрасілі распранупца і прысесці за стол. Зайшла гутарка аб першых частках надрукаванага рамана «Язэп Крушынскі». Кузьма Чорны, як звычайна, іранізаваў наконт таго месца, дзе ішла гутарка пра юбілей Антона Цярэшкі:

— *Я, як філосаф, павінен зрабіць заўвагу,* — імітаваў ён знаёмых крытыкаў, — *што паэзія нашага Антона Цярэшкі мае глыбокія філасофскія думкі... Я, як марксісцкі крытык, зазначаю, што ў творчасці нашага пралетарскага паэта надзвычай вытрыманая ідэалогія. Я, як культурны чытач, пераконваю вас, шаноўныя госці, што мастацтва ў вершах славутага таварыша Цярэшкі на вышыні сучаснасці. Я, як...*

Усе весела смяяліся. Потым гаспадыня пачаставала нас свежым півам і Змітрок Бядуля пажартаваў:

— *Жонка, падай палку, буду біць вокны...*

Нельга было стрымацца ад смеху, уявіўшы сабе, як гэта ціхі заўсёды такі далікатны Змітрок Бядуля будзе звіхацца з палкаю ля вокан.

Кузьма Чорны параіў:

— Дайце яму маю палку, Мар'я Ісакаўна... Чаму, як той казаў, не даць чалавеку выявіць сваё нутро?.. Няхай сабе ён і гэтае...

Бядуля вельмі любіў Кузьму Чорнага і прыслухоўваўся да кожнай яго заўвагі.

Вось і зараз, павесяліўшы гасцей жартам, ён загаварыў пра тое, пра што доўга думаў сам.

— Добра, што ты, Кузёмка, прыйшоў да нас, ды яшчэ разам з хлопцамі. Я прадумаў усе твае заўвагі наконт майго рамана «Язэп Крушынскі». Сапраўды, я занадта расцягнуў яго. Мнагаслоўе псуе густ чытача. Раман павінен змяшчацца на ста — ста пяцідзесяці старонках, аповесць — займаць не больш пяцідзесяці старонак, апавяданне — дзесяць-пятнаццаць. Прыкладам могуць служыць творы Пушкіна, скажам, «Капітанская дачка»...

— Гэта — гледзячы па матэрыялу, — зазначыў Кузьма Чорны. — Я ўжо даўно задумаў кнігу аб трох пакаленнях і думаю напісаць яе невялікай памерам, ну, прыблізна, аркушаў пятнаццаць — дваццаць... Ужо тры тыдні я не магу знайсці сабе месца, не дае мне гэтая думка ні сну, ні адпачынку. Вось вазьму кіну-рыну ўсё і паеду ў Цімкавічы. Там гэтак добра можна падумаць, паразважаць. Як той казаў, там усё пад рукою, адразу ўсё на месцы і мае свой голас... тымчасове...

... Змітрок Бядуля быў выдатным апавядальнікам. Ён захапляў чытача самымі нечаканымі гісторыямі, якія сведчылі аб глыбокім веданні жыцця і побыту свайго народа. Але ён умеў і слухаць другіх. На яго твары ў гэты час можна было заўважаць і вялікую радасць, і роспач, і задумённасць.

Аднойчы ў Доме пісьменніка сабралася вясёлая кампанія старэйшых і маладзейшых пісьменнікаў, сярод якіх любіў заўсёды быць і Змітрок Бядуля. Іван Шапавалаў, які служыў у войсках пагранахоўы, расказваў прысутным гісторыю пра кулака-бандыта Моніча: той спрабаваў перайсці нашу граніцу ў спецыяльных чаравіках, след якіх быў падобны на след капытоў каровы.

— ...Я за ім, а ён у кусты... Потым перабягае поле і хаваецца за гумном... — стараўся як мага больш дакладна перадаць убачанае Іван Шапавалаў.

Бядуля глыбока ўсхваляваны. Зморшчкі, выразныя сведкі гневу і абурэння, густа збіраюцца ля самых вуснаў.

— Гэта ж не дай ты бог!.. Вайна сярод белага дня... То няхай бы стралялі! — падказвае ён.

— Нельга, — адказвае Шапавалаў, — жывога загадана было ўзяць...

— Ай-яй-яй... То ці не ўцёк гад?

— Не, — адказвае Шапавалаў, — узялі жывога. У дзіцячай калысцы знайшлі на хутары...

— А-я-яй, — шэпча Бядуля. Вочы яго блішчаць. — Гэта ж жывая аповесць!..

Пазней, чытаючы некаторыя бядулеўскія апавяданні і асабліва раман «Язэп Крушынскі», мы пазнавалі мясціны, падобныя да гэтага эпізоду.

...Напрацаваўшыся за рабочым сталом, Бядуля любіў пасля паўдня прайсціся па мінскіх вуліцах альбо заглянуць у Дом пісьменніка. Напэўна, ні адзін вечар ці сход не абыходзіўся без удзелу Змітрака Бядулі. Яго любілі і паважалі Янка Купала і Якуб Колас.

Сустракаючыся з ім, Якуб Колас з нейкай хітрынкай пытаўся:

— Дзе гэта ты, Змітрок, падзеўся, нешта даўно я цябе не бачыў?



**Народны паэт Латвіі Ян Райніс сярод беларускіх пісьменнікаў** (злева направа): у першым радзе — **Змітрок Бядуля, Ян Райніс, Янка Купала, Кандрат Крапіва**; у другім радзе — **Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны** (1926 г.).

— Я чуў,— дадае Янка Купала,— ён і дома рэдка калі бывае...

Змітрок Бядуля ведае, што гэта жарт, але яму самому хочацца мець не надта сур'ёзную гутарку. Цэлы ж дзень крукам прасядзеў за сталом. І ўчора... І пазаўчора...

— Сядай, Змітрок, побач са мною,— кажа Якуб Колас,— ты з Янкам ніколі не прыйдзеш да ладу. Ты ж ведаеш: яму есці не давай, а пачні гутарку ў лірычным аспекце... Я вось сапраўды хацеў цябе пабачыць... Яшчэ раз перачытваў твайго «Салаўя». Збіраюся напісаць, але каб ты не засердзіўся, буду хваліць.

Твар у Змітрака Бядулі святлее. Ён глыбока зацягваецца цыгаркай і хітравата з ледзь прыкметным гумарам гаворыць:

— Каб хаця тое хваленне ды не выклікала сумнення... Можа лепш было б пакрытыкаваць?

— Не, тое месца, дзе сяляне замест хлеба падаюць у панскія рукі камень, зроблена проста выдатна, па-народнаму. Апавядальнік ты, браце, добры.

Бядуля смяецца і падобна на тое, што саромеецца.

...У 1937 годзе па ўсёй краіне шырока адзначалася стагоддзе з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

Напярэдадні новага года Змітрок Бядуля і я выехалі ў Лёзна, каб правесці там пушкінскі вечар.

Невялічкая зала раённага клуба была перапоўнена. Праз адчыненыя дзверы ўрываўся белымі клубамі навагодні сіберны мароз, а ў далёкім канцы залы, дзе сядзеў прэзідыум, не было чым дыхаць ад гарачыні.

З дакладам аб творчасці Пушкіна выступіў Змітрок Бядуля, які здзівіў мяне не толькі глыбокім і ўсебаковым веданнем спадчыны вялікага паэта, але і выдатным талентам прамоўцы. Гэта была сардэчная гутарка, глыбокая зместам, простая і дакладная. Так вядуць свой урок таленавітыя настаўнікі, словы якіх мы пасля не забываем праз усё жыццё.

Пасля чытання твораў Пушкіна ў перакладзе на беларускую мову інтэлігенцыя раёна наладзіла сяброўскую сустрэчу з пісьменнікамі за шклянкай гарбаты, як казалі ў той час. Бядулю акружылі выкладчыкі мовы і літаратуры, бо кожны хацеў паслухаць вядомага пісьменніка, кнігі якога даўно ведаў і любіў. Па просьбе прысутных Бядуля прачытаў некалькі сваіх вершаў у прозе.

Назаўтра нам прапанавалі наведаць маленькае мястэчка Калышкі, у якім арганізаваўся яўрэйскі нацыянальны калгас. Мы з вялікім задавальненнем далі сваю згоду, і праз некаторы час райкомаўская машына даставіла нас туды.

На сустрэчу, якая была наладжана ў памяшканні школы, прыйшло насельніцтва амаль усяго мястэчка. Старэйшыя людзі размясціліся на зэдліках, якія прынеслі з дому, дзеці стаялі ў праходах, сядзелі на падаконніках. Бядуля мне ціха шаптаў на вуха:

— Браце мой, я не чакаў такое сустрэчы... Бач, колькі народу і якая зацікаўленасць беларускай літаратурай. Жанчыны прыйшлі на вечар з малымі дзецьмі на руках...

Выступаў Бядуля на гэтым вечары без усялякіх тэзісаў. Добра ведаючы жыццё працоўнага чалавека, пісьменнік ведаў і сцяжынкі да яго душы.

Назаўтра мы агледзелі калгасную гаспадарку. Бядуля доўга гутарыў з калгаснікамі і ўсё нешта запісваў сабе ў блакнот. Я зусім не здзівіўся, калі праз некаторы час прачытаў у газеце «Літаратура і мастацтва» яго апавяданне пад назвай «Свінарка Фрэйда», напісанае ў выніку паездкі пісьменніка ў Калышкі.

...Неяк летам, гуляючы ў гарадскім садзе, я сустрэўся з Бядулем, і мы доўга хадзілі ўздоўж Свіслачы па цяністых алеях. Выходзячы на Шпітальную вуліцу, недалёка ад дома Якуба Коласа, мы спаткалі Уладзіславу Францаўну, Янку Купалу і Міхася Зарэцкага. Дайшоўшы да трамвайнага прыпынку, мы ўжо хацелі развітацца, але Уладзіслава Францаўна адразу запярэчыла:

— Не! Пойдзем да нас! Паглядзіце, як пышна цвіце наш садок, колькі я кветак насадзіла.

Бядуля рваўся дадому, нейкая тэрміновая праца не давала яму спакою. Але нялёгка было спрачацца з дзядзькам Янкам.

— Не, даражэнькія, не адмаўляйцеся. Яшчэ толькі пачаўся вечар. Па-другое, зусім не далікатна пакідаць сяброў, калі яны не вячэралі.

— Праца на стале,— даводзіў сваё Бядуля,— ды яшчэ і Марыю Ісакаўну не папярэдзіў. Будзе чакаць...

— Мы табе, юнаша, падшукаем іншую жонку,— жартаўліва заўважыў Янка Купала,— калі яна табе перашкаджае сустракацца з блізкімі сябрамі...

Жарцікамі, на якія Янка Купала быў вялікі майстар, Бядуля быў пераможаны, і мы накіраваліся да купалаўскага доміка, які стаяў якраз на тым месцы, дзе зараз збудаваны музей.

Садок сапраўды быў казачна прыгожы. Цвілі кусты язміну. На клумбах узнімалі пушыстае лісце вяргіні. Цёця Уладзя, пакінуўшы нас, збірала на стол, а мы любаваліся ціхім вечарам. Кожны адчуваў сябе, як у бацькавай хаце. Змітрок Бядуля ў той вечар расказаў аб сваёй працы ў юнацкія гады на руме. Тады яму пашанцавала сустрэцца з дзедам Міронам, які працаваў на сплотках. Раней дзед Мірон служыў у пана Мыслінскага леснікам, а потым за тое, што не пусціў сваю малодшую дачку Мальвіну ў прыслужніцы да пана, быў моцна біты на вазоўні. У Мірона быў прыгожы голас, ён іграў яшчэ і на дудцы, якую скручваў з маладой звонкай сасны. «Гукі яго дудкі,— расказваў Бядуля,— зачароўвалі ўсё наваколле. У гэтым зачараванні ўсё змаўкала, толькі гукі, як птушкі, пырхалі і шчабяталі ў сівым гушчары».

— Цяпер той Мірон стаў маім «Салаўём»,— прызнаваўся Бядуля.

...Даверлівы і прастадушны, як дзіця, Бядуля верыў кожнаму чужому слову, прымаючы яго за шчырасць. Калі Саюз пісьменнікаў даваў яму якое-небудзь грамадскае дaручэнне, Бядуля выконваў яго вельмі добрасумленна. Прыгадваюцца часы яго актыўнай і бездакорнай працы ў літаратурных гуртках на заводах «Бальшавік» і «Ударнік» у Мінску. Ён лічыў гэты абавязак сваёй працай і ніколі не прапускаў ніводных заняткаў, не рабіў ніводнага спазнення. У многіх рабочых ён пабываў на кватэрах — яго запрашалі як роднага брата, як лепшага друга. Даводзілася яму быць дарадчыкам і па асабістых пытаннях. І ў кожнай інтымнай гутарцы ўсе адчувалі яго добрае і шчырае сэрца, даваряліся яму ва ўсім.

# 40 год ЛКСМ Беларусі

## ГОД ЗА ГОДАМ

### БУДУЮЧЫ САЦЫЯЛІЗМ

**1939**

☆

Медалем «За працоўную доблесць» узнагароджана Елізавета Шостак — звеннявая камсамольска-маладзёжнага звяна па ільну, якая атрымала па 8,5 цэнтнера ільноваламна з гектара.

☆

90 камсамольцаў паслаў Багушэвіцкі райком ЛКСМБ для работы на Асінторфе.

☆

50 дзяўчат Васілевіцкага раёна вывучыла трактарную справу. Вучобай у лугавой гаспадарцы «Ведрыч» кіраваў член бюро РК ЛКСМБ былы трактарыст т. Шарай.

☆

ЦК ЛКСМБ правёў мабілізацыю камсамольцаў на торфараспрацоўкі, на адбудову сацыялістычнага Магілёва, на дарожнае будаўніцтва.

☆

У матальным цэху фабрыкі «КІМ» (Віцебск) на павялічаную зону абслугоўвання перайшлі 24 работніцы. Матальшчыца-камсамолка т. Сімакова замест 48 верацён абслугоўвае 72, выконваючы план на 215 працэнтаў.

☆

Паўтары тысячы дзяўчат Беларусі навучыліся вадзіць трактар.

☆

Камсамолка Ульяна Бабошка з калгаса «Першае мая» Касцюковіцкага раёна выгадавала па 25 парасят ад кожнай свінаматкі. Яна ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і Вялікім залатым медалем Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

☆

За 1939 год у калгасах Магілёўшчыны створана 251 новая камсамольская арганізацыя, прынята ў камсамол 4 768 маладых калгаснікаў.

**1940**

☆

1 200 камсамольцаў Беларусі ўдзельнічаюць у будаўніцтве Днепра-Бугскага канала.

☆

Больш 16 тысяч камсамольцаў рэспублікі прымаюць удзел у меліярацыйных работах. Толькі ў Васілевіцкім раёне на асушцы балот працуе больш тысячы юнакоў і дзяўчат.

☆

Камсамольцы вёскі па-баявому ўдзельнічаюць у ссяленні хутароў. Звыш 2 000 камсамольска-маладзёжных брыгад дапамагаюць калгаснікам адбудоўвацца на новым месцы.

## У НАС ДОБРЫ НАСТРОЙ

Наш калгас упэўнена ідзе па шляху заможнага і культурнага жыцця. Узяты першы рубеж — выкананы заданні 1959 года, першага года сямігодкі.

Сёлетні год прынясе нашым калгаснікам, як і ўсім савецкім людзям, новыя радасці, новыя поспехі. Усе ў нас, ад старога да малога, працавалі ў веснавыя дні напружана, на поўную сілу, не пакладаючы рук. Ва ўсіх адна думка — вырасціць яшчэ лепшы, чым летась, ураджай, атрымаць больш прыбытку ад жывёлы, развіваць усе галіны арцельнай гаспадаркі.

Як заўсёды, камсамольцы — маладая, ударная сіла — знаходзяцца ў першых радах дружнага калгаснага калектыву, бяруцца за тую справу, якая сёння асабліва важная, ідуць туды, дзе цяжэй. Усе яны заняты ў грамадскай гаспадарцы, працуюць у паляводстве, на жывёлагадоўчых фермах, на будоўлях.

Набліжаецца 40-годдзе камсамола Беларусі, наш слаўны камсамольскі юбілей. Напярэдадні свята хочацца азірнуцца на тое, што зроблена, падзяліцца сваімі думкамі. Не буду глыбока забірацца ў гісторыю, а раскажу пра нашы камсамольскія будні з таго часу, як мяне выбралі камсоргам.

... 6 красавіка 1959 года. У гэты дзень я вярнулася з Горак, з сельскагаспадарчай акадэміі, куды ездзіла здаваць іспыты за першы курс. У райкоме камсамола мне сказалі, што будуць мяне рэкамендаваць на сакратара нашай камсамольскай арганізацыі. Я ведала, што ў мяне не будзе вольнага часу, бо нялёгка спалучаць працу і вучобу завочна, але сказаць, што не згодна, не магла, бо лічыла, што гэта будзе няправільна.

Моладзь у нашым калгасе добрая, але камсамольскага запалу ў той час не адчувалася. Бывала, камсамольцы збяруцца на сход, пагавораць, паспрачаюцца і разыйдуцца, не дбаючы пра тое, аб чым гаварылі.

Перш за ўсё мы спланавалі работу камсамольскага камітэта, даручыўшы канкрэтныя заданні кожнаму члену. Праўда, першы план быў выкананы не поўнасцю, але адказнасць актывістаў за даручаны ўчастак работы адчулася. На наступным камсамольскім сходзе дамовіліся, каб заўсёды перад новым сходам сакратар або хто-небудзь з членаў камітэта расказваў аб тым, як выканана тое ці іншае наша рашэнне.

Даручэнні атрымалі не толькі члены камітэта, але і многія камсамольцы. Баявыя, энергічныя нашы таварышы Зіна Аўтух, Марыя Казачэнка, Уладзімір Закрэўскі, Анна Ярыга ўзначалілі пасты камсамольскага кантролю. У зімовы час яны часта наведваліся на фермы, цікавіліся, як даглядаецца жывёла, сачылі за выдаткаваннем кармоў, а цяпер кантралююць якасць палявых работ.

Як і ў мінулыя гады, моладзь па-баявому змагаецца за высокія ўраджаі кукурузы. Калгасныя абавязацельствы — вырасціць па 1 000 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі на ўсёй плошчы — сталі камсамольскімі абавязацельствамі. У кукурузаводчых звеннях прыклад стараннасці і працавітасці паказваюць камсамольцы Мікола Баранаў, Тамара Рыбачонак, Павел Казьянін, Цімох Шунто і іншыя. За поспехі, дасягнутыя ў вырошчванні гэтай каштоўнай кармавой культуры, камсамольская арганізацыя ўзнагароджана Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ і атрымала каштоўную прэмію.

Сярод паляводаў ёсць шмат моладзі. Камсамольцы Міхаіл Гайсёнак, Валянціна Знарко, Жана Філіпава і Змітрок Знарко ўзнагароджаны граматамі абкома і райкома камсамола, а трактарыст Уладзімір Закрэўскі занесены на калгасную Дошку гонару.

У нашым калгасе напрадвесні адкрылася школа перадавых метадаў вырошчвання кукурузы. Да нас прыязджалі калгаснікі-суседзі, раіліся разам з нашымі кукурузаводамі. Школа дала вялікую карысць усім: чаго не ведаў ці не ўмеў — тут можна было даведацца і навучыцца. Калі б такая школа была створана ў нас раней, то лічба 1 000 цэнтнераў, я ўпэўнена, была б ужо дасягнута.

Новы камітэт камсамола паклапаціўся, каб моладзь у вольны ад работы час займалася спортам, культурна і весела адпачывала. Сваімі сіламі хлопцы і дзяўчаты зрабілі валейбольную пляцоўку, праўленне памагло набыць спартыўны інвентар. Наша валейбольная каманда мінулым летам сустракалася з фізкультурнікамі калгаса імя Тэльмана. Праўда, тады мы прайгралі кубак суседзям, але сёлета першынства не ўступім. Нашы ва-

**18 ліпеня ў Брэст прыехаў пісьменнік А. С. Новікаў-Прыбой. Ён выступіў перад пачынаючымі чырвонаармейцамі-пісьменнікамі, сустрэўся з настаўнікамі.**

☆

**Камсамольцы Аршаншчыны будуюць 56 сажалак, 165 новых калодзежаў, узяліся прывесці ў парадак 6 вадаёмаў, пабудаваць 7 млыноў, 2 ветрарухавікі.**

## ЮНАЦТВА Ў АГНІ

### 1941

☆

**Пінскі партызанскі атрад пад камандаваннем Васіля Захаравіча Каржа 28 чэрвеня прыняў першы бой з фашысцкімі захопнікамі на тракце Пінск — Лагішын. Партызан Салохін, былы інструктар гаркома партыі, звязкай гранат падбіў варожы танк. Дзесяцікласнік-камсамолец Іван Чуклай узварваўся ў падбіты танк, застрэліў вадзіцеля, захапіў кулямёт, радыёапарат і дакументы.**

☆

**6 жніўня. Першы Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні беларускіх партызан. Ціхону Бумажкову і Фёдару Паўлоўскаму прысвоена званне Герояў Савецкага Саюза. Усяго ўзнагароджана 45 чалавек. Сярод узнагароджаных — камсамольцы: Ганна Шубёнак, Уладзімір Кіркавец, вучні пінскай школы Яўген Зялінскі і Павел Страпко.**

☆

**У горадзе Брэсце створана першая падпольная камсамольская арганізацыя з 18 чалавек, якая праіснавала да кастрычніка 1941 года. Гітлераўцы арыштавалі камсамольцаў у часе сходу ў доме № 2 па вуліцы Дзяржынскага і ўсіх расстралялі. Арганізацыя была створана па ініцыятыве саміх камсамольцаў, якія засталіся ў акупіраваным Брэсце. Вядомы толькі імёны некаторых з маладых падпольшчыкаў: Сярожа (кіраўнік), Люба, Віктар, Наташа. Усе камсамольцы мужна трымалі сябе на допытах і загінулі, як героі.**

☆

**Уноч на 7 лістапада 1941 года партызаны Любаншчыны, сярод якіх было многа камсамольцаў, зрабілі нечаканы налёт на паліцэйскі гарнізон у райцэнтры Любань. Разграмілі гарнізон і без страт вярнуліся на сваю базу. Гэта была адна з першых баявых аперацый партызан Мінскай вобласці. Камандавалі аперацыяй т. т. Розаў і Далідовіч.**

### 1942

☆

**У пасёлку Рудабелка Акцябрскага раёна з былых падпольшчыкаў Бабруйска, сярод якіх было многа камсамольцаў, створаны партызанскі атрад пад камандаваннем Віктара Ліпенцава. Пазней на базе гэтага атрада арганізавалася 1-я Бабруйская партызанская брыгада, у радах якой змагалася звыш 1 000 партызан.**

☆

**У Гродна створана падпольная камсамольская арганізацыя, якую ўзначаліла член Гродзенскага гаркома ЛКСМБ Елізавета Чапнік — выпускніца Гродзенскай сярэдняй школы (клічка — Марыя Маразоўская). Патрыёты трымалі сувязь з падпольным Беластоцкім абкомам камсамола і партызанскай брыгадай імя Кастуся Каліноўскага. Яны рабілі буйныя дыверсіі, праводзілі агітацыю, стварылі антыфашысцкі камітэт, перадалі партызанам шмат зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў.**

☆

**У Оршы па вуліцы Якуба Коласа ў доме № 21, на кватэры**

лейбалісты на чале з Уладзімірам Курганавым сур'ёзна трэніруюцца і падрыхтаваліся да сустрэч з усімі, хто з намі пажадае падужацца.

Варта адзначыць і яшчэ адзін важны сродак, які садзейнічаў развіццю камсамольскай ініцыятывы і пашырэнню ўплыву камсамола на ўсю несаюзную моладзь, — гэта камсамольская раённая эстафета «Першы год сямігодкі». Яна праводзілася ўлетку. Будзе яна і сёлета. Гэта вельмі цікавая і карысная рэч. Нам летась трэба было везці эстафету ў вёску Камень, да моладзі арцелі «Калгасная праўда». Усе загарэліся, каб з найлепшага боку паказаць сябе перад суседзямі. Разгарнулася гарачае, баявое спаборніцтва паміж паляводамі, жывёлаводамі, механізатарамі. Кожны імкнуўся, каб яго прозвішча было занесена ў кнігу эстафеты. А вядома, што ў гэтую кнігу заносяцца лепшыя. Мы падрыхтавалі добры канцэрт і з поспехам выступілі на сцэне ў суседзяў. Асабліва спадабаліся ім песні-частушкі, якія выконвалі сёстры-камсамолкі Аня і Марыя Бондал.

Ужо некалькі год, як у нас ёсць свой клуб. Наш клуб стаіць у цэнтры калгаса, на прыгожай палянцы, сярод кучаравых сасёнак. Збоч — возера, на ўзбярэжжы якога рассыпаліся вясковыя хаты...

У клубе добрая, прасторная зала, дзе можна ў ахвоту пагуляць; з клубнай сцэны часта выступаюць нашы калгасныя артысты. Іх у нас многа. Канешне, тут трэба назваць у першую чаргу, апроч сясцёр Бондал, Марыю Казачэнка, Зою Стрэльчанка, Аню Ярыга, Зіну Дзямешка, Валю Галавач, якія актыўна ўдзельнічаюць у пастаноўках, спяваюць у хоры.

У самадзейнасці ўдзельнічаюць і людзі пажылога ўзросту. Часта можна бачыць на сцэне пастуха Паўла Якаўлевіча Аўтуха, які добра іграе на скрыпцы, шафёра Леаніда Дальчонка — аматара-апавядальніка і многіх іншых.

Усё, што робіцца на калгаснай сцэне, — гэта справа камсамольскай арганізацыі. Ні адзін вечар, ні адна лекцыя не праходзяць без удзелу камсамольцаў. Загадчык клуба Марыя Казачэнка — член камсамольскага камітэта, і мы заўсёды раімся, як і што зрабіць, каб моладзі было весела.

Хтосьці з членаў камітэта прапанаваў аднойчы правесці вечар пытанняў і адказаў. Напісалі аб'яву, павесілі скрынку, і пасыпаліся пытанні, самыя нечаканыя і разнастайныя. «Што такое амулет і талісман?», «Ці можна кахаць некалькі разоў?», «Ці існуе лёс?», «З чаго трэба пачынаць будаўніцтва дома?» — на такія пытанні нам адказаць было нялёгка, і таму мы звярнуліся за дапамогай да настаўнікаў каменскай сярэдняй школы. І вечар прайшоў цікава і актыўна. Пра яго доўга потым успаміналі.

Звычайна, маладзёжныя вечары не бываюць без танцаў. Мы лічым, што і танцы з'яўляюцца добрым выхаваўчым «мерапрыемствам». Камсамольскім актывістам давялося не мала папрацаваць, каб дамагчыся парадку і культуры на танцах. Не абышлося, канешне, і без дапамогі нашых дружыннікаў. Але асноўную ролю ў гэтай справе адыграла камсамольская сатырычная газета «Джала», на востры ўкол якога траплялі ўсе, хто не ўмеў сябе трымаць у клубе, на людзях. Цяпер амаль не бывае такога, каб хлопцы ішлі ў танцы не распрануўшыся, у шапцы ці з цыгаркай у зубах.

На камсамольскіх сходах мы часта гаворым не толькі пра тое, як лепш працаваць, але абмяркоўваем пытанні вучобы, духоўнага росту, паводзін моладзі. Інакш кажучы, мы дбаем пра тое, каб нашы маладыя людзі сталі паўнацэннымі, актыўнымі змагарамі за светлую камуністычную будучыню. Мы ідзём у камунізм, і мы хочам быць вартымі таго, каб пра нас сказалі: «Калі ласка, вам дарога шырока адкрыта!».

Вось чаму у парадак дня камсамольскіх сходаў ставяцца такія пытанні, як: «Прастата і сціпласць — адна з рысаў характару маладога чалавека», «Што ты зрабіў для набліжэння камуністычнай будучыні» і іншыя, у плане работы калгаснага бібліятэкара з'явілася тэма чытацкай канферэнцыі: «Прыгажосць і веліч савецкага чалавека».

Мы ведаем, што зрабілі ў гэтым напрамку вельмі мала. Камітэт недастаткова працаваў з некаторымі членамі ВЛКСМ, з несаюзнай моладдзю. Асабліва мы забываем пра тых камсамольцаў, якія пажаніліся. Так ужо павялося ў нас: ажаніўся хлопец ці выйшла замуж дзяўчына — і паступова адыходзяць ад грамадскай работы, замыкаюцца ў сваім сямейным кругу. Можа з год усяго, як ажаніўся Сяргей Шатырка з Вікцяй Зелянеўскай. Зусім нядаўна яны абодва былі актыўнымі камсамольцамі, а цяпер іх як бы падмянілі. На сходы перасталі хадзіць, голасу Вікці не чуваць на канцэртах. Маладажоны забылі нават, што трэба плаціць членскія ўзносы. Вось з такімі людзьмі трэба больш працаваць, знаходзіць сродкі для таго, каб яны не адрываліся ад калектыву, не старэлі дачасна.

У нашым калгасе з кожным днём жыццё становіцца цікавейшым. І моладзі — неабсяжны прастор для розуму і рук. Колькі спраў баявых і захапляючых сёння ў нас, у Бабчы, толькі паспявай, рабі, і твая праца, тваё стаpaнне будзе заўважана і ацэнена як належыць!

У адказ на рашэнні снежаньскага Пленума

актыўнага ўдзельніка камуністычнага падполля Віктара Барысавіча Тамашэвіча ў студзені праведзены першы падпольны камсамольскі сход. Сход праводзіў кіраўнік падпольнай арганізацыіі Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў.

☆

27 сакавіка. У баі ля вёскі Курына Суражскага раёна загінуў партызан-камсамолец Міхаіл Сільніцкі, які прыкрыў адыход атрада. Падпусціўшы немцаў на 25—30 метраў і страляючы ва ўпор, ён забіў 50 фашыстаў. Калі ўсе патроны скончыліся, Сільніцкі біўся нажом, забіў яшчэ аднаго і параніў двух гітлераўцаў.

Міхаілу Сільніцкаму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

☆

9 мая дыверсійная група пад кіраўніцтвам камсамольца Паўла Кажушкі разабрала чыгунку на ўчастку Ясень — Бабруйск. У выніку гэтай смелай дыверсіі былі разбіты два сустрэчныя варожыя эшалоны.

ЦК КПСС камсамольцы актыўна ўзяліся за ўздым грамадскай жывёлагадоўлі. На працу ў жывёлагадоўлю згадзілася пайсці лепшая моладзь. Нядаўняя дзесяцікласніца камсамолка Аня Ярыга стала загадчыцай інкубатара. Ёй у дапамогу пайшлі Зіна Аўтух і Марыя Бондал. Я сваё звяно перадала Соні Казачэнка, а сама таксама пайшла на птушкаферму, бо гэтая справа цяпер у нас новая і больш цяжкая. Моладзь рашыла на справе дапамагчы калгасу выканаць высокія абавязацельствы — ужо ў гэтым годзе вырасціць 10 000 галоў птушкі. Птушніцы цяпер на вахце круглыя суткі. Але мы не лічымся з цяжкасцямі, толькі б стрымаць сваё слова, зрабіць справу, якая пойдзе на карысць роднаму калгасу.

На нашым шляху, вядома, будуць цяжкасці і перашкоды, але ўсе яны па сіле камсамольцам. Нас ва ўсіх карысных пачынаннях падтрымлівае калгасная партыйная арганізацыя. Да камсамольцаў уважліва ставяцца праўленне калгаса і наш старшыня Уладзімір Архіпавіч Галай, і таму лёгка працаваць, не страшныя цяжкасці.

У нас добры, бадзёры настрой. Мы здзейснім усё, што загадае нам родная камуністычная партыя, адолеем рубяжы, вызначаныя вялікаснай сямігодкай.

**Анна РЫБАЧОНАК,**
**сакратар камітэта ЛКСМБ калгаса «Палітаддзелец» Лепельскага раёна.**



Яшчэ нядаўна Валя Сазон была вось такой жа нясмелай экскурсанткай, як і гэтыя дзяўчаты. Цяпер яна сама расказвае вучням сваёй 29-й школы аб рабоце прадзільных машын.

Фота В. Бараноўскага.

**Дзмітры УКСУСАЎ**

# ТРОЕ З АДНАГО КЛАСА

**Нарыс**

Напярэдадні экзаменаў вучні 10 «Б» класа 29-й мінскай сярэдняй школы дамовіліся, што пасля вучобы пойдуць працаваць на камвольны камбінат. Яны так і зрабілі.

З таго часу прайшло два гады. Мяне вельмі зацікавілі гэтыя юнакі і дзяўчаты. Як склалася іх жыццё?

Федзя Лукерчык з маленства палюбіў механізмы. У школе гэтая схільнасць умацавалася, ён навучыўся вадзіць аўтамашыну, сам рамантаваў швейныя машыны...

— Свой майстар будзе, — ласкава ўсміхалася маці.

Калі гутарка зайшла аб тым, што рабіць пасля школы — вучыцца далей ці працаваць, Федзя рашуча заявіў:

— Пайду на камвольны, у ткацкі цэх, памочнікам да майстра.

І вось Федзя на камбінаце, у начальніка ткацкага цэха Кацярыны Ільінічны. Яна ўважліва

выслухала юнака, потым сказала:

— Добра. Пойдзем да Івана Фадзеевіча Ліпшына... Яго брыгада лепшая ў цэху.

Кацярына Ільінічна адчыніла дзверы, і Федзя пачуў, як яна папрасіла, каб паклікалі Ліпшына.

Увайшоў чалавек сярэдняга росту, плячысты. «Прыдзіра... ці добры?» — міжволі пранеслася думка. Успомніў, што такім жа пытаннем вучні сустракалі ў школе кожнага новага настаўніка...

Ліпшын выслухаў Кацярыну Ільінічну і звярнуўся да Федзі:

— Калі пачнём?

— Можна... — Федзя крыху разгубіўся і раптам дадаў: — і цяпер.

Ліпшын усміхнуўся:

— Прыходзь заўтра на змену, разам з усімі.

«Разам з усімі...» — гэтыя словы гучалі ў вушах, калі Федзя вяртаўся дадому. Нарэшце!

Уранні Федзя быў каля прахадной. Увесь час касавурыўся на хлопцаў і дзяўчат, што крочылі побач: баяўся, каб не палічылі за школьніка. Яму вельмі хацелася быць такім, як яны.

Ліпшын сустрэў Федзю як добрага знаёмага. Прывітаўшыся, сказаў:

— На тыдзень-другі я аддаю цябе вунь да той дзяўчыны. Да Ліды Ванчук. Яна — спрактыкаваная ткачыха!..

— Чаму? — збянтэжыўся Федзя. — Я ж...

— Ведаю, ведаю... — Ліпшын усміхнуўся ласкава, шчыра. — Ты ўважліва прыглядзься, што і як яна робіць... — ён памаўчаў, потым неяк хітравата зірнуў у Федзеў твар: — Ты ж хочаш стаць добрым памочнікам майстра, ці не так?

— Так... — шэптам прагаварыў Федзя і падумаў: «Прыдзіра».

— Дык вось... Дрэнны той памочнік майстра, які не ведае прыёмаў работы ткачыхі... Зразумеў?

«Станкі-аўтаматы... Яны самі ўсё робяць, — ідучы да ткачыхі, разважаў Федзя. — Што там яшчэ прыглядацца...»

Два тыдні прастаяў хлопец за плячыма Ліды Ванчук, назіраючы за кожным яе рухам. Часам спрабаваў дапамагчы. І тут нечакана выявілася, што нялёгкая гэта справа — пусціць альбо спыніць станок...

Увесь час Ліпшын знаходзіўся дзе-небудзь паблізу, перакідваўся словамі з ткачыхамі, корпаўся ў тым ці іншым станку. Федзю быццам не заўважаў, але той заўсёды адчуваў яго дапытлівыя позіркі.

Аднойчы Ліпшын прынёс у цэх кніжку:

— Вось, Федзя, пачытай... Пра канструкцыю і наладку аўтаматычных ткацкіх станкоў, такіх, як нашы.. Толькі не зубры... Прачытай некалькі старонак, а потым правер на станку, зноў пачытай — зноў правер... Пытай, калі што якое... Потым не забудзь, што трэба запісацца на курсы!..

І пацягнуліся доўгія дні працы і вучобы. Федзя дапамагаў Ліпшыну рамантаваць і наладжваць станкі. Усё здавалася зразумела, ясна. Можа таму, што Федзя добра прыналёг на тую кніжку, уважліва слухаў майстроў-выкладчыкаў. Адказваў, як і ў школе, на пяцёркі.

— Разумееш, дружа... — неяк звярнуўся да яго Ліпшын. — Мяне выклікаюць у партком на нараду. Дык ты глядзі тут...

Ткацкі камплект — гэта васемнаццаць станкоў, на кожныя тры станкі — ткачыха. Над усім гэтым гаспадар — памочнік майстра.

Федзя прайшоўся туды-сюды, прыслухаўся да раўнамернага гулу. Ля станкоў рупліва ўвіхаліся дзяўчаты-ткачыхі. Здаецца, усё у парадку...

У канцы цэха паказаліся былыя аднакласніцы Жана Сарока і Валя Сазон. Яны падышлі да Федзі:

— Як працуецца?

— Прывык?..

Сяброўкі, перабіваючы адна другую і смеючыся, расказвалі навіны. Вучнёўскі тэрмін — адзін месяц — у Жаны ўжо скончыўся, і яна пачала працаваць самастойна на двух станках. Ткачыха!

Валя засталася ў прадзільным, і яе таксама хутка перавядуць на абслугоўванне двухсот верацён.

— А як астатнія нашы? — запытаўся Федзя. Ен рэдка сустракаўся з былымі сябрамі па класу, — яны працавалі ў розных зменах і цэхах.

У прадзільным асталяваліся многія дзяўчаты з 10-га «Б»: Тася Цецерукова, Мая Бурая, Ядзя Доўнар, Галя Сазон, Тамара Сінякова, Валя Салавей... Усе вучацца, працуюць. Праўда, не ўсё ў іх яшчэ гладка... Але дзяўчаты не падаюць духам.

Валя, гарэзліва смеючыся, пачала расказваць, як яна доўга не магла навучыцца прысучваць нітку, але Жана перапыніла: «Хопіць, Валя, пра свой прадзільны!» і паведаміла, што ў ткацкім таксама ёсць іх аднакласнікі. Адным словам, 10 «Б» — у страі!

Дзяўчаты пайшлі, і Федзя задумаўся. Вось жа яны ўжо працуюць самастойна. Чаму б і яму не паспрабаваць?

Федзю захацелася, каб зараз, калі няма Ліпшына, здарылася што-небудзь такое, дзе спатрэбілася б яго, Федзева дапамога. Ну, напрыклад, каб спыніўся які-небудзь станок... Тады б Федзя адрамантаваў, наладзіў станок сваімі рукамі, без Ліпшына, а калі б той вярнуўся, то Федзя расказаў бы яму аб усім проста і спакойна, быццам нічога асаблівага і не здарылася...

Падбегла маладзенькая ткачыха, хутка спытала:

— Дзе Ліпшын?

— Я за яго! — весела ўсклікнуў Федзя.

— Я — сур'ёзна...

— І я...

— Станок спыніўся... — неяк неахвотна сказала ткачыха, недаверліва пазіраючы на Федзю.

— Паглядзім... — мнагазначна кіўнуў ён і пакрочыў да станка.

Федзя адразу выявіў прычыну: сапсавалася невялічкая, але важная дэталь — шпонка. Трэба было паставіць новую. Аварыя. Нязначная, але аварыя.

— Зараз... — супакоіў ён ткачыху. — Адну хвіліначку.

Ён пачаў завіхацца ля станка. Рабіў не спяшаючыся, з цікавасцю, нават — з задавальненнем.

Вярнуўся Ліпшын, а Федзя ўсё корпаўся ў станку. Ля ног, на падлозе, валяліся пазніманыя дэталі.

— Што здарылася? — заклапочана спытаў Ліпшын.

— Ды вось... — буркнуў Федзя, трымаючы ў руках зламаную шпонку. Федзевы рукі перапэцканы змазкай, твар — спацелы...

— І даўно?

— Гадзіны з паўтары...

— А чаму станок разбіраў?

— Я ж сказаў — шпонка!

— Давай, браце, — спыніў яго Ліпшын, усміхаючыся, — усе часткі — на свае месцы... Хутка!

— Не разумею...

— Зараз зразумееш... — Ліпшын дакорліва паківаў галавой. — Паўтары гадзіны!..

Высветлілася, што зламаную шпонку можна было замяніць значна хутчэй — не разбіраючы станка...

Ходзячы вучнем, Федзя ўсё большай павагай пранікаўся да Ліпшына — чалавека простага, але скупога на пахвалу...

І вось аднойчы Ліпшын сказаў:

— Скончыўся твой вучнёўскі тэрмін, Федзя... Восем месяцаў...

Федзя разумеў, трэба было сказаць: «Дзякуй вам, Іван Фадзеевіч, за навуку». Ён і сапраўды быў вельмі ўдзячны Ліпшыну, але насупіўся і ціха прагаварыў:

— Калі так, то добра...



**Федзя Лукерчык уважліва слухае свайго настаўніка Івана Фадзеевіча Ліпшына.**

Не ведаў хлопец, што перад гэтым Ліпшына выклікаў майстар.

— Як твой Лукерчык? — спытаў ён. — Будзе што з яго?

— Ужо ёсць! Галавасты хлопец!

— Значыць, з твайго благаславення, пераводзім?

— Так... Толькі няхай працуе на маім камплекце, зменшчыкам.

— Ого! — майстар засмяяўся. — Цяпер ясна!

Федзя з Ліпшыным сустракаўся на стыку змен, калі адзін здаваў, а другі прыймаў камплект. Ліпшын цікавіўся ўсім: як працавалі станкі, як змена выканала заданне. Слухаў уважліва, моўчкі ў знак згоды ківаў галавою альбо раптам пачынаў сёе-тое тлумачыць... Федзя зразумеў, што і цяпер Ліпшын сочыць за яго працай, імкнецца памагчы...

Пасля года працы настаў першы адпачынак. Некалькі дзён запар Федзя праседзеў дома, чытаў кнігі, ездзіў за горад.

Пасля адпачынку Федзя нейкі час знаходзіўся ў рэзерве: замяшчаў памочнікаў майстроў, якія знаходзіліся ў чарговым адпачынку.

У той час па ўсёй нашай краіне пачаўся рух паслядоўнікаў вышневалоцкай прадзільшчыцы Валянціны Гаганавай, якая перайшла працаваць на адсталы ўчастак. Яе пачын знайшоў гарачы водгук і на Мінскім камвольным камбінаце.

... Ткачыха пусціла толькі што наладжаны станок. Федзя, выціраючы з ілба пот, стаяў і ўслухоўваўся, як ён працуе. Хтосьці дакрануўся да пляча. Ён павярнуў галаву і ўбачыў памочніка майстра Маслоўскага, які першы адгукнуўся на новы пачын.

— Рэзервіст? — спытаўся Маслоўскі.

— Так, — неахвотна адказаў Федзя, прыглядаючыся да Маслоўскага і спрабуючы здагадацца, куды той хіліць.

— А я вось перайшоў на новы камплект...

— Чуў...

— Узяўся за трыццаты...

— Трыццаты? — ледзь не ўскрыкнуў Федзя.

Хто не ведаў у ткацкім цэху гэтага камплекту! Калі якая-небудзь ткачыха працавала дрэнна, дапускала брак, то ёй казалі што яе месца «на трыццатым», калі памочнік майстра занадта доўга корпаўся ля станка, з яго кпілі: «Ты, выпадкам, не з трыццатага?». Каго часцей за ўсіх крытыкавалі на партыйных і камсамольскіх сходах? Трыццаты! На якім камплекце самая нізкая прадукцыйнасць працы і самая нізкая зарплата? На трыццатым!

Федзя глядзеў на Маслоўскага так, нібы сустрэўся з ім упершыню.

— Папрацаваў і ўбачыў, — працягваў Маслоўскі, — што там патрэбен зменшчык, які добра ведае справу...

Федзя быў згодны з Маслоўскім. Справа ў тым, што тэхналагічны працэс ткацкай вытворчасці патрабуе, каб дагляд станкоў вёўся кваліфікавана ва ўсіх трох зменах, у крайнім выпадку — у двух. Інакш нічога не выйдзе.

— Давай на трыццаты. Разам! — нечакана прапанаваў Маслоўскі.

Федзя разгубіўся. З аднаго боку, нядрэнна б паспрабаваць свае сілы, але... ці хопіць ведаў, вопыту? Тут трэба будзе не проста працаваць, а выцягваць яго з хранічнага, шматгадовага адставання. Вось бы параіцца з Ліпшыным!

— Чаго маўчыш? — зноў загаварыў Маслоўскі. — Спужаўся? А Ліпшын хваліў...

«Ліпшын?.. Значыць, ён пра ўсё ўжо ведае...»

— Добра. Я згодзен.

Атрымлівалася так, што і ён, учарашні вучань, таксама гаганавец. Добра! І ў той жа час з глыбіні сэрца нечы старонні голас ахаладжваў: «Паглядзім яшчэ... Паглядзім, які ты герой!..»

Абслугоўванне трыццатага камплекту было справай вельмі нялёгкай. Федзя працаваў, не разгінаючы спіны. Раней ніколі так не нылі плечы, локці, не балела так паясніца. Але з усім гэтым можна было звыкнуцца. Не давала спакою іншае — на станках, як і раней, ішло шмат бракаванай тканіны.



А дзяўчаты-ткачыхі весела жартавалі:

— Штосьці наш паммайстра пануры!

— Бач, работка не па сэрцу!

— Зялёненькі...

— Таму і брак!

Федзя слухаў і ў душы зграджаўся з дзяўчатамі. Сціскаючы зубы, думаў: «Уліп... без Ліпшына. Вось табе і гаганавец!..»

Федзя стрэўся з Маслоўскім, шчыра расказаў пра свае турботы. Той, уважліва выслухаўшы, параіў:

— А ты прыглядзься да дзяўчат, як працуюць...

«І Ліпшын калісьці пра гэта таксама казаў... Цікава...» — міжволі падумаў Федзя.

У наступную змену Федзя больш пільна, чым заўсёды, сачыў за ткачыхамі, за тым, як яны мітусіліся ля станкоў, як спрытна знаходзілі абрывы нітак. Федзеву ўвагу прыцягнула маладая ткачыха Валянціна Пятрэнка: у яе рухах было шмат лішняй мітусні.

— Як працуеце? — спытаў ён проста, быццам нічога не здарылася.

— Як заўсёды... — ціха адказала Валянціна.

— Зноў другі гатунак?

— Вядома.

— Чаму?

— Сам ведаеш... Станкі, каб на іх ліха!

Але гэта Федзя ўжо чуў і раней... Між тым, ён з Маслоўскім ужо сёе-тое зрабілі, каб станкі працавалі лепш! Заставалася паглядзець, як абыходзіліся са станкамі дзяўчаты.

Здаўшы змену, Федзя зайшоў у канторку да майстра — трэба было зверыць нарады. Прыблізна праз гадзіну ён вярнуўся да станкоў. На месцы Валянціны Пятрэнка працавала цяпер новая дзяўчына. Убачыўшы Федзю, яна ветліва ўсміхнулася. Ён схіліўся і прыкрычаў, стараючыся перамагчы грукат:

— Чаму гэта так адразу павесялела?

— Адплакалася! — крыху памаўчаўшы і па-ранейшаму ўсміхаючыся, яна дадала: — Дзякуй за наладку... Бачыш? — яна позіркам паказала на цёмна-сінюю тканіну, якая прыгожай хваляй вілася на станку. — Першы гатунак! Разумееш? Першы! Ніколі не было!



І ў час працы Жана Сарока развесяліць жартам сваю сяброўку Вольгу Паўловіч. Але тэмпы ад гэтага не змяншаюцца.

Загледзеўшыся на прыгожую тканіну, ён нават забыўся пра Валянціну Пятрэнка і яе скаргі... Потым удзячліва глянуў на дзяўчыну:

— Чаму ж тады...

— А вось зменшчыца, як і раней, гоніць другі гатунак... — працягвала ткачыха, не слухаючы Федзю.

— Яна ж на станкі наракае!

— Гультайка!

— Хто?

— Ды хто ж... Валька!

Федзя задумаўся. Выходзіць, праўда, памочнік майстра — не толькі наладчык станкоў, але і кіраўнік змены, арганізатар, адміністратар. «Валянціна Пятрэнка... Гультайка... Магчыма...»

Прыгадаўся Ліпшын, яго даверлівы голас, яго дужыя працавітыя рукі. Вядома, ён, Федзя, не заўсё-

ды рабіў так, як патрабавалася ад вучня, але Ліпшын ніколі не называў яго такім крыўдным словам: «Гультай!». Можа таму, што Ліпшын не толькі памочнік майстра, але і сакратар партыйнага бюро цэха. Можа і так. Ён, Федзя, яшчэ не дарос да гэтага, але ён хацеў быць падобным да Івана Фадзеевіча Ліпшына.

«Гультайка!..» Мажліва. А можа Валянціна чаго-небудзь не разумее і ёй трэба паказаць, растлумачыць...

Неўзабаве адбылася новая гутарка з Валянцінай.

— Бачыў я, як працуе твая зменшчыца ў брыгадзе Маслоўскага... — пачаў Федзя, пазіраючы проста ў твар ткачыхі, — бастон ішоў першым гатункам!

— Мала што... — няпэўна адказала Валянціна.

— Дык яна ж працуе на тваіх станках!

— Напэўна, Маслоўскі наладжвае лепш...

— Можа быць... — кіўнуў Федзя крыху разгублена. — Але ўчора Маслоўскі не пераналаджваў станкі. Гэта я ведаю добра.

— Што ж, па-твойму, я працаваць не ўмею ці не хачу? — з крыўдай у голасе спытала Валя, нахмурыўшыся.

— Можа табе цяжка ўгледзець за ўсімі станкамі? Тады паспрабуй на двух... Пакуль прывыкнеш... Га?

Федзя гаварыў спакойна, нават спачувальна, разумеючы, што перайсці на абслугоўванне двух станкоў для ткачыхі будзе нявыгадна, хоць заработак залежаў не толькі ад колькасці выпушчанай тканіны, але і ад якасці яе...

— А потым на адзін станок пераведзеш, як вучаніцу? — Валянціна пакасавурылася на Федзю.

— Ну... навошта ж... — крыху збянтэжыўшыся, заспакойваў ён яе. — Я і зараз цябе не пераводжу, а толькі раю...

Некалькі дзён Федзя назіраў за Валянцінай Пятрэнка і, на ўздзіў, бачыў на яе станках тканіну толькі другога гатунку.

— Што ж гэта робіцца? — нарэшце спытаў Федзя. — Зноў брак?

— Як умею — так і раблю!

— А каму патрэбна такая работа — ты аб гэтым падумала?

— І чаго ты прычапіўся? — нечакана закрычала Валянціна. — Настаўнік знайшоўся мне!..

— Будзеш працаваць як след?

— Што, можа зволіш?

— Так, — Федзя бачыў, што размаўляць з гэтай дзяўчынай далей зусім бескарысна. — Заўтра не прыходзь! — і накіраваўся да майстра, каб паведаміць сваё рашэнне.

Майстар уважліва выслухаў Федзю і згадзіўся з прынятым рашэннем, каб ткачыха Пятрэнка на трыццатым камплекце больш не працавала.

Размова з майстрам, аднак, не вярнула добрага настрою. Да канца змены і нават дома Федзю не давала спакою думка: чаму Валянціна, маладая ткачыха, выпускала брак і чаму яна такая абыякавая? Дзе прычына яе гэткай пасіўнасці? «Ніхто ж табе не перашкаджае працаваць на поўную сілу. Больш таго — табе заўсёды ў гэтым дапамогуць!» — разважаў Федзя.

Ціхі зімовы вечар. Цярушыць мяккі сняжок.

Федзя Лукерчык прайшоў камбінатаўскі двор, выйшаў за вароты. Куды пайсці? Можа ў кіно?

Федзя затрымаўся каля тралейбуснага прыпынку, усё разважаючы, куды пайсці: дамоў ці ў кіно.

Падыходзілі дзве дзяўчыны.



**Цяпер Валя Сазон працуе на двух прадзільных станках і выпускае сотні метраў самага высокагатунковага трыко «Ударнік».**



Федзя пазнаў іх адразу. То былі аднакласніцы: невысокая, чарнабровая Жана Сарока і бялявая Валя Сазон.

— Глядзі, — весела крыкнула Жана, — наш знаёмы!

«Усё такая ж, шчабятуха!» — падумаў Федзя, шчыра радуючыся гэтай выпадковай сустрэчы. Хоць і працавалі яны на адным камбінаце, але сустракаліся даволі рэдка. У адным ткацкім цэху пад тысячу чалавек і знаёмага сустрэць не так проста!

— Дыхаем свежым паветрам? — спытала Валя і, чамусьці саромячыся, дадала: — Ці на спатканне?

— Цікава! — Жана штурхнула ў бок сяброўку. — Да нас?

— З рэпетыцыі...

— Мала табе паммайстра, дык пайшоў яшчэ і ў артысты? — гарэзлівыя вочкі Жаны смяшліва паблісквалі.

— У музыканты... — усміхнуўся Федзя, — іграю ў духавым аркестры.

— Па нотах? — пажартавала Жана.

— Так. А цяпер надумаў пайсці ў кіно.

— Мы толькі што былі, нічога не выйшла, — махнула рукой Жана. — Білетаў няма.

— І на лыжы позна... — пашкадавала Валя.

— Лыжніца? — здзівіўся Федзя?

— Яна нават у лыжную секцыю запісалася! — сур'ёзна пацвердзіла Жана.

— А ты?

— Няма ў мяне ніякіх талентаў: ні лыжных, ні нотных... Ткачыха — і ўсё тут!

Разгаварыліся. Валя, між іншым, спытала, як справы на трыццатым камплекце.

— Добра, — каротка адказаў Федзя і растлумачыў: — План перавыконваем, брак амаль ліквідавалі...

— Малайцы! — падхапіла Жана. — Я ўжо чула. Але ты, Федзя, — працягвала яна, смеючыся, — не задавайся, не думай, што вы там на сваім трыццатым зоркі з неба хапаеце!..

— Ну і язычок! Пазнаю Жану Сароку, — Федзя ўсміхнуўся. — Лепш раскажы, як справы ткацкія...

— Нічога асаблівага, — крыху памаўчаўшы, кінула Жана.

— А ўсё ж?

Утраіх паволі пайшлі па вуліцы. Жана расказвала. Голас яе то звінеў радасна, то раптам рабіўся сцішаны, задумлівы.

Федзя ведаў, што Жана працавала ўжо на чатырох станках. Такіх ткачых у цэху было не многа. І тканіну выпускала добрую... «Вось табе і Жанка! Жартаўніца і рагатушка, якая вельмі ж ужо любіла перадаваць з'едлівыя запісачкі!..»

Вучаніцамі ўзялі нашых чатырох дзяўчат. Зіну Крайко, Нілу Ганкевіч, Лору Куцанаву і мяне, — гаварыла далей Жана Сарока. — Быў з намі і Саша Шкрэд, але ён вучыўся на памочніка майстра. Працавалі па шэсць гадзін, як падлеткі. Разумееш, сабраліся ўсе свае, з 10 «Б»... Дурэлі, займаліся ўсялякім глупствам, штучкі розныя выкідвалі!.. Але не думай, што толькі дурэлі. Прыглядаліся, вядома, і да ткачых, дапамагалі ім. Мяне навучала Валя Мазурына. Я зараджала ёй барабаны, звязвала ніткі і наогул памагала...

На хвіліну Жана змоўкла, нібы збіралася з думкамі, потым працягвала:

— Яшчэ ў школе я даведалася, што ткачыхай можна стаць за тры-чатыры месяцы. У нашым доме жыве Ася Каржова. Дык вось... Аднойчы разгаварылася з ёю, сказала, што пасля школы пайду ў ткацкі. Яна рукамі замахала... Навошта, кажа, табе гэта? Ідзі яшчэ куды-небудзь. Я, кажа, вось ужо дзевяць месяцаў вучаніцай...

Я і задумалася тады. Але дзяўчаты ўгаварылі і я пайшла...

І вось, уяві сабе, адпрацавала тры месяцы, выклікае мяне майстар. Ну, думаю, даведаўся ён пра мае выбрыкі, дасць мне наганяй... Прыйшла. І здалося мне, што майстар сярдзіты-сярдзіты...

— Як настрой? — пытае.
— Добры... — кажу.
— Свавольствы кінула?
— Амаль...
Майстар неяк дзіўна паглядзеў на мяне і раптам кажа:

— Пачынай працаваць самастойна. Здолееш?

— Паспрабую...

— Вось і добра. Толькі спачатку вазьмі адзін станок.

Так пачала я працаваць ткачыхай. Побач — сяброўкі, як і раней, смех, жарты... Прайшоў тыдзень, другі... Аднойчы выклікаюць мяне і памочніка майстра Кудраватых у браковачнае аддзяленне. Што, думаю, здарылася? Працавала, як усе...

Прыходзім, значыцца. Мне паказваюць штапельна-трыкатажную тканіну «Арагон», вялікі кавалак:

— Твой?

Я глянула на артыкул, на нумар:

— Мой.

— Брак! Пераводзім у другі гатунак... — і растлумачылі, дзе той самы брак. Праз кожныя дваццаць сантыметраў на тканіне была грубая палоска з двух нітак: адна з новага пачатка, другая — са старога. Не заўважыла я, разумееш, калі ўткалася нітка ад гэтага, старога пачатку. Васемнаццаць метраў!

Ніхто мяне не лаяў, ніхто крыўднага слова не сказаў. Толькі па позірках бракаўшчыкоў і памочніка майстра я здагадалася, што яны пра мяне думалі: дзіцяне яшчэ!..

Вярталася я і не бачыла ні цэха, ні людзей. Стала ля станка, а ў самой вочы поўны слёз...

Эх, Федзя... Ты часам успамінаеш наш 10 «Б»? Там было ўсё неяк проста. Ва ўсякім выпадку, калі здаралася двойка ці тройка, дык я не плакала... Ты ж гэта добра ведаеш!

Жана прыціснулася плечуком да Валі, потым зняла з галінкі камячок снегу і дакранулася да яго вуснамі.

Ішлі моўчкі. Вуліца, прысыпаная снегам, здавалася памаладзелай.

— Папрацавала некаторы час, — зноў неяк задумённа пачала Жана, — і майстар перавёў мяне ў новую брыгаду, на два станкі. Потым пачалі расфарміроўваць камплект. Непакоіла, куды ж мяне паставяць? Усё думалася, што ў цэху памятаюць і не даруюць мне той мой першы і, дарэчы, апошні брак...

Але мне далі тры станкі. Першай думкай было адмовіцца. Пабегчы да майстра і сказаць: баюся. Аднак, нікуды я не пабегла. Працавала на трох станках. Прывыкла.

Побач адна ткачыха, як і я, на трох станках працавала. Але давала многа браку.

Аднойчы выклікае мяне майстар і прапаноўвае пераходзіць на яе станкі. А на тых станках ткалася трыко «Ударнік» — каштоўная тканіна з чыстай воўны, і майстар, зразумела, баяўся, што тканіна можа пайсці другім гатункам.

Я адмовілася. Што, думаю, будзе са мной на тых станках?.. А майстар не адступае. Я — сваё, а ён — сваё... Прыйшлося згадзіцца.

Станкі сапраўды працавалі дрэнна. Аднаго наогул не магла запусціць, на астатніх часта рваліся ніткі — нават не паспявала звязваць.

Бывала, бегаю ад станка да станка, рук і ног не чую. Злавалася на сябе, на памочніка майстра, крычала на яго, што ён не можа наладзіць станкі...І так некалькі дзён...

— Чым жа ўсё скончылася? — спачувальна спытала Валя. — Кінула і пайшла? — ёй здавалася, што калі справа не ладзіцца і памочнік майстра дапамгчы не можа, трэба прасіцца на другі камплект...

Жана таямніча прыжмурылася, узяла Валю за локаць і весела сказала:

— Мы далі пяцьсот дваццаць метраў «Ударніка». Першым гатункам!

І яна схапіла Валю, закружыла вакол сябе. Валя вырывалася, дакорліва шаптала:

— Кінь ты... Жанка, на вуліцы!



Радавацца была сапраўды прычына, і Федзя заўважыў, што зрабіць такую вялікую партыю каштоўнай тканіны без браку — справа не лёгкая і не простая. Гэта трэба ўмець! І яшчэ ён радаваўся таму, што ў той самай непаседырагатушкі Жаны залатыя рукі... Праўда у цэху, ды і на камплекце, ёсць не мала такіх, як Жана, ткачых, але ж Жана для Федзі не проста ткачыха. Гэта «свая», вясёлая танцорка і завадатарка з 10 «Б»!

Потым Жана, як бы між іншым, паведаміла, што з месяц таму назад ёй прапанавалі ўзяць чацвёрты станок, і яна таксама згадзілася, бо пасмялела.

Федзя падумаў, што ткачых, якія працавалі адначасова на чатырох аўтаматах, у цэху зусім нямнога, і спытаў:

— Цяжка?

— Прывыкла.

Фёдар Лукерчык, памочнік майстра ткацкага цэха, добра ведаў, што азначала гэтае кароткае «прывыкла», і, развітваючыся, шчыра паціснуў маленькую моцную руку Жаны, — руку сапраўднай працаўніцы...

Развітваючыся за руку з Валяй, Федзя, нібы раптам нешта ўспомніўшы, спытаў:

— А ты чаму маўчала?

— Як і ты... Я наш выпускны вечар успамінала!

— Вось гэта ідэя! — Жана ўзняла руку, патрабуючы ўвагі. — І сапраўды: давайце збярэмся ўсім нашым былым класам і нагаворымся ўволю! Га? Хто як пражыў гэтыя паўтара года...

— Цікава! — падхапіў Федзя. — А як ты думаеш, Валя?

Валя моўчкі кіўнула.

Дадому Валя ішла паволі, задумалася.

І сапраўды, Жана падала цікавую прапанову: сабрацца... нагаварыцца ўволю. Аб чым жа раскажа яна, Валя Сазон? Ці зноў прамаўчыць, як сёння? Не, яна не будзе маўчаць. Няхай усе з 10 «Б» даведаюцца, аб тым, як гэтымі днямі



**Былыя вучні, а цяпер рабочыя камбіната, на нядзельніку па ўпарадкаванню двара інтэрната.**

яна наведала сваю родную 29-ю школу...

Але ці ўсё будзе зразумела? Бадай, пачынаць трэба... З чаго? З таго, калі паставілі яе да прадзільнай машыны? Ці з таго незабыўнага дня, калі яна яшчэ вучаніцай хадзіла на экскурсіі ў прадзільны цэх? Цэх аглушыў яе грукатам машын, за якімі не відаць чалавека... Яна баязліва тулілася да настаўніцы, а тая, паклаўшы руку на яе бялявую галоўку, пытала:

— Падабаецца, Валя?

— Не... — адказала Валя, і голас яе тануў у грукаце.

За першай экскурсіяй адбылася другая, трэцяя.. Валя ўбачыла, што машынамі кіруюць маладыя



М. Данцыг. **Растуць новыя кварталы.**



А. Косціна. **Выпускны вечар.**



**Вышыннік.** Скульптура Ю. Кляшчэўнікава.



**Будаўнік Салігорска.** Гравюра С. Геруса.

дзяўчаты, вясёлыя, ветлівыя, а адна з іх нават падарыла Валі маленькія пушыстыя камячкі воўны: сіні, жоўты, шэры...

Валя доўга назірала, як разматваліся вялікія шпулі тоўстай пражы, як з гэтай пражы выходзіла нітка, як яна, нарэшце, наматвалася на новыя, меншыя шпулі. Валя дазналася, што першыя завуцца бабінамі, а другія проста шпулямі. Калі на шпулі наматаецца нітка, то гэта ўжо будуць пачаткі. Дзяўчаты знімуць іх, пакладуць у тачку і адвязуць кудысьці. Куды?

Над машынамі праз увесь цэх цягнуцца вадаправодныя трубы. Спецыяльныя прыстасаванні з шыпеннем распырскваюць ваду. Валі растлумачылі: гэта для таго, каб у цэху падтрымліваць патрэбную вільготнасць паветра...

Цэх зачараваў яе.

Рашэнне прыйшло неўзабаве канчатковае: пасля школы на камвольны камбінат, у прадзільны цэх.

... А можа пра ўсё гэта не расказваць? Усе вы, мае сяброўкі, хадзілі на камбінат і таксама ў прадзільны цэх, і таксама раскрывалі раты, баючыся аглухнуць...

Не, трэба расказаць, успомніць усё, як было...

Амаль пасярэдзіне прадзільнага цэха стаіць лёгкая, пафарбаваная ў цёмна-зялёны колер, фанерная будка. У будцы — стол, тэлефон, лаўка, шафа. Гэта — месца для зменных майстроў, калі ім спатрэбіцца што напісаць ці куды пазваніць, ці зрабіць адзнакі ў вытворчым журнале. Паміж фанерных шчытоў-сцен крыху цішэй, тут можна схавацца ад няспыннага гулу машын і пагутарыць.

Сюды і паклікаў майстар прадзільшчыцу Раісу Мікалайцаву. Калі яна ўвайшла, майстар паказаў позіркам на Валю, якая сядзела ў кутку.

— Вось... Бяры і вучы.

Раіса дапытліва глянула на дзяўчыну.

— Упершыню? Ці ўжо была?

— Была.

— І ўвесь камбінат бачыла?

— Так... — пацвердзіла Валя і падумала: «Якое гэта мае значэнне?»

— Вось і добра... — Раіса пасяброўку ўсміхнулася, паправіла валасы, якія выбіваліся з-пад лёгкай хусцінкі. — Значыць, была і ўсё бачыла... і ткачых, і кручільшчыц, і мыйшчыц... Спадабалася? Добра, калі так... Пайшлі?

... Ці ведаеце вы, сяброўкі, што азначае прысучыць нітку, якая абарвалася? Так, прысучыць... Не, не звязаць... Трэба злучыць канцы так, каб не было вузла і каб нітка магла абкруціцца вакол шпулі. І хутка. Уявіце сабе, што адначасова працуюць чатыры сотні верацён, на кожным накручваецца асобная нітка, якая бяжыць з хуткасцю ад дзесяці да пятнаццаці метраў у хвіліну. Няма такога верацяна, дзе б нітка не рвалася. І вось трэба паспяваць прысучваць абрывы, іменна паспяваць. Інакш верацёны пойдуць ухаластую, пачаткі атрымаюцца няроўныя, няпоўныя, будзе брак...

— Навучыся хутка і дасканала прысучваць канцы, — вучыла Раіса, — астатняе машына зробіць сама...

У той жа час яна знайшла абарваную нітку, зрабіла адзін хуткі і спрытны рух пальцамі, і нітка зноў абкручваецца вакол шпулі. Проста і прыгожа працавала прадзільшчыца!

— А ну, паспрабуй, — сказала яна Валі.

Валя глянула на роўныя рады верацён. На якім жа парвалася нітка і чакае яе, Валіных пальцаў? Як Валя ні прыглядалася, знайсці абарваную нітку не змагла: яна была вельмі тонкая, а верацёны круціліся ўсе да аднаго падобныя.

— Як жа... — разгублена прагаварыла Валя.

— Глядзі сюды... — Раіса дакранулася да Валінага пляча і паказала, як шукаць абарваную нітку: вобмацкам, над кожным верацяном. Паказваючы, яна зноў зрабіла прысучванне — лёгка, непрыкметна...

Валя без напружання знаходзіла абарваную нітку, лавіла канцы, рабіла, як ёй здавалася, неабходны рух пальцамі. Потым спрабавала намацаць нітку, спадзеючыся,



што абрыў ліквідаваны, але пальцы знаходзілі пустое месца, і Валя зноў пачынала шукаць канцы...

Побач з Валяй між суседніх машын у другой прадзільшчыцы таксама першы дзень вучаніцай працавала яе сяброўка Галя Гвардзіян. Час ад часу яна выглядала з-за машыны і крычала:

— Прысучваеш?

— Так... А ты?

— І я. Атрымліваецца?

— Не вельмі...

— У мяне таксама.

Пасля работы яны ўдвух выходзілі з цэха.

— Не будзе з мяне прадзільшчыцы... — прамовіла Валя.

— Прысучванне не выходзіць?

— Не выходзіць...

— Колькі ж ты прысучыла?

— Дзве ніткі... За шэсць гадзін! — усклікнула Валя з дакорам.

— А я напэўна буду! — весела абвясціла Галя. — Вось пабачыш!

— Ты многа зрабіла?

Галя моўчкі, але выразна паказала выцягнуты ўказальны палец. Малайчына гэта Галя, яна ніколі не журылася!

Новыя дні былі падобныя адзін да аднаго.

— Спрабуй! Смялей спрабуй! — весела падбадзёрвала Раіса, і Валя кожны раз загадвала: «Колькі сёння?»

Пяць, сем, дзесяць, чатырнаццаць, дзевятнаццаць... Калі перавысіла за пяцьдзесят, перастала лічыць.

Прайшоў месяц, Валя зноў стаяла перад майстрам.

— Пачынай працаваць сама.

— Ці здолею? — вырвалася ў Валі: яна быццам разважала сама з сабой.

— Для пачатку вазьмі дзвесце верацён — адну старонку...

Успомніліся словы Раісы: «Спрабуй! Смялей спрабуй!», і Валя адказала:

— Я паспрабую...

... Мілыя дзяўчаты! Ці ведаеце вы аб заўсёдным пачуцці трывогі? Дзе б ні была, што ні рабіла б, дастаткова прыгадаць камбінат, свой цэх, і ў той жа момант сэрца трывожыцца: «Як пройдзе новы дзень?..»

Стараннае маладой прадзільшчыцы Валянціны Сазон хутка было заўважана. Яе хвалілі на камсамольскіх сходах, у насценнай газеце. Памочнік майстра ставіў яе ў прыклад вучаніцам і маладым прадзільшчыцам.

Аднойчы Валя працавала асабліва ўдала. Пража ішла добра, абрывы здараліся рэдка. Пачаткі ішлі прыгожыя, адзін у адзін.

З добрым настроем Валя пайшла дадому. Увечары пабыла ў кіно. А раніцай, як толькі прыняла змену, падышоў памочнік майстра Таўстаножанка:

— Бракоўшчыца клікала. Пойдзем...

Валя здзіўлена паціснула плячыма і пайшла следам.

Бракоўшчыца, звяртаючыся да Таўстаножанкі, заявіла, што прадзільшчыца Сазон учора здала ў кладоўку дваццаць сапсаваных пачаткаў. І паказала талоны, якімі кожная прадзільшчыца афармляе сваю пражу.



**Валя Сазон і Жана Сарока сталі добрымі спартсменкамі.**

— Твае талоны? — панура спытаў Таўстаножанка.

— Так... — Валя кіўнула і, перамагаючы хваляванне, дадала: — Толькі такіх пачаткаў у мяне не было...

— Што ж... — бракоўшчыца з'едліва ўсміхнулася. — Выходзіць, я нагаворваю?

— У мяне не было дрэнных пачаткаў... — паўтарыла Валя, гледзячы на памочніка майстра. — Даю слова...

— Не хітруй! — кінула бракоўшчыца. — Знаем такіх...

— Як вам не сорамна! — не стрымаўшыся, выгукнула Валя.

Але памочнік майстра, напэўна, быў на баку бракоўшчыцы. Ён скоса паглядзеў на Валю і зрабіў рух рукой, нібы выказваючы сваё незадавальненне:

— Эх ты!..

Валя не стрымалася, зайшлася ад плачу. Яе супакойвалі, нечага дапытваліся, але яна нічога не чула, нічога не разумела.

Аднак трэба было даказаць, што яна здала ў кладоўку добрыя пачаткі. Якім чынам?

Валя пабегла да зменнага майстра. Той глянуў на заплаканы твар дзяўчыны і кінуў абыякава:

— Я ўсё ведаю...

— Не, не ведаеце! — выгукнула яна. — Я не рабіла браку!

— Усе так кажуць... — майстар паспрабаваў усміхнуцца, — і плачуць...

— У мяне не было бракаваных пачаткаў! — рашуча і цвёрда паўтарыла яна.

— Колькі ўчора здала пачаткаў? Чатырыста? Вось бачыш... — майстар зноў усміхнуўся, і Валі дужа не спадабалася яго ўсмешка. — Хіба ты правярала кожны пачатак?

— Гэта — не доказ!..

— Я не разумею... — нечакана сур'ёзна загаварыў майстар. — Чаго шумець? Дваццаць няўдалых пачаткаў з чатырохсот... Бывае і горш!

— Можа быць. Але я не рабіла браку, ніводнага пачатка! А цяпер мяне ў «Трывозе» размалююць... За што? — дадала яна і зноў ледзь не расплакалася.

— Ніводнага?

— Праверце!

— Ды ты што? — майстар адсунуў журнал, у якім рабіў нейкія запісы, устаў з-за стала. — Праверыць? Лёгка сказаць! Цэх штодзённа дае шмат тысяч пачаткаў... Хіба можна адшукаць твае?

— А калі вам заўтра скажуць, што я сёння здала ўсе чатырыста пачаткаў браку; вы гэтаму таксама паверыце?

— Паглядзім... — няпэўна адгукнуўся майстар, пазіраючы некуды ўбок.

— Значыць, трэба лепш правяраць!

— Ёсць бракоўшчыкі...

— А чаму мне не верыце?

Майстар глядзеў на Валю і не пазнаваў яе. Ці даўно гэтая дзяўчынка-школьніца з бледным тварам і маленькімі сінімі вочкамі сядзела вось тут, стуліўшыся, і коратка адказвала на пытанні майстра і прадзільшчыцы?.. А цяпер?.. Характар! А магчыма, ён і выпрацоўваецца зараз, вось тут, у цэху?..

Майстар паабяцаў палепшыць праверку.

Прыпёртая фактамі, бракоўшчыца прызналася, што пачаткі, якія здала Валя Сазон, былі добрыя, але дваццаць штук яна афарміла як недабраякасныя. Высветлілася таксама, што брак незаслужана прыпісваўся іншы раз і другім прадзільшчыцам. Чаму? Сярод бракоўшчыкаў існавала думка, што калі ты бракоўшчык, дык ты павінен перыядычна і абавязкова бракаваць, інакш, маўляў, за што ж табе даюць грошы? Бракоўшчык, які «знаходзіў» больш «недабраякасных» пачаткаў, лічыўся лепшым. Маўляў, патрабавальны!

Іншая прадзільшчыца, калі яе абвінавачвалі ў выпуску браку, асабліва не пярэчыла: хто яго ведае, мажліва, сярод сотняў пачаткаў і трапілася колькі горшых. Не дагледзела, магло здарыцца...

Настойлівасць жа Валі дапамагла выявіць усю гэтую заганную практыку.

Праз некаторы час дзяўчыну перавялі на абслугоўванне чатырохсот верацён, яна стала ў рады сталых прадзільшчыц. У тую ж вясну Валю выключылі са спісу «малалеткаў», і яна пачала працаваць па восем гадзін, як і ўсе рабочыя.

Аднойчы Валю паклікалі ў камітэт камсамола.

— Сумуеш па школе? — нечакана спытала сакратар цэхавога камсамольскага камітэта Рая Кулакоўская.

«Навошта гэта ёй?» — падумала Валя і шчыра сказала:

— Успамінаю... Іншы раз...

Рая сказала, што ў камітэце камсамола ёсць думка даручыць Валі быць піянерважатай у 7 «А» класе.

— Я ніколі не была піянерважатай... Якая будзе ад мяне карысць?

— Што ты! — весела ўсклікнула Рая. — Ты ж вучылася ў гэтай школе, а цяпер адна з лепшых прадзільшчыц. А камбінат будуецца, пашыраецца, яму патрэбна шмат новых людзей... — Рая прыціхла і раптам дадала: — Вось ты і зацікавіш вучняў, няхай рыхтуюцца ў тэкстыльшчыкі...

У школе ўсё было знаёма і дорага: настаўнікі і тэхнічкі, кожная прыступка на лесвіцы, кожныя дзверы ў доўгім калідоры...

Валя спынілася перад дзвярыма з таблічкай «7-А», і вялікае хваляванне авалодала ёю. Ці будуць яе слухаць?.. Нават настаўніка слухаюць не заўсёды!

За дзвярыма чуўся сцішаны гул дзіцячых галасоў. «Чакаюць...» Яна расчыніла дзверы і ў той жа час адчула на сабе дзесяткі дапытлівых вачэй...

Валя прывіталася, сказала, хто яна, і пачала распытваць дзяцей пра вучобу, пра піянерскія справы, пра тое, як рыхтуюцца да вялікага свята Кастрычніка... Адначасова Валя меркавала пра тое, як бы лепей скіраваць гаворку ад школьных спраў да камбінатаўскіх...

Памаглі самі дзеці.

— А на камбінаце цікава? — раптам прагучаў звонкі галасок.

Валя расказала, якія тканіны вырабляюцца на камбінаце («прыгожыя, найлепшыя...»), якія ў іх машыны («складаныя, вельмі разумныя»).

Дзеці прасіліся, каб паказалі ім камбінат, каб «на ўсё паглядзець».

Калі Валя гутарыла з дзецьмі, дык адчула, што і людзі, і машыны, і знаёмы пах воўны, і мігценне мяккіх пераліўістых нітак, і звычны гул прадзільных машын, — усё гэта ёй бясконца дарагое і блізкае...

І яшчэ бадай самае цікавае, самае цудоўнае, што вельмі ўсхвалявала яе, — гэта позіркі дзяцей і ў гэтых позірках — цікаўнасць і павага да яе. І тады раптам Валя адчула сябе зусім дарослай, узмужнелай. Дзіўна, што такога пачуцця ў яе яшчэ не было ніколі,




**Нечаканая сустрэча... І ў Федзі аказаліся білеты на той жа сеанс, што ў Жаны Сарока і Валі Сазон.**

нават тады, калі ёй уручалі атэстат сталасці.

... Любыя сяброўкі! Што ж гэта такое — сталасць? Што ж гэта такое — паўналецце?

Тут расказана толькі пра трох з усіх выпускнікоў 10 «Б» класа 29-й сярэдняй школы, якія два гады таму назад прыйшлі на камвольны камбінат. А як жа астатнія?

Саша Шкрэд упарта дамагаецца таксама стаць памочнікам майстра ў ткацкім цэху. На аўтаматах працуюць ткачыхі Зіна Крайко і Ніла Ганкевіч; Валя Салавей, Тамара Сінякова, Галя Сазон — сястра Валі, Ядзя Доўнар, Мая Бурая, Тася Цэцэрукова — у прадзільным цэху, Таня Шчурко, Зіна Велабоцкая і Эдзік Шарапа — у круцільным, Люда Хвалей — у часальным, Лора Куцанава — у апрацоўчым...

Былыя дзесяцікласнікі ўжо добра пазнаёміліся з вытворчасцю, адчулі першую радасць самастойнай працы. Інакш кажучы, яны ўступілі ў жыццё, сталі яго гаспадарамі.



Уладзімір **НОВІК**

# ЦЯПЕР ЯНА ПРЫЕДЗЕ...

**Нарыс**

Усю ноч з неба прыгаршчамі сыпаў снег, і да раніцы замяло ўсе сляды. Навокал — бялюткая роўнядзь. Цяжка адшукаць дарогу. Даводзіцца ступаць наўздагад, вобмацкам. Толькі зробіш неасцярожны крок — адразу правалішся па пояс у пуховую пярыну.

Цішыня. Па новым снезе не паспеў яшчэ прабегчы нават заяц. Сядзіць шарак дзе-небудзь у зацішным бярозавым гаёчку, якія яшчэ хоць і зрэдку ды пападаюцца ў гэтых мясцінах. Сцішыўся, сціснуўся ў пружыністы камячок.

Лёня спыняецца, ставіць чамадан ля ног, дастае з кішэні хусцінку і выцірае буйныя кроплі поту на твары, на шыі. Яшчэ няма і дзевяці, а ён паспеў ужо адмераць ад Слуцка добры дзесятак кіламетраў. Прыехаў на станцыю ранішнім цягніком, не стаў чакаць світанку, а падхапіў чамадан — і ў дарогу.

Ступіць Лёня колькі крокаў і аглядваецца, ці не відаць аўтамашыны. Толькі вецер імклівы пераганяе цераз дарожны насып снежную замець, сухую, як кастрыца.

Шкадуе хлопец, што не даў маці тэлеграмы. Пад'ехалі б да станцыі. Брыгадзір Іван Бялько можа б нават жарабка свайго раз'язнога не пашкадаваў. Эх, і пракаціўся б па мяккай дарозе, а так топай...

Крыху збоч ад дарогі стаяць парамі прасмоленыя чорныя слупы. Тоўстыя, як вяроўкі, правады звісаюць нізка. Здаецца, падскоч — і дастанеш да іх рукой. Гэта новая электралінія ад Слуцка да Салігорска.

Год назад, калі Лёня ад'язджаў на цаліну, электралініі не было. За горкай, недзе ля Бранчыц, пракрычаў паравоз. Павярнуўшы галаву на гудок, Лёня ўбачыў доўгую грыву чорнага дыму. «І паязды ходзяць. Праўду пісалі хлопцы».

Усё навокал знаёма і незнаёма. Па гэтай дарозе ён бегаў да начлежнікаў вунь пад той бярозавы гаёк, каб пасядзець ля вогнішча, паслухаць гамонку пра тое, «як нашы немцам жару падсыпалі». Каб не праганялі, прыносіў начлежнікам у запазусе спелых антонавак і прасіў даць хоць разок пекануць у неба з самапала.

Як падрос, стаў хадзіць з сябрамі па гэтай дарозе ў чапялёўскую дзесяцігодку, бо ў вёсцы

Радкаў — толькі пачатковая школа. У вучобе, праўда, уперадзе не ішоў, але і ззаду не заставаўся. Трымаўся «залатой» сярэдзінкі. За гэта хлопцы празвалі яго «серадняком».

Здарылася так, што аднойчы Лёня напісаў у раённую газету невялікую заметку і яе прапусцілі. Пачаў пісаць больш, лепш. Аўтарытэт хлопца рос, пакуль у заметках была праўда. А потым...

— Вось другіх то ты, Лёня, крытыкуеш, — сказаў яму аднойчы старшыня калгаса «Чырвоная зорка» Аляксей Нікіфаравіч, — а сам на работу не ходзіш. На шыі ў сваёй маці сядзіш. Не гожа гэтак, браток! Ты ж камсамолец!..

Глыбокую крыўду на старшыню затаіў за гэта Лёня і парашыў яму адпомсціць. Напісаў вялікае пісьмо ў рэдакцыю, адтуль выехалі, праверылі і прысаромілі селькора.

— Ну, тады бывайце! — заявіў разгневаны хлопец. — Савецкі Саюз вялікі, абыйдуся і без вас. — І паехаў на цаліну...

...Не заўважыў Лёня, як суцішыў крок. Ён думае аб сабе, аб маці. Думае аб сябрах-аднагодках, што будуюць Салігорск. І яшчэ думае Лёня над словамі старшыні, якія пачуў на ад'ездзе: «Ад сябе, браток, нідзе не схаваешся, нават на краі свету...».

— Эй, хто там? З дарогі!

Аглянуўся, а перад ім шэры ў чорных яблыках конь, запрэжаны ў сані. З-за каня выглядвае чорная шапка-вушанка, а пад ёй — насмешлівыя шэрыя вочы.

— Лёня! Адкуль ты зваліўся?

— Дзядзька Іван!

— Сядай, давязу. Вось будзе радасці маці! А цяпер дай на цябе пагляджу. Што і казаць, стопрацэнтны мужчына. Надоўга?

Лёня маўчыць, быццам не пачуў запытання. І толькі калі брыгадзір паўтарыў яго, сярдзіта адказаў:

— Назусім.

— Хіба ж цябе адпусцілі?

— А я сам. Захацеў — туды махнуў, расхацеў — назад прыехаў.

— І табе не сорамна?

— Я не дзяўчына. Чырванець не ўмею.

— Эх ты, пералётны птах...

Далей размова не пайшла. Брыгадзір і Лёня хоць і сядзелі побач у задку саней на мяккім сене, але адчувалі паміж сабой глухую сцяну...

...Стол, засланы чыстым абрусам. На скорую руку падрыхтаваны стравы. У талерцы — гара нарэзанага драбкамі пажоўклага сала. У місцы — свежае масла. У другіх талерках — салёныя агуркі, парэзаная на кружочкі каўбаса, мёд... Пасярэдзіне — бутэлькі.

Сабралася радня. Прыйшлі паглядзець, якім за год стаў Лёня, ці ўзмужнеў на цалінным хлебе.

Чуваць вясёлыя галасы:

— За такога сына і выпіць не грэх!

— Цяпер толькі нявестку ў хату!

— А можа там займеў каго сабе?

— Божухна, хіба ж сваіх не хапае. Вунь колькі нарасло!..

— А назад калі?

— Назад ён не паедзе, — кажа за Лёню маці, — яму і тут работа знойдзецца. Вунь колькі нашых у Салігорску робяць...

Пазней, калі радня і суседзі разышліся, Лёня лёг спаць, але яму не спалася. Пазіраў у цёмную столь, успамінаў...

Шырокі казахстанскі стэп, ні канца яму, ні краю. Ужо колькі сутак імчыць наперад поезд, бяжыць пад коламі зямля. У вагоне Лёня адчувае сябе не горш, чым у роднай хаце. Усе вясёлыя, смелыя, спатрэбіцца — адразу руку пададуць. За дарогу пасрадніліся.

Лёня трымаецца свайго: стараецца ўвесь час быць ля аднае дзяўчыны. Колькі слоў сказана за многія дні і ночы! З кожным кіламетрам мацнее іхняя дружба. Ніхто ім не перашкаджае, хоць людзей поўны вагон.

Ён ужо ведае імя дзяўчыны — Ліля. Як з ёю добра! Яна ўмее і расказваць, і слухаць, а дзе патрэбна, — далікатна паправіць. Лёня з ёй адчувае сябе дужэйшым. Яна нават без слоў разумее яго, з аднаго позірку.

У цалінным саўгасе яны пажаніліся. А цяпер як будзе? На ад'ездзе Лёня ёй сказаў: «Паеду пакуль адзін, як уладкуюся на працу, напішу».

Лёня павярнуўся на бок, нацягнуў на галаву коўдру, а сон не ішоў...

Ад Радкава да Кулакоў — рукой падаць. У доўгім, пачарнелым ад даўнасці будынку часова размясцілася ўпраўленне будаўнічага трэста № 3. Раней тут была кантора МТС. У невялікім пакойчыку — аддзел кадраў. За сталом сядзіць пажылы мужчына ў вышмараваным вайсковым кіцелі. Як толькі ўбачыў Лёню, усміхнуўся, падаў руку. Лёня адказаў на прывітанне — моцна пацiснуў руку роднага дзядзькі. Выйшлі ў калідорчык. Тут нікога няма, можна аб усім пагутарыць спакойна.

— Пойдзеш у брыгаду Валянціна Яцэвіча, — гаворыць Бягун. — Будзеш працаваць пакуль столярам, а там пабачым...

Навічок. Колькі іх на дзень бывае ў маладым горадзе! Для кожнага тут знаходзяць цёплае слова, умеюць сустрэць па-сяброўску, прыхільна.

Гэтак жа, як і другіх, цёпла сустрэлі і Лёню.

Брыгада, у якой ён стаў працаваць, ставіць на ўскраіне аднакватэрныя жылыя дамы для будаўнікоў. Адсюль, з узгорка, як на далоні, відаць панарама Салігорска.

Побач з клубам будаўнікоў узвышаецца двухпавярховы будынак — гэта сталовая, за ёй паліклініка і бальніца, далей — лазня. У некалькі радоў выстраіліся жылыя дамы. Шырокія дарожкі паміж імі абсаджаны маладымі дрэўцамі. З боку Чыжэвіч — некалькі магазінаў і трохпавярховы будынак сярэдняй школы. А за чыгуначнай каляёй вырастаюць чатырохпавярховыя шматкватэрныя жылыя дамы, новая паліклініка, хлебазавод, мясакамбінат, кінатэатры і многа, многа новых збудаванняў, якія потым упрыгожаць малады горад беларускіх шахцёраў.

Там, дзе тырчыць у небе страла перасоўнага крана, працуе камсамольска-маладзёжная брыгада Пятра Старавойтава. Кожны муляр там дае за змену да пяці кубаметраў кладкі.

«Так трымаць!» — заклікае чарговая «маланка», што вывешваецца ля ўваходу ва УНР-123, паведамляючы аб поспеху брыгады. У ёй працуе нямала і Лёніных сяброў.

Па вечарах людна ў бібліятэчцы. Тут убачыш і шахцёраў, якія толькі што вылезлі з-пад зямлі, і арматуршчыкаў, і бетоншчыкаў, і апалубшчыкаў — словам, людзей новых на Старобіншчыне прафесій.

А ў школе працуюць курсы па падрыхтоўцы маладых рабочых у горны інстытут.

Ярка свецяцца вокны клуба. Там ідзе рэпетыцыя гурткоў мастацкай самадзейнасці. У фае — танцы.

Лёня, пахадзіўшы крыху па горадзе, вяртаецца на кватэру, дзе яго чакае Ліля. Яна прыехала ўжо і гэтак рада! На новым месцы ёй усё падабаецца — і горад, і людзі. Першыя дні яны жылі ў згодзе, а потым...

Усё пачалося, як кажуць, з дробязі. Вярнуўся аднойчы з работы Лёня, спакойна дастаў з ватоўкі аконныя завескі і жменю цвікоў. «Мабыць, забыў пакласці на месца, — падумала Ліля і вырашыла прамаўчаць. — Заўтра аднясе назад».

А Лёня і назаўтра спакойна разгружаў кішэні. Калі ён потым прынёс два праекты аднакватэрных домікаў, Ліля не вытрымала:

— Ты падумаў, што ўсё гэта значыць? — ускіпела яна.

— Злодзей той, каго злавілі, — адказаў Лёня. Памаўчаў і са злосцю ў голасе дадаў: — А ты трымай язык за зубамі.

— Не! — нечакана вырвалася ў Лілі. — Не буду маўчаць! Занясі крадзенае назад!..

— Ты яшчэ маладая, — злосна кінуў Лёня. — Не разумееш, што ўсё гэта — грошы. — І больш ласкава: — Вось пачнем будаваць свой домік, тады прыгадзяцца і завескі, і цвікі, і шнур. Сякера і тая спатрэбіцца. Дровы калоць.

Гэтыя словы, як варам, аблілі маладую жанчыну. Яна, гнеўна гледзячы мужу ў вочы, выпаліла:

— А давер людзей, мой давер ты ні за якія завескі не купіш!

Калі гнеў крыху ўлёгся, яна са слязьмі ў голасе сказала:

— Вас, Лёня, тысячы. Калі кожны возьме толькі па адной завесцы, іх не стане на цэлы дом.

Лёня не прыдумаў нічога лепшага, як прыгразіць:

— Пікнеш дзе пра гэта — выганю. Жыць з даносчыцай не стану.

Слёзы крыўды душылі Лілю. Ёй было балюча за мужа, за тое, што яна не разгледзела яго адразу. А колькі ён рабіў промахаў да гэтага, і яна цярпела! Цяпер ён у яе на вачах стаў злодзеем. Хіба ж гэта можна сцярпець? Тады, значыць, і яна такая, калі ўсё збіраецца пакрыць. А далей? Што будзе далей? Ліля закрыла твар рукамі і кінулася на ложак.

Калі падняла галаву, Лёні ўжо не было: пайшоў на работу, нават не развітаўся. Колькі хвілін Ліля хадзіла па пакоі, як апантаная. «Свой домік пабудуем... А чаму свой, калі будаўнікам даюць кватэры. Толькі працуй сумленна. Нашто тады гэтыя завескі?..»

Ліля дастае з кутка ўсё, што накраў Лёня, складвае ў сумку і, не вагаючыся ні секунды, выходзіць на вуліцу.

Яе абганяюць аўтамашыны, гружаныя лесам, дошкамі, цэглай... З кабіны выглядваюць вясёлыя шафёры. Яна праходзіць міма дзяўчат, якія рупліва складваюць цэглу. Ліля паскарае крок. Хутчэй бы, а то неяк гарыць рука, якая трымае за раменьчыкі сумку.

— Чым вы так заклапочаны? — сустрэў Лілю галоўны інжынер, калі яна пераступіла парог яго кабінета. — Што-небудзь здарылася?

— Вось паглядзіце, — і Ліля выклала на стол усё, што было ў сумцы.

— Нічога не разумею, — развёў рукамі інжынер. — Растлумачце.

— Тлумачыць няма чаго. Усё гэта ўкраў мой муж Лёня Трухановіч.

Якую хвіліну інжынер не зводзіў з Лілі вачэй, нешта выпрашаючы. Потым ступіў крок наперад і моцна, да болю, пацісnуў ёй руку.

— Вы малайчына!..

І доўга не выпускаў яе маленькіх далоняў з сваіх рук. Ліля адчула ў гэтым поціску сяброўскую падтрымку, а ў ваччу заўважыла спачуванне.

— Інакш не магла, — толькі ўсяго і сказала на развітанне.

Колькі крокаў адышла ад канторы, як зноў апанавалі розныя думкі. Што скажуць сяброўкі, як паставіцца да яе ўчынку Лёня, калі аб усім даведаецца? За сябе не баялася, бо выбрала толькі адну дарогу і нізашто не збочыць з яе.

Цяпер пра яе будзе вунь колькі гаворкі! Адны стануць адабраць, а будуць і такія, што пачнуць падбухторваць Лёню: кінь жыць з даносчыцай. А Лёня? Няхай выбірае адно з двух: або на людзях шчыра ва ўсім прызнаецца, калі кахае яе, і тады яна даруе яму ўсё, або няхай носіць у душы гніленькую крыўду і застаецца адзін, без яе.

— Лілька! — прязвінеў голас Тацяны Сівачэнка, — нешта сёння ты не такая, як заўсёды.

— Прысядзем, Таня. Я ўсё раскажу.

З шырока раскрытымі вачыма слухала Тацяна сваю сяброўку, ні адным словам не перапыніла.

— Што ж цяпер у вас будзе?

— Не ведаю, Танечка. Час пакажа, а цяпер — за работу...

Мінула колькі дзён. І вось вечарам у клуб пачалі збірацца шахцёры, будаўнікі, інжынеры, тэхнікі...

Прасторная зала не ўмяшчала ўсіх. На сцэне, за сталом, засланым чырвоным сукном, — начальнік будаўнічага трэста Аляксей Сямёнавіч Кісялёў, старшыня пабудкома, сакратар камсамольскай арганізацыі. У цэнтры — старшыня таварыскага суда камуніст Зінові Рыгоравіч Капцюг і два засядацелі.

Не чуваць ні жартаў, ні смеху, як гэта бывае заўсёды. Твары ва ўсіх сур'ёзныя, бо кожны ведае, што прыйшоў не на вечарынку.

Згорбіўшыся, у баку ад усіх, сядзіць Лёня. Яшчэ колькі дзён назад ён жартаваў разам з тымі, хто сёння ў клубе, дзяліўся думкамі, спрачаўся, калі трэба было. А сёння яны яго будуць судзіць. І цяжка яму ўзняць вочы, глянуць у суровыя твары сваіх таварышаў, бо па напружанай цішыні ўсім нутром адчувае ён, што ў кожным убачыць гнеў і абурэнне.

Як толькі загаварыў грамадскі абвінаваўца, Лёня праз сілу падняў галаву, агледзеў залу і, не ўбачыўшы Лілю, згорбіўся, як і раней.

Гарачым вуголлем падаюць на сэрца словы Зіновія Рыгоравіча:

— Лёня Трухановіч забыў, што ў яго кішэні ляжыць камсамольскі білет. У той час, калі яго сябры паказваюць узоры самаадданай працы, змагаюцца за эканомію, ён скаціўся на слізкі шлях — стаў абкрадаць самога сябе...

Гулка аддаецца кожнае слова ў вялікай зале. Ад гэтага мацней грукае сэрца ў Лёніных грудзях, а праклятая чырвань залівае ўвесь твар, паліць вушы. І зноў чуе ён гэтыя словы. Яны аддаюцца яшчэ гучней, быццам гаворыць не адзін чалавек, а ўсе, што сядзяць у клубе, уголас паўтараюць:

— Вялікая наша нянавісць да таго, хто грэбуе высокім імем камсамольца!..

Ачнуўся ад слоў народнага абвінаваўцы:

— Паслухаем, што скажа грамадзянін Трухановіч.

«Грамадзянін». Так Лёню яшчэ ніхто ніколі і нідзе не называў, а тут — грамадзянін. Прывык ён да слова таварыш. Гэтак ён нярэдка называў сваіх сяброў, а яны яго. Цёпла, па-свойску гучыць гэтае слова: мой таварыш. Вунь яны сядзяць яго, Лёніны таварышы, з якімі ён сёння разам працаваў. Заўсёды вясёлы Алесь Алешка і маўклівы Сцяпан Васілевіч сядзяць у першым радзе, не спускаючы з яго вачэй.

З-за судзейскага стала пазіраюць на Лёню яго старэйшыя таварышы. Кожнага з іх ён добра ўведаў за кароткі час. І яны цярпліва чакаюць, пакуль ён загаворыць, а таго, мабыць, не ведаюць, што ў яго галаве ўсё перамяшалася.

І Лёня не стрымаўся. Слёзы самі пакаціліся з яго вачэй. Не саромячыся, выцер іх і загаварыў гэтак ціха, што з задніх радоў панеслася:

— Давай гучней!

— Красці, нябось, не сароме́ўся.

— Бач ты яго!

Зінові Рыгоравіч пастукаў алоўкам па графіне, каб сціхлі, і кіўнуў галавой у бок Лёні.

— Гаварыце, мы чакаем, — голас у Аляксея Сямёнавіча Кісялёва строгі, але ў ім адчуваецца заўсёдная нотка бацькоўскай цеплыні. Можа яна і растапіла скванасць Лёні, дала напрамак яго думкам, бо ён расказаў усё, як было. Напаследак, абвёўшы поглядам залу, закончыў:

— А цяпер судзіце, як ведаеце.

Пасыпаліся пытанні. Многія захацелі гаварыць. Калі шум сціх, слова папрасіла Тацяна Сівачэнка. Яна добра ведала Лілю, дружыла з ёй.

— Я захапляюся ўчынкам сваёй сяброўкі, — сказала яна. — Ліля зрабіла так, як робяць сапраўдныя савецкія людзі: своечасова вырвала Лёню з гнілога балота. За гэта ён павінен толькі дзякаваць ёй. Мы ж павінны дапамагчы Лёню стаць чалавекам. Мы таксама абавязаны захаваць сям'ю.

— Мая думка такая, — сказаў свае слова рабочы Карніевіч, — узяць Лёню Трухановіча на парукі, пакінуць у калектыве і памагчы яму вылечыць сваю балячку...

Позна, бадай пазней за ўсе разы, гарэлі ў тую ноч агні ў клубе. Ужо святлеў усход, а людзі не разыходзіліся, усё гутарылі. На досвітку Лёня прыйшоў на кватэру.

— Лёня, ты? — Ліля працягнула рукі.

Ён спыніўся пасярод пакоя, у вачах бліснулі ільдзінкі.

— А ты думала, што пасадзяць! Не па-твойму выйшла, — і пачаў распранацца.

Ліля як стаяла з выцягнутымі ўперад рукамі, так і засталася стаяць яшчэ хвілін колькі.

На печы заварушылася цётка:

— Яна чакала цябе, а ты ёй такія словы гаворыш. Паглядзі на падушку: уся ад слёз прамокла...

Лёня ведаў характар сваёй чыжэвіцкай цёткі, у якой кватарава-

лі цяпер, а таму крыху абмяк пасля яе слоў.

— На ганьбу ўсім выставіла, а я ёй рукі за гэта цалаваць павінен, ці што?

— Слова ласкавае скажы, і то на душы палягчэе. — Цётка прыўзнялася на локці. — Эх, Лёня! Мала цябе на сходзе чысцілі ўсё ж!..

Адчуўшы ў словах цёткі ноткі крыўды, Лёня крыху абмяк, ступіў крок да Лілі.

— Даруй. Гэта я так. Не ўсё ў мяне яшчэ на месца стала, таму і сказаў...

Астатак ночы правялі без сну абое.

Ліля адчула, што Лёня затаіў крыўду, думаючы, што яна выставіла яго на пасмешышча дзеля таго, каб нібыта нажыць сабе аўтарытэт. Моцна, да болю прыкусіла вусны, намагаючыся стрымаць слёзы, а яны каціліся з вачэй, не пераціхаючы.

Як бы ўгадаўшы яе думкі, Лёня загаварыў:

— Не румзай. Цяпер табе кар'ера забяспечана.

Гэтыя словы сцебанулі бізуном. Ліля паспешліва апранулася і пачала таптаць у чамадан свае рэчы.

Лёня спахапіўся: што заўтра скажуць пра яго! Чаго добрага, яшчэ падумаюць, што выгнаў.

— Нікуды я цябе не пушчу, — сказаў і загарадзіў сабой дарогу.

Тады Ліля горда стала перад ім на ўвесь рост:

— А ты ў дадатак да ўсяго яшчэ і баязлівец! На словах ты раскаяўся перад усімі, а для мяне застаешся ранейшым, — і ўжо на парозе дадала: — Нам лепш за ўсё расстацца...

Глуха стукнулі дзверы. Праз акно Лёня ўбачыў, як Ліля спяшалася да аўтобуснага прыпынку.

* * *

Сонца шчодра залівае Салігорск. На рыштаваннях завіхаюцца муляры. Павольна і спакойна паварочваюцца стрэлы перасоўных кранаў. З брыгадзірам Валянцінам Яцэвічам спяшаемся на яго ўчастак. Абмінаем вялізныя штабялі цэглы.

— За той агарожай, — гаворыць брыгадзір, — лесапільны цэх. Сёння там і Лёня з сябрамі.

Яшчэ здалёк я пазнаю яго, і ён убачыў мяне, ідзе насустрач. Вітаемся, як старыя знаёмыя, за руку.

Лёня колькі хвілін маўчыць, потым пра ўсё мне расказвае. У яго голасе чую хваляванне і радасць.

— Толькі ўчора ліст атрымаў ад Лілі. Цікавіцца, як жыву, які цяпер Салігорск. Просіць напісаць пра ўсё. — Ён дастае з кішэнькі абсыпанага пілавіннем пінжака канверцік, вымае акуратна складзены квадрацік і чытае з той унутранай радасцю, якой я яшчэ ніколі не заўважаў на ягоным твары.

— Заўтра, — кажа ён, — напішу ёй, няхай прыязджае.

Твар Лёні святлее, у голасе цепліцца пяшчота, а ў вачах — хваляванне: ці прыедзе?

*Размова аб майстэрстве*

Вера ПАЛТАРАН

# ПУБЛІЦЫСТЫКА Ў МАСТАЦКІМ ТВОРЫ

Публіцыстычнасць — якасць не новая ў нашай літаратуры. Публіцыстычныя фарбы сустракаюцца яшчэ ў славутым «Падарожжы з Пецярбурга ў Маскву» Радзішчава. «Я взглянул окрест меня — душа моя страданиями человечества уязвлена стала», — з болем і смуткам гаварыў пісьменнік-гуманіст пра пакуты чалавека-працаўніка ў самадзяржаўна-прыгонніцкай Расіі.

Такая ж адкрытасць грамадскай пазіцыі, абвостранасць грамадзянскага пачуцця ўласцівы і беларускім «Гутаркам», якія ўзніклі на зары нашай нацыянальнай літаратуры.

Калі прасачыць увесь працэс развіцця рускай або беларускай літаратуры, не цяжка заўважыць, з якою няўхільнасцю прабівала сабе шлях у мастацкай прозе палымянае публіцыстычнае слова. Гэты працэс быў абумоўлены цеснай сувяззю літаратуры з грамадствам, якое вымагала ад пісьменніка ўсё большай пэўнасці і выразнасці яго грамадскіх пазіцый. І чым больш адкрыта станавіўся пісьменнік на бок той ці іншай грамадскай групы, класа, чым гарачэй пранікаўся іх інтарэсамі, тым большую патрэбу адчуваў ён, як мастак, у такіх фарбах, якія давалі б выхад яго аўтарскаму пачуццю, што не месцілася ў рамках аб'ектывізаваных мастацкіх вобразаў.

Цікавы сам працэс пранікнення публіцыстыкі ў мастацкую прозу, калі яго прасачыць у гістарычным плане. Але інтарэсы раздзела «Размова аб майстэрстве» вымагаюць паглядзець на гэты працэс не з гістарычнага, а з практычнага боку. Паколькі ў крытыцы часам выказваецца думка, што публіцыстыка наогул супроцьпаказана мастацкай прозе, то варта разабрацца ў тым, якая ж публіцыстыка сапраўды разбурае мастацкую тканіну твора, а якая — умацоўвае яе, як і ў якой меры выкарыстоўваюць публіцыстычныя фарбы майстры нашай прозы; і, нарэшце, цікава будзе паказаць выяўленчыя магчымасці мастацкай публіцыстыкі, каб стала зра-

зумела, што страціла б наша літаратура, адмовіўшыся ад публіцыстычных фарбаў.

Эпас і публіцыстыка — два роды мастацтва, кожны з якіх мае сваю прыроду, сваю спецыфіку.

Мастацкую прыроду эпасу мы сабе ўяўляем добра. У эпічным творы аўтарская пазіцыя, аўтарская ацэнка жыццёвых з'яў схавана недзе за мастацкім вобразам. І яна тым яснейшая, чым з большай выяўленчай сілай намаляваны гэты вобраз.

У публіцыстыцы справа абстаіць інакш. Тут адразу дае сябе адчуць адкрытая тэндэнцыйнасць пісьменніка: ён нібы сам прысутнічае ў сваім творы, адкрыта і страсна сцвярджаючы свой грамадскі ідэал.

Калі шукаць розніцы ў выяўленчых уласцівасцях мастацкай прозы і публіцыстыкі, то яна, гэтая розніца, у тым, што проза з'яўляецца больш «аб'ектыўнай» у адносінах да жыццёвага матэрыялу, чым публіцыстыка.

Але калі глыбей паглядзець на гэтае пытанне, то мы заўважым, што «аб'ектыўны», «чысты» эпас адышоў у далеч часу разам з «Іліядай» і «Адысеяй», а далейшы працэс развіцця літаратуры пайшоў пад знакам узаемапранікнення жанраў, якія чэрпалі адзін у другім вялікую дадатковую выяўленчую сілу. «Проза «ўбірала» ў сябе лірыку, драму, публіцыстыку; эпас пракладваў сабе дарогу ў лірыку.

Убіраючы ў сябе элементы іншых жанраў, — той жа лірыкі ці публіцыстыкі, — проза бясконца ўзбагачае свае выяўленчыя магчымасці. Але на гэтым шляху яе падсцерагае і небяспека: пры няўмелым выкарыстанні выяўленчых сродкаў гэтых жанраў яна рызыкуе стаць расплывістай, разрэджанай, кволай.

Паўстае пытанне: як жа абмінуць гэтую небяспеку, як вызначыць тую мяжу, за якою яна пачынаецца?

Рэцэпта, у якім дакладна было б сказана, якую дозу лірыкі ці публіцыстыкі трэба ўзяць, скажам, на адзін друкаваны аркуш дабротнай прозы, даць нельга. Адзіным дазатарам у гэтым выпадку служыць густ пісьменніка, тое пачуццё меры, якое ўласціва кожнаму мастаку.

Акрамя гэтага, ёсць яшчэ адна крыніца, з якой можна бясконца чэрпаць веды па ўсіх пытаннях пісьменніцкай практыкі — гэта вопыт майстроў нашай літаратуры.

«Пачакайце, — можа сказаць нецярплівы чытач. — Вы, здаецца, не па адрасу адсылаеце. Калі б гаворка ішла пра лірыку, то гэта зразумела. А то ж пра публіцыстыку... Хіба знойдзеш яе ў майстроў!..»

Так, знойдзеш. У Коласа, Шолахава, Лявонава, Фадзеева, Чорнага, Эрэнбурга і многіх іншых пісьменнікаў. У якой меры? Паспрабуем адказ на гэтае пытанне пашукаць у Міхаіла Шолахава — самага пераконанага эпіка. Паглядзім, як ён выкарыстоўвае публіцыстычныя фарбы.

«Ціхі Дон»... Адгорнеш старонку, другую, і на цябе павее гаркаватым пахам стэповых траў, недзе ля самага сэрца заплешчацца цёплая данская хваля... Натхнёны пясняр ціхага Дона возьме цябе ў палон і павядзе па тых сцежках, па якіх хадзілі яго шматпакутныя героі.

... Сваім спрадвечным рэчышчам павольна цячэ жыццё ў прыдонскім хутары. З усіх сіл цягне нялёгкую жыццёвую лямку Панцялей Пракопавіч; як працавітая мурашка, дзень пры дні не бачыць свету за работаю Ільінічна; ахопленая спапяляючым полымем позняга кахання, ганарліва носіць сваю прыгожую галаву Аксіння; у паху стэповых вятроў прагна ловіць пах Аксінніных гарачых вуснаў Грыгорый; горкімі слязамі аплаквае сваё растаптанае жыццё Наталля...

Здзіўляюча натуральна намалявана гэтая складаная карціна жыцця. Фарбы самых спакойных эпічных тонаў пакладзены густа і роўна; кожная рыска, кожная дэталь выпісаны старанна, з выключнай добрасумленнасцю. Таму героі



твора выглядаюць такімі жывымі людзьмі, што з імі нават хочацца загаварыць.

Вось самы малады парастак мелехаўскай сям'і — Дуняшка. Шырока раздзьмуўшы ноздры, яна стаіць пасярод база і прагна дыхае пасвяжэўшым перад навальніцай паветрам. На вуліцы васьмігадовы суседскі хлапчук Мішка ў непамерна вялікай бацькавай шапцы, якая спаўзае яму на вочы, прысядае на адной назе і пранізліва верашчыць: «Дожджык, дожджык, секані»... Дуняшка, якая яшчэ вельмі недалёка адышлася ад свайго дзяцінства, з зайздрасцю пазірае на босыя Мішкавы ногі, і ёй таксама хочацца мясіць вулічны пясок, мачыць галаву пад дажджом... Але ў акно пазірае маці, сярдзіта шлёпаючы губамі, і Дуняшка, уздыхнуўшы, бяжыць у курэнь...

Гэта — жывапіс...

Але вось над Доншчынай навісла другая, страшнейшая, навальніца. Сваё хатняе гора, якое тулілася па закутках казацкіх куранёў, звілося, сплялося з вялікім народным горам: пачалася імперыялістычная вайна.

З абжытых цёплых куранёў, з вузкіх хутарскіх сцяжынак пісьменнік выводзіць сваіх герояў на шырокія дарогі гісторыі. І адразу пачынаюць расшырацца рамкі мастацкага палатна, у мастака паяўляюцца новыя выяўленчыя прыёмы.

З растрывожаным жалем па ўсім цёплым, дамашнім, па кінутых плугах і косах, з заліхвацкай салдацкаю песняй, якая адна толькі і можа перасіліць смутак, ідзе казацкі полк на вакзал, грузіцца ў эшалоны. Пісьменнік глядзіць на гэтае шэсце з нейкай велізарнай вышыні, на якую падняў яго грамадзянскі гнеў; адтуль яму відаць не толькі тая дарога, якую топчуць капытамі казацкія коні, але і ўсе яе далёкія павароты; адтуль відзён і крывавы казацкі след на ёй. Вось чаму так усхвалявана, з такім болем і журбою пачынае гучаць звычайна спакойны, дабрадушны шолахаўскі голас:

«Эшелоны... Эшелоны... Эшелоны... Эшелоны несчетно! По артериям страны, по железным путям к западной границе гонит взбаламученная Россия серошинельную кровь».

Гэта — публіцыстыка. У руках вялікага майстра яна становіцца крылатай, агністай, відушчай, здольнай раскрыць самую сутнасць, самую «соль» падзей. Дык вось што яны такое, усе гэтыя станічнікі, чужою воляю загнаныя ў бясконцыя эшалоны — гэта шэрашынельная кроў, якою будуць заліты палі Усходняй Прусіі, Галіцыі, Польшчы, Беларусі, дзе палыхала зарыва імперыялістычнай вайны. Адзін удалы публіцыстычны штрых — і падзеі, адлюстраваныя ў творы, набываюць шырокае грамадскае гучанне.

Зрабіўшы неабходны акцэнт, Шолахаў зноў бярэцца за эпічныя фарбы, каб маляваць чалавечыя характары.

Напакутаваўшыся на вайне, не раз сустрэўшыся і размінуўшыся са смерцю, уважліва прыслухоўваецца Грыгорый да разважанняў камуніста Гаранжы аб тым, дзе, на чым баку праўда.

Непаваротлівым мужыцкім розумам імкнецца і не можа разабрацца ў складанасці падзей і Марцін Шаміль.

«— Все перепуталось в голове», — скардзіцца ён. — «Чума их разберет, кто из них виноватый!»

А пакуль гэта думалася, пакуль варочалася ў грудзях балючым клубком, смерць бязлітасна працярэблівала казацкія сотні, касіла чубатыя казацкія галовы.

І зноў голас пісьменніка пачынае наліваецца гневам і смуткам, зноў позірку мастака адкрываецца глыбокі трагічны сэнс падзей. Гарачае спачуванне чалавечаму гору знаходзіць выйсце ў палымянай публіцыстыцы:

«Ложились родимые головами на все четыре стороны, лили рудую казачью кровь и, мертвоглазые, беспробудные, истлевали под артиллерийскую панихиду в Австрии, в Польше, в Пруссии...

Цвет казачий покинул курени и гибнул там в смерти, во вшах, в ужасе».

Дзе б ні прабіваўся скрозь шчыльную эпічную тканіну твора гарачы струмень шолахаўскай публіцыстыкі, ён абуджае чалавечае ў чалавеку, трывожыць яго самыя высокія, грамадзянскія пачуцці. А прабіваецца на свет ён там, дзе бярэ свае вытокі тэма народнага і чалавечага лёсу.

Гарачае, узвышанае публіцыстычнае слова, як кроў па жылах, разносіць цеплыню па многіх старонках «Ціхага Дона». «... над намокшей в крови Белорусью скорбно слезились звёзды», — піша Шолахаў, і ў нашым уяўленні ўзнікае спакутаваны воблік усёй беларускай зямлі, здратаванай, знявечанай вайною. У гэтых скупых словах — вялікая настраёвая сіла.

Заканчваючы на высокай урачыстай ноце адны раздзелы твора, даючы шырокі запеў другім, шолахаўскія публіцыстычныя адступленні звязаны з асноўнай мастацкай тканінай твора глыбокай унутранай сувяззю. Глянеш звонку — гэтыя да чырвана распаленыя аўтарскім пачуццём радкі нібыта і «выбіваюцца» са спакойна-велічнай эпічнай стылявой плыні твора. Але гэта ўражанне толькі знешняе. Цяжка нават уявіць, наколькі пахаладнеў бы «Ціхі Дон» без той шолахаўскай цеплыні і мудрай развагі, якія скандэнсаваны ў публіцыстычных адступленнях, і наколькі быў бы прыглушаны без іх грамадзянскі голас пісьменніка.

Публіцыстыка з'яўляецца неад'емным элементам мастацкага каларыту аднаго з самых вялікіх эпічных палотнаў нашага часу — «Ціхага Дону».

Мастацкая публіцыстыка валодае багаццем фарбаў. Глыбока філасофскія публіцыстычныя адступленні ў «Вайне і міры» Талстога зусім не падобны да эмацыянальна ўзнятай публіцыстыкі ў «Маладой гвардыі» Фадзеева; стрыманы пафас «Буры» Ільі Эрэнбурга — да адкрытай патэтыкі ляонаўскага «Рускага лесу». На гэтым, апошнім, творы хочацца спыніцца больш падрабязна, бо вопыт работы Ляонава над грамадскім завастрэннем мастацкага слова ўяўляе вялікую цікавасць.

«Рускі лес» — гэта натхнёная песня аб Радзіме, аб велічы душы рускага чалавека, аб яго гарачым патрыятызме. Публіцыстычнасць тут праяўляецца ўжо ў самой грамадскай завостранасці тэмы. Ды і не толькі ў ёй. «Рускі лес» — твор наскрозь публіцыстычны ў самым высокім сэнсе гэтага слова. Мастацкая публіцыстыка ў ім вельмі арганічна сплавілася з эпасам: вырастаючы з глыбіні эпасу, яна ўзнімае, акрыляе яго.

У Шолахава публіцыстыка канцэнтруецца ў лірычных адступленнях; у Ляонава яна праступае ва ўсім: у вобразе, дэталі, пейзажы, у аўтарскім слове. І зусім не шкодзіць мастацкасці, а ўзмацняе.

Па разнастайнасці выкарыстання публіцыстычных фарбаў «Рускі лес» у поўным сэнсе слова твор наватарскі. У нашай прозе апошніх год не многа налічыш твораў, у якіх грамадзянскі пафас дасягаў бы такой вышыні, як у рамане Ляонава.

Так, як хлапчукі Іван Віхроў і Дзямідка Залатухін прасачылі нараджэнне лясной рачулкі Склані, можна прасачыць, як прабіваецца публіцыстычны струмень з самай глыбіні ляонаўскага эпасу.

Ляонаў-эпік малюе:

«Бор начинался прямо, без подлеска. Неохватные, стрела к стреле сосны возвышались там, как подпорки неба... Изредка проносились голубые стрекозы, как бы благовествуя близость воды; пчелы с разлету зарывались в пылающие костры кипрея, вокруг прошлогодних дровяных поленниц, и, похожие на сановников в бархатных камзолах, неторопливо сновали шмели. Низкая жильная струна пела в загустевшем медовом воздухе, пропитанном сверканием золотой пыльцы. И словно ведьма на празднике, стояла поотдаль зловещая, вся в синих лохмотьях, разбитая громом ель...



Вдруг необъяснимым холодком дохнуло в лицо...

Это был... родничок. Из-под камня в пространстве не больше детской ладони роилась ключевая вода. Порой она вскипала сердитыми струйками, грозясь уйти, и тогда видно было, как вихрились песчинки в ее размеренном, безостановочном биении... Отсюда начинался ручей, и сперва его можно было хоть рукой отвести, но уже через полсотни шагов рождалось его самостоятельное журчание по намытой щебенке».

Як гэта і бывае ў карціне эпічнага плана, аўтарскае пачуццё тут глыбока схавана ў вялікай выяўленчай сіле кожнай дэталі, кожнага слова. Сосны ўзвышаюцца ў бары, «как подпорки неба», крынічная вада «роится», «вскипает сердитыми струйками» і г. д.

Стварыўшы малюнак, выключны па сваёй сіле ўражання, пісьменнік нібы трохі аддаляецца ад яго, каб лепш разгледзець з адлегласці, якое ж месца ён займае ў агульнай карціне жыцця. І позірку мастака ўжо бачыцца не малое лонца крынічнага струменьчыка, а вялікая рака, якая паўкраіны поіць сваёй вадою, прынесенаю тысячамі струменьчыкаў. «Падпоркі неба» сосны зліваюцца ў магутны рускі лес, які паклаў свой адбітак на нацыянальны воблік рускага чалавека, на яго эканоміку і культуру, на ўвесь уклад яго жыцця.

Па меры таго, як расшыраецца поле зроку пісьменніка, як раскрываюцца яму не толькі сённяшні, але і заўтрашні дзень краіны, расце і яго гарачая зацікаўленасць у захаванні лясных багаццяў для будучых пакаленняў. Грамадская пазіцыя пісьменніка становіцца ўсё больш адкрытай, актыўнай, наступальнай, а яго грамадзянскі пафас знаходзіць выйсце ў палымянай публіцыстыцы.

Той жа Ляонаў, які, з велізарнай стараннасцю выпісваў пясчанае лонца крынічкі, пачынае класці на палатно ўсё буйнейшыя штрыхі. Думка пісьменніка ахоплівае ўсё большыя абсягі, пранікаючы да самых карэнняў грамадскага жыцця. Адсюль, з гэтай глыбіні, і пачынае біць струмень ляонаўскай публіцыстыкі:

«... лес встречал русского человека при появлении на свет и безотлучно провожал его через все возрастные этапы: зыбка младенца и первая обувка, орех и земляника, кубарь, банный веник и балалайка, лучина на девичьих посиделках и расписная свадебная дуга, даровые пасеки и бобровые гоны, рыбацкая шняка или воинский струг, гриб и ладан, посох странника, долбленая колода мертвеца и, наконец, крест на устланной ельником могиле... Не оттого ли, что слишком долго жили мы на полном лесном пансионе, так долго оставалась деревянной наша Русь?»

Вось так, праз вобраз «деревянной Руси» Ляонаў адным штрыхом акрэсліў цэлы перыяд у гісторыі грамадскага развіцця Расіі.

Публіцыстыка — мастацтва вобразнае. Што ж уяўляе сабою публіцыстычны вобраз, якая яго прырода?

На памяць адразу ўсплываюць вобразы: шолахаўскі — «шэрашынельная кроў», ляонаўскі — «драўляная Русь»... Яны звяртаюць на сябе ўвагу перш за ўсё вялікаю грамадскаю насычанасцю, шырынёю абагульнення і ўзнёсласцю. Эпічны вобраз мае ярка выражаную рэчавую, «матэрыяльную» абалонку. У ім думка праступае ў апаэтызаванай прадметнай форме. І сэнс гэтага вобраза заключаецца ў дасканаласці аўтарскага «апрадмечвання» думкі, у трапнасці жывой, канкрэтнай мастацкай дэталі.

Каб пераканацца ў гэтым, варта ўспомніць, як уяўляе сабе Пятро Мелехаў тое размежаванне ў асяроддзі казацтва, якое пачалося пасля рэвалюцыі:

«— Ты гляди, как народ разделили»... — гаворыць ён Грыгорыю. — «Будто с плугом проехались: один — в одну сторону, другой — в другую, как под лемешом».

Вялікі гістарычны працэс, што адбываўся ў жыцці, паўстаў ва ўяўленні Пятра ў звыклым вобра-

зе баразны, пракладзенай між людзьмі бязлітасным аратым — рэвалюцыяй.

Публіцыстычны вобраз, у адрозненне ад эпічнага, больш абстрагіраваны ад сваёй прадметнай асновы. Гэта — паэзія думкі. Іменна палёт думкі, яе акрылёнасць, яе вялікая грамадская насычанасць і глыбокая эмацыянальнасць кранаюць нас за жывое ў мастацкай публіцыстыцы.

Пры стварэнні публіцыстычнага вобраза аўтарскае натхненне сягае шырока, размашыста, збліжаючы і супастаўляючы з'явы, на першы погляд вельмі далёкія. Сэнс вобраза і заключаецца ў тым, што за гэтаю далёкасцю мастак угледзеў нікому не бачную сувязь паміж з'явамі і раскрыў яе. Гэтымі сваімі якасцямі мастацкая публіцыстыка блізкая да паэзіі.

Аснова публіцыстычнага вобраза вельмі шырокая. Часам ён з'яўляецца сінтэзам многіх эпічных вобразаў. У рамане М. Стэльмаха «Кроў людская — не вадзіца» чытаем:

«Избитый, ограбленный скоропреходящими властями, атаманами и разными батьками, без керосина, без соли, без спичек, без обуви, в грубой полотняной одежде, стоял мужик на путях истории, устремив взор в землю».

Каб стварыць гэты вобраз вялікай абагульняючай сілы, Міхайлу Стэльмаху трэба было глыбока асэнсаваць лёс усіх герояў рамана.

Цяпер паўстае пытанне: калі асноўнаю якасцю мастацкай публіцыстыкі з'яўляецца сінтэз, абагульненне, то ці могуць публіцыстычныя фарбы ўжывацца для стварэння мастацкага характару, дзе, як вядома, патрэбны самы дасканалы аналіз?

На гэтае пытанне можна адразу адказаць — могуць! — і спаслацца на творчы вопыт таго ж Леаніда Лявонава. Успомнім, як ён паказвае юнацкую непасрэднасць і наіўнасць Полі Віхровай, якая прыехала ў Маскву вучыцца з далёкае Янгі: «... всем им (масквічам. — **В. П.**) было лестно, что такая привлекательная девушка, как Аполлинария Вихрова, отныне поселится в их превосходном городе и станет вникать в разные полезные науки на радость маме, ленинскому комсомолу и всему их великому отечеству».

За гэтаю аўтарскаю дабрадушнаю ўсмешкаю праглядвае і нешта большае, чым Поліна наіўнасць. Яно адчуваецца яшчэ выразней, калі мы даходзім да таго месца, дзе Поля выказвае Наталлі Сяргееўне Залацінскай свае погляды на жыццё. З яе слоў вынікала, «как много предстоит ей сделать, чтобы не осрамиться перед лицом своего народа, и внести что-нибудь свое и новенькое в сокровищницу человеческой культуры, несколько подзапущенную, как она намекнула, по вине мирового капитализма».

Няхай гэтыя словы ўзяты напракат са школьнага падручніка, — у гэтым якраз і заключаецца сэнс лявонаўскай усмешкі, — але за імі стаіць чалавек з моцна развітым пачуццём свайго вялікага абавязку перад грамадствам, перад жыццём, з гарачым юнацкім жаданнем узяць на свае плечы самую цяжкую ношу. Выходзячы ў жыццё з такімі шчырымі намерамі, Поля сумленна хоча разабрацца, хто яна, што ў яе за душою і чым яна аддзякуе народу за тыя матэрыяльныя і духоўныя багацці, якімі карысталася пакуль што напавер.

Вобраз Полі Віхровай мастацкі ўвасобіў тое пакаленне нашай моладзі, грамадзянская сталасць якога выспявала ў суровыя і грозныя гады Айчыннай вайны. Адсюль ідзе тая абвостранасць грамадзянскіх пачуццяў, якая ўласціва Полі і Сяргею Віхровым ды Валі Чарняцовай. Акуляры ў залатой аправе могуць канчаткова скампраметаваць чалавека ў вачах камсамолкі Полі Віхровай, таму што «сам этот металл давно скомпрометировал себя в ходе политических событий». Шмат гаворыць аб маральнай чысціні і юнацкай наіўнасці Полі гэтая публіцыстычна завостраная дэталь. А такіх дэталей у творы многа. Пакідаючы Маскву, Поля бярэ з маскоўскага бруку маленькі, нагрэты сонцам каменьчык. Потым, калі яна трапіла ў палон, гэты каменьчык раскрывае нямецкаму афіцэру Кітэлю патрыятычную сутнасць характару рускага чалавека: за час вайны Кітэль не бачыў у сваіх салдат такіх сувеніраў.

Стары свет быў вядомы Полі Віхровай толькі па школьных падручніках. Яшчэ за школьнай партай яна навучылася ненавідзець яго. І вось у 1941 годзе ён паўстаў перад ёю, перад яе радзімай, як зусім рэальная вялікая пагроза. Поля пачала рыхтаваць сябе да сустрэчы з ім, разумеючы, што «это и будет ее экзамен на человеческое звание».

Цікава задуманы Лявонавым чыста публіцыстычны вобраз старога свету праходзіць праз увесь раман. Аб сустрэчы са старым светам з нянавісцю думае Поля Віхрова; аб яго жорсткасці пабацькоўску сурова папярэджвае Полю Асмінаў, пасылаючы яе ў варожы тыл; нарэшце, аб ім гаворыць, як аб жывой, рэальнай істоце сам аўтар: «... по ту сторону Пустошей раскинулся разбойным лагерем старый мир».

Але вось гэты вобраз Лявонаў пераносіць з публіцыстычнага ў эпічны план. Стары свет паўстае перад намі, увасоблены ў вобразе афіцэра нямецкай арміі Кітэля. І адразу становіцца шырэйшым пасля гэтага пераасэнсавання вобраза сам сэнс сустрэчы Полі Віхровай з Кітэлем: у дні вайны ў вайсковым бліндажы пад гул артылерыйскай кананады з нямецкім афіцэрам Кітэлем сустрэлася не проста палонная руская дзяўчынка з Масквы Поля Віхрова, — гэта стары свет, учарашні дзень чалавецтва, сустрэўся з заўтрашнім яго днём — са светам новым. За сценамі бліндажа спрэчка гэтых двух светаў вырашаецца сілаю зброі, а тут, у бліндажы, у суровым паядынку сышліся дзве волі, дзве маральныя сілы — сіла старога і сіла новага свету. Кітэль, паклаўшы перад сабою пісталет воранёнай сталі, ужо адчуваў сябе пераможцам. Але маленькі каменьчык з маскоўскай вуліцы, яшчэ сагрэты цяплом Полінай рукі, адкрыў яму суровую праўду: ён пераможаны. І не сілаю зброі, а веліччу духу простай савецкай дзяўчыны.

Вось на якую вышыню мастацкага абагульнення падняла вобразы Полі Віхровай і Кітэля публіцыстыка. Ды ці толькі іх! Публіцыстычныя фарбы садзейнічаюць шырыні абагульнення пры абмалёўцы вобразаў Івана Віхрова, Грацыянскага, Наталлі Сяргееўны і іншых герояў рамана. Іменна «садзейнічаюць», бо які з гэтых вобразаў мы ні ўзялі б, у кожным з іх шырыня і грамадская завостранасць абагульнення грунтуюцца на трывалай эпічнай аснове, вырастаюць з яе.

Да мастацкай публіцыстыкі звяртаўся і такі вялікі майстар прозы, як Кузьма Чорны. Публіцыстычныя фарбы мы знаходзім у раманах «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне» і іншых творах пісьменніка. І як расшыраюць яны грамадскія гарызонты гэтых твораў, як узносяць на вышыню вялікага мастацкага абагульнення карціны жыцця, створаныя ўмелаю рукой Чорнага-эпіка!

Вось як Чорны малюе тое вялікае ўтрапенне, якое прынесла людзям вестка пра вайну.

Спачатку перад намі — Гушкаў хутар. Загаласіла, заламала рукі Гушкава жонка — забяруць у войска Адася, ён жа цяпер расійскі падданы. Збялеў, як палатно, Леапольд Гушка: «ён адно чуў, як нешта цяжкое навалілася яму на грудзі і не дае дыхнуць». Унурыўшы галаву, моўчкі стаяў Павел Няміра...

Але не толькі гэтым людзям прынесла боль вайна. Пісьменнік разгортвае карціну шырэй, і перад намі ўжо цэлы натоўп людзей, якія сабраліся каля гарадской ратушы. На ганку ратушы прыстаў вычытвае з паперкі казённыя, халодныя словы пра тое, што «ўсе павінны пранікнуцца духам патрыятызму, духам вялікай Расіі»... А побач з ім стаяць тыя, дзеля чыёй карысці трэба пранікацца гэтым духам, — валасны старшыня, Сурвіла, поп...

«Натоўп у гэтую хвіліну быў маўклівы. Зрэб'е, шарачак, лыка, злямцаваная кудзеля зліваліся ў шчыльную сцяну. Вочы, вочы, во-

чы — пакутны позірк анямеў на твары вялікага натоўпу».

Усхваляваны да глыбіні душы невымоўным людскім горам, пісьменнік узносіцца ў думках над гэтым натоўпам людзей, і яго ўяўленне малюе карціну яшчэ больш шырокую:

«Гэта быў малюнак таго дня па ўсёй Еўропе... Стаяў расійскі народ, стаялі іншыя народы, з'яднаныя абцугамі пад сцягам Расійскай імперыі. Іх гналі заваяваць сабе старое права: з жабрачымі торбамі на плячах дагніць свой век у вялікай турме і перадаць гэтае права дзецям».

Такім магутным публіцыстычным акордам заканчваецца першая частка рамана «Бацькаўшчына».

Каб намаляваць вялікае чалавечае гора, выкліканае вайной, К. Чорнаму дастаткова было паказаць толькі Гушкаву сям'ю або той вялікі натоўп перад ганкам ратушы, аб якім гаварылася вышэй. Але мастак хацеў сказаць большае: яму хацелася паказаць не толькі чалавечае, але і народнае гора, раскрыць, у імя чаго пачата крывавая бойня і падняць свой голас пратэсту супраць яе. У гэтым яму і дапамагла мастацкая публіцыстыка. Адкіньце гэты, апошні, абзац, і вы адразу пераканаецеся, што карціне, намаляванай пісьменнікам, не будзе ставаць глыбокага мастацкага абагульнення.

Вялікі гуманіст, К. Чорны ўсёй сілай свайго таленту змагаўся за вызваленне чалавечай душы ад ненавісных путаў уласніцтва. У гэтай барацьбе ён звяртаўся да гарачага публіцыстычнага слова, і яно служыла яму, як скальпель хірургу, ускрываючы да самых глыбінь гнайнікі ўласніцкай душы. Хто чытаў «Трэцяе пакаленне», мусіць, добра памятае, з якою глыбінёю ўскрыта ў гэтым творы сацыяльная прырода ўласніцтва, яго вытокі, яго тэндэнцыі. Глыбокі псіхалагічны аналіз вобраза Міхала Тварыцкага завершаны вострым публіцыстычным штрыхом — прамовай Кандрата Назарэўскага на судзе. У выніку вобраз Міхала набыў яшчэ больш шырокі абагулены сэнс.

Можа здацца супярэчлівым тое, што Кузьма Чорны, паспяхова карыстаючыся публіцыстыкай у сваёй мастацкай практыцы, «ваяваў» супраць яе ў тэарэтычных выказваннях. Ён пісаў: «Трэба да канца выгнаць публіцыстычнасць адтуль, дзе развіваецца сістэма вобразаў».

Тут неабходна ўлічваць спецыфічнасць, нават некаторую адвольнасць чорнаўскага разумення публіцыстычнасці. Справа ў тым, што пад гэтым словам ён разумеў прасталінейную газетную скорапісь, ідэйныя схемы характараў у творы, спрошчанасць у адлюстраванні жыцця.

Чорны, як мастак-аналітык асабліва востра адчуваў, якую небяспеку для мастацкага твора ўяўляе спрошчанасць, павярхоўнасць, схематызм. Вось чаму ён так непрымірыма змагаўся з гэтым злом.

У чым жа заключаецца гэтая спрошчанасць і схематызм, якія ў нас звычайна называюць публіцыстыкай?

Па-першае, у спрошчаным і лёгкім вырашэнні складаных жыццёвых канфліктаў. Тут часам можна сустрэць і анекдот: малады пісьменнік спрабуе ўладзіць сур'ёзны жыццёвы канфлікт, які ўзнік паміж героямі яго твора — мужам і жонкаю, тым, што раіць ім завесці сваю бібліятэку: маўляў, чым мелі сварыцца, — лепш кніжкі чытайце...

Сюжэтная схема «публіцыстычнага» твора прыкладна такая: рацыяналізатар вынайшаў новае прыстасаванне, кансерватары не даюць яму ходу, у гэтую справу ўмешваецца парторг або камсамольцы, і ўсё вырашаецца найлепшым чынам.

Безумоўна, канфлікт гэты ляжыць у рэчышчы канфліктаў нашага часу — новае заўсёды прабівае сабе дарогу ў барацьбе са старым, і ў нашым грамадстве гэтаму новаму ўсямерна дапамагаюць прабіцца на свет і партыя, і камсамол. Але тут справа не ў характары канфлікту, а ў тым, як ён раскрываецца. На такім канфлікце пабудаваны і «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай і «Шукальнікі» Д. Граніна і іншыя творы. Але справа ў тым, што Нікалаева і Гранін глыбока і ўсебакова даследавалі гэты канфлікт і раскрылі яго праз мастацкія характары. Уся ж бяда так званых «публіцыстычных» твораў якраз у тым і заключаецца, што тут няма мастацкіх характараў: іх замяняюць схемы — наватара, кансерватара, парторга, падобныя на сапраўдных наватараў і парторгаў, як лялька на жывога чалавека.

Надуманасць, штучнасць таксама з'яўляецца адзнакай схематызму. Больш таго, ненатуральнасць і вынікае са схемы. Вось, напрыклад, у нейкіх там абставінах пісьменніку прыйшло на думку параўнанне паміж почыркам чалавека ў звычайным, школьным разуменні гэтага слова і яго «почыркам» у жыцці, у тых справах, якія ён здзяйсняе. Гэтае параўнанне ўявілася пісьменніку настолькі красамоўным, абагульняючым, што ён піша апавяданне пра старога настаўніка, які ганарыцца сваімі вучнямі: іх почырк у жыцці гэткі ж цудоўны, як быў некалі ў сшытках. Надумана? Так. І прасталінейна. І самае небяспечнае тут тое, што схематызм задумы цягне за сабой схематызм у абмалёўцы вобразаў, бо пісьменнік толькі пра тое і дбае, каб як «уціснуць» героя ў рамкі сваёй схемы.

Міхася Даніленку, аўтара апавядання «Цудоўны почырк», відаць, спакусіла шырыня аналогіі — почырк у сшытку і «почырк» у жыцці. На самай жа справе аналогія гэтая — вельмі прасталінейная.

Адбітак надуманасці ляжыць і на апавяданні Васіля Быкава «След на зямлі». Пісьменнік вельмі патрабавальны да сябе, чулы да ўсякай ненатуральнасці, Васіль Быкаў на гэты раз не змог абмінуць небяспекі, якая таілася... у прыгожым слове.

Паспрабуем разабрацца, што ж псуе гэтае добра задуманае апавяданне.

У «Следзе на зямлі» апавядаецца пра тое, як маладая, бесклапотная, не вельмі звыклая да працы дзяўчына ўпершыню адчула, што ёй нестае нечага вельмі істотнага, важнага, радаснага, без чаго нельга жыць. І апавядаецца пра гэта спачатку хораша, псіхалагічна тонка, як наогул умее апавядаць Васіль Быкаў.

У сваёй гарадской кватэры засталася рыхтавацца да пераэкзаменоўкі па музыцы шаснаццацігадовая Галя. Вельмі ўмела малюе пісьменнік Галіну бесклапотнасць. Час ад часу яна пакідае апрыклыя ноты і пазірае на вуліцу. Там ідзе сваёю чаргою будзённае, працоўнае жыццё. Ля вялікага асфальтавага катла завіхаюцца двое рабочых. Яны збіраюцца асфальтаваць вуліцу насупраць Галінага дома. Карціна іх працы намалявана пісьменнікам вельмі выразна, з вялікай любоўю.

«Стоячы паабапал катла, яны даўжэзнымі лапатамі мяшалі ў ім. Гэта, відаць, было вельмі цяжка. Стары, падобны на жука ў сваёй зашмальцаванай чорнай вопратцы, неяк па-маладому зухавата арудаваў лапатай. Напружваючыся з усяе сілы, ён уладарна выварочваў тронак пад сябе, перамешваў у катле смалістую кашу, крактаў ад напружання і задавальнення і варочаў зноў. Малады, з другога боку, мабыць яшчэ з большай заядласцю рабіў тое ж, намагаючыся болей рукамі. На яго загарэлай спіне ад вялікай натугі цвёрдымі жаўлакамі варушыліся цягліцы.

— Пры-смылела, пры-кіпела, нада-ела — павяр-нісь! — прыпяваў стары, і хлопец, аж ззяючы бліскучым ад поту тварам, радасна варочаў дымнае, чорнае месіва».

Растрывожаная нейкім нязнаным раней пачуццём, Галя адышла ад акна. У глыбіні яе душы «ўзнікла і тлела нейкае невыразнае жаданне, цьмяная незадаволенасць нечым у жыцці, імкненне кудысьці да лепшага».

Галя села за піяніна. Забыўшыся на гамы, яна зайграла любімы Пракоф'еўскі «Вальс». Невядома, колькі яна грала, а калі зноў выглянула ў акно, то сустрэлася з усхваляваным сінім хлапечым позіркам.

«— Што... усё? — спытаўся хлопец, і лёгкае шкадаванне адбілася ў яго светлых вачах».

Галя ўпершыню адчула, што гэ-

так жа, як ёй патрэбна праца тых людзей за акном, ім патрэбна яе праца, яе музыка. Ёй стала сорамна за сваю пераэкзаменоўку.

Потым Галя бачыла, як стары разгортваў прывезены самазвалам пясок, а малады ганяў тачку, напоўненую дымным асфальтам, з такою ахвотаю, нібы гэта была самая прыемная работа на свеце.

Галя зусім прыціхла, прыслухоўваючыся да таго, што адбывалася ў яе душы. Яна перагортвала свае ноты, «якія цяпер чамусьці набылі новы, куды больш значны сэнс».

Вось так, ад адной дэталі да другой натуральна цякла плынь апавядання. Але раптам пісьменнік спахапіўся, што недастаткова «перавыхаваў» сваю гераіню, і пачаў рабіць адну нацяжку за другой. Паглядзеўшы на роўную паласу асфальту, Галя зусім расчульваецца і бяжыць у гародчык ламаць вяргіні: ёй захацелася паднесці букет асфальціроўшчыкам. Выбегшы на вуліцу, яна бачыць застыглы на свежым асфальце чалавечы след.

«След на зямлі! Як гэта важна — след на зямлі», — думае яна.

Ці натуральны для Галі такі раптоўны ўзлёт «да вяршынь свядомасці»? Ці не хапіла б з яе для пачатку той збянтэжанасці, той незадаволенасці сабою, той падсвядомай радасці, якую адчула яна, нечакана знайшоўшы тое самае важнае, без чаго жыццё траціць свой сэнс? Думаецца, хапіла б. Нацяжка, якую зрабіў пісьменнік, «падточвае» натуральнасць вобраза. Ад Галіных урачыстых слоў павявае дэкламацыяй, а не шчырым пачуццём.

Ды і сама гэтая дэталь — чалавечы след на асфальце або на раллі — даўно страціла сваю мастацкую навізну ад узмоцненай «эксплуатацыі» нарысістамі.

І ўсё ж, пры ўсёй сваёй няўдаласці канцоўка апавядання «След на зямлі» раскрывае перад намі цікавую з'яву, Васіль Быкаў, аўтар «Жураўлінага крыку», «Патрулёў», «Няўломка» і іншых падкрэслена-эпічных твораў, спрабуе неяк падняць намаляваную карціну жыцця на ўзровень грамадскі завостранага абагульнення. І няхай на першы раз яму гэта зрабіць не ўдалося, усё ж напрамак яго пошукаў, думаецца, правільны. Іменна на шляху да глыбокіх мастацкіх абагульненняў проза Васіля Быкава набудзе тую акрылёнасць, якой ёй пакуль што крыху нестае.

Павучальны ў сэнсе выкарыстання публіцыстычных фарбаў творчы вопыт Івана Шамякіна. Адкрытая, высокая тэндэнцыйнасць — адметная рыса ўсіх яго твораў, пачынаючы ад «Глыбокай плыні» і канчаючы тэтралогіяй «Трывожнае шчасце». Пісьменнік часта і ахвотна карыстаецца выяўленчымі прыёмамі мастацкай публіцыстыкі. Публіцыстычныя фарбы мы знаходзім як у аўтарскіх лірычных адступленнях, так і ў абмалёўцы вобразаў.

Іван Шамякін умела выкарыстоўвае глыбокую пранікнёнасць мастацкай публіцыстыкі. Публіцыстычным акордам заканчваецца адзін з самых драматычных эпізодаў аповесці «Начныя зарніцы», у якім расказваецца аб сустрэчы Лялькевіча, Сашы і Даніка з маткай Цішкі Матыля, які загінуў у час баявой аперацыі. Баючыся, што цётка Матыліха не перажыве смерці адзінага сына, Данік ледзь вымаўляе словы святой няпраўды:

«... ён... ён пайшоў з партызанамі...

— Ах, божачка мой! Дзіцё горкае! — у голасе маці былі спалох, здзіўленне і адначасова гонар за сына. — ... росціш, росціш іх, а яны слова маці не скажуць... Ну, няхай толькі вернецца, я яму пакажу, не пагляджу, што партызан...

Саша зацiснула пялёнкай рот, каб не застагнаць. Яна зноў чула голас Цішкі, яго апошнія словы: «Мама! Мама!»

Мама! Так вайна забірала тваіх сыноў!»

Гэты маленькі, але яркі публіцыстычны штрых неяк адразу расшырае рамкі аднае падзеі, узнімаючы яе да ўзроўню шырокага абагульнення. У шчырай спагадзе маці, якая страціла адзінага сына, адчуваецца гарачае чалавечае спачуванне ўсім мацярам, у якіх вайна забірала іх надзею — сыноў.

Іван Шамякін смела ўводзіць мастацкую публіцыстыку і ў батальны жывапіс, ствараючы з яе дапамогай карціны, незабыўныя па сіле ўражання.

«Снег і агонь... Агонь і снег... Агонь на зямлі ад выбухаў бомбаў, бясконцых залпаў гармат. Калі яны на нейкі час сціхаюць, снег усё адно гарыць — свіціцца блакітным водбліскам ад пажараў, што шугаюць у горадзе. А калі і пажараў няма, агонь застаецца ў стомленых, запалёных вачах... Неба, дай адпачынак! Але і там агонь...»

Вышэй гаварылася аб блізкасці мастацкай публіцыстыкі да паэзіі. Гэтая блізкасць асабліва адчуваецца ў прыведзеных радках з аповесці «Агонь і снег»: яна — у высокай паэтычнасці мастацкіх асацыяцый, у глыбіні іх падтэксту. Пісьменнік ні слова не гаворыць пра чалавечыя пакуты на вайне, але мы іх глыбока адчуваем чытаючы, як гарыць тут падпалены пякельным полымем снег. Нібыта нічога не сказана і пра свяшчэнны гнеў, што гарэў у душах салдат, але і нас ён апякае сваім гарачым подыхам, калі мы чытаем пра нязгасны агонь у запалёных салдацкіх вачах.

На жаль, у тэтралогіі «Неспакойнае шчасце» не ўся публіцыстыка з'яўляецца мастацкай. Тут трапляецца яна і не мастацкая, а звычайная, газетная. Праяўляецца **яна ў спрошчанасці,** прасталінейнасці **некаторых мастацкіх** вобразаў. Вобраз Любы, напрыклад, намаляваны па прасталінейнаму кантрасту з Сашай: Саша ўсю сваю душу ўкладвае ў работу, трывожыцца за кожнага хворага, а Люба лёгкадумна разважае: «Напрацуюся яшчэ... Чорт не схопіць гэтых хворых»; Саша падала ў ваенкамат заяву, каб яе паслалі на фронт, Люба ж маладушна прызнаецца Пятру: «... баюся, каб мяне не ўзялі ў армію»... Кожнай станоўчай якасці ў характары Сашы знаходзіцца адпаведная адмоўная якасць у Любы. Не дзіва пасля гэтага, што вобраз Любы атрымаўся мастацкі бездапаможным, схематычным.

Сустракаецца ў творах І. Шамякіна і павярхоўная дэкларатыўнасць замест глыбокага мастацкага раскрыцця пэўных рысаў чалавечага характару, сухая «інфармацыя» аб чалавечых пачуццях замест глыбокага раскрыцця гэтых пачуццяў. Так, у аповесці «Непаўторная вясна» мы чытаем:

«Яны (Пятро і Саша.— **В. П.**) зноў гутарылі пра будучыню, спрачаліся, па-рознаму ўяўляючы, ці, правільней кажучы, уяўляючы даволі туманна, кніжна. Але, нягледзячы на гэта, размова надзвычай акрыліла Пятра, напоўніла самымі лепшымі надзеямі. Ён, як кажуць, узнёсся на сёмае неба».

Нагаворана многа, а сказана мала. І галоўнае — непераканаўча. А ў другім месцы гэтае ж аповесці І. Шамякін вельмі хораша паказаў, — адным штрыхом! — як сапраўды ўзносіцца на сёмае неба той жа Пятро Шапятовіч. Малады муж, нават крыху ачмурэлы ад свайго шчасця, самаўпэўнены і горды, ён з выглядам пераможцы кідае свайму нядаўняму саперніку Лялькевічу пагардлівыя, насмешлівыя словы:

«— Як справы, таварыш педагог?.. Як адчувае сябе ваша матэматыка?»

Вось дзе ўзлёт на сёмае неба: у гэтым хлапчукоўскім нястрымным блазенстве!

Тады, калі пісьменнік глыбока заглядвае ў душу свайго героя і адкрывае ў ёй нейкія вельмі характэрныя для гэтага героя пачуцці, ён знаходзіць і яркае мастацкае слова для раскрыцця гэтых пачуццяў. Няўважлівасць да душэўнага стану героя цягне за сабою і няўважлівасць да слова. Нездарма ж нязграбныя моўныя канструкцыі накшталт: «па-рознаму ўяўляючы... ці, правільней кажучы, уяўляючы... Але нягледзячы» і г. д. паяўляюцца звычайна там, дзе бываюць прабелы ў глыбокім мастацкім даследаванні характару.

Слабыя бакі прозы Івана Шамякіна паходзяць ад аднаго кораня з яе моцнымі бакамі. Іван Шамякін — вялікі майстар сюжэта. І там, дзе ён пачынае «злоўжы-

вацъ» гэтым сваім майстэрствам, — некуды на другі план адыходзіць глыбокі псіхалагічны аналіз характару, а на першы план выступаюць вострыя сюжэтныя сітуацыі, часам нават разлічаныя на тое, каб у чытача «аж заняло дыханне». Такое злоўжыванне вастрынёю сюжэтных сітуацый асабліва прыкметнае ў апошняй частцы тэтралогіі. Іменна па гэтай прычыне вобраз Пятра Шапятовіча, узняты ў аповесці «Агонь і снег» на вялікую вышыню мастацкага абагульнення, у «Пошуках сустрэчы» неяк здрабняецца, прызямляецца, а разам з гэтым ідзе на спад і грамадзянскі пафас твора.

Талент Івана Шамякіна мае нахіл да публіцыстычнасці ў шырокім сэнсе гэтага слова. Кіруючыся на публіцыстыку мастацкую, высокія ўзоры якой створаны ў аповесці «Агонь і снег», пісьменніку трэба вызваляцца ад «публіцыстыкі» газетнай, якая наносіць шкоду мастацкай каштоўнасці яго твораў.

Абвостранасць грамадзянскіх пачуццяў арганічна ўласціва светаадчуванню савецкага чалавека. Усведамленне таго, што наша дзяржава — найлепшая ў свеце, не можа не выклікаць у нас пачуцця вялікай гордасці. Радзіма, двойчы адваяваная цаною крыві і пакут у спусташальных войнах, адбудаваная нашымі рукамі, бясконца дарагая і любая нашаму сэрцу. Не заўважыць гэтай асаблівасці светаадчування савецкага чалавека — значыць, не да канца зразумець яго, не ўбачыць у яго душы нечага вельмі істотнага і важнага.

Іменна адсюль, з гэтае асаблівасці светаадчування савецкага чалавека, і вынікае высокі грамадскі пафас аповесці Янкі Брыля «Апошняя сустрэча».

Грамадская завостранасць тэмы — з'ява не новая ў творчасці Янкі Брыля. Доказам гэтага могуць служыць аповесці «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Сірочы хлеб» і іншыя творы пісьменніка. Новае ў аповесці заключаецца ў тым, што тут грамадзянскі голас пісьменніка прабіўся з глыбіняў падтэксту і загучаў на поўную сілу — адкрыта і палымяна.

«Апошняя сустрэча» — твор высока тэндэнцыйны. У ім выкрываецца нікчэмнасць і фарысейства мяшчан, якія ставяць сябе «над палітыкай». Ужо сама вастрыня пастаноўкі пытання патрабавала ад пісьменніка публіцыстычных фарбаў. І Янка Брыль смела ўводзіць іх у мастацкую тканіну свайго твора. Намаляваўшы, напрыклад, вобраз Мукасея яркімі эпічнымі фарбамі, пісьменнік заканчвае яго такім абагульняючым публіцыстычным штрыхом:

«Кулак, узброены матацыклам, электралямпачкай і радыёпрыёмнікам, сляпы, няўдзячны падлюга, які, спажываючы дары сацыялізма, не жыве, а ўсё мацуецца якнебудзь «пераждаць», «дажыць», прыстасоўваецца да той магічнай «перамены», якая, як яму здаецца, прыйдзе, нарэшце, на кліч яго аброслай шчэццю душы эгаіста, уласніка».

Суровым прысудам ідыёцкі прагнаму, агіднаму ўласніцтву гучаць поўныя нянавісці і гневу словы пісьменніка.

Публіцыстычныя фарбы ўзбагацілі мастацкую палітру Янкі Брыля, надалі яго твору высокае грамадскае гучанне.

Працэс глыбокага пранікнення мастацкай публіцыстыкі ў сучасную прозу не ўяўляе для яе ніякай небяспекі. Наадварот, проза ўзбагачаецца вялікімі дадатковымі выяўленчымі сродкамі, становіцца больш грамадскі насычанай, дзейснай, баявой.





# ДАРОГА ІДЗЕ ПРАЗ БРЭСТ

Тэкст і фота А. Дзітлава.

Брэст часам называюць горадам сустрэч і расставанняў. Гэта — галоўны пункт транзіту на геаграфічным рубяжы паміж Усходам і Захадам. Яго чыгуначным вакзалам карыстаюцца і кіраўнікі дзяржаў і звычайныя турысты. Яго паласаты шлагбаум на шасе Варшава — Масква падымаецца, каб прапусціць камфартабельныя аўтобусы, якія ідуць з Лондана і Парыжа, аўтапаязды з Прагі і маленькія — на два месяцы — аўтамабільчыкі з Гамбурга, Рыма... Сталявар-свердлаўчанін едзе падлячыцца ў Карлавы Вары праз — Брэст. Ленінградскі архітэктар, які вырашыў у часе адпачынку пазнаёміцца з тым, як працуюць яго польскія калегі, едзе ў Варшаву абавязкова праз Брэст.





## У крэпасці

Кожны, хто прыязджае ў гэты горад, з хваляваннем спяшаецца наведаць крэпасць. У ёй — музей.

У музеі, здаецца, сабрана ўсё, што можна было сабраць аб легендарных абаронцах Брэсцкай крэпасці.

Зброя, сцягі, адзенне, дакументы, партрэты герояў...

Вось з аднаго фотаздымка глядзіць на нас малады чалавек у форме ваеннага лётчыка. Пад партрэтам надпіс:

«Камандзір звяна 123 знішчальнага авіяпалка лейтэнант Рабцаў Пётр Сяргеевіч. 22 чэрвеня 1941 года ў 10 гадзін раніцы камуніст Рабцаў, патраціўшы ўвесь боекамплект у няроўным баі з ворагам, не лічачыся з небяспекай для жыцця, павёў свой самалёт на праціўніка і, зрабіўшы таран, прымусіў яго абломкамі ўпасці на зямлю. Загінуў 31 ліпеня 1941 года, прыкрываючы паветраныя подступы да Ленінграда».

22 чэрвеня. Дзесяць гадзін раніцы. Ці не першы гэта таран ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны?..

У адным з памяшканняў крэпасці ўзвышаецца манументальная скульптурная група. Яна названа коратка:



«Героі Брэста». Лепш за ўсякія словы гэтая скульптура расказвае аб іх неўміручым подзвігу.

На сустрэчу з вечна жывымі героямі абароны Брэста ідуць і ідуць людзі. Падоўгу стаяць яны перад урачыстай скульптурай. Прыходзіць сюды і аўтар скульптуры — Юры Іваноў. Час ад часу яму даводзіцца папраўляць пашкоджанні, якія прыносіць скульптуры, выкананай у гіпсе, час.

### Сябры сустракаюцца зноў

У цэнтры Брэста, побач са старым памяшканнем сярэдняй школы № 3, вырас вялізны корпус прамысловага прадпрыемства. Будаўнікі яшчэ не пакінулі яго, а брыгады мантажнікаў ужо заняты ўстаноўкай абсталявання. Ідзе барацьба за тое, каб да канца года новае прадпрыемства выпусціла першую прадукцыю. Гэта будзе другі па ліку беларускі дывановы камбінат. Пуск яго — вялікая падзея не толькі ў жыцці горада, але і рэспублікі.

На камбінаце ўзнікне буйнейшы ў горадзе маладзёжны рабочы калектыў. Сюды сцякаюцца маладыя рабочыя, тэхнікі, майстры. Многія дзяўчаты, скончыўшы школу, паступаюць на спецыяльныя курсы, каб атрымаць новую для Брэста прафесію ткачыхі.

Мы разгаварыліся з маладым механікам Юрыем Трэпавым, які збіраў ткацкі станок.

Пасля заканчэння маскоўскага механічнага тэхнікума ён тры гады працаваў у адным з рамесніцкіх вучылішчаў, а калі пачалося ўкамплектаванне штатаў камбіната, адразу ж перайшоў сюды.

— Што ні кажыце, а вялікая гэта справа — працаваць на буйным прадпрыемстве, — гаворыць ён.

— А дзе вы вучыліся да паступлення ў маскоўскі тэхнікум?

— Тут, у Брэсце. Вось побач, у трэцяй школе... Нас трое з гэтай школы... Атрымалі атэстаты сталасці, павандравалі па розных месцах і сустрэліся тут, на мантажы. Хочаце, пазнаёмлю?..

І вось перад вамі на здымку сябры, якія сустрэліся на будаўніцтве камбіната: (злева направа) Яўген Кароль, які ў свой час скончыў брэсцкі чыгуначны тэхнікум, а потым прайшоў курсы памочнікаў майстроў ткацкай вытворчасці, Юры Трэпаў (з ім мы ўжо знаёмы) і Кім Лапацін, які скончыў тыя ж курсы.

Іх сустрэча — маленькае звяно ў вялікім ланцугу сустрэч, якім суджана яшчэ адбыцца на камбінаце.







### Міжнародная...

Сярод брэсцкіх рабочых калектываў буйнейшым з'яўляецца калектыў чыгуначнікаў. Ён здаўна славіцца самаадданаю працай шматлікіх маладзёжных брыгад і змен. Адна такая камсамольская змена створана на ўчастку станцыі Брэст, у канторы перадач. Тут адбываецца абмен грузамі з польскімі чыгуначнікамі.

Мы прысутнічалі пры складанні дакументаў пасля таго, як старшы камерцыйны агент камсамольскай змены Уладзімір Спаткай і яго польскі калега Станіслаў Лукашэвіч (на здымку крайні справа) агледзелі састаў, які перайшоў цераз граніцу. У часе гэтай міжнароднай сустрэчы размова вялася адначасова на трох мовах—беларускай, польскай і рускай. У ёй, акрамя названых вышэй асоб, з савецкага боку ўдзельнічалі: тарыфазнаўца Марыя Багдановіч (злева) і камерцыйны канторшчык Ларыса Новік.

Калі афіцыйная тэма размовы была закончана, польскі госць спытаў:

— Ну, а што мы будзем рабіць сёння пасля змены?

Марыя яму адказала:

— Усе разам пойдзем у кіно. А пасля кіно пажадаем вам шчаслівай дарогі дадому, заграніцу.

— Вельмі добра! — ускліхнуў Станіслаў.

Такім чынам, у гэтай чыста дзелавой сустрэчы вечарам быў яшчэ чыста таварыскі працяг.

### Чырвоныя лініі

На сцяне — геаграфічная карта свету. З адной кропкі на еўрапейскім кантыненце працягнуліся ва ўсе канцы чырвоныя лініі. Яны вядуць амаль ва ўсе вялікія гарады Савецкага Саюза, у Антарктыду, на востраў Чатам, у Коста-Рыку... Адна з гэтых ліній, якая з'явілася нядаўна, цягнецца да балгарскай сталіцы. У Сафіі жыве радыёаматар Грыгоры, вядомы ў эфіры з пазыўнымі VХ3ЗЮ. А ў пункце, адкуль разбегліся па карце чырвоныя праменні,— другі радыёаматар. Перад тым, як назваць сваё імя, ён гаворыць, як заклінанне:

— УЦ2КСА.

Гэта — адзін з маладых апаратараў калектыўнай станцыі Брэсцкага радыёклуба Генадзі Райчанка.

Лініі праведзены па слядах радыёсувязей, якія ўдалося ўстанавіць брэсцкім аматарам. Пра свае магчымасці яны гавораць так:

— Дванаццаць тысяч кіламетраў — гэта не цяжка! Вось да вострава Чатам дзевятнаццаць тысяч, і мы размаўлялі з ім...

Па многіх кірунках сувязі рэгулярна паўтараюцца. Радыёаматары розных краін і кантынентаў сустракаюцца ў эфіры, пытаюцца аб здароўі адзін другога, выказваюць добрыя пачуцці. Адна з такіх сустрэч паказана на нашым здымку.

Брэст — Сафія. Генадзі адказвае свайму сябру. Вядома, шкада, што яны не бачаць адзін аднаго, і яшчэ больш шкада, што мы не можам паказаць вам балгарына. Але сустрэчы ёсць су-



стрэчы, нават калі яны адбываюцца без поціскаў рук. Важна, што ў выніку нават такіх «эфірных размоў» зямны шар пераплятаецца ўсё большай і большай колькасцю чырвоных нітак дружбы.



**Пачатак дружбы**

Люда Дзячэнка не памятае, каб да гэтага дня хто-небудзь называў яе па бацьку. А тут раптам:

— Людміла Андрэеўна, а там рыбу лавіць ёсць дзе?.. Людміла Андрэеўна, а мы да пагранічнікаў пойдзем?.. Людміла Андрэеўна...

— Не хвалюйцеся, усё будзе так, як вы хочаце, — супакойвае Люда. — Лагер размешчаны на беразе Белага возера, акунёў і плотак там вельмі многа. А калі захочаце, можам схадзіць яшчэ на адно возера.

— А як яно называецца?

— Возера Тайнае.

— А чаму яно так завецца?

— А гэта — сакрэт. Вось сходзім у паход, можа самі разгадаеце.

— Цікава!

Люда Дзячэнка, студэнтка Брэсцкага педагагічнага інстытута, павінна стаць старшай важатай у піянерскім лагеры. І вось яна вырашыла правесці «разведку»: чым цікавяцца дзеці. Ёй жа трэба будзе сябраваць з імі. І вось перад вамі — пачатак яе сяброўства з будучымі выхаванцамі. Сярожа Уксусаў і Тарас Юркевіч рыхтуюцца паехаць толькі ў «яе» лагер.

**Таямніца...**

Яшчэ адна сустрэча. Яе не трэба было доўга шукаць. Цяжэй было атрымаць дазвол зняць вечка з аб'ектыва... Гэта адзіная сустрэча людзей, чые імёны і прозвішчы застануцца таямніцай для чытача. Прычына, спадзяемся, тут зразумелая...








Кадр з кінафільма «Першае выпрабаванне».

# ЗАГЛЯНЕМ НА КІНАСТУДЫЮ

На кінастудыі «Беларусьфільм» за апошні час было шмат творчых удач, хоць, праўда, здаралася і адваротнае. На экране з'яўляліся зробленыя без творчага запалу, схематычныя фільмы («Каханнем трэба даражыць», «Строгая жанчына»), якія хоць і паглядзеў глядач, але застаўся да іх абыякавы. Калі азірнуцца на апошнія паўтара-два гады і ўспомніць пастаўленыя «Беларусьфільмам» кінакарціны, дык праўдай будзе тое, што хоць і не здаралася за гэты час нашумеўшых «баявікоў», але ж пявіліся сапраўдныя творчыя здабыткі, якія прымусілі гледача ўзрушыцца, паспрачацца, памарыць.

Нам прыгадаўся адзін эпізод, які ўвойдзе ў гісторыю беларускай кінематаграфіі яркай старонкай. Было гэта на пачатку 1960 года. У зале для прагляду кінастудыі на гэты раз не свяціўся экран, а былі запалены ўсе люстры ды ў дадатак гарэлі пражэктары. Супрацоўнікі кіно здымалі саміх сябе, каб адлюстраваць у кінахроніцы ўрачыстасць, якая не так часта здараецца — уручэнне пачэсных узнагарод, што былі заваяваны кінематаграфіяй нашай рэспублікі на Другім фестывалі мастацкіх і дакументальных фільмаў Прыбалтыкі і Беларусі ў Рызе.

Пад бурныя воплескі прысутных аўтарам каляровай мастацкай карціны «Дзяўчынка шукае бацьку» і дакументальнага нарыса «Праўда аб сектантах-пяцідзесятніках» былі ўручаны дыпломы і прызы.

З вялікім поспехам прайшоў на экранах нашай краіны фільм «Дзяўчынка шукае бацьку». Яшчэ і цяпер на студыю прыходзяць пісьмы гледачоў, у якіх яны шчыра віншуюць аўтараў карціны з творчай удачай, жадаюць поспехаў, пытаюцца пра выканаўцаў дзіцячых ролей і, перш-наперш, пра Аню.

Старэйшы беларускі рэжысёр Л. Голуб вядомы савецкаму гледачу як стваральнік добрых фільмаў для самых маленькіх і юных гледачоў: "Дзеці партызана», «Міколка-паравоз».

У рабоце над новым фільмам перад рэжысёрам паўстала складаная задача. Аўтары сцэнарыя К. Губарэвіч і Я. Рыс напісалі рамантычны і захапляючы твор, які трэба было перанесці на экран, прымусіць ажыць вобразы тых, хто ў гады Вялікай Айчыннай вайны не даваў ворагу спакою і на акупіраванай ім беларускай зямлі. Па задуме сцэнарыстаў галоўны герой быў малодшы за ўсіх папярэдніх, якія давялося Л. Голубу паказваць сродкамі кіно. Ані — галоўнай гераіні фільма — усяго пяць год.

Толькі знайсці такую «гераіню» — справа даволі цяжкая. Кінаработнікі пабывалі ў многіх дзіцячых садах, у

сем'ях... Пошукі не прынеслі вынікаў адразу, бо трэба было знайсці такую дзяўчынку, якая магла б выконваць волю рэжысёра — спяваць, гаварыць завучаны напамяць дыялог, калі трэба плакаць ці смяяцца, і ўсё гэта пад святлом пражэктараў, у прысутнасці іншых людзей — удзельнікаў таго ці іншага эпізода.

Ішлі месяцы, а «гераіні» ўсё не было. І вось аднойчы Л. Голуб на адным двары ўбачыў жвавую пяцігадовую дзяўчынку. Яна так непасрэдна гуляла ў магазін, адпускаючы сваім равеснікам пясок замест пакупак, што было вырашана перанесці гэтую гульню ў кіноатэлье, паспрабаваць здольнасці дзяўчынкі ў іншай ролі.

Праз некалькі дзён мастацкі савет студыі, прагледзеўшы адзнятыя кінапробы, аднагалосна зацвердзіў знойдзеную Л. Голубам дзяўчынку як выканаўцу ролі Ані.

Падзеі ў фільме адбываюцца на Палессі. Каб зазняць гэтыя кадры, кінаэкспедыцыя на некалькі месяцаў выехала ў раён Мазыра. І тут, выкарыстоўваючы кожны сонечны дзень, напружана працавалі рэжысёр, яго асістэнт, артысты, аператары — увесь творчы калектыў новай карціны. Маленькая Аня на дзіва ўсім заўсёды іграла так, як прасіў «дзядзя рэжысёр», не зважаючы на тыя цяжкія, нават для дарослага артыста, умовы, якія дыктаваліся сцэнарыем фільма.

Вынікі атрымаліся большыя, чым чакалі. Быў створан лепшы дзіцячы прыгодніцкі фільм. Гэта — другая серыя беларускіх кінакарцін (пасля «Канстанціна Заслонава»), якая выйшла на шырокі міжнародны экран. Яе закупілі 19 зарубежных краін.

Высока ацаніла грамадскасць і дакументальны кароткаметражны атэістычны кінанарыс «Праўда аб сектантах-пяцідзесятніках». Гэты хвалюючы кінадакумент, створаны нашай хронікай, агаляе перад гледачом сапраўдны твар тых, хто з усмешкай і елейнымі словамі на вуснах, нявечыць не толькі душу, але і цела даверлівых людзей, аблытаных рэлігійным дурманам, адбірае ў іх магчымасць жыць у шчасці і радасці.

Гаворачы аб сённяшнім творчым дні беларускага кіно, нельга не адзначыць яшчэ адзін поспех. Завершан вытворчасцю і хутка выйдзе на экран каляровы мастацкі фільм «Першае выпрабаванне», зняты па матывах класічнага твору беларускай літаратуры — трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Пастаўлены народным артыстам рэспублікі У. Корш-Сабліным, кінатвор гэты апавядае пра барацьбу беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне з-пад царскага прыгнёту.

Сёлета будзе выпушчана пяць мас-



Малады столяр Леанід Каравай за работай.

тацкіх фільмаў, многа навукова-папулярных і дакументальных нарысаў. Гэтаму садзейнічае выдатная тэхнічная база, якую нядаўна атрымала кінастудыя «Беларусьфільм» у выглядзе абсталяваных па-сучаснаму новых павільёнаў для здымак.

Пачалася вытворчасць фільма «Чалавек не здаецца» — аб мужнасці і гераізме савецкіх людзей у гады вайны. Слаўнаму 40-годдзю ленінскага камсамола Беларусі прысвячаецца карціна, якая адлюструе этапы гераічнага шляху маладых будаўнікоў камунізма.

Поўным ходам зараз ідуць здымкі кінафільма «Наперадзе — круты паварот», па сцэнарыю беларускага пісьменніка Аркадзя Маўзона.

Давайце завітаем у здымачную групу новага беларускага мастацкага фільма і правядзем разам з ёю усю рабочую змену.

...Здымкі яшчэ не пачаліся, але працавалі ўжо ўсе... Павільён на гэты раз ператворан у дыспетчарскую аўтабазы і кабінет яе начальніка. Праўда, слова «ператворан» нельга разумець літаральна: у кабінеце няма столі і ёсць толькі тры сцяны, ды і тыя зроблены не з цэглы, а з драўляных шчытоў, пакрытых палатном, вельмі ўмела імітаваным пад тынк. Але для кінакамеры большага і не трэба.

У стварэнні кожнага кінафільма шмат залежыць ад майстэрства сталяроў. А яны на кінастудыі сапраўдныя маста-



кі — могуць пабудаваць усё, што захочаш. Яшчэ зусім нядаўна Леанід Каравай будаваў інтэр'ер царквы для кінафільма «Першае выпрабаванне». Цяпер Леаніду давялося стаць, як кажуць, бліжэй да жыцця — абсталёўваць будынкі нашых дзён. Як заўсёды, падрыхтаваная ім дэкарацыя аўтагаспадаркі і сёння прынята аўтарамі карціны з добрай ацэнкай.

Вакол дэкарацый — рыштаванні, збудаванія, каб размясціць мноства асвятляльнай апаратуры, роўным святлом заліць павільён у часе здымкі. Размясціць жа іх трэба так, каб стварыць уражанне сонечнага святла, што праменіцца праз акно і каб ніводзін пражэктар не трапіў у поле зроку кінакамеры. Усёй гэтай гаспадаркай кіруюць тэхнікі па святлу. Праца светатэхніка патрабуе не толькі дакладнасці і стараннасці, але і своеасаблівага майстэрства, адчування задумы аператара і рэжысёра. Моладзь складае ў аснове сваёй шматлікі атрад светатэхнікаў на студыі. Мы пазнаёміліся з Сямёнам Лук'янчыкам — адным з вопытнейшых работнікаў, які ніколі не падводзіць увесь творчы калектыў у напружаныя хвіліны, калі адкрываецца аб'ектыў кінакамеры.

Тым часам ужо закончылася першая ўстаноўка пражэктараў, яна — вельмі прыблізная. Пакі рэжысёр закончыць рэпетыцыі, аператар разам са светатэхнікамі яшчэ раз пракарэктыруюць свят-



Светатэхнік Сямён Лук'янчык.



Рэжысёр-пастаноўшчык Рычард Віктараў з артыстам Львом Круглым перад пачаткам здымкаў.

ло — удакладняць месцазнаходжанне ўсіх пражэктараў, сілу святла кожнага з іх і кірунак праменняў.

Здымачную пляцоўку, а сёння — гэта дыспетчарская і кабінет начальніка аўтабазы, — ужо занялі выканаўцы роляў, рэжысёр, аператар, мастак.

Артысты не адзін дзень працавалі ўжо над сцэнарыем фільма, герояў якога яны павінны стварыць. Яны, як кажуць, выношвалі ўнутрана свой вобраз, імкнучыся знайсці самыя дакладныя рысы, якія б з найбольшай яскравасцю і праўдзівасцю выяўлялі індывідуальнае ў кожным характары. І вось пачаліся апошнія пробы. Рэжысёр-пастаноўшчык фільма Рычард Віктараў з артыстам Львом Круглым (справа на фота) распрацоўвае ўсю мізансцэну — удакладняе, як, калі і куды павінен рухацца артыст у часе здымкі, што і як павінен пры гэтым гаварыць.

На кінастудыі працу над фільмам «Наперадзе — круты паварот» называюць «першай самастойнай». Гэта сапраўды так. Бо для рэжысёра-пастаноўшчыка Р. Віктарава, аператара І. Пікмана, мастака Ю. Альбіцкага і кампазітара Ю. Бяльзацкага — гэта першы вялікі і адказны экзамен. Ёсць і «акцёры», якія ўпершыню з'явіліся перад кінааб'ектывам. Напрыклад, чатырохгадовы Ігар Белюс, які выконвае ролю сына шафёра Андрэя. Дэбютуе ў кіно і М. Яроменка — артыст тэатра імя Я. Купалы.

...Скончылася рэпетыцыя, скончыўся і перапынак пасля яе. Запальваюцца пражэктары. На пляцоўцы засталіся адны акцёры, якія ўдзельнічаюць у адным эпізодзе.

**Р. РАСІНСКІ.**

# МОЛАДЗЬ КРОЧЫЦЬ У БУДУЧЫНЮ

На трыбуне маладая работніца. Яна расказвае пра сваю работу ткачыхі і паведамляе слухачам пра тое, што нядаўна перайшла на іншую работу. Чаму? Можа ёй больш не падабаецца ў сваёй брыгадзе? Наадварот: брыгада маладых работніц на народным



«Сталявары», фота Рэгіны Брунтруп (ГДР). Здымак з Берлінскай выстаўкі «Сацыялізм перамагае».

прадпрыемстве Полаверку ў Мерane заўсёды выконвала свае планы і вядома ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, як ініцыятар руху за павышэнне прадукцыйнасці працы. Ці, можа, у маладой работніцы ёсць іншыя, асабістыя прычыны? Не, гэтая брыгада — добры калектыў, і члены яе не хочуць расставацца адзін з другім.

Маладая работніца Крыста Тэцнер сама тлумачыць сваё рашэнне. Без вялікага шуму сама па сабе льецца яе прамова.

— Наша брыгада працуе добра. Але на другой ткацкай фабрыцы справы ідуць горш. Калі мы хочам выканаць нашу галоўную эканамічную задачу, калі мы хочам дагнаць і перагнаць капіталістычную Заходнюю Германію па выпуску на душу насельніцтва важнейшых харчовых і прамысловых тавараў — тады неабходна, каб выпуск прадукцыі ўсюды рос хуткімі тэмпамі і каб паляпшалася якасць тавараў. Таму я хачу паказаць сваім калегам, як працуем мы! Усе мы павінны памагаць адзін другому, усе павінны вучыцца адзін у другога...

Крыста Тэцнер думала перш за ўсё не пра сябе. На сваёй новай працы яна будзе спачатку атрымліваць меншую заработную плату. Але яна глядзіць далей сваіх асабістых інтарэсаў: яна хоча рабіць больш, чым толькі выконваць свой абавязак. Яна хоча, каб у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы перамог сацыялізм, таму што яна ведае, што гэтая перамога азначае дабрабыт для ўсіх, а таму і дабрабыт для яе самой. Гэта дух новай моладзі, што расце ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Яна прасякнута сацыялістычнымі ідэаламі і актыўна дапамагае ажыццявіць у Германіі вучэнне Маркса і Леніна. У сваёй працы «Вялікі пачын» Ленін гаворыць: «Камунізм пачынаецца там, дзе паяўляецца самаадданы, які пераадольвае цяжкую працу, клопат радавых рабочых аб павелічэнні прадукцыйнасці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугалю, жалеза і іншых прадуктаў, якія дастаюцца не асабіста тым, хто працуе, і не іх «бліжнім», а «дальнім», г. зн. усяму грамадству ў цэлым». Цяпер дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы свядома выконваюць гэты запавет Уладзіміра Ільіча.

Калі пятнаццаць гадоў таму назад доблесная Савецкая Армія вызваліла Германію ад фашызма і калі антыфашысцкім прагрэсіўным сілам нямецкага народа быў расчышчан шлях да будаўніцтва новай Германіі, шырокія масы нямецкай моладзі ўпершыню пазнаёміліся з ідэямі вялікага рэвалюцыянера і заснавальніка савецкай дзяржавы. У цяжкі пасляваенны час наша моладзь пазнаёмілася з новымі ідэаламі. Гэта былі не псеўдаідэалы Германіі імператараў і каралёў, Германіі фашысцкіх звяроў ці сённяшняй Заходняй Германіі Адэнауэра. Дзяўчаты і юнакі на ўсходзе Германіі выхоўваліся ўжо не ў духу ганарыстасці, не ў духу панавання над другімі народамі і не для нападу на іншыя краіны. Яны даведаліся аб часе ўтварэння савецкай дзяржавы, пазнаёміліся з дэкрэтам Леніна аб міры і самі сталі змагарамі за мір ва ўсім свеце.

Цяперашняя моладзь ГДР не ведае капіталістычнай эксплуатацыі чалавека чалавекам. Ёй не трэба больш працаваць дзеля прыбыткаў банкіраў, буйных прамыслоўцаў і юнкераў. Моладзі таксама вядома, што новае жыццё не звалілася з неба, а з'яўляецца вынікам працяглай шматгадовай барацьбы рабочага класа і яго ленінскай партыі. Цяпер сама моладзь стаіць у першым шэрагу барацьбы за перамогу сацыялізма. Яна навучылася разумець словы Леніна аб тым, што мары аб цудоўнай будучыні бескарысныя, калі мы самі не памагаем яго будаваць. Будзем жа марыць! — гаворыць Ленін, — але пры ўмове сур'ёзна верыць у нашу мару, як мага дакладней наглядаць сучаснае жыццё, звязваць нашы нагляданні і нашы мары, добрасумленна ажыццяўляць нашу фантазію. Моладзь Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі па прыкладу камсамола Савецкай краіны паследавала гэтай парадзе Леніна.

Больш 1,7 мільёна юнакоў і дзяўчат аб'ядналіся ў Саюз свабоднай нямецкай моладзі, каб у якасці вернага памочніка партыі рабочага класа ўцягнуць усю моладзь у будаўніцтва сацыялізма. Патрабаванне Леніна вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца і набытыя веды прымяняць затым у жыцці, у барацьбе за сацыялізм натхняе моладзь у горадзе і вёсцы. Моладзь ГДР пабудавала запруду ў даліне Зозы, электрастанцыю ў Тратэндорфе і вялікі вадаправод для металургічнага камбіната «Макс-хютэ». Моладзь зрабіла працоўны подзвіг, выконваючы меліярацыйныя работы ў мясцовасці Вішэ (каля Магдэбурга). Цяпер, у пачатку вялікай сямігодкі, моладзь узяла на сябе ў якасці падшэфных аб'ектаў будаўніцтва буйнага нафтаперапрацоўчага камбіната ў Шведтэ-на-Одэры і новага аэрадрома Шонэфельд каля Берліна, а таксама шэфства над жывёлагадоўляй у ГДР. Усё новыя і новыя рабочыя брыгады едуць з сваіх родных гарадоў працаваць на буйныя будоўлі сацыялізма.

Нельга ўявіць сабе сацыялістычныя прадпрыемствы без маладзёжных брыгад, без тых маладых актывістаў і наватараў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, колькасць якіх складае больш 350 000. Зачынальнікам грандыёзнага руху — барацьбы за званне брыгад сацыялістычнай працы з'явілася маладзёжная брыгада імя Мікалая Мамая на электрахімічным камбінаце ў Бітэрфельдзе. Працоўныя, што аб'ядналіся ў гэтых брыгадах, паставілі сабе мэтай працаваць, вучыцца і жыць па-сацыялістычнаму. Яны думаюць і працуюць па-новаму. Для іх праца перастала быць толькі спра-

вай здабывання сродкаў для жыцця — яна стала свядомым укладам у справу перамогі сацыялізма. Яны не задавальняюцца ведамі, якія маюць, а наведваюць курсы, вучацца завочна або асвойваюць другую прафесію. Яны не толькі чытаюць кнігі, але і самі пачынаюць пісаць. Цяпер ужо часта сустрэнеш рабочага, які піша, займаецца музыкай і іграе ў самадзейным тэатры. Так растуць новыя людзі з новай мараллю, якія дзейнічаюць згодна вучэнню і ідэям марксізма-ленінізма, будуюць новы свет, такі свет, які прадказваў Ленін і ствараць які ён сам памагаў, узначальваючы камуністычную партыю і савецкую дзяржаву.

Але ідэі Уладзіміра Ільіча Леніна не спыняюцца перад праведзенай праз Германію граніцай. Няглелзячы на шалёнае антыкамуністычнае цкаванне, якое таксама, як і пры Гітлеры, вядзецца ў Заходняй Германіі, усё большая колькасць людзей разумее ісціну. Там перш за ўсё юнакі і дзяўчаты ўсё часцей задаюць пытанні аб рэчаіснасці ў Савецкім Саюзе і ў іншых сацыялістычных краінах, якую ўтойваюць ад іх або паведамляюць у няпраўдзівым выглядзе. Запушчаныя савецкім чалавекам спадарожнікі і луннікі былі сігналам, які прымусіў многіх не верыць больш бонскім хлусам і на самай справе праверыць тое, што гавораць камуністы і чаму вучыць марксізм-ленінізм. Пры гэтай праверцы ў многіх нібы зляцела пеляна з вачэй.

Колькі маладых людзей з Заходняй Германіі знаёмяцца з Леніным, калі яны чуюць аб палітыцы мірнага суіснавання, якую ў інтарэсах міру паслядоўна праводзіць Савецкі Саюз! Колькі людзей чуюць у прамовах М. С. Хрушчова ідэі і думкі Леніна аб свеце, з якога раз і назаўсёды будзе выгнана вайна!

У Заходняй Германіі шмат перадавых маладых людзей сядзяць за турэмнымі кратамі за тое, што яны не толькі жадаюць міру, але і робяць нешта для міру і прагрэсу. Так, заходнегерманскі студэнт Клаус Вальтэр быў пасаджаны ў турму за тое, што ён назваў належным імем аднаго з нацысцкіх забойцаў — бонскага міністра Оберлендэра — і патрабаваў яго адстаўкі. Ён сказаў праўду, але за гэта яго будуць судзіць. Але і ў турме ён такі ж стойкі, як і раней, калі ён перасцерагаў ад новай вайны і ад яе падпальшчыкаў. Падобна Клаусу Вальтэру маладыя немцы ў Заходняй Германіі змагаюцца за мір ва ўсім свеце і за лепшае жыццё на зямлі. І ў іх — часта яны гэтага яшчэ не ўсведамляюць — жывуць ужо ідэі Леніна.

Моладзь Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і многія юнакі і дзяўчаты Заходняй Германіі з кожным днём усё глыбей пранікаюць у ідэі вялікага рэвалюцыянера нашай эпохі, каб яшчэ больш эфектыўна прымяняць іх у жыцці.

**Іоахім ГЕРМАН,**
**галоўны рэдактар часопіса «Дзі юнге вельт».**

*З блакнота падарожніка*

**ZaH**
**MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA**

**Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД**

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### Мы ў Албаніі

На албанскім баку да нас, дабрадушна ўсміхаючыся, падыходзяць двое крыху збянтэжаных пагранічнікаў. За імі з'яўляецца мытнік з памочнікам, праз дваццаць мінут — начальнік паста. Поціскі рук, паказваем дакументы — свае і машын. Пагранічнікі з цікавасцю разглядаюць іх, але гутаркі не пачынаюць. Мы спрабуем загаварыць спачатку па-руску, потым па-французску, па-італьянску, на ўсякі выпадак па-сербску, нарэшце пытаем: «Sprechen Sie deutsch?» («Гаворыце па-нямецку?»).

Пасля пятага «йо» пачынаем разумець, што гэта, напэўна, азначае па-албанску «не».

Каб дарэмна не траціць часу, запісваем сабе ў блакнот першыя албанскія словы «jo, nuk dij asnjë

* Пачатак у № 5, 1960 г.





Члены вінаградарскага кааператыву «Жамчужына Рэджары».

giuhë të huaj». Назаўтра нам удалося перакласці гэты сказ. Ён азначаў: «Не, я не ведаю ніводнай замежнай мовы». На шчасце, гэтыя словы ў Албаніі ўжываюцца не так часта. Тут нямала людзей, якія, хаця б часткова, ведаюць не толькі «шкіп» — албанскую, але і іншыя мовы. Старэйшае пакаленне можа гаварыць па-французску, сярэдняе яшчэ не забыла італьянскую з часоў акупацыі, новае гаворыць па-руску. І нават пачэшску. У Албаніі даволі многа людзей, якія атрымалі адукацыю ў Чэхаславакіі.

Але там, дзе не хапае агульнай мовы, на дапамогу прыходзіць пантаміма. Начальнік мытніцы прыкладае кулак да вуха і затым паказвае па гадзінніку, што вялікая стрэлка прабегла палову цыферблата.

Перакладаем адзін аднаму: «Мы пазванілі па тэлефоне, паведамілі пра вас, праз паўгадзіны прыедуць». Дзеяслоў «прыедуць» начальнік перадае гукам «трррр».

Неўзабаве даносіцца аўтамабільны гудок. У воблаку пылу спыняецца «пабеда». Гэта прыехалі прадстаўнікі нашага пасольства з перакладчыкам. Яны былі на граніцы яшчэ ўчора, чакалі нас, а нанач паехалі ў Шкодар. Цяпер у пашпарты і вопісы пастаўлены пячаткі, мы ад'язджаем.

Кіламетраў праз пяць нас сустракаюць албанскія журналісты, з імі кінаапаратар Яраслаў Новатны, ледзь не са слязьмі на вачах, але з маладым запалам у голасе.

— Хлопцы, як я рад, што мы зноў усе разам. Нас чакае тут столькі спраў! Хадземце, я сяду да вас у машыну — і за работу.

Малады стройны албанец, інжынер, які нядаўна закончыў вучобу ў Празе, гаворыць па-чэшску:

— Я паеду ўперад, таварышы, і пачакаю вас каля Шкодара.

### Нумізматыка

Не, імператар Франц-Іосіф проста праследуе нас. Відаць таму, што мы не раз паміналі яго ліхам, калі ў Зворніку ў нас узніклі непаразуменні з фатаграфіяй маста.

— Іржы, ідзі паглядзі, што там здарылася. Ды вазьмі з сабой «лейку».

Іржы праціскаецца праз натоўп цікаўных, якія абкружылі трох прыгожых дзяўчат у высокіх белых галаўных уборах, у стракатых спадніцах і яшчэ больш стракатых кофтах. Гэта нявеста з сяброўкамі. Іх уборы абвешаны бліскучымі манетамі.

— Не, ты толькі прыгледзься бліжэй! Кароль Віктар Эмануіл III, султан Абдул-Хамід, а вось і



Яшчэ адно дзіва: нумізматыка...?





«наш» Франц-Іосіф! Адзін каля аднаго, манетка да манеткі!

Дзяўчаты, засаромеўшыся, адвярнуліся, іх, маўляў, фатаграфаваць нельга, бо шлюб будзе нешчаслівы.

Перад такім аргументам мы капітулюем.

— Не вельмі зайздросьце ім, — сказаў наш перакладчык, калі мы садзіліся па машынах. — Кожны ўбор разам з нумізматычнай калекцыяй важыць да дваццаці кілаграмаў. Ён пераходзіць, як спадчына, з пакалення ў пакаленне. Гэта традыцыя. А ў Албаніі гэта сёе-тое азначае!

### Разарваны круг

Традыцыі. У Албаніі мы сустракаліся з імі не аднойчы. У паўночнай частцы краіны да сённяшняга дня захаваліся сведкі кроўнай помсты: маленькія крэпасці — «кулы». Гэта каменныя пабудовы з малюсенькімі, у далонь, вокнамі, размешчанымі пад самым дахам так, каб кулі, выпушчаныя ворагам, маглі трапіць толькі ў столь. Увайсці ў кулу можна было толькі па вяровачнай лесвіцы. «Дзяксур», — чалавек, які чакаў сваёй чаргі, — жыў у такім доме, як вязень у турме. Гадамі ён не выходзіў з свайго жылля, не вучыўся, не працаваў на полі. Ён чакаў... Закон кроўнай помсты ўлічваў толькі мужчын старэй за шаснаццаць год. Жанчыны жылі ў звычайных драўляных або глінабітных пабудовах пад «мужчынскай» крэпасцю, клапаціліся аб дзецях, вялі гаспадарку, апрацоўвалі палі. А мужчыны адседжваліся ў каменных кулах.

Гэты закон меў свае «правілы»: ён траціў моц пасля заходу сонца, у час жніва, калі ў доме спраўлялі вяселле. І наогул спыняў сваё дзеянне ў момант нападу на краіну ворага.

Цяпер кроўная помста, вядома, адышла ў нябыт. Новы час разбівае вузкія байніцы малюсенькіх крэпасцей і ўрываецца ў дамы. Людзі зразумелі недарэчнасць вечна замкнутага кола, якое пераносіць смерць з бацькі на сына, з роду ў род. Толькі дзяды часам успамінаюць аб старадаўнім звычаі, і цяпер гэта выглядае даволі анекдатычна.

... У канцы 1957 года Албанія закончыла будаўніцтва сваёй першай гідраэлектрастанцыі на рацэ Маці. Ніхто з старых не верыў, што можна ўтаймаваць дзікую Маці — за час будаўніцтва яна двойчы разлівалася, пагражаючы знішчэннем і ўпартых людзей і машын. Але восенню 1957 года плаціна была закончана, і вадасховішча ў даліне ракі пачало запаўняцца. Вада затапіла каля двухсот дамоў, а іх уласнікі перасяліліся ў новы пасёлак «Святло».

Тады вось і прыйшоў да дырэктара гідрастанцыі адзін дзед з затопленай вёскі.

— Дырэктар, — сказаў ён, — ці не мог бы ты падняць ваду яшчэ на метр?

— А навошта, дзедка?

— Я застаўся сёе-тое вінен Юсуфу — суседу. Ты разумееш, аб чым я гавару. Зараз вада стаіць каля самых дзвярэй яго кулы. Не будзе кулы — не будзе і майго «доўгу». Паднімі ваду, дырэктар, яшчэ на метр.



Нам расказаў аб гэтым дырэктар гідраэлектрастанцыі Букураш Пеза, спакойна пазіраючы на неабсяжную гладзь новага возера, створанага людзьмі, якія яшчэ нядаўна былі вязнямі каменных цытадэлей.

## Нашы планы

Планы нашага знаходжання ў Албаніі нам зусім ясны: закончыць выпрабаванні, правесці якія дома ў нас не заставалася часу. За паўгода да ад'езду Мірак лёг у бальніцу, а праз два месяцы пасля гэтага Іржы перанёс аперацыю калена. Гэтыя акалічнасці перакрэслілі распрацаваную праграму, давялося адкласці да вясны старт, які намячаўся на каляды.

Вось тады мы і запланавалі правесці выпрабаванні ў Албаніі. Цяжкія дарогі, горы і мора, каларытныя касцюмы і цікавы фальклор — словам, ідэальныя ўмовы для таго, каб выпрабаваць аўтамашыны, фотаапараты, кінакамеры, магнітафоны. Албанія мае рэгулярныя паветраныя зносіны з Чэхаславакіяй, і калі трэба будзе дадаць, замяніць або адаслаць дамоў што-небудзь з абсталявання, гэта зойме ўсяго некалькі гадзін.

... Хваляванне першых дзён пасля прыезду ў Албанію крыху паменшала. Скончыліся сустрэчы, гутаркі, выступленні па радыё і прэс-канферэнцыі. Яраслаў Новатны па нашай просьбе ўзяў на сябе кіраўніцтва экспедыцыяй на ўвесь час знаходжання ў Албаніі. «Татры-805» перасталі быць паходным жыллём. Пакінутыя, яны стаяць перад атэлем «Турызмі» на беразе Адрыятычнага мора каля Дурэса, выконваючы ролю складскіх памяшканняў. Большая частка экспедыцыйнай маёмасці перавандравала ў нумары.


Ранішняя бяседа.

Турбот аказалася больш, чым мы планавалі. Нам трэба не толькі выпрабаваць абедзве кінакамеры, але і выбраць лепшую, якая і паедзе з намі. Нам прыдзецца на практыцы навучыцца «падзелу працы» пры здымках, каб не дубліраваць адзін аднаго і не рабіць лішняга. Трэба прыняць пад увагу працу з рознымі аб'ектывамі, рознымі фарматамі негатываў, паперай рознай светаадчувальнасці і вагі, праверыць наводку, спосабы апрацоўкі негатываў. Не на апошнім месцы і лагернае абсталяванне. Тэарэтычна яго ўласцівасці мы ведаем. Трэба цяпер убачыць яго «ў рабоце», праверыць, ці правільна ўсё ўкладзена. І ледзь не забылі пра галоўнае: нашу зладжанасць пры выкананні дробных, штодзённых задач.

— А я вам яшчэ нешта пакажу, — гаворыць Ярка Новатны, разбіраючы стос скрынак і футляраў. Ён падобен да дзеда-мароза, які раздае навагоднія падарункі. — Адгадайце, што гэта такое?

На стале ляжыць прадаўгаваты скураны футляр, а ў ім — два «люстэркі», устаноўленыя на агульнай металічнай пласціне. Камеры дасціпна злучаны механізмам, які дае магчымасць сінхронна перацягваць плёнку, адкрываць затворы і ўстанаўліваць экспазіцыю. Новы апарат тут жа атрымлівае назву «двайняткі». Яго зрабілі па нашаму заказу на прадпрыемстве «Меопта». Цяпер можна будзе рабіць стэрэаскапічныя каляровыя здымкі.

— Давайце пашлём у «Меопту» віншаванне з нованароджаным!

А ў доўгім спіску выпрабаванняў прыбавіўся яшчэ адзін пункт: стэрэаскапічны апарат «двайняткі».

## Кожны адну песеньку

Планаванне працягваецца: выпрабаванні мы падзялілі на два этапы — паўднёвы і паўночны. Пачнём з паўночнага, бо ён карацейшы. Вынікі і набыты вопыт дадуць нам магчымасць пры праходжанні паўднёвага этапу сканцэнтраваць увагу на слабых месцах. Поўнач Албаніі ў транспартных адносінах больш складаная, чым поўдзень, таму мы будзем там галоўным чынам выпрабоўваць машыны.

Албанскі камітэт па культурных сувязях з заграніцай шмат у чым дапамог нам, прымацаваўшы да экспедыцыі работніка кінастудыі, інжынера-хіміка Насі Шамійа. Ён вучыўся ў Чэхаславакіі і выдатна гаворыць па-чэшску. Камітэт таксама даў у наша распараджэнне «газік» — машыну лёгкую, высокай праходнасці.

Здаецца, усё гатова, абсталяванне можна грузіць. Ольдржых закончыў агляд і дробны рамонт машын. Але...

— Мірак ехаць не можа — у яго экзема і яму патрэбен бальнічны догляд, спакой і абсалютная стэрыльнасць асяроддзя, — разважна, але з усёй рашучасцю гаворыць Роберт. Роберт — урач экспедыцыі і ў сваёй галіне мае «непадзельнае права адзінаўладства».

Ідэальным вырашэннем праблемы было б паслаць кліента першым жа самалётам дамоў. Але тады, праз якіх два тыдні пасля ад'езду, гэта здавалася проста нерэальным. Канчатковае ж рашэнне было такім: на поўнач паедуць у сіняй машыне і «газіку» Іржы, Ольдржых, Яраслаў, перакладчык і вадзіцель. Мірак і Роберт застаюцца ў Дурэсе.

У сінюю машыну пагружаюцца апошнія рэчы. Імжыць дробны дождджык, і над морам, не абяцаючы нічога добрага, плывуць шэрыя хмары. Ва ўсіх пануры, проста «паражэнчы», настрой. Мы чакалі агульнага старту — і вось як яно абярнулася!

— Ведаеце што, хлопцы, — раптам уносіць Яраслаў весялейшы тон у нездаровае маўчанне, — давайце запяём! Хто пачне? Добра, Роба, — а потым кожны спяе па адной песеньцы.


«...а нас таксама сфатаграфуеце?»

Так і выехалі — з песняй.

Урачы называюць гэта псіхатэрапіяй. Кажуць, у дзевяноста дзевяці выпадках са ста дапамагае. Чаму ж нам быць іменна гэтым няўдалым сотым выпадкам!

## Няўдачнік

Нельга сказаць, каб дні ў палоне атэля цягнуліся марудней, чым за рулём. Наадварот. Не паспееш азірнуцца, як ужо вечар. Абедзве пішучыя машынкі стракочуць бесперастанку. Неабходна перадрукаваць усе дарожныя нататкі (тады не было часу), трэба наладзіць улік, разабраць пошту, тэрмінова вычытаць карэктуры, атрыманыя ўчора з выдавецтва.

Мора вабіць сваёй сінню і мяккім пяском пляжа. Але зараз гэта забаронены плод. За ўвесь тыдзень Роберт выкупаўся толькі адзін раз, каб хвораму было не вельмі зайздросна.

Сёння мы закончылі ўсе «адміністрацыйныя» справы, нават паспелі разабраць асабістую карэспандэнцыю. І цяпер сядзім з сябрамі на тэрасе, раздумваючы, дзе зараз другая палова экспедыцыі.

Заўтра раніцай яны павінны былі вярнуцца.

Раптам знаёмы гудок. І вось праз хвіліну на тэрасе з'яўляюцца Іржы і Яраслаў — аброслыя, запыленыя, галодныя, яныззяюць, перапоўненыя ўражаннямі з поўначы. Цудоўныя горы, прыязныя людзі, проста не ведаеш, што здымаць — столькі сюжэтаў на кожным кроку!

— Вы, хлопцы, абавязкова павінны пабыць там хоць два дзянькі, бо інакш не будзеце ведаць Албанію...

— Там такія дарогі! Проста казіныя сцежкі. На паваротах у нас было работы! Зверху — навісае камень, унізе — бездань. Дарогу там праклалі зусім нядаўна.

— А дзе Ольда?

— За трыццаць кіламетраў ад Кукеса адарваўся левы задні кранштэйн, а запасныя часткі мы пакінулі дома. Ольда павінен быў імправізаваць. Ён засунуў кавалак драўніны паміж рамай і паўвоссю. Але не дапамагло. Учора зноў усё адарвалася. Ольда застаўся за Клёсам, кіламетраў сто шэсцьдзесят адсюль. Трэба паслаць яму запасныя часткі і што-небудзь паесці. З кансервамі мы расправіліся яшчэ пазаўчора.

Няўдачнік вярнуўся назаўтра к абеду. Ужо не няўдачнікам, а з вясёлай усмешкай, бо ўсё зноў было ў парадку.

— Усё было цудоўна, але які д'ябал гнаў нас у такую глухмень!

## У пернікавай хацінцы

У Дурэсе наш прыстанак — невялікая «пернікавая» хацінка. Яна знаходзіцца метраў за трыста ад атэля «Турызмі». Заходнім бокам хацінка выходзіць проста на пясчаны пляж, а з усходняга да яе прымыкае невялікі газон, дзе можна паставіць абедзве машыны і расцягнуць паміж імі палатку. Мы будзем спаць у машынах. Яраслаў зойме адзін з пакояў, у другім мы правядзём генеральную праверку нашага абсталявання. Перад дарогай на поўдзень трэба павыкідаць усе лішнія рэчы і навесці парадак. Увесь час адчуваецца, што чыстка ў Будапешце была недастатковая.



Ад турэцкага маста засталіся адны руіны.

На наступны дзень вакол машын — першабытны хаос. Выцягнута ўсё, у машынах не засталося нічагусенькі. Калі мы грузіліся ў Празе, усё ішло надзвычай лёгка. Рэчы зніклі ў машыне самі па сабе, кожны перад ад'ездам нешта падаваў, дадаваў. Але цяпер у машынах павінна быць утульна, і кожную дробязь трэба мець пад рукой, каб знайсці яе нават у цемры. Гэта ж наш дом на пяць год!

— Хлопцы, давайце размяркуем рэчы ў прычэпах так: у сінім — будзе кухня і лагерныя прыналежнасці, у чырвоным — аптэка, бібліятэчка і мышы з качанятамі...

Мы вязём з сабой цацачных мышэй і качанят для наладжвання «кантактаў» з самай юнай часткай насельніцтва тых краін. дзе мы пабудзем.

— Цудоўна! Якія яшчэ ёсць прапановы?

На трэці дзень на перадавых пазіцыях нарэшце пануе цішыня, а на «складзе» ляжаць скрынкі з лішкамі, падрыхтаваныя да адсылкі дамоў. Палова запасной бялізны, надзіманыя матрацы, вадалазная маёмасць з кіслароднымі балонамі, рэзервны вільгацемер, штатывы, раскладны столік, запасны камплект лямпуспышак, цёплыя падкладкі для плашчоў, запасныя аўтачасткі — у імкненні быць гатовымі да любых акалічнасцей мы, бадай, крыху перастараліся... Калі ўсё гэта ўзважылі, аказалася без малога чатыры цэнтнеры.

Больш усіх, зразумела, радуецца Ольда: кожны кілаграм лішняга грузу быццам камень на яго сэрцы. І ўсё-такі ён заклапочана глядзіць на прычэпы, хоць іх груз не складае цяпер і трох чвэрцяў дапусцімага.

Сёння ў нас ёсць падставы быць у добрым настроі. Мы закончылі генеральную ўборку, стан здароўя Мірака палепшыўся, і заўтра раніцай мы выязджаем на поўдзень. Дзень падарожжа — саракавы.

## Над албанскай Рыўерай

Албанію называюць краінай арлоў і гор. Але падарожнік, які прыбывае морам або з суседняй Югаславіі, увесь час задае сабе пытанне: «А дзе ўласна горы?»

Мы праехалі дзесяткі кіламетраў па паўночнай Албаніі — і нідзе не бачылі гор. Раўніна гладкая, як далонь...

І раптам горы выраслі перад намі. Нечакана. Адразу. Аказваецца, іх трэба было шукаць у



цэнтры краіны. Горы сапраўды суровыя, дзікія, неўтаймаваныя.

На поўдні яны цягнуцца аж да самага мора.

Узбярэжжа паміж Влорай і Сарандай называюць у краіне арлоў Албанскай Рыўерай. Гэта кіламетраў сто пяцьдзесят адрыятычнага берага, трэцяя частка марскіх граніц маладой рэспублікі. Канец «Рыўеры» на водападзеле Адрыятычнага і Іанічнага мораў, насупраць грэчаскага вострава Корфу, пачатак — у Влоры, якую італьянцы, уварваўшыся сюды ў 1939 годзе, ахрысцілі Валонай. У Влоры бярэ пачатак адна з трох албанскіх чыгунак — амаль трыццацікіламятровая лінія да Селеніцы, вядомага месцазнаходжання прыроднага асфальту.

Нам, вядома, хочацца паглядзець месцы, аб якіх яшчэ Арыстотэль гаварыў, як аб радзіме своеасаблівай прыроднай з'явы — агнёў, што жывяцца пластамі дзіўнай горнай пароды. Цікава, як здабываюць асфальт — у сярэдзіне вякі на Міжземным моры ён лічыўся адзіным сродкам для смалення лодак, а цяпер здабыча яго складае каля ста тысяч тон штогод. Але — нават паводле самай новай карты Албаніі — з Селеніцай няма ніякай іншай сувязі, апрача чыгуначнай.

— Аднак некаторае ўяўленне аб албанскім асфальце мы будзем мець, праўда, Мірка?

Мы зрабілі прывал проста на беразе Адрыятыкі, за чатыры метры ад мора. Хто адмовіцца ад ранішняй ванны, ведаючы, які цяжкі шлях у нас сёння наперадзе! Мірак з зайздрасцю глядзіць на трох шчаслівых — яму ўрач экспедыцыі яшчэ забараняе купацца. А Роберт, Іржы і Ольда стараюцца за чацвярых! Але вось яны вылазяць на бераг, і ступні ног у іх чорныя, як ад асфальту. Як ад асфальту? Дык жа гэта і ёсць асфальт!

Яны старанна мыюць ногі бензінам і лаюцца. Каб ведалі, лепш бы не лезлі ў ваду!

Затое праз некалькі кіламетраў ад Влоры мора празрыстае, як крышталь. Яно штохвіліны мільгае перад намі з нейкай капрызнай бухтачкі, то выстраліць мігатлівым водбліскам сонца, то зноў схаваецца за павароткай...

Машыны, угрызаючыся ў прыморскія горы, упарта паднімаюцца да перавалу Лагара. Замест





высушаных сонцам скал, вакол нас — пышныя сасновыя лясы, п'яніць водар смалы, і нам здаецца, што мы дома. Такімі лясамі некалі, як кажуць, было пакрыта ўсё албанскае ўзбярэжжа. Але яны зніклі, і гэта справа рук былых акупантаў. Лес вывозілі ў Італію, Венецыя стаяла на драўляных палях з далмацінскага і албанскага лесу, у час турэцкага панавання дрэвы спальваліся ў вугальных ямах, у выглядзе драўнянага вугалю лес вывозілі ў краіну асманскіх султанаў.

Цяпер албанская ўлада імкнецца абнавіць лясы, старанна высаджваюцца маладыя дрэўцы. Аднак гэта сізіфава праца. Супраць чалавека тут паўстала горная каза. Часам яна бярэ верх над маладымі лясочкамі, ператварае высадкі ў пустыню, абгрызаючы кожны кусцік, ледзь толькі ён зазелянее. Яна ставіць улады перад вострай праблемай — або рашуча абнавіць лясы і захаваць цэлыя вобласці ад паступовага высыхання і спаўзання глебы, або забяспечыць вёску мясам і малаком. Другое, здаецца, тут лічаць больш неадкладнай справай.

Гара Чыка — вышынёй у дзве тысячы метраў — узвышаецца проста над гарадком Дэрмі, вырастаючы амаль з мора. Перад самым Дэрмі мы праязджаем па высокім мосце праз раку, у якой цяпер няма ні кроплі вады. Але можна толькі здагадацца, што будзе, калі надыдзе час вясенняга разліву і рака напоўніцца! Ніколі мы не бачылі такіх велізарных валуноў, такіх глыб, згладжаных лавінай вод і камення. Чалавек у гэтым рэчышчы выглядае карлікам — рака нібы створана для Гулівера.

Такое ж уражанне робіць і Дэрмі. Горад раскінуты проста на схілах гор, дамы лепяцца адзін над адным, як ластаўчыны гнёзды пад страхой. Праўда, у нас ёсць камера для здымак шырокаэкранных фільмаў, але тут яе трэба было б павярнуць на дзевяноста градусаў і здымаць пейзаж у вышыню, у яго непраўдападобнай вертыкалі. Інакш не перадаць манументальнасці карціны!

Унізе ля мора — зародак будучага курорта: некалькі дамоў, якія служаць для албанскіх працоўных месцам адпачынку. Потым дарога ўзнімаецца па аліўкавых гаях у горы. Тут цяпер стаяць абедзве «татры», каля самых дамоў, каб даць магчымасць праехаць другім машынам. Іх вартуе ад цікаўных хлапчукоў малады міліцыянер, які добра гаворыць па-італьянску. Ён вядзе нас на плошчу — крыху расшыраную частку дарогі над безданню — і паказвае Дошку гонару. Тут дыяграмы, на якіх адлюстраваны дасягненні ў вырошчванні вінаграду, бавоўны, збожжавых, аліў, авечак, коз і буйнай рагатай жывёлы. Пад дыяграмамі — прозвішчы перадавікоў. Дзевятнаццаць з іх — жанчыны і толькі трое — мужчыны.

— Чаму так? — паўтарае наша пытанне крыху здзіўлены міліцыянер. — Гэта ў нас зусім нармальная з'ява.

Потым мы доўга гаворым аб працоўнай маралі мужчын, аб перажытках феадалізму ў свядомасці людзей, аб становішчы жанчын, аб няшчасных выніках кроўнай помсты, аб нялёгкіх задачах партыйцаў у краіне, дзе да вайны не было рабочага класа і дзе яшчэ сёння пераважная большасць членаў Партыі Працы — земляробы, бо прамысловасць толькі нараджаецца.

— Мы некалькі разоў бачылі такую карціну: рухаецца на нас капа сена, за ім — меншая. Пад першай — конь, пад другой — жанчына. А ззаду спакойна ідзе мужчына з палачкай у руцэ, пасвіствае...

— Такога тут у нас, у Дэрмі, не ўбачыце, — пярэчыць адзін з слухачоў, якія сабраліся між тым вакол нас — ім міліцыянер перакладае нашу «дыскусію» з італьянскай мовы на албанскую. — Мы за гэтую справу ўзяліся грунтоўна — ад авечак да аўтамабіляў!

Мы даведваемся, што трэцяя частка мужчын у Дэрмі — шафёры на грузавіках. Яшчэ нядаўна яны пасвілі авечак на гэтых схілах. А сёння навучыліся разбірацца ў матарах.

...У праектыроўшчыкаў горных дарог не было асаблівага выбару. Альбо яны павінны асцерагацца небяспекі лавін і апоўзняў на схілах, альбо, прадухіляючы бурныя разлівы рэк, будаваць вялізныя аркі мастоў.

На албанскай Рыўеры дарога то паўзе каля мора, то крута ўзнімаецца на грэбень, то зноў падае ўніз. Тут таблічкі «Небяспечны спуск» частыя, яшчэ часцей каля дарогі надпіс «Kthese e forte — крутый паварот. Затое край незвычайна зялёны і яркі: дубы і кіпарысы перамяжаюцца з смакоўніцамі, апельсінавымі і лімоннымі дрэвамі, лепш за ўсё адчуваюць сябе разложыстыя грушы. Тут і вінаграднікі, і арэшнікі, і гранатавыя дрэвы. Багаты і прыветлівы край! Толькі да дарог мы не можам аднесці гэтыя эпітэты — адно каменне, яма на яме, невядома, калі хадзіў па іх дарожны майстар.



Па ваду.

Ольда сядзіць, як на калючках, твар нахмураны. Ён добра ведае, што азначае такая дарога для машын.

— Я ўсё чакаю, калі пачнуцца лепшыя дарогі, — гаворыць ён. — Як ты думаеш, Мірка, ёсць яны ў Албаніі?

Нарэшце перад намі адкрываецца шырокая прыморская раўніна — мы набліжаемся да сённяшняй мэты, прайшоўшы самы цяжкі ўчастак шляху з Дурэса — албанскую Рыўеру. Праз паўгадзіны проста перад намі ўзнікаюць агні Саранды, з'язджаем па спадзістаму схілу, стрэлка вышынямера нарэшце спыняецца на нулі. Сіняя машына адстала на нейкі кіламетр. Пакуль яна падыдзе, мы абмятаем шчоткай тоўсты пласт пылу на бартах, чысцім падлогу кабіны, шыбы.

— Я так і ведаў, — бурчыць Ольда з-пад машыны. Адтуль высоўваюцца толькі ногі, ён з электрычным ліхтарыкам аглядае механізм. — Кранштэйн даў трэшчыну. Гэта паўдня работы.

Сіняя машына пад'язджае мінут праз дзесяць.

Вынікі паездкі па Рыўеры ў яе былі такія ж самыя.

...Славяне адыгрывалі ў гісторыі Албаніі значную ролю. У сёмым стагоддзі прыйшлі ў краіну сербы і балгары, у чатырнаццатым — яе пакарыў сербскі кароль Стэфан Душан. Відаць, з тых часоў паходзяць славянскія назвы, мноства якіх вы знойдзеце на карце паўднёва-ўсходняй Албаніі. Гэта наводзіць на філалагічныя развагі. Шкада, што няма часу, каб накіравацца пехатой у горы і высветліць, што тут засталося яшчэ, апрача назваў...

Не даязджаючы пяцідзесяці кі-



ламетраў да Корчы, мінулі вёску Барова, албанскія Лідзіцы. 6 ліпеня 1943 года яе спалілі гітлераўцы. Забілі сто семдзесят чалавек мужчын, жанчын, дзяцей — усіх. У шаленстве забілі і жывёлу, каб у Барове не засталося ніводнага жывога стварэння.

... — Гэй, сябры, спыніцеся, пачакайце...

Голас нам здаецца крыху знаёмы, ды і каму іншаму ён можа належаць тут, на галоўнай вуліцы Корчы! Націскаем на тармазы.

— Я вельмі рад, што згледзеў вас, — гаворыць, задыхаючыся, Томі Мата, з якім тыдні два назад мы пазнаёміліся ў Дурэсе. Ён вучыўся ў Пражскай акадэміі мастацтваў, цяпер працуе рэжысёрам тэатра ў Корчы. — Колькі часу вы тут будзеце?

— Толькі паабедаем і крыху адпачнём. Хочам завідна даехаць да Паградзецкага возера.

Томі родам з Паградца і яшчэ ў Дурэсе абяцаў, што на сваёй бацькаўшчыне будзе нашым праваднікам. І вось ён сядзіць у «газіку» замест Насі, бо ў таго бацькі жывуць якраз тут, у Корчы, ён пайшоў іх наведаць, а паслязаўтра дагоніць нас.

Ужо даволі цёмна, калі мы спускаемся ў даліну. На гладзі возера мігцяць агні Паградца. Турысцкі сезон у самым разгары, таму ў атэлі «Албтурыст» няма ніводнага свабоднага нумара. Не дапамагаюць нават знаёмствы Томі. Яраслаў і саветнік нашага пасольства ўЦіране Ольдржых Шыгут падумваюць аб тым, каб вярнуцца ў Корчу.

— А навошта вам вяртацца? Мы вязём з сабой складныя ложкі і непрамакальныя спальныя мяшкі, — звяртаецца да іх Іржы. — Мы з Робертам будзем спаць у мяшках, прынамсі выпрабуем іх непрамакальнасць.

У гарах бліскаюць маланкі, неба чорнае, як сажа, не відаць ніводнай зоркі.

Томі паказвае нам дарогу за горад, мы едзем павольна — усюды лужы, хто ведае, што гэта будзе за начлег. Ехалі ж цэлы дзень, усе стаміліся — пад'ём быў у пяць, а цяпер скора поўнач. Фары вырываюць з цемры ўзгоркі пяску, трэба збочваць з дарогі і — спаць. Месца для стаянкі знойдзем заўтра. Пачынаецца дождж.

— Хлопцы, накрыйцеся хоць палаткай!

— Не накрыемся! Выпрабаванне ёсць выпрабаванне!

Іржы і Роберт залезлі ў мяшкі — нават насоў не відаць. Ляжаць толькі два гіганцкія кулі, як у казцы.

— Вы там не задыхнуліся яшчэ? Падайце голас!

З мяшкоў даносіцца глухое бурчанне — здагадваемся, што гэта азначае: «Яшчэ жывыя! Дабранач!»

Ледзь толькі ад'ехалі Томі і шафёр «газіка», як лінуў моцны дождж. Ні ў чырвонай, ні ў сіняй машыне ніхто не спіць, усе чакаюць капітуляцыі «выпрабавальнікаў».

Яны вытрымалі цэлых чатыры гадзіны і вылезлі, калі пачынала ўжо світаць. Матэрыял аказаўся сапраўды непрамакальны, унутры ліlося толькі з шчылін вакол зашпілек.

### Вада або рамантыка?

Шукаць месца для стаянкі — гэта рамантычны занятак, які абяцае шмат прыгод. Мы адчуваем сябе заснавальнікамі вялікіх, славутых арадоў. Праўда, даводзіцца задавальняцца меншымі маштабамі. Для нашай стаянкі неабходны: пітная вада, цень для абедзвюх машын, у ваколіцах нейкі рамантычны куток (мы будзем фатаграфаваць), стаянка не павінна быць занадта далёка ад Паградца (з прычын чыста практычных), і прытым мы павінны быць схаваны ад цікаўных.

— Гэта будзе цяжка знайсці такое месца, — гаворыць Томі Мата, які прыехаў праз гадзіну пасля пад'ёму. — Пагля дзіце на карту. Скала з аднаго боку, вузкая шаша і возера з другога. Я ведаю тут кожны камень, можна праехаць вакол возера з канца ў канец, але я сумняваюся...

На паўднёвым беразе агляд доўга не зацягнуўся — ні адно з нашых патрабаванняў не магло быць задаволена. Больш таго, тут пачыналася прыгранічная паласа.

На паўночным — не намнога лепш. Праўда, від на возера маляўнічы, але не відаць ніводнага кавалачка зямлі, дзе б можна было атабарыцца з машынамі. І так кіламетр за кіламетрам едзем, і ўсё больш псуем сабе настрой.

Па дарозе назад пагадзіліся, што адзінае месца на ўсім возеры, зручнае для стаянкі, пад невялікай купкай платанаў. Праўда, там да іх не вельмі добрыя пад'езды, але гэта не бяда — будзем выпрабоўваць язду па перасечанай мясцовасці.

Лагер задавальняў усім патрабаванням, акрамя аднаго: па пітную ваду мы будзем хадзіць за два кіламетры.

— Але затое які прыгожы трыснёг каля берага, якая рамантыка!

### Аперацыя на дарожным слупку

Апрача Ольды, які рамантуе машыны і прычэпы, сёння ўсе ў скалах над лагерам. Там так шмат гадаў, што мы выцягнулі высокія скураныя боты. У нас чатыры наборы прылад для макрафатаграфічных здымкаў, трэба праверыць, што нам найбольш падыходзіць, выбраць найбольш тэхнічна дасканалыя.

Абвешаныя штатывамі, сумкамі з рознымі аб'ектывамі, вяртаемся кружнымі дарогамі да возера. На скале чацвёра рыбакоў сушаць невады і скарачаюць сабе час чакання тым, што ловяць гадзюк. Вось якраз адна кінулася ў празрыстую ваду, абмінае каменны паўастравок, спяшаецца, з вады тырчыць сплюшчаная галава.

У Ольдржыха, які сканструяваў камбінаваную зброю для «электрычнай» лоўлі рыб і гадзюк, тут сур'ёзныя сапернікі! Яны падсцерагаюць гадзюку між камення і, ледзь толькі становіцца магчыма дацягнуцца да яе рукой, маланкава хапаюць за хвост, выхопліваюць з вады, узмахваюць ёю над галавой і потым з сілай б'юць галавой аб камень. Не паспее гадзюка апамятацца, як ужо ўсё скончана.

Мясцовыя жыхары перасцерагалі нас, каб мы не купаліся ў возеры, бо там, маўляў, многа ядавітых гадзюк.



Ранішні пад'ём.

— Мне ўсё-такі здаецца, што гэта не вадзяная гадзюка, — першым усумніўся Ярка Новатны. — Роба, ты ж разбіраешся ў анатоміі...

Аперацыя прайшла паспяхова — проста на дарожным слупку. Ролю скальпеля выконваў звычайны сцізорык.

— Так і ёсць — гэта вужака! Адкуль тут узяцца гадзюкам?

З сённяшняга дня купаемся ў возеры.

**Філалогія, геалогія, кнедлікі**

У нас цікавы намер: пабыць на хромавых і жалезных рудніках у Пішкашы. Недалёка ад іх група чэхаславацкіх геолагаў праводзіць разведвальныя работы. Гэтае месца называецца Перанье.

— Паспрабуйце вымавіць гэта як асобныя зычныя, але не па правілах алфавіту, — патрабуе ад нас Насі: — Трэба вымаўляць асобна: «п-р-нь-з». Ну вось, вельмі добра!

Мы ўмеем вымавіць гэтае слова і едзем у руднік, які паставіў Албанію на пятае месца ў свеце па здабычы хромавай руды! «Газік» караскаецца па схілах, ад якіх кружыцца галава, але неўзабаве пачынаецца такая круцізна, што нават машына высокай праходнасці не можа адолець пад'ёму, і мы працягваем шлях пехатой. Каля буравых вышак зараз цішыня, людзі на абедзенным перапынку. У драўлянай скрыні ляжаць керны, выцягнутыя з шчылінь. Вынікі вельмі добрыя, і хутка ў гэтых месцах пачуюцца ўзрывы, загрукочуць аўтамабілі.



Пешкап.

Гара ў Пішкашы здалёк падобна да Сталовай гары над Кейптаўнам — такі роўны ў яе хрыбет. Але знізу яна ўся раскапана, у яе чырвона-бурым нутры корпаюцца экскаватары, здабываючы тоны каштоўнай руды, больш чым палову якой складае метал. Рудны пласт ідзе пад даліну — і чым глыбей, тым ён таўсцейшы. Доўгай чаргой стаяць грузавікі з прычэпамі — нашы, чэхаславацкія «шкоды». Пагрузка ідзе без перадыху, руда — каштоўны экспартны тавар Албаніі. Трэба выконваць і перавыконваць план здабычы!

Мы спяшаемся, каб паспець закончыць здымкі завідна, больш дзвюх гадзін страчана з-за ўзрыўных работ. Зараз на асноўную тэрыторыю рудніка насунуўся цень «Сталовай гары», цёмна-карычневая руда не атрымаецца на плёнцы. Але нам трэба закончыць здымкі абавязкова сёння.

Ужо ў прыцемку мы вяртаемся ў Паградзец разам з вядучым геолагам інжынерам Папоушкам і буравым майстрам Грушкай.

— А ведаеце што, — гавораць яны, развітваючыся з намі ў лагеры, — прыязджайце да нас у нядзелю абедаць. У нас будзе ростбіф з сухарнымі кнедлікамі.

**Мудрае возера**

Возера — як само жыццё: адзін дзень не падобны на другі.

Прачынаецца возера на світанні, да снедання з кучаравымі хмаркамі, якія прыплываюць з югаслаўскага берага, а потым — паводле настрою: альбо захінецца ў туман, які рассейваецца толькі пад вечар, або апране святочны ўбор і адкрые свае люстра чароту, даючы яму магчымасць любавацца сваім жывым хвалістым адлюстроўкам. Часам возера капрызнічае, як дзіця, злуецца, нібы хоча нешта атрымаць.

Яраслаў не звяртае ўвагі на гэтыя капрызы. Мы збіраемся ехаць у Паградзец, а возера раняе слёзы. Аднак Яраслаў, не кажучы ні слова, засоўвае за сядзенне сваю верную «лейку» — маўляў, там відаць будзе! Вечарам, вяртаючыся дамоў, бачым: возера выплакалася. Цяпер яно забаўляецца з надзіманымі воблакамі, якія падняліся на недасягальную вышыню, і толькі чакае таго моманту, калі сонца схаваецца за албанскія горы, каб пакрасавацца ў чырвані заходу. Ну, вось і надышоў зручны момант. Першы здымак — у кадры агульны від, потым хутка спусціцца па скале да вады, каб захапіць дрэва ў левы верхні вугал, а потым адбегчы метраў на дваццаць і зрабіць кадр у вышыню, з чаротам на першым плане. І на ўсякі выпадак — той жа кадр з меншай і большай дыяфрагмамі.



Задаволен...

Возера (а не Яраслаў, які не сказаў ні слова) вучыць нас быць заўсёды ў рэпарцёрскай гатоўнасці. Яно прымушае рэпарцёра заўсёды браць з сабой не толькі блакнот і аловак, але і фотаапарат, прымушае не звяртаць увагі на яго капрызы.

**Нас было пяцёра**

Не аднолькавае возера, розныя і візіты да яго. Першымі прыходзяць авечкі са сваімі званочкамі. Меладычны перазвон коціцца спачатку па дарозе, потым адыходзіць на схілы і рассейваецца ў гарах. Значыць, яшчэ можна храпянуць з паўгадзінкі. Авечкі і пастушок, якія іх кожны дзень прыводзіць сюды, дакладныя, нібы гадзіннік з боем. Яны кіруюцца сонцам.

Часам прыплываюць рыбакі — тады, калі ведаюць, што мы не лазім па скалах, збіраючы кветкі і жукоў. Бывае, прывязуць рыбу, іншы раз — толькі песню. Яны ведаюць, што ў нас ёсць такая чароўная прылада, якая потым паўторыць іх песню без ніякіх змен. Рыбакі слухаюць магнітафонны запіс і ўсміхаюцца. Мужчыны, у якіх твары нібы выразаны са стогадовага дубу, цяпер, як дзеці, смяюцца ў далонь і падштурхоўваюць адзін аднаго, слухаючы свае галасы. Ніколі яшчэ яны не ўзялі ад нас ні гелера — гэта было б ніжэй іх гонару.

— Мы лепш вып'ем з вамі бутэльку корцкага піва або кроплю каньяку, калі маеце...

Два разы на тыдзень у лагер з'яўляецца рэжысёр Томі Мата. Прывязе нам або кавалак вяндліны або кошык свежых яек, а потым па-дамашняму сядзе ў цень платана і чытае чэшскія газеты. Артыкулы пра тэатр вывучае з алоўкам і нажніцамі ў руцэ. Адной нагой — у сваім тэатры ў Корчы, другой — да гэтага часу ў Пражскай акадэміі.



Нас было пяць... (Іржы Ганзелка, Мірaслаў Зікмунд, Ольдржых Халупа, Роберт Віт, Яраслаў Новатны).

Шафёры, якія возяць гаручае ў Пішкашы, ужо ўсіх нас ведаюць і выконваюць ролю добраахвотных пасыльных. Кожную раніцу хто-небудзь з іх спыніцца каля лагера і паставіць да дарожнага слупка кошык са свежым хлебам або мех бульбы. Вечарам, вяртаючыся дамоў, зойдзе да нас забраць пусты кошык і паглядзець, што ў лагеры новага...

... — Як жа хутка мінуў час, хлопцы. Не верыцца, што прайшло ўжо сем тыдняў, як мы сустрэліся на поўначы, — і Яраслаў крыху пахмурнеў. Так, заўтра мы расстанемся, пацíснем у апошні раз яго руку і раз'едземся ў розныя бакі.

Увесь вечар мы падводзім вынікі, сядзім над блакнотамі і запісваем, што было добра, што горш, што зусім сябе не апраўдала.

Мы выпрабавалі не толькі ўсе аб'ектывы і фільтры, магнітафоны, лямпы-ўспышкі, пішучыя машынкі, стэрэаскапічную камеру-«двайняткі», але і такія рэчы, як гумавыя рыбацкія боты, пераносны апарат для зарадкі акумулятараў, фільтравальную ўстаноўку, радыёстанцыю пры максімальнай рабочай нагрузцы, спальныя мяшкі пад дажджом і ў рамантычныя месячныя ночы, калі мы аддавалі перавагу ім, а не сну ў машынах.

Цяпер ламаем галаву, як абараніць ад пылу нашы складскія памяшканні.

Мы павінны ўлічваць па нашаму албанскаму вопыту, што экспедыцыя не заўсёды будзе адна, што з намі можа быць перакладчык або мясцовы праваднік, якому давядзецца праводзіць з намі не толькі дзень, але і ноч, што на больш працяглых прыпынках трэба будзе абсталяваць «філіял» складаў, каб у машынах можна было павярнуцца. Мы павінны знайсці дзве лёгкія пераносныя палаткі з шчыльнай гумавай падлогай, устаноўка якіх не займала б многа часу. І галоўнае: палаткі павінны быць абсалютна недаступны не толькі для мух і скарпіёнаў, але і для малюсенькіх камароў-анофелесаў, са «здольнасцямі» якіх мы добра знаёмы на ўласным вопыце: Іржы — па Абісініі, Яраслаў — па В'етнаму. Увогуле, у Яраслава некалькі лістоў спісана заўвагамі і даручэннямі, якія трэба выканаць на другім полюсе экспедыцыі — у Празе.

Назаўтра, калі шэра-зялёны «газік» знік у алеі платанаў, мы падумалі:

— Нас было пяцёра. Цяпер мы зноў — экспедыцыя чатырох. Яраслава нам часам будзе не хапаць.

(Працяг будзе.)

## *Давайце пагаворым...*

**А. СМІРНОВА,**
**кандыдат філасофскіх навук**

# У ЧЫМ ХАРАСТВО ЧАЛАВЕКА

Над гэтым пытаннем задумваюцца многія, асабліва моладзь. І гэта зразумела. Словы «прыгажосць, харасцтво» мы чуем штодзень, штохвіліны. Іх мы ўжываем не толькі ў адносінах да чалавека. Вызначэнні «прыгожы», «непрыгожы» мы адносім да працоўнай дзейнасці, да ўчынкаў, да паводзін чалавека, да знешняга вобліку.

Часам у спрэчках сутыкаюцца зусім супрацьлеглыя думкі: адны сцвярджаюць, што галоўная станоўчая рыса чалавека — яго знешняе аблічча, другія лічаць, што галоўнае — унутраныя якасці. Абодва гэтыя меркаванні — аднабаковыя. «У чалавеку павінна быць усё прыгожае: і твар, і адзенне, і душа, і думкі», — сказаў А. П. Чэхаў вуснамі доктара Астрава ў п'есе «Дзядзя Ваня». Такое разуменне прыгожага блізкае савецкім людзям.

А. М. Горкі ў адным з сваіх выказванняў падкрэсліў творчы пачатак у чалавеку: «Чалавек усюды так ці інакш імкнецца ўносіць у сваё жыццё прыгажосць». Наш ідэал чалавечага харастава мае на ўвазе ўсебаковае, гарманічнае развіццё чалавека.

Усе гады Савецкай улады — гэта этапы росту краіны, этапы выхавання новага чалавека. Выхоўваючы моладзь у духу сацыялістычных ідэалаў, савецкая грамадскасць у 20-я гады змагалася з усякага роду праявамі буржуазна-мяшчанскай ідэалогіі ў быту, у паводзінах. Вялася, напрыклад, барацьба супраць «ясенінцчыны». Гэта была барацьба не супраць творчасці С. Ясеніна, таленавітага лірыка, а супраць мяшчанскага індывідуалізма, афярай якога, па сутнасці, і стаў С. Ясенін. Гэтая з'ява аказалася ў першыя гады рэвалюцыі яшчэ настолькі моцнай, што мёртвы задушыў жывога.

Барацьба за новае разуменне прыгожага тады мела свае асаблівасці. У тыя суровыя гады паўгалодны, паўраздзеты народ на сваіх натруджаных плячах узнімаў маладую савецкую краіну з руін. Юнгштурмоўка, салдацкі шынель — было тады «модным адзеннем». Самаабмежаванне, якое даходзіла да аскетызму — нормай жыцця. Фарбаваць губы лічылася мяшчанствам, за гэта выключалі з камсамола.

Кожны новы перыяд уносіць сваё. Новае — не супярэчыць мінуламу, а развівае, узбагачае яго. Сімвалам часу 30-х гадоў становіцца ўдарніцтва, стаханаўскі рух. У гады Вялікай Айчыннай вайны прыгожае праяўляецца ў гераічнай, самаадданай барацьбе — у абароне Радзімы.

Мы жывём цяпер у адзін з важнейшых пераломных перыядаў — у перыяд пераходу ад сацыялізма да камунізма. Барацьба за ўсебаковае, гарманічнае развіццё чалавека таму і вядзецца, каб савецкі чалавек быў прыгожы ў кожным учынку, у кожным дзеянні.

Камунізм — не цудоўная мара, а справа, якую практычна робяць савецкія людзі, не забываючыся пра галоўнае — выхаванне новага чалавека, чалавека камуністычнай эпохі. «Каб прыйсці да камунізма, самага справядлівага і дасканалага грамадства, калі цалкам раскрыюцца ўсе лепшыя маральныя рысы свабоднага чалавека, — гаварыў М. С. Хрушчоў у дакладзе на XXI з'ез-

дзе КПСС, — нам трэба ўжо цяпер выхоўваць чалавека будучага. Трэба развіваць у савецкіх людзей камуністычную мараль, у аснове якой ляжыць адданасць камунізму і непрымірымасць да яго ворагаў, усведамленне грамадскага абавязку, актыўны ўдзел у працы на карысць грамадства, добраахвотнае захаванне асноўных правілаў чалавечага агульнажыцця, таварыская ўзаемадапамога, сумленнасць і праўдзівасць, нецярпімасць да парушальнікаў грамадскага парадку».

Мы бачым, што М. С. Хрушчоў, гаворачы аб маральным абліччы чалавека камуністычнага грамадства, эстэтычнае выхаванне непарыўна звязвае з палітычнай свядомасцю. Каб разумець і адчуваць хараство новага, камуністычнага свету, бачыць агіднасць парадкаў капіталістычнага свету, трэба ведаць законы развіцця грамадства, мець палітычную зоркасць, валодаць эстэтычнай культурай.

Ідэал цудоўнага для савецкіх людзей — камуністычнае грамадства. Для нас прыгожыя тыя з'явы грамадскага жыцця, у якіх праяўляюцца парасткі камуністычнага жыцця. Творчасць паводле законаў хараства — гэта гарманічнае развіццё асобы, чалавека-творцы, раскрыццё ўсіх фізічных і духоўных здольнасцей яго.

### Прыгожае мы ствараем самі

У чым жа выяўляецца ўнутраная прыгажосць чалавека? Працавітасць — асноўная якасць унутрана прыгожага чалавека. З працавітасцю звязаны і ўсе іншыя заслугі людзей. «Толькі ў працы... можна стаць сапраўдным камуністам», — гаварыў У. І. Ленін. «Мяне на Волгу вабіла музыка працоўнага жыцця», — пісаў А. М. Горкі ў «Маіх універсітэтах». Уся творчасць А. М. Горкага — гімн чалавеку працы, гераічнай паэзіі працы. «Самае цудоўнае ў свеце нашым тое, што створана працай, умелай чалавечай рукою».

Толькі ў працы чалавек можа найбольш поўна праверыць свой талент, даведацца, на што ён здольны. Усе, нават вельмі таленавітыя людзі, упарта і сістэматычна працуюць. У вялікага рускага мастака І. Я. Рэпіна ад пастаяннай упартай працы аднялася правая рука. Але мастак не здаўся: ён стаў пісаць карціны левай рукой.

Калі чалавек ясна ўсведамляе неабходнасць сваёй працы, ведае, што за добрую працу ён атрымае не толькі матэрыяльную падтрымку, але і самую дарагую ўзнагароду — прызнанне і павагу грамадства, ён імкнецца ў што б там ні было пераадолець любыя цяжкасці. Адносіны да працы — гэта не проста выкананне пэўнага працэнта, нормы. Часам можна сутыкнуцца і з такім фактам: чалавек нядрэнна працуе, выконвае нормы, працуе без браку. Здавалася б, усё добра: працавіты — значыць, высакародны. Але, прыгледзеўшыся, пераконваешся, што гэты чалавек і кроку не зробіць, калі яму гэта не выгадна. Перад намі індывідуаліст, і мы разумеем: ён працуе не таму, што хоча прынесці карысць людзям, а каб паўней напакаваць сваю кішэню.

На адным заводзе ў Магілёве камсамольцы абмяркоўвалі амаральны ўчынак маладога рабочага. Т. добра працуе, нормы перавыконвае, вучыцца на вячэрнім аддзяленні машынабудаўнічага тэхнікума. Адразу ж узнікла пытанне, чым вытлумачыць паводзіны таварыша, якія не адпавядаюць вобліку рабочага-працаўніка. Як жа ў гэтым разабрацца? Вырашылі ўспомніць усё добрае, што Т. зрабіў за гады працы ў калектыве. І амаль нічога не маглі ўспомніць. Хутчэй прыводзіліся выпадкі грубасці, зазнайства, фанабэрыстасці ў адносінах да таварышаў. Звярнулі ўвагу і на яго паводзіны на камсамольскім сходзе. Трымаўся ён задзірліва, глядзеў на ўсіх з нахабнай усмешкай — увесь яго выгляд нібы гаварыў: а што вы са мной зробіце!

Праца перайначвае чалавека, калі становіцца яго надзённай патрэбай, не толькі матэрыяльным, але і маральным стымулам жыцця. Такая праца — творчасць, вышэйшае праяўленне прыгожага ў людзях.

Непрыгожы той, хто не выхаваў у сабе пачуцця калектывізму, каму чужы локаць таварыша, у каго адзіная мэта ў жыцці — «прабіць сабе дарогу». Калектыў мае вялікую сілу для таго, каб падтрымаць свайго таварыша. У добрым, згуртаваным калектыве заўсёды моцнае пачуццё таварыскага локця, узаемадапамогі, патрабавальнасці адзін да другога.

Цяпер па ўсёй краіне шырока разгарнуўся рух за званне брыгад камуністычнай працы. Іх дэвіз: «Працаваць, вучыцца і жыць па-камуністычнаму!» Гэты патрыятычны рух паказвае, якой усеагульнай стала барацьба за гармонію ўсіх якасцей савецкага чалавека. Народны клопат аб поспехах агульнай справы асабліва ярка праявіўся ва ўчынку Валянціны Гаганавай, брыгадзіра прадзільнай фабрыкі Вышневалоцкага тэкстыльнага камбіната. Яна добравольна перайшла з перадавой брыгады, дзе была больш высокая аплата працы, у адсталую, каб падняць яе да ўзроўню перадавой. Яе пачын мае вялікае значэнне для росту руху за камуністычныя адносіны да працы. Гэты прыклад вучыць жыць і працаваць па-камуністычнаму. Кожны дзень паведамляецца аб новых паслядоўніках В. Гаганавай — рух прымае масавы характар. Няма амаль ні аднаго горада, раёна ў краіне, дзе не было б яе паслядоўнікаў. Усе яны ідуць на пэўныя ахвяры: трацяць частку заработку, затрачваюць многа сіл, энергіі, праяўляюць вялікую творчую ініцыятыву, любоў і чуласць да чалавека, каб пераадолець адставанне, навучыць членаў новага калектыву дасканала авалодаць тэхнікай і высокапрадукцыйна працаваць.

І гэта не ахвяры, а натуральная норма жыцця савецкага чалавека, сэнс і шчасце жыцця. У справах паслядоўнікаў В. Гаганавай, у дасягненнях брыгад камуністычнай працы, у клопаце народных дружыннікаў пра грамадскі парадак, у пераадоленні цяжкасцей на цалінных землях, на новабудоўлях — усюды праяўляецца камуністычная ідэйнасць і мэтанакіраванасць, высокая свядомасць.

Не лёгка ўсе гэтыя перамогі здабываюцца. Але для савецкага чалавека характэрна не толькі пачуццё абавязку, але і добрая прага жыцця, імкненне да пазнання свету, да пераўтварэння яго. Савецкі чалавек з яго сілай ідэйнага пераканання, з упэўненасцю ў будучыню — самы перадавы ў свеце. У ім з найвялікшай паўнатой і гармоніяй увасабляецца прыгажосць.

І калі ў некаторай часткі моладзі праяўляюцца настроі раўнадушша і нігілізму, дык гэта ніяк не стасуецца з нашым уяўленнем аб жыцці. Тыя, хто ахоплены гэтымі настроямі, не здольны разумець сапраўдную прыгажосць і цэльшыца ёю ў працы і барацьбе, у няспынных пошуках і творчасці.

Калі чалавек усведамляе значэнне сваёй працы, яго захапляе і простая, будзённая работа. Ён смела ідзе насустрач цяжкасцям. Але асобныя нашы юнакі і дзяўчаты, клапоцячыся толькі аб сваім асабістым дабрабыце, аб ціхім, бестурботным жыцці, выбіраюць лягчэйшы шлях. Кожную вясну ў інстытутах адбываюцца дзяржаўныя экзамены, завяршаецца абарона дыпломаў. Маладыя спецыялісты едуць ва ўсе канцы Савецкага Саюза — на новабудоўлі, на цалінныя землі, у калгасы і г. д. Аматары ж утульнага, спакойнага жыцця стараюцца ў што б там ні стала ўладкавацца ў вялікім горадзе, не паехаць туды, куды іх пасылае дзяржава. Дзяўчаты імкнуцца тэрмінова выйсці замуж, каб схавацца за спіну мужа.

Адна, напрыклад, выпускніца пры размеркаванні на работу сказала: «Мы з мужам нікуды з горада не паедзем. Не дзеля таго яго бацька на адказнай рабоце, каб мы ехалі ў вёску». Гэтыя словы выклікалі не толькі абурэнне, але і здзіўленне. Усе ведалі, што К. добра вучылася, была нядрэнным таварышам, актыўнай камсамолкай. Відаць, недзе ўнутры, патаемна жыў у ёй мяшчанскі душок, і як толькі паўстала пытанне аб асабістых інтарэсах, якія могуць быць у нейкай ступені закрануты, дык гэты душок і пачаў смярдзець непрыстойна. Ці ж можна тут гаварыць аб чалавечым харастве? Усіх такіх аматараў «изячной жизни», як гаварыў У. У. Маякоўскі, можна хутчэй назваць маральнымі пачварамі, чым прыгожымі людзьмі.

Толькі ў працы на карысць грамадства знаходзяць людзі асабістае шчасце, набываюць сапраўдную чалавечую годнасць, становяцца прыгожымі. «У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу», — гэтымі словамі А. М. Горкі, вялікі гуманіст, сцвердзіў права на подзвіг кожнага працаўніка. Подзвігі розныя па часу — ад некалькіх секунд да некалькіх дзесяцігоддзяў, незалежна ад гэтага яны ўвасабляюць у сабе такія якасці, як смеласць і цярплівасць, рызыка і асцярожнасць, воля і розум.

Мы ведаем імёны Аляксандра Матросава, Зоі Касмадзям'янскай, Мікалая Гастэлы, герояў Брэсцкай крэпасці і многіх іншых. А колькі безымянных герояў аддалі сваё жыццё за свабоду Радзімы! Хіба не подзвігам было жыццё ленінградцаў у дні варожай блакады! Кропля па кроплі трацяцца сілы, з кожным днём узмацняецца боль голаду, холад, здаецца, усё пранізвае — валасы ноччу да падушкі прымярзаюць. Але галоўнае — адстаяць горад. Лепш памерці — але не здацца! І ўсе гэтыя подзвігі рабіліся ў імя сцверджання шчасця на зямлі, у імя цудоўнага.

Ці то кідаецца савецкі салдат пад варожы танк ці то ў мірны час чацвёрка такіх жа салдат уступае ў адзінаборства з ціхаакіянскай стыхіяй — усе гэтыя подзвігі робяцца дзеля карысці чалавецтву.

Колькі высакароднасці праяўляе савецкі чалавек, выратоўваючы людзей з агню, з вады, з-пад колаў цягніка. Подзвігі магчымы не толькі ў якіх-небудзь складаных сітуацыях ваеннага ці мірнага часу. Яны магчымы і ў вучобе, і ў быту, і ў сямейным жыцці.

Часта мы чуем словы: «Яго жыццё — гэта подзвіг». Колькі можна прывесці прыкладаў, калі людзі, якія страцілі слых або зрок у вайну, засталіся без рук ці без ног, не пакідалі штурвала самалёта ці камбайна, станавіліся вучонымі, музыкамі з сусветным імем (савецкі піяніст Леанід Зюзін, член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР С. С. Пантрагін — абодва сляпыя).

У нашым жыцці кожную гадзіну, кожны дзень адбываюцца такія падзеі, якія варта назваць подзвігам, подзвігам усяго народа. Кожны дзень адкрывае імёны ўсё новых таленавітых вынаходцаў,

вучоных, наватараў прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Гэтыя страсныя, нястомныя і смелыя людзі вызначаюць ход нашага жыцця.

### У чым галоўнае!

Знешняя прыгажосць людзей у большасці бывае прыроджаная. І калі знешне прыгожы чалавек мяркуе, што гэта дае яму права на нейкае выключнае становішча, дык ён глыбока памыляецца. Якая б вялікая ні была фізічная дасканаласць таго ці іншага чалавека, якія б ні былі прыгожыя яго твар і цела, але калі ён пры гэтым з'яўляецца разбэшчаным і грамадскі шкодным (напрыклад, хуліган, п'яніца, дармаед і г. д.), дык гэта не дазваляе нам захапляцца ім, з цягам часу моцна выяўленае духоўнае і маральнае калецтва накладае адбітак і на знешнасць чалавека.

Знешняя прыгажосць, не сагрэтая ўнутраным святлом, халодная і пустая. Мноства прыкладаў гэтаму даюць літаратура і мастацтва. Часта прыводзяцца словы доктара Астрава пра жонку прафесара Серабракова з п'есы А. П. Чэхава «Дзядзя Ваня». «Яна цудоўная, бясспрэчна... але ж яна толькі есць, спіць, гуляе, чаруе ўсіх нас сваёй прыгажосцю — і больш нічога. У яе няма ніякіх абавязкаў, на яе працуюць іншыя... А бяздзейнае жыццё не можа быць чыстым». Такая ж прыгажосць Вольгі Іванаўны, жонкі Дымава (апавяданне А. П. Чэхава «Скакуха»).

Л. М. Ляонаў у рамане «Рускі лес» выкрывае індывідуаліста і абывацеля Грацыянскага. Псіхалогія гэтага ілжэвучонага: «Здавацца, а не быць». Пісьменнік з вялікім майстэрствам раскрывае маральную нікчэмнасць натуры Грацыянскага і ў знешняй партрэтнай характарыстыцы яго. Усё аблічча Грацыянскага нібы гаворыць аб высакароднасці, узвышанасці помыслаў... «Прадаўгаваты, аскетычнай хударлявасці» твар авеяны непрымірымай веліччу, «крышачку сівізной кранутая бародка, нібы змятая ветрыкам натхнення... І пры адных паваротах ён нагадваў нейкага праваслаўнага місіянера з Курыльскіх астравоў... а пры другіх — нават старадаўняга прарока, гатовага да пакутніцкага кастра... калі б не дзіўная, да смутку, будова вачэй у Аляксандра Якаўлевіча Грацыянскага. Час ад часу там, у глыбіні, пад бясстрасна апушчанымі павекамі пачыналася хуткая, на цік падобная, бегатня зрэнак, якая мала падыходзіць для прапаведніка не толькі слова боскага, але і менш узвышаных ісцін». Пад паказной паважнасцю ў Грацыянскага схавана подласць, нікчэмнасць.

Калі ж чалавек высакародны, смелы, дык ён здольны радаваць і захапляць нават тады, калі знешне і непрыгожы. Унутранае, духоўнае багацце праяўляецца і ў знешнім абліччы чалавека. Гэта — уменне трымаць сябе, выразнасць позірку (часам так і любяць: «у яго разумныя вочы») і г. д. Такі — сумленны і адданы сваёй справе Дымаў у апавяданні «Скакуха» А. П. Чэхава. Высокая чалавечнасць, сапраўдная высакароднасць «упрыгожваюць» нават знявечаны твар. Такія Квазімода і Гуінплен у раманах В. Гюго «Сабор парыжскай багамацеры» і «Чалавек, які смяецца».

Звычайна гавораць, што ў рамане А. А. Фадзеева «Маладая гвардыя» ўсе маладагвардзейцы знешне прыгожыя. Пры ўважлівым чытанні кнігі можна бачыць, што справа не толькі ў знешняй прыгажосці. Мэтанакіраванасць, любоў да жыцця, пачуццё сяброўства і таварыскасці так упрыгожваюць дзеянні, учынкі маладагвардзейцаў, што яны ў нашым усведамленні ўсе застаюцца цудоўнымі. Напрыклад, Ваня Земнухоў. У першай партрэтнай характарыстыцы ён зусім непрыгожы. «Юнак быў доўгі, нязграбны, сутулаваты, у сіняй выцвілай касавароткі з кароткімі для яго доўгіх рук рукавамі, падпяразаны вузкім раменьчыкам, у шэрых з карычневымі палоскамі караткаватых штанах і ў тапачках на босую нагу. Доўгія прамыя цёмныя валасы не слухаліся яго, калі ён гаварыў, спадалі на лоб, на вушы, і ён раз-пораз закідваў іх рэзкім рухам галавы. Твар яго належаў да таго тыпу бледных твараў, якія амаль не паддаюцца загару. Ды яшчэ ж юнак быў вельмі сарамлівы». І ўсё ж ён прыгожы! І гэта не ўпартасць, не імкненне насуперак розуму сцвярджаць сваё. А. А. Фадзееў у знешне нязграбным юнаку паказаў столькі натхнення, таленавітасці, прыроднага гумару, за сарамлівасцю столькі чуласці, што мы забываем аб нязграбнасці, сутуласці Івана Земнухова.

Маральны воблік чалавека, яго ўнутраная прыгажосць, высакароднасць, вялікае пачуццё адказнасці і патрабавальнасці да сябе — усё гэта выяўляецца ў паводзінах, ва ўменні сачыць за сваім знешнім выглядам і г. д.

У апошні час узнікае шмат спрэчак і ў друку, і на дыспутах, асабліва сярод моладзі, і ў прыватных гутарках аб культуры паводзін, аб знешнім абліччы савецкага чалавека. У кнізе пісьменніка Арк. Первенцава «Размова аб культурным чалавеку», у якой асабліва вялікая ўвага аддаецца знешняму этыкету, рэкамендуецца нават выдаць збор правілаў паводзін.

Усё гэта не выклікае пярэчанняў. Не сакрэт жа, што не толькі многія бацькі, але і настаўнікі ў працейшых выпадках быту часам не ведаюць, як правільна дзейнічаць. І толькі таму, што іх гэтаму не вучылі ні дома, ні ў школе, ні ў інстытуце.

Самае ж галоўнае, вядома, не ў гэтым, а ў тым пачуцці прыгожага, якое накладвае адбітак на ўсе бакі жыцця. Выхаванне любві да прыгожага і нянавісці да агіднага лёгка памагае выпрацаваць і правілы знешніх паводзін.

Але ці дастаткова мы змагаемся за цудоўнае ў жыцці? Ці не праходзім мы міма агіднага? Агіднае не толькі ў фактах п'янства, лаянкі, карцёжнай гульні, непавагі да жанчыны. Ці пільныя мы да тых з'яў і абставін, якія нявечаць душу чалавека, бянтэжаць яго грамадскія навыкі? Не ўзаемнае звальванне віны адзін на другога, не ківанне на школу і камсамол або на бацькоў, а ўсеагульнае пачуццё адказнасці за выхаванне чалавека — будаўніка камунізма, — вось што нам патрэбна.

Вялікае значэнне мае знешні выгляд чалавека. А. С. Макаранка успамінаў: «Я на знешні выгляд звяртаю найпершую ўвагу. Знешні выгляд мае вялікае значэнне ў жыцці чалавека. Цяжка ўявіць сабе чалавека бруднага, неахайнага, каб ён мог сачыць за сваімі ўчынкамі. Мае камунары былі франты (Антон Сямёнавіч мае на ўвазе выхаванцаў працоўнай калоніі імя Горкага. — **А. С.**), і я патрабаваў не толькі ахайнасці, але і прыгажосці... Яны былі вельмі ветлівыя, джэнтльмены. І гэта вельмі неабходна».

Неахайнасць — гэта не толькі вынік нізкай культуры чалавека, гэта непавага да людзей. Гэта, нарэшце, часам знявага чалавека.

У адным саўгасе Касцюковіцкага раёна на Магілёўшчыне народным дружыннікам давялося паспрачацца з маладым чалавекам — трактарыстам. Юнак ніяк не мог згадзіцца, што ён не павінен з'яўляцца ў клуб у рабочым адзенні. У маладога чалавека быў адзіны аргумент — работу закончыў позна, а «культурна» адпачыць і яму хочацца. Яму тады сказалі — як жа можна ў такім выглядзе танцаваць з дзяўчынай, калі яна надзела сваё лепшае плацце? Трактарыст адказаў: — Яна не мае права адмовіцца... Гэты хлопец упарта не хацеў зразумець, што сваімі паводзінамі ён дэманстратыўна выказвае непавагу да людзей.

Нават захаванне чысціні цела — некалькі разоў на дні мыцца, раніцай і вечарам чысціць зубы, мыць ногі перад сном, часта мяняць панчохі, шкарпэткі і г. д. — гэта не толькі асабістая справа кожнага. Як непрыемна, калі побач з табой знаходзіцца неахайны чалавек!

А ці ж мы не сустракаем такіх маладых людзей, якія могуць па некалькі дзён не мыцца, не прычэсвацца і прыходзіць на спатканне ў майцы ды ў тапачках басанож, сцвярджаючы, што «мужчына сам сабе заканадаўца мод», «як хачу, так і хаджу», «грамадству ад гэтага не горш». Не кожны можа пашыць сабе модны дарагі касцюм або паліто. Ды гэта і не ўваходзіць у патрабаванне ахайнай знешнасці чалавека. Але кожны можа дабіцца, каб яго адзенне было чыстае, заўсёды адпрасаванае.

Чалавек абавязаны сачыць за сваім знешнім выглядам, гэта не ўмоўнасць і не мяшчанства. Яшчэ А. С. Пушкін сказаў:

Быть можно дельным человеком
И думать о красе ногтей.

Нядбайнасць у адзенні, агульная неахайнасць, узведзеная ў «прынцып», — гэта неразуменне прыгожага, адсутнасць патрэбы ўпрыгожыць жыццё.

Сустракаецца і іншая крайнасць, калі людзі імкнуцца абагнаць «моду», знешне вылучыцца, не быць падобнымі да іншых. Імкненне вылучыць сябе адзеннем, прычоскай, паводзінамі не могуць быць ухвалены. Той, хто падкрэслівае сваё «я», лічыць, відаць, што без яго дапамогі людзі не прыкмецяць яго вартасці. Сціпласць, строгасць у адзенні— не значыць шэрасць, аднастайнасць. Калі ж юнак надзявае на сябе звышвузкія штаны-дудачкі, звышдоўгі і звышшырокі пінжак-балахон, дык гэта гаворыць аб дрэнным стылі адзення, а дакладней — аб дрэнным гусце.

Гавораць, пра густы не спрачаюцца. Няма чаго спрачацца, калі гаворка ідзе аб добрых густах. Адным падабаецца адно каляровае спалучэнне, другім — іншае, адным падабаюцца адны формы адзення ў адпаведнасці з іх фігурай, другім — іншыя. Чалавек з добрым густам адчувае, што ў адзенні прыгожа, што недарэчна. Але калі чалавек у адзенні нядбайны, неахайны ды яшчэ непаголены, брудны, ці, наадварот, паяўляецца апрануты, як папугай, з дзікай прычоскай і крыклівым гальштукам,— гэта гаворыць пра тое, што ў яго дрэнны густ. І з такімі густамі трэба змагацца.

Вядома, што густы выпрацоўваюцца, выхоўваюцца. У нас цяпер адбылася рэзкая змена стылю адзення. У вялікіх гарадах новы стыль увайшоў ужо ў жыццё, але ў абласных і асабліва ў раённых цэнтрах, у вёсках яшчэ спрачаюцца. І бадай праціўнікаў новай моды больш, чым прыхільнікаў. На нашу думку, тлумачыцца гэта тым, што сустракаецца шмат яшчэ мудрагелістасці, непатрэбнага перайначвання прыгожых, зручных форм адзення. Так, цяпер у летняе адзенне мужчын трывала ўваходзіць кашуля свабоднага спартыўнага крою, больш у клетку або стракатая. Адзін бацька на просьбу сына купіць такую кашулю адказаў: «Калі купіш, парву, а цябе дамоў не пушчу». Ён ака-

зайся чалавекам зусім не адсталых поглядаў, у сям'і парадкі зусім не дамастроеўскія.

Другі прыклад. На заводзе (у адным з раёнаў Магілёўскай вобласці) калектыў цэха, вельмі дружны і згуртаваны, прапанаваў маладому рабочаму, які нядаўна скончыў дзесяць класаў і толькі пачаў працаваць, не насіць трыкатажныя штаны ў абцяжку; ён маўчаў, але іх просьбы не выканаў. Тады яны вырашылі сабраць грошы і купіць яму звычайныя штаны. Толькі пасля гэтага малады чалавек «скарыўся».

У многім іх абурэнне мела падставу. Усякае адзенне добрае, калі яно да месца. Тое, што зручна для спорту, для турысцкага паходу, для работы, зусім не падыходзіць для вячэрніх прагулак, танцаў і г. д. А можна бачыць, як у трыкатажных штанах і ў яркаклетчатай кашулі, часам занадта шырокай, падобнай на балахон, юнакі прыходзяць на танцы і ў іншыя грамадскія месцы. Ці ж гэта не гаворыць аб адсутнасці ў іх густу?

У свой час І. С. Тургенеў у рамане «Бацькі і дзеці» вельмі тонка высмеяў «нігілістку» Кукшыну, якая заўсёды і ва ўсім сляпа ішла за модай. І «нігілісткай» яна стала таму, што «модна».

«На скуранай канапе паўляжала дама, яшчэ маладая, бялявая, трохі раскудлачаная, у шаўковым, не вельмі чыстым, плацці, з вялікімі *бранзалетамі на кароткіх руках* і карункавай касынкай на галаве... Яна размаўляла і рухалася вельмі развязна і ў той жа час нязграбна: *яна, відаць, сама сябе лічыла за* дабрадушную і рахманую істоту і, між тым, што б яна ні рабіла, вам увесь час здавалася, што яна *іменна гэтага і не хацела зрабіць; усё ў яе выходзіла, як* дзеці кажуць, — наўмысна, гэта значыць, не проста, не натуральна».

Кожны чалавек у сваіх штодзённых паводзінах выпрацоўвае пэўныя манеры, г. зн. найбольш звычныя для яго, спосабы дзеяння, формы паводзін у грамадстве. Вялікая патрабавальнасць да сябе, сціпласць у самаацэнцы, вытрымка накладаюць адбітак на ўсе паводзіны чалавека.

Часам даводзіцца чуць галасы пра тое, што адносіны паміж юнакамі і дзяўчатамі вельмі простыя, грубыя. Прастата і спрошчанасць — розныя віды. Не патрэбны *нашай моладзі* манернасць, чапурыстасць у адносінах. Прастата і павага, дружба і таварыскасць, узаемадапамога, вялікая чуласць і патрабавальнасць як да сябе, так і да іншых — гэта стварае прыгажосць паводзін. А ўсё, што супярэчыць нормам паводзін савецкага чалавека, павінна сустрэць суровае асуджэнне.

## І гэта таксама важна

Важным паказальнікам культурнасці чалавека з'яўляецца ветлівасць. Ветлівасць можна лічыць праяўленнем павагі да людзей. Асабісты сакратар Леніна Л. А. Фоціева ўспамінае: «*Кожная гутарка з Уладзімірам Ільічом была падзеяй*, якая заўсёды заставалася ў памяці таго, каму пашчаслівілася пабываць у яго на прыёме. Гэта тлумачылася цудоўнай уласцівасцю Уладзіміра Ільіча узнімаць работнікаў ва ўласнай свядомасці, у яго ўменні паважаць чалавека... *Уладзімір Ільіч быў звычайна* ветлівы з усімі і вельмі просты ў абыходжанні. Ніколі не забываў ён падзякаваць за паслугу, нават самую нязначную, напрыклад, калі ён прасіў прынесці яму газету. Прыбіральшчыца, якая паліла печ у яго пакоі расказвала з вялікім хваляваннем, як ласкава і ветліва ён размаўляў з ёю, калі заставаў у сваім кабінеце. Гэтае ўменне глыбока цаніць і паважаць у кожным чалавеку асобу было вызначальнай рысай Уладзіміра Ільіча. *Ён лічыў недастойным савецкага чалавека і камуніста быць грубым з тым, хто стаіць ніжэй па становішчу*».

Прыгожы савецкі чалавек ніколі не *задумаецца, каб папрасіць прабачэння*, асабліва перад старэйшым, заўсёды саступіць месца старэйшаму, акажа дапамогу таму, каму яна патрэбна. Некаторыя *лічаць, што ветлівасць патрэбна* толькі на працы, у гасцях, у грамадскім месцы, і там паводзяць сябе вельмі карэктна і тактоўна. А ў сям'і, дома яны дазваляюць сабе грубыя *адносіны* да бацькоў, да блізкіх і суседзяў. Аб такіх людзях з «падвойным дном» рэзка гаварыў У. Маякоўскі:

> Орёт с трибуны: вперёд, товарищи!
> А дома, забыв об арии сольной,
> Орёт на жену, что щи не в наваре,
> И что огурцы плоховато просолены!

А ці не бывае так: суседзі па кватэры, праводзіўшы позніх гасцей, пачынаюць сярод ночы выносіць рэшткі банкету на агульную кухню, бразгаць посудам, а на справядлівыя заўвагі суседзяў адказваюць грубасцю.

Ветлівы чалавек заўсёды стрыманы. Вытрымка — гэта *сабранасць*, уменне трымаць сябе ў руках. З-за адсутнасці вытрымкі часта людзі, якія спрачаюцца, збіваюцца на «базарныя» выкрыкі, на грубасць, на знявагу. А якое прыемнае ўражанне пакідае той чалавек, які нават у самай прынцыповай спрэчцы зможа выслухаць спакойна ўсе довады праціўлеглага боку, а затым ветліва, карэктна, з лагічнай выразнасцю разаб'е гэтыя довады, або таксама спакойна і сумленна прызнае сваю памылку.

Нявытрыманасць і грубасць праяўляюцца заўсёды ў людзей з недастатковай культурай, асабліва, калі будуць закрануты іх асабістыя інтарэсы, самалюбства. Такі чалавек, паводле выказвання Маркса, «...гатовы лічыць самай нізкай жывёлінай на зямлі таго, хто незнарок наступіў яму на нагу». А. С. Макаранка гаварыў, што «дысцыплінаваным чалавекам мы маем права называць толькі таго, хто заўсёды, пры ўсякіх умовах умее выбраць правільныя паводзіны, найбольш карысныя для грамадства і знойдзе ў сябе цвёрдасць працягваць такія паводзіны да канца, нягледзячы ні на якія цяжкасці і непрыемнасці». Але справа не толькі ў *невуках і грубіянах. Нямала* выпадкаў, калі чалавек, дабіўшыся добрых паказчыкаў у працы, вучобе, спорце, пачынае лічыць сябе асаблівым, незаменным...

Чым больш высакародны чалавек, тым менш у ім фанабэрыстасці, ганарыстасці, зазнайства. Прыгожы чалавек заўсёды сціплы. Сціпласці мы павінны вучыцца ў Леніна. А. А. Андрэеў, адзін з старэйшых дзеячоў камуністычнай партыі ўспамінае: «Трэба сказаць, што гэты вялікі чалавек заўсёды шчыра бянтэжыўся, калі яго віталі. Ён то паказваў дэлегатам на свой гадзіннік: маўляў, час ідзе, але воплескі толькі ўзмацняліся, то вынімаў насоўку, хоць у гэтым *і не было неабходнасці*, шукаў нешта ў кішэнях камізэлькі і г. д. ...У пачатку аднаго з апошніх пасяджэнняў IX з'езда партыі шэраг дэлегатаў прапанаваў прысвяціць пасяджэнне пяцідзесяцігоддзю У. І. Леніна, якое спаўнялася праз некалькі дзён. Гэтую прапанову сустрэлі воплескамі. У. І. Ленін, які прысутнічаў на пасяджэнні, не ўхваліў гэта, устаў і прапанаваў: «Таварышы, *лепш заспяваем* «Інтэрнацыянал»!», але пасля ўсё ж перайшлі да заслухоўвання выступленняў аб жыцці і дзейнасці У. І. Леніна. Ленін адразу ж, нягледзячы на просьбы застацца, устаў і выйшаў, а потым увесь час бамбардзіраваў з свайго кабінета прэзідыум з'езда запіскамі і тэлефоннымі званкамі, прыспешваў хутчэй закончыць прамовы».

## Як мы гаворым

Чалавек павінен дасканала валодаць мовай, удала выбіраць і ўжываць словы, выкладаць думкі проста, даходліва, выразна, вобразна і прыгожа. На культуру вуснай мовы мы, на жаль, вельмі мала звяртаем увагі. Таму і сутыкаемся з такімі фактамі: чалавек, які атрымаў сярэднюю, часам і вышэйшую адукацыю, культурна выкладаць свае думкі не ўмее.

Работніца аднаго вялікага завода ў Магілёве скардзілася, што інжынер цэха дрэнна, невыразна гаворыць: *пакажа — нешта зразумееш, а скажа — махнеш рукой і адыдзеш*.

Сустракаецца і іншая крайнасць. Словы малазразумелыя, якія рэдка ўжываюцца або іншаземнага паходжання, так запаўняюць мову, што не кожны і разбярэцца ў сэнсе гаворкі. Нашто, напрыклад, гаварыць «вар'іраваць», «індэферэнтны», калі можна сказаць «рабіць разнастайным», «абыякавы». Манера гаварыць *мудрагеліста*, ускладняць мову малазразумелымі словамі і зваротамі, перагружаць яе без патрэбы іншаземнымі словамі, таксама як і аднастайная мова, прывычка ўжываць грубыя, нелітаратурныя словы і выразы, а таксама лаянку — усё гэта гаворыць аб нізкай культуры мовы.

На жаль, часамі маладыя людзі ўжываюць вульгарныя і жаргонныя словы і выразы, якія калечаць нашу прыгожую і высакародную мову. Замест дзеяслова «ідзі» яны, напрыклад, лічаць за лепшае ўжываць — «топай», «чапай», замест «есці» гавораць «лопаць», «шамаць», «жраць», «рубаць». У Магілёве *вельмі часта ў аўтобусе можна пачуць* зварот: «Вы вылазіце, злазіце, сыходзіце», і амаль ніхто не скажа «выходзіце». Аўтобус — памяшканне. А з памяшкання, як вядома, не вылазяць, не злазяць, а выходзяць. Гэта гаворыць пра тое, што мы яшчэ вельмі мала задумваемся *аб правільнасці, дакладнасці ўжывання* слоў, нават груба парушаем сэнс іх.

Слоўнікавы запас асобных людзей невялікі, калі параўнаць яго з агульным лексічным багаццем той ці іншай развітай мовы. У неразвітых, малапісьменных ён вагаецца ад 1,5 да 4 тысяч слоў. Гэта гаворыць аб тым, якімі абыякавымі мы бываем да скарбаў нашай мовы, а якії ж дазваляюць выказваць самыя складаныя і тонкія адценні думкі.

Прыгажосць, трапнасць мовы выяўляюцца праз ужыванне крылатых і вобразных выразаў, прыказак, пагаворак, афарызмаў, сродкаў мастацкага адлюстравання (параўнанняў, эпітэтаў) і г. д.

Чалавечая мова — цудоўная асаблівасць нашага арганізма. У агульным паняцці «прыгожы чалавек» культуры мовы *павінна адводзіцца адно з вядучых* месц. Успомніце невялікае апавяданне А. М. Горкага «Прыгажуня»: «...Слякотны летні дзень. Волга. Параход. На палубе сабраліся людзі — усе яны глядзяць на жанчыну. Яна вельмі прыгожая. Чароўная. Юнак гаворыць суседу: «Загаварыце з ёю. Мне хочацца бачыць, што яшчэ дасць яе мова! Гэта, відаць, будзе музыка, раскошная музыка! Тады яна, гэтая жанчына, будзе ўдвая прыгожая». Але жанчына раптам павярнулася да *акаляючых і сказала*: «Вот так тепло седни!.. Взопрела я»... І ўсё адчуванне прыгажосці знікла.

Але гэтая жанчына была малапісьменная, у чым яе не віна, а бяда. А ў наш час іншыя ўмовы, ёсць усе магчымасці авалодаць і багаццем мовы.

* * *

Вельмі часта ў гутарках аб чалавечым характэры, аб культуры паводзін узнікае шэраг пытанняў. Ці трэба пытацца дазволу закурыць? Ці прыстойна дзяўчыне купляць для юнака білет у тэатр? Хто першы з іх павінен падаваць руку? Ці правільна, што юнак вядзе дзяўчыну пад руку? Гэтыя пытанні — часам нечаканыя, часам наіўныя, але заўсёды патрабуюць яснага, дакладнага адказу.

У старыя часы прадпрымальныя дзялкі, пранырлівыя заканадаўцы так званага «добрага тону» выдавалі нямала кніжак аб правілах паводзін, у якіх былі рэцэпты на ўсе выпадкі жыцця. Але можна засвоіць правілы добрага тону, знешне рабіць уражанне добра выхаванага чалавека, і заставацца некультурным. Сустракаюцца яшчэ людзі, якія пры іншых захоўваюць правілы «добрага тону», але ў той жа час здольны рабіць благія ўчынкі. Такога чалавека не назавеш прыгожым, таму што за добрымі манерамі ён толькі хавае свой сапраўдны твар, твар эгаіста і крывадушніка.

Прыгожы савецкі чалавек рашуча адкідвае буржуазную этыку, прасякнутую крывадушшам і ханжаствам, стварае новую камуністычную культуру. Яна прапаведуе павагу да людзей, сціпласць, сумленнасць, чуласць да таварыша.

М. І. Калінін гаварыў: «Паняцце аб культуры вельмі шырокае — ад мыцця рук да апошніх вышынь чалавечай думкі... Чысціня рук, ахайнасць у адзенні, неабходны камфорт у кватэры і да т. п. — усё гэта прызнанне культурнага чалавека».

Усім уласціва імкненне да прыгажосці, бо сапраўднае характва з'яўляецца паказальнікам вышыні развіцця чалавека, яго культуры, сілы і разнастайнасці яго творчых магчымасцей. Але прыгажосць чалавека не дэкарацыя, якая хавае ўнутраную пустату, а адлюстраванне росквіту ўнутраных магчымасцей чалавека, які працуе на карысць грамадству.




# АФРЫКА РВЕ ЛАНЦУГІ

На Афрыканскім кантыненце адбываюцца знамянальныя падзеі. Адзін за другім народы скідаюць з сябе ненавіснае каланіяльнае ярмо, становяцца на шлях незалежнага развіцця. Сёння такіх краін ужо дзесяць — Гвінея, Гана, Аб'яднаная Арабская Рэспубліка, Туніс, Марока, Судан, Эфіопія, Ліберыя, Лівія, Тога. Неўзабаве атрымаюць незалежнасць яшчэ дзве краіны — Нігерыя і Самалі. Дзяржаўнай самастойнасці дамагаюцца Бельгійскае Конга і Кенія. Кіраўнікі нацыянальна-вызваленчага руху Танган'ікі патрабуюць прызнання іх краіны незалежнай не пазней 1962 года. У барацьбе супраць каланіялізма афрыканскія народы атрымалі многа слаўных, хоць і цяжкіх перамог.

«Гісторыя вынесла свой прысуд каланіялізму. Яго час, пракляты чала-

вецтвам, адыходзіць у мінулае», — гаварыў таварыш М. С. Хрушчоў на мітынгу працоўных Масквы 5 сакавіка 1960 года.

Не варта, аднак, забываць, што амаль 70 працэнтаў тэрыторыі і 60 працэнтаў насельніцтва Афрыкі ўсё яшчэ застаецца пад панаваннем каланізатараў. Ахвярамі невыноснага каланіяльнага прыгнёту з'яўляюцца 150 мільёнаў людзей.

Народы Афрыкі робяць усё магчымае, каб хутчэй скінуць з сябе ланцугі каланіяльнага рабства. Услед за краінамі, якія дамагліся палітычнай незалежнасці, на барацьбу ўзняліся калоніі, што нядаўна яшчэ лічыліся «ўзорнымі». У Алжыры ўжо шэсць год шугае полымя нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Мінулы і пачатак сёлетняга года азнаменаваліся выступленнямі народаў Чорнай Афрыкі — Бельгійскага Конга, Ньясаленда, Паўночнай і Паўднёвай Радэзіі, Анголы і іншых краін — супраць каланіяльнага прыгнёту. Абудзіліся народы, якія стагоддзямі знаходзіліся пад пятой каланізатараў. Цяпер можна смела сказаць, што ўся Афрыка, з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход, ахоплена агнём вызваленчай барацьбы.

### «Гісторыя на баку гэтых людзей»

Нядаўна ў Алжыры пабываў карэспандэнт амерыканскай газеты «Нью-Йорк таймс» Сульцбергер. Нельга сказаць, каб пан Сульцбергер меў сімпатыі да алжырскіх змагароў за незалежнасць. Яго хутчэй непакоіць тое, што вайна, якая працягваецца ў Алжыры, можа прынесці паражэнне каланізатарам. Сульцбергер менавіта таму і паехаў у Алжыр, каб падказаць «рашэнне» алжырскага пытання, якое выгадна імперыялістам.

Але, апынуўшыся ў Алжыры, карэспандэнт сутыкнуўся з такімі фактамі, пра якія не змог маўчаць. Ён піша: «З самалёта назіральнік не заўважыць нічога, акрамя пастаральнага пейзажу: узгоркі, раздзеленыя рэчышчамі і ўчасткамі аголенай зямлі, скалы і зараснікі хмызнякоў, сярод якіх скрозь раскіданы астраўкі дрэваў, падобныя на тыя, пад якімі размешчаны сустрэтыя мною партызаны. Днём тут не ўбачыш вялікага руху. Адны толькі птушкі апісваюць кругі ды часам прабягаюць грызуны. І толькі ўначы выходзяць партызаны...

Гэтыя смелыя юнакі, якія здольны рабіць маршы па 40 міль, выглядаюць добра навучанымі, маюць кваліфікаваны камандны склад і ў дастатковай ступені ўзброены».

Сульцбергер прыводзіць цікавыя факты з жыцця адважных барацьбітоў.

Па-рознаму склаўся іх жыццёвы лёс, розныя шляхі прывялі іх у рады алжырскай арміі нацыянальнага вызвалення. Адзін з лейтэнантаў на працягу дзесяці год служыў у французскай арміі. У 1957 годзе разам з 30 салдатамі свайго паста ён перайшоў на бок алжырскіх патрыётаў, захапіўшы ўсё ўзбраенне. Бербер з Кабіліі добраахвотна ўступіў у рады паўстанцаў *пасля таго, як французскі патруль расстраляў яго сям'ю*. Араб з Алжыра заявіў, што яго бацькі былі забіты ў часе бамбёжкі. Студэнт-медык з Канстанціны ўзяўся за зброю пасля забастоўкі ў яго навучальнай установе.

Сульцбергер расказвае аб гераічных учынках 25-гадовага маёра Аззедзіна, подзвігі якога сталі легендарнымі. Двойчы, страціўшы прытомнасць, ён трапляў у палон да французаў, і абодва разы яму ўдавалася ўцячы. У баях з каланізатарамі Аззедзін атрымаў трынаццаць ран. Цяпер Аззедзіна накіроўваюць у шпіталь, каб выняць з рукі разрыўную кулю «амерыканскай вытворчасці».

Усім вядома, што французскім каланізатарам весці вайну супраць алжырскага народа дапамагаюць амерыканскія манапалісты. Сульцбергер не мог абысці і гэтага пытання. Ён адзначае, што Аззедзін, як і многія салдаты, «адчувае значную нянавісць у адносінах да ЗША». «У мяне, — гаворыць Аззедзін, — сядзіць шэсць куль, і ўсе яны зроблены ў Амерыцы. Мае салдаты заяўляюць, што мы даўно ужо дабіліся б міру, калі б Амерыка не дапамагала Францыі. Вы называеце гэта дапамогай НАТО і Францыі. Але я ведаю толькі гэтыя кулі».

Французскія каланізатары ўсё яшчэ спадзяюцца ўтрымаць Алжыр у якасці сваёй калоніі. Але нават такія людзі, як Сульцбергер, пачынаюць, нарэшце, разумець, што гэта неажыццявімыя мары. «Як бы там ні было, але будучыня Алжыра павінна належаць гэтаму пакаленню загартаваных у баях партызан. І не таму, што ім удалося забяспечыць сабе дастатковай колькасцю мінамётаў, мін, аўтаматаў і вінтовак, каб звязаць па руках вялікую частку ўдарнай сілы Францыі і НАТО. Гэта таму, што яны прадстаўляюць сабой эмацыянальныя жаданні ўсёй Паўночнай Афрыкі... Гісторыя на баку ўсіх гэтых людзей», — вось які вывад з сваіх назіранняў робіць амерыканскі карэспандэнт. З гэтымі словамі нельга не пагадзіцца.



### Мацней за гарматы і самалёты

«Узорнай» калоніяй называлі Бельгійскае Конга адвакаты каланіяльных рабаўнікоў. Газета «Нью-Йорк таймс» нават пісала, што гэта краіна валодае своеасаблівым «імунітэтам» супраць руху народаў за незалежнасць. Аднак жыццё перакрэсліла блізарукія разлікі заўзятых абаронцаў каланіялізма.

У 1959 годзе на вуліцы сталіцы Бельгійскага Конга Леапольдвіля выйшлі тысячы афрыканцаў, якія крычалі лозунгі: «Незалежнасць!», «Бельгійцы, — дамоў!». Дэманстрацыя ўзнікла пасля таго, як паліцыя па-зверску расправілася з удзельнікамі мітынгу, якія патрабавалі незалежнасці для Конга.

Каланізатары, спалоханыя размахам гэтага руху, скінулі з сябе маску і агнём і мечам абрушыліся на бяззбройных дэманстрантаў. Супраць дэманстрантаў выступілі буйныя карныя сілы — атрады паліцыі і парашутна-дэсантныя часці. У ход былі пушчаны мінамёты, танкі і бронемашыны. Карэспандэнт «Нью-Йорк таймс», які знаходзіўся ў тыя дні ў Конга, пісаў, што войскі рассейвалі дэманстрантаў агнём кулямётаў. На вуліцах грымелі гарматныя залпы. У адказ дэманстранты ўзводзілі барыкады, нападалі на ўрадавыя ўстановы і ваенныя аб'екты.

Услед за Леапольдвілем выступілі жыхары горада Матадзі, а таксама іншых раёнаў Конга. На працягу ўсяго года ў краіне адбываліся хваляванні. Каланізатары жорстка расправіліся з тымі, хто не захацеў ім падпарадкавацца. Тысячы афрыканцаў былі кінуты за калючы дрот канцлагераў і краты турмаў. Улады забаранілі ўсе палітычныя арганізацыі афрыканцаў, а таксама правядзенне мітынгаў і сходаў.

Не паспелі каланізатары апамятацца пасля падзей у Конга, як ім быў нанесен удар у другім месцы — у англійскіх калоніях Ньясаленд і Паўднёвая Радэзія. На патрабаванне мясцовых жыхароў спыніць расавую дыскрымінацыю, палепшыць жыццёвыя ўмовы, даць магчымасць народу Ньясаленда самому вырашыць свой лёс, англійскія каланізатары адказалі тым жа, што і бельгійскія ў Конга, — агнём кулямётаў і гармат.

Толькі ў Ньясалендзе, як заявілі ў англійскім парламенце, за некалькі дзён было забіта 44 і паранена больш як 70 афрыканцаў. Гэта — паводле афіцыйных, несумненна, значна заніжаных даных. Забаронены ўсе палітычныя арганізацыі афрыканцаў, у тым ліку і Афрыканскі нацыянальны кангрэс. Арыштаваны кіраўнікі гэтага кангрэсу. Аб'яўлены «незаконнымі» такія дэмакратычныя арганізацыі, як Сусветная федэрацыя прафсаюзаў, міжнародная дэмакратычная федэрацыя жанчын і іншыя.

Знамянальна, што хваля выступленняў супраць каланіялізма пракацілася і ў другіх краінах Цэнтральнай і Паўднёвай Афрыкі — па партугальскай калоніі Анголе, па французскаму Конга, па італьянскаму Самалі, па французскай Экватарыяльнай Афрыцы.

Зусім нядаўна свет стаў сведкай страшнага злачынства расістаў у Паўднёва-Афрыканскім саюзе (ПАС). 21 сакавіка г. г. паліцыя расстраляла мірную дэманстрацыю афрыканцаў мястэчка Шарлевіль, забіўшы каля 200 і параніўшы 400 чалавек. Людзей забівалі без разбору — мужчын і жанчын, старых і дзяцей. Над галовамі дэманстрантаў, якія патрабавалі адмены расавых рэпрэсій, лёталі рэактыўныя самалёты, а па зямлі рухаліся браневікі. Злачынства расістаў ПАС выклікала пратэст сусветнай грамадскасці. Група прадстаўнікоў краін Азіі і Афрыкі ў ААН патрабавала ад Савета Бяспекі ААН разглядзець гэтае пытанне.

Маючы на ўвазе масавыя выступленні афрыканцаў супраць замежных апекуноў, англійская газета «Таймс» павінна была заявіць, што «разам узятыя гэтыя падзеі азначаюць фармальнае аб'яўленне вайны каланіялізму і панаванню белых у Афрыцы. Для каланіяльных і еўрапейскіх улад у гэтым раёне настаў цяжкія часы». Што праўда то праўда. І ні танкамі, ні самалётамі, ні расстрэламі і арыштамі нельга зламаць волю афрыканскіх народаў да свабоды і незалежнасці.

### Легенда і праўда

Каланізатары і паслухмяная ім прэса да гэтага часу не саромеюцца несці лухту аб нейкім «прагрэсе», які нібыта дасягнуты за гады іх панавання ў калоніях. Бельгійскія адвакаты каланіялізма, напрыклад, спрабуюць прадставіць Бельгійскае Конга як сапраўдны «рай» у Афрыцы. Былы англійскі міністр Ленакс Бойд нядаўна заявіў, што калоніі вельмі шпарка ідуць да незалежнасці. Ён запэўняў, што Англія не эксплуатуе народы, якія ўваходзяць у брытанскую садружнасць.

Але ўсе гэтыя заявы не што іншае, як дымавая заслона, якую ставяць

для таго, каб утаіць сапраўднае становішча спраў.

Возьмем, да прыкладу, тое ж Бельгійскае Конга. Больш чым сто гадоў назад бельгійскі кароль Леапольд II з дапамогай цёмных махінацый завалодаў гэтай краінай, якая па тэрыторыі ў 77 разоў перавышае саму Бельгію. «Леапольд узбагаціўся, — піша газета «Нью-Йорк таймс», — бязлітасна эксплуатуючы Конга». Як адбілася гэтае ўзбагачэнне на становішчы ў Конга, гаворыць хоць бы той факт, што калі ў 1900 годзе карэннае насельніцтва налічвала 20 мільёнаў чалавек, то цяпер усяго 13 мільёнаў. За 50 з лішнім гадоў знішчана 7 мільёнаў людзей. Вось якая «цывілізатарская» місія каланізатараў у Бельгійскім Конга!

У апошні час прыгнёт і бясчынствы бельгійскіх каланіяльных улад сталі асабліва невыноснымі. Як піша газета «Нью-Йорк таймс», бельгійцы кіруюць Конга «цвёрда і дэспатычна. Палітычная дзейнасць падаўлена. 90 працэнтаў насельніцтва непісьменнае. Сто тысяч еўрапейцаў распараджаюцца лёсам мільёнаў людзей і ўсімі багаццямі краіны». А карэннае насельніцтва жыве ў жудасных умовах галечы і голаду. У краіне — мільёны беспрацоўных. Паводле даных ААН, у Бельгійскім Конга адзін урач прыходзіцца на больш чым 20 тысяч чалавек. У адным з дакладаў Міжнароднай арганізацыі працы адзначаецца: «У вялікіх населеных пунктах перанаселенасць, дрэнныя будынкі, высокая кватэрная плата, антысанітарныя ўмовы з'яўляюцца асноўнымі праблемамі». Амерыканскі карэспандэнт газеты «Нью-Йорк таймс», які наведаў сталіцу Бельгійскага Конга Леапольдвіль, назваў яе «ашаламляльным прыкладам кантрастаў... З аднаго боку сучасныя рынкі, апараты для ахаладжэння паветра, спартыўныя аўтамабілі і кафэ, дзе адпачываюць бельгійцы з жонкамі. З другога — у афрыканскіх кварталах — босыя жанчыны, якія пераносяць грузы на галовах, прычым большасць нясе яшчэ ў дадатак маленькіх дзяцей». Заўважым, што ў Леапольдвіле — 300 тысяч афрыканцаў і ўсяго 25 тысяч еўрапейцаў.

Толькі ў лістападзе 1958 года ў Конга было афіцыяльна адменена пакаранне бізуном. Але ў турмах бізун яшчэ лютуе. Выступаючы ў бельгійскім парламенце, міністр па справах Конга і Руанда-Урундзі Ван Хемельрэйк адкрыта заявіў: «Што датычыць адмены пакарання бізуном у турмах, то з гэтага повада выдадзены адпаведныя інструкцыі з мэтай паступовага (!) абмежавання яго на практыцы».

Злачынствы каланізатараў сапраўды жахлівыя. Яны, напрыклад, выкарыстоўваюць жыхароў Бельгійскага Конга пры правядзенні небяспечных для жыцця медыцынскіх доследаў. Англійскі друк паведаміў, што ў пачатку 1958 года на 244 596 жыхарах Бельгійскага Конга і Руанда-Урундзі выпрабоўваліся жывыя вірусы поліміэліта — вакцына, пра якую, паводле слоў спецыялістаў, толькі праз некалькі год можна будзе сказаць, бяспечная яна ці не.

Так на практыцы выглядае «рай» у Бельгійскім Конга.

Не лепшае становішча і ў англійскіх калоніях Ньясалендзе, Паўночнай і Паўднёвай Радэзіі, Кеніі, Угандзе.

У 1953 годзе англійскія каланізатары супраць волі насельніцтва Ньясаленда ўключылі яго ў склад так званай Цэнтральнай Афрыканскай Федэрацыі, куды ўваходзяць таксама Паўночная і Паўднёвая Радэзія. Каменціруючы становішча, якое склалася ў Ньясалендзе і Паўночнай Радэзіі, газета «Нью-Йорк таймс» пісала: «250 тысячых белых не толькі пануюць над 4,5 мільёнамі неграў, але і кантралююць усю федэрацыю. Ньясаленд на 99,6 працэнта складаецца з неграў, тым не менш у заканадаўчы сход яго ўваходзіць 29 белых і толькі 6 афрыканцаў. Расавая дыскрымінацыя ў абодвух Радэзіях мае такія формы, што яны недапушчальныя нават для паўднёвай часткі Афрыкі. Народ Ньясаленда бедны, але параўнаўча нямногія белыя (іх усяго 7 тысяч) валодаюць вялікімі масівамі зямлі». Такое сведчанне адной з рэакцыйных газет ЗША, якую нельга западозрыць у сімпатыі да афрыканцаў.

Што датычыць Паўднёвай Радэзіі, то «Нью-Йорк таймс» прама называе яе «паліцэйскай дзяржавай». Гэтая характарыстыка даволі дакладна адлюстроўвае рэчаіснасць. Член англійскага парламента Стоунхауз, які наведаў Паўднёвую Радэзію, пісаў у газеце «Рэйнальдс ньюс»:

«У Паўднёвай Радэзіі строга захоўваецца каляровы бар'ер і сегрэгацыя. Калі афрыканцы жывуць у еўрапейскіх гарадах не ў якасці дамашняй прыслугі, то яны тым самым робяць злачынства. Яны не могуць карыстацца гарадскімі аўтобусамі. Іх не пускаюць у кінатэатры і рэстараны, і абслугоўвае іх толькі адзін атэль... У банках і на пошце для афрыканцаў ёсць асобныя акенцы. Яны могуць ездзіць толькі на таксі другога класа. Ім не дазваляюць выконваць кваліфікаваныя работы і плацяць штучна заніжаную заработную плату. Хоць белыя складаюць усяго толькі адну дзесятую частку насельніцтва, большай палавінай усёй зямлі валодаюць еўрапейцы. Парламент Паўднёвай Радэзіі складаецца з адных белых. Існуе агульны спіс выбаршчыкаў, але маёмасны цэнз выключае амаль усіх афрыканцаў».

Што гэта азначае на практыцы, можна меркаваць і на прыкладзе Паўночнай Радэзіі, дзе на выбарах у мінулым годзе ў спісы выбаршчыкаў было ўнесена 7 617 неграў (з агульнай колькасці 2 мільёны 220 тысяч неграў) і больш 20 тысяч белых (з агульнага ліку белых 50 тысяч). Яскравая ілюстрацыя да заявы аб «хуткіх» тэмпах руху англійскіх калоній да незалежнасці!

Ці не выкрывальным прыгаворам для каланізатараў гучыць хоць бы той факт, што па ўсёй каланіяльнай Афрыцы ў сярэднім 57 працэнтаў паміраюць, не дасягнуўшы 15 гадоў!

У англійскай калоніі Ньясаленд у 1957 годзе налічвалася ў сярэдніх школах усяго... 120 навучэнцаў з афрыканцаў. І гэта пры насельніцтве ў 3 мільёны чалавек! На 1961 год англійскія каланізатары мяркуюць павялічыць колькасць навучэнцаў афрыканцаў да... 270.

Лік студэнтаў у калоніях можна пералічыць літаральна на пальцах. Паводле даных ААН за 1957 год на сто тысяч насельніцтва прыходзіцца студэнтаў: у Бечуаналендзе — 2, у Бельгійскім Конга — 1, у Ньясалендзе — 1, у Руанда-Урундзі — 1 і г. д. З 30 мільёнаў насельніцтва Чорнай Афрыкі, якое знаходзіцца пад панаваннем Францыі, толькі паўмільёна пісьменныя.

Такое становішча з адукацыяй афрыканскай моладзі выгадна каланізатарам. Нездарма ж адзін з еўрапейскіх місіянераў у Паўднёва-Заходняй Афрыцы, нейкі доктар Ведэр, без цени сарамлівасці заявіў: «Даць адукацыю афрыканцам — гэта ўсё роўна, што прапанаваць беламу чалавеку ў Паўднёва-Заходняй Афрыцы ўласнаручна перарэзаць сабе горла. Непісьменнасць афрыканца — залог вечнасці верхавенства белых». Як гаворыцца, ясней не скажаш!

Больш 500 гадоў прайшло з таго часу, як з Афрыкі была вывезена для продажу ў рабства першая партыя нявольнікаў. Вядомы амерыканскі вучоны доктар Дзюбуа сцвярджае, што гандаль рабамі, які працягваўся некалькі стагоддзяў, «каштаваў негрыцянскай Афрыцы сто мільёнаў душ».

І цяпер, у сярэдзіне XX стагоддзя, у век атама і ракет, у многіх месцах афрыканскага кантынента захавалася амаль такое ж становішча, якое было некалькі стагоддзяў назад. Нядаўна англійскі часопіс «Уорлд ньюс» прывёў даволі цікавыя заявы губернатара адной з акругі партугальскай калоніі Ангола: «Харчаванне цяпер горшае, чым было сто гадоў назад, жыллёвыя ўмовы такія ж, якія былі і тады, асвета засталася прыкладна на тым жа ўзроўні, на якім яна была ў часе захопу». Каменціруючы гэтую заяву, часо-



**У адной з народных школ Ганы.**

піс піша: «Ніякага прагрэсу за 500 гадоў — гэта таксама своеасаблівы рэкорд».

Падобных «рэкордаў» у каланізатараў нямала. Яны лішні раз гавораць пра тое, што каланіялізм прагніў да асновы, што яго сістэма заслугоўвае толькі таго, каб яе хутчэй выкінулі на сметнік гісторыі.

**Чаму шалеюць каланізатары?**

Каланізатары, імкнучыся падавіць нацыянальна-вызваленчы рух народаў краін Цэнтральнай Афрыкі, акрамя ўсяго, ужываюць свой стары, улюбёны метад «падзяляй і ўладарнічай». Англійская газета «Таймс» пісала: «Першы абавязак метраполій, гэта значыць Бельгіі, Францыі і Вялікабрытаніі, зусім зразумелы — устанавіць парадак». Дзеля «аднаўлення парадку» пускаюцца ў ход навейшыя віды зброі. З гэтай жа мэтай сям-там распрацоўваюцца планы сумесных выступленняў каланізатараў розных краін супраць паўстаўшых народаў. Газета «Нью-Йорк таймс» адзначала, што ў сувязі са становішчам у Афрыцы «робяцца прапановы, каб усе еўрапейскія краіны кансультаваліся паміж сабой». Як бачым, афармляецца ідэя арганізацыі своеасаблівага крыжовага паходу новага калектыўнага каланіялізма супраць непакорных народаў. Але разумеючы, што цяпер афрыканскія народы далёка не тыя, якімі былі раней, газета «Нью-Йорк таймс» папярэджвае, што гэтага зрабіць нельга, бо «афрыканцы могуць успомніць 1884 год, калі еўрапейцы падзялілі Афрыку ў Берліне».

Звяртаюцца каланізатары і да больш замаскаваных прыёмаў у барацьбе за захаванне свайго панавання. Да іх можна аднесці ўзмоцненую рэкламу прадастаўлення так званага «самакіравання» некаторым калоніям.

Так, напрыклад, у самы разгар паліцэйскіх рэпрэсій у Бельгійскім Конга ўрад Бельгіі аб'явіў аб мерах, накіраваных на арганізацыю ў Конга «дэмакратыі, здольнай ажыццяўляць суверэнітэт і прымаць рашэнні аб сваёй незалежнасці». Абяцаючы афрыканцам на паперы дабрабыт, бельгійскі ўрад разам з тым заявіў аб сваёй рашучасці любой цаной «прадухіліць парушэнне парадку, бо парадак патрэбен і для прыцягвання замежнага капіталу». Пад «парадкам» каланізатары, вядома, разумеюць ранейшы каланіяльны рэжым.

У Англіі нядаўна праходзіла нарада губернатараў некалькіх афрыканскіх калоній, дзе таксама вялася размова пра некаторыя ўступкі з боку каланізатараў, каб прыглушыць барацьбу народаў за незалежнасць.

У сувязі з гэтым звяртаюць на сябе ўвагу і частыя заклікі каланізатараў да «кіраўніцтва» белых рухам народаў за незалежнасць. Буржуазны друк узмоцнена палохае чытачоў тым, што адбудзецца, калі ва ўсёй Афрыцы ўзнікнуць незалежныя дзяржавы на чале з кіраўнікамі-афрыканцамі. Вось як уяўляе будучыню амерыканскі часопіс «Нью-Йорк таймс мэгэзін»: «Дэмакратыя, як мы яе разумеем, будзе мёртвая або блізкая да смерці. Афрыканскія нацыяналісты патрабуюць выгнання белых. Белыя не вераць, што афрыканцы здолеюць кіраваць гэтымі краінамі дастаткова добра, каб забяспечыць разумную бяспечнасць для капіталу. Няма бяспекі — няма капіталу, няма капіталу — няма прагрэсу...»

... Як бачым, у разуменні каланізатараў «дэмакратыя» — гэта ўсеўладдзе жменькі багацеяў над мільёнамі бяспраўных, «прагрэс» — гэта магчымасць бесперашкодна рабаваць калоніі і заграбаць звышпрыбыткі. Але якім шчасцем для дзесяткаў мільёнаў афрыканцаў будзе той час, калі яны пакончаць з гэтай недарэчнай пародыяй на дэмакратыю, з палітыкай рабавання і эксплуатацыі замежнымі манаполіямі невычэрпных прыродных багаццяў Афрыкі!

А гэтыя багацці цяжка нават пералічыць. Паводле даных ААН на долю Афрыкі прыходзіцца 98 працэнтаў сусветнай вытворчасці (у капіталістычных краінах) алмазаў, 81 працэнт кобальту, 59 працэнтаў золата, 42 працэнты — сурмы, 40 працэнтаў храміту, 36 працэнтаў — марганцу, 27 працэнтаў — медзі і г. д. У Афрыцы сканцэнтравана звыш 40 працэнтаў усіх сусветных гідраэнергетычных рэсурсаў.

Так, багацці афрыканскага кантынента сапраўды казачныя, але яны па-драпежніцку рабуюцца манаполіямі каланіяльных краін. Паводле падлікаў спецыялістаў, толькі 8 працэнтаў мінеральнай сыравіны, якая здабываецца ў Афрыцы, застаецца на кантыненце, астатняе ж перавозіцца ў Заходнюю Еўропу і ЗША.

Англійскія, амерыканскія, французскія, бельгійскія і іншыя замежныя манаполіі бесцырымонна гаспадараць у афрыканскіх калоніях, атрымліваючы ад эксплуатацыі прыродных багаццяў і насельніцтва казачныя прыбыткі. Так, у Паўночнай Радэзіі ў 1956 годзе толькі чатыры горнарудныя кампаніі, якія кантралююцца амерыканскімі і англійскімі манаполіямі, атрымалі разам больш чым 60 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў чыстага прыбытку. За кошт нізкай заработнай платы афрыканскіх гарнякоў гэтыя кампаніі паклалі сабе ў кішэню 12 фунтаў стэрлінгаў на кожны фунт, выплачаны ў якасці зарплаты афрыканцам.



Нігерыйскі селянін.

Асаблівую цікавасць да становішча ў Афрыцы праяўляюць цяпер імперыялістычныя манаполіі ЗША. Разам са сваімі еўрапейскімі партнёрамі яны прыкладаюць усе намаганні, каб падавіць нацыянальна-вызваленчы рух афрыканскіх народаў і заадно выцесніць нежаданых канкурэнтаў з Афрыкі, ператварыць яе ў сыравінную і стратэгічную базу для ажыццяўлення агрэсіўных планаў супраць міралюбівых краін.

Для расшырэння свайго ўплыву ў Цэнтральнай Афрыцы ЗША паслалі спецыяльную місію з прадстаўнікоў «Фонда Ракфелера» ў раёны на поўдзень ад Сахары. Галоўная задача гэтай місіі, паводле слоў газеты «Нью-Йорк таймс», — «аказаць вялікую паслугу краінам, якія нядаўна атрымалі незалежнасць або, магчыма, хутка яе атрымаюць». Злучаныя Штаты, адзначае далей газета, «у велізарнай ступені зацікаўлены ў будучай палітычнай арыентацыі» гэтых краін. У Бельгійскім Конга і ў іншых раёнах Афрыкі пабывала група амерыканскіх фінансістаў на чале з вядомым мільярдэрам Д. Ракфелерам.

Адначасова ў амерыканскім друку ўзмоцнена распускаюцца байкі аб тым, што, маўляў, афрыканцы без «кіраўніцтва» белых не ў стане кіраваць сваімі ўласнымі справамі. Так, газета «Нью-Йорк таймс» у перадавым артыкуле пагардліва пісала: «Туземныя народы не здольны арганізаваць дэмакратычную, эфектыўную эканамічна, жыццездольную дзяржаву... Неабходнасць кіраўніцтва рухам гэтых краін і калоній да незалежнасці відавочна ўжо на працягу многіх гадоў. Гэты прагрэс неабходна кантраляваць і вымяраць».

Права «кантролю» хочуць замацаваць за сабой амерыканскія манаполіі. Але натуральна запытацца, хто іх прасіў аб гэтым? Ці ж дзеля таго народы Афрыкі так самааддана зараз змагаюцца супраць сённяшніх каланізатараў, каб дазволіць амерыканскім манаполіям заўтра заняць іх месца? Народы Афрыкі не маюць патрэбы ні ў якой апецы з боку каланізатараў, яны адхіляюць каланіялізм ва ўсіх яго формах, якімі б шырмамі ён ні прыкрываўся.

І хоць небяспеку амерыканскага каланіялізма нельга недаацэньваць, тым не менш, можна смела сказаць, што ён пацерпіць такі крах, як і «стары» англійскі, французскі або бельгійскі каланіялізм.

**Маладыя — у першых радах змагароў**

Народы Афрыкі і Азіі горача імкнуцца да незалежнасці. Яны ведаюць, што трывалы мір немагчымы без поўнай і канчатковай ліквідацыі каланіялізма.

У адказ на зверствы каланізатараў народы Афрыкі яшчэ больш узмацняюць сваю барацьбу. Зарукай поспеху ў іх барацьбе з'яўляецца салідарнасць усіх афрыканскіх народаў, якая ўсё больш узмацняецца. Імперыялістычнаму заклiку «падзяляй і ўладарнічай!» яны супрацьстаўляюць свой лозунг: «Адзінства і салідарнасць!».

У апошні час салідарнасць народаў Афрыкі ў барацьбе за сваё вызваленне значна вырасла. Канферэнцыі народаў Азіі і Афрыкі ў Каіры, канферэнцыі незалежных афрыканскіх дзяржаў і канферэнцыя народаў Афрыкі ў сталіцы Ганы — Акры, якія адбыліся ў 1958 і 1959 годзе, садзейнічалі абуджэнню афрыканскіх народаў, узмацненню іх барацьбы супраць імперыялізма і каланіялізма. Савет салідарнасці краін Азіі і Афрыкі ў сваёй дэкларацыі ад 13 лютага 1959 года патрабаваў прадастаўлення незалежнасці ўсім краінам, якія знаходзяцца пад замежным панаваннем.

Актыўны ўдзел у барацьбе супраць каланіялізма прымае моладзь. 24 красавіка кожнага года юнакі і дзяўчаты ўсяго свету адзначаюць Міжнародны

дзень салідарнасці моладзі супраць каланіялізма, за мірнае суіснаванне. У гэты дзень, пачынаючы з 1956 года, маладое пакаленне — будучыня свету — яшчэ і яшчэ раз заяўляе аб сваёй салідарнасці з народамі Азіі і Афрыкі ў іх барацьбе супраць струхлелай каланіяльнай сістэмы.

Зусім натуральна, што ў першых радах змагароў супраць каланіялізма ідзе моладзь. Удзельнікі першай Панафрыканскай канферэнцыі студэнтаў, якая праходзіла ў чэрвені 1958 года ў Кампале (Уганда), урачыста пакляліся нястомна змагацца супраць палітыкі расавай дыскрымінацыі, за ліквідацыю непісьменнасці, за прадастаўленне незалежнасці ўсім народам. У жніўні 1959 года ў Тунісе адбылася другая Панафрыканская студэнцкая канферэнцыя, на якой прысутнічалі прадстаўнікі Туніса, Алжыра, Французскай Заходняй Афрыкі, Ганы, Уганды і іншых краін.

Але асаблівае значэнне мела канферэнцыя моладзі краін Азіі і Афрыкі, якая адбылася ў Каіры ў лютым 1959 года. У прынятай палітычнай рэзалюцыі канферэнцыя рашуча асудзіла імперыялізм і каланіялізм ва ўсіх яго праявах, замежнае ўмяшанне ў справы іншых краін, агрэсіўныя блокі, замежныя ваенныя базы, эксплуатацыю нацыянальных рэсурсаў дзеля нажывы імперыялістаў.

У абарону народаў Афрыкі рашуча выступаюць прагрэсіўныя маладзёжныя арганізацыі — такія як Сусветная Федэрацыя дэмакратычнай моладзі і Міжнародны саюз студэнтаў.

У жніўні 1959 года ў Празе на V асамблеі СФДМ сабраліся дэлегаты з 93 краін, 176 арганізацый, якія прадстаўлялі 87 мільёнаў юнакоў і дзяўчат свету. Каланіялізм і імперыялістычныя сілы, якія падтрымліваюць яго, — вось супраць каго галоўным чынам выступалі дэлегаты асамблеі. Дэлегаты Афрыкі гаварылі пра сваю вялікую нянавісць да капіталізма, пра сваю рашучасць змагацца за яго поўную ліквідацыю на ўсёй зямлі.

Асамблея СФДМ выказалася за перагаворы з часовым урадам Алжырскай рэспублікі, супраць расавай дыскрымінацыі, за адзінства і незалежнасць краін Афрыкі. Яна заявіла аб сваёй падтрымцы II фестывалю афрыканскай моладзі, які адбудзецца ў Канакры ў 1961 годзе.

У мінулым годзе выканком Міжнароднага саюза студэнтаў у звароце да студэнтаў усяго свету пісаў: «Ніколі яшчэ ў гісторыі чалавецтва рух супраць каланіялізма не дасягаў такога развіцця. Каланіяльная сістэма трухлее, яна асуджана на пагібель...

У гэтым магутным руху народаў калоній за нацыянальную незалежнасць актыўную і важную ролю адыгрывае студэнцтва».

Цяпер афрыканская моладзь, як і моладзь усяго свету, з энтузіязмам рыхтуецца да Сусветнага форуму моладзі, які адбудзецца летам 1961 года ў Маскве. На гэтым форуме будуць абмеркаваны асноўныя праблемы, якія хвалююць маладое пакаленне. Гэта — праблемы міру, барацьба супраць каланіялізма, за нацыянальную незалежнасць, за палітычныя і сацыяльныя правы моладзі. Форум будзе адкрыт для прадстаўнікоў міжнародных і нацыянальных арганізацый розных палітычных і рэлігійных кірункаў.

Паказальна тое, што моладзь краін, якія дамагліся незалежнасці, не замыкаецца ў сваіх рамках, ёй чужыя пачуцці самазаспакоенасці. Яна ўважліва сочыць за становішчам у іншых краінах, якія знаходзяцца яшчэ пад пятой каланізатараў, дапамагае народам гэтых краін вызваліцца ад замежных прыблуд.

У Гвінеі, пасля аб'яўлення незалежнасці краіны, створана адзіная нацыянальная арганізацыя — «Моладзь дэмакратычнага аб'яднання Афрыкі», якая змагаецца супраць бед, якія засталіся ад каланіялізма. Гэтая арганізацыя праводзіць палітыку супрацоўніцтва з усімі міжнароднымі маладзёжнымі арганізацыямі, якія выступаюць за мір і дружбу. Кіраўнік дэлегацыі Гвінеі на канферэнцыі краін Азіі і Афрыкі ў Каіры гаварыў: «Яшчэ нядаўна нашу краіну называлі «Французская Гвінея». Сёння мы горда прадстаўляем свабодную Гвінейскую рэспубліку. Такі няўхільны ход вызваленчай барацьбы. Наша моладзь будзе змагацца, пакуль усе яе браты ў Азіі і Афрыцы не стануць свабоднымі і не знішчаць назаўсёды імперыялізм».



Звычайная сцэна ў Руанда-Урундзі. Гэта і называецца «каланіяльная палітыка».





Ньясаленд. Патруль англійскіх салдат сочыць за афрыканцамі.

Моладзь Афрыкі рашуча выступае за раззбраенне, за спыненне ядзерных выпрабаванняў, за поўную ліквідацыю атамнай і вадароднай зброі. Вось чаму з такой радасцю была сустрэта ёю прапанова Савецкага ўрада, унесеная М. С. Хрушчовым на XIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, аб усеагульным і поўным раззбраенні.

Франсуа Фосо, генеральны сакратар «Дэмакратычнай моладзі Камеруна», пісаў: «Мы добра разумеем, што калі план раззбраення, прапанаваны Хрушчовым, будзе прыняты і ажыццёўлен усімі дзяржавамі, наступіць новая эра».

Але раззбраенне азначае не толькі мір. Яно дасць вялізныя сродкі для ўздыму эканомікі абрабаваных каланізатарамі афрыканскіх краін, для ліквідацыі непісьменнасці, для знішчэння хвароб. Дырэктар бальніцы ў Сен-Антуане (Усходняя Афрыка) доктар Ферон сказаў, што на «вылячэнне хворага праказай патрабуецца каля 11,3 долара. Калі б мы мелі такія грошы, якія выдаткоўваюцца на будаўніцтва толькі аднаго самалёта «лятаючая крэпасць», то 900 тысяч пракажаных, якія ёсць у гэтай краіне, перасталі б касцянець зажыва».

А з якім абурэннем сустрэлі афрыканцы выбух французскай атамнай бомбы ў Сахары. Прадстаўнік моладзі Нігера гаварыў: «На працягу многіх гадоў народ Нігера і яго моладзь ні пры якіх абставінах не пераставалі змагацца супраць падрыхтоўкі атамных выпрабаванняў у Сахары». Каланізатары пагардліва аднесліся да гэтага. Але чаго яны дабіліся? Яны, як пішуць замежныя газеты, страцілі дружбу народаў Афрыкі. Афрыканскія народы яшчэ лепш сталі разумець, хто іх сябры і хто ворагі.

Шырыцца рух народаў каланіяльных краін за сваю свабоду і незалежнасць. Нават самыя цвёрдалобыя з імперыялістычнага лагера бачаць, што іх карта біта, што ўжо нічым не спыніць развал ганебнай каланіяльнай сістэмы.

**Надзейны друг усіх прыгнечаных**

Сваю веру ў недалёкую канчатковую перамогу над каланіялізмам афрыканскія народы чэрпаюць у гіганцкіх поспехах Савецкага Саюза і ўсяго сацыялістычнага лагера, у той бескарыслівай дапамозе, якую аказвае наша краіна народам, якія толькі што вызваліліся ад каланіялізма. «Цяпер, калі наша краіна стала багацейшай,— гаварыў М. С. Хрушчоў 5 сакавіка 1960 года ў Маскве пасля вяртання з паездкі па краінах Азіі, — мы дапамагаем усім тым каланіяльным народам, якія вызваліліся ад каланіяльнага рабства і якія хочуць нашай дапамогі, мы дапамагаем ім бескарысліва, шчыра жадаем, каб яны пераадолелі эканамічную адсталасць. Умацаваўшыся, гэтыя краіны яшчэ энергічней будуць адстойваць вялікую справу міру».

Наша краіна дапамагае слабаразвітым краінам перш за ўсё ў стварэнні нацыянальнай прамысловасці. «Мы жадаем, — гаварыў таварыш М. С. Хрушчоў у сваёй прамове ў Парыжы 26 сакавіка, — аказваць дапамогу слабаразвітым у эканамічных адносінах краінам у стварэнні імі сваёй уласнай прамысловасці, каб яны хутчэй развівалі сваю эканоміку, станавіліся на ўласныя ногі і маглі развівацца разам з высакаразвітымі ў эканамічных адносінах краінамі. Мы стаім і будзем стаяць на такіх пазіцыях».

І гэта паслядоўна праводзіцца ў жыццё. У пачатку 1960 года ў ААР было пачата з дапамогай савецкіх спецыялістаў збудаванне велізарнейшай у свеце Асуанскай плаціны, якое з'яўляецца ўзорам эканамічнага супрацоўніцтва Савецкага Саюза з народамі, што змагаюцца за ўмацаванне сваёй свабоды і незалежнасці.

У Гвінеі з дапамогай Савецкага Саюза будуецца цэментны і лесапільна-шпалараэзны заводы, скурана-абутковы камбінат, завод па кансерваванню садавіны і гародніны, халадзільнік, стадыён і г. д. У Эфіопіі савецкія спецыялісты дапамагаюць будаваць нафтаперапрацоўчы завод, залаты руднік, а таксама вывучаецца магчымасць будаўніцтва металургічнага завода. У афрыканскія краіны пасы-

лаюцца машыны і абсталяванне, што вырабляюцца на беларускіх прадпрыемствах.

Сотні гадоў каланізатары розных масцей рабавалі Афрыку, але ніхто з іх не можа пахваліцца тым, што пабудаваў прадпрыемства для дабрабыту афрыканцаў. А Савецкі Саюз на самых ільготных умовах стварае жыццёва неабходныя для афрыканскіх народаў заводы і фабрыкі.

Развіваецца ўзаемавыгадны гандаль з афрыканскімі краінамі. Калі яшчэ некалькі гадоў таму назад Савецкі Саюз фактычна вёў гандаль толькі з адной самастойнай дзяржавай у Афрыцы, а іменна з Егіптам, то цяпер СССР мае гандлёвыя пагадненні ўжо з сямю краінамі Афрыкі — з Аб'яднанай Арабскай Рэспублікай, Марока, Тунісам, Гвінейскай Рэспублікай, Суданам, Эфіопіяй і Ганай.

Вялікую дапамогу Савецкі Саюз аказвае падрыхтоўцы нацыянальных афрыканскіх кадраў. У СССР навучаюцца студэнты з ААР, Судана, Гвінеі і іншых краін. У афрыканскіх краінах з дапамогай СССР ствараюцца вышэйшыя навучальныя ўстановы — у Гвінеі політэхнічны інстытут на 2 500 студэнтаў, у Эфіопіі — тэхнічная школа на 1 000 чалавек.

У сваёй прамове ў нацыянальным універсітэце Інданезіі «Гаджа мода» М. С. Хрушчоў паведаміў, што Савецкі ўрад, жадаючы дапамагчы краінам Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі ў падрыхтоўцы сваіх нацыянальных кадраў, вырашыў стварыць у Маскве Універсітэт дружбы народаў.

Гэтае рашэнне з радасцю сустрэта юнакамі і дзяўчатамі Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Навучанне ва ўніверсітэце будзе бясплатнае. Ужо ў гэтым годзе з 1 кастрычніка 500 студэнтаў з краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі прымуць аўдыторыі універсітэта дружбы.

Моладзь Афрыкі выказвае шчырую ўдзячнасць савецкаму ўраду за гэты вялікадушны крок. Раджай Салех Селім з Занзібара піша: «Я закончыў сярэднюю школу ў снежні 1957 года і з прычыны недахопу сродкаў не мог ажыццявіць свайго гарачага жадання вучыцца... Як вам вядома, Усходняя Афрыка была знясілена ў выніку панавання імперыялістычных дзяржаў. Афрыцы прадстаіць ствараць сваю будучыню. Прашу вас ад усяго сэрца даць мне стыпендыю».

З Кеніі Бенджамін Амбура піша: «Калі мне прадаставяць магчымасць вучыцца ў Савецкім Саюзе, я буду вывучаць грамадзянскае або архітэктурнае будаўніцтва, або медыцыну. Гэта можа быць дасягнута ў выпадку, калі я змагу пабываць у СССР. Я не веру ў капіталізм і імперыялізм і лічу, што ў такіх краінах, як мая Кенія, павінны быць такія пачуцці, якія не дазволілі б замежным імперыялістам узяць верх, калі прыйдзе незалежнасць».

Народы Афрыкі бачаць у Савецкім Саюзе свайго шчырага, бескарыслівага друга, краіну, з якой трэба браць прыклад. Аўтарытэт міралюбівай палітыкі нашай дзяржавы сярод афрыканскіх народаў надзвычай вялікі.

З пачуццём шчырай радасці сустрэў увесь афрыканскі кантынент, уся моладзь вестку аб візіце М. С. Хрушчова, які мае адбыцца ў Гвінейскую Рэспубліку. Працаўнік міністэрства сувязі Гвінеі Кондзе Бакай сказаў: «Значэнне гэтага візіту велізарнае. Гэты візіт не толькі паслужыць справе збліжэння нашых народаў, але будзе таксама садзейнічаць справе змякчэння міжнароднай напружанасці і ўмацаванню ўзаемаразумення паміж усімі народамі».

Свежыя вятры дзьмуць над Афрыкай. Яны нясуць збавенне мільёнам людзей ад рабства і прыгнёту. Выпростваюць плечы народы Усходу, скідаюць ланцугі каланіялізма, бяруць свой лёс ва ўласныя рукі. Тое, што было пачата Кастрычніцкай рэвалюцыяй пад кіраўніцтвам Леніна, працягвае сваё пераможнае шэсце па Афрыцы.

**Г. НАВІЦКІ.**

*На атэістычныя тэмы*

# ЦІ ІСНАВАЛІ МАРСІЯНЕ?

### Цікавая гіпотэза

Вясной 1959 года друк паведаміў пра цікавую гіпотэзу вядомага савецкага астранома прафесара І. Шклоўскага аб штучным паходжанні спадарожнікаў планеты Марс.

Спадарожнікі Марса — Фобас і Дэймас — былі адкрыты ў 1877 годзе ў час аднаго з так званых Вялікіх супроцьстаянняў, калі чырванаватая планета падыходзіць найбольш блізка да Зямлі. Хутка выявілася, што марсіянскія месяцы маюць шэраг асаблівасцей, якія вельмі адрозніваюць іх ад спадарожнікаў іншых планет нашай сонечнай сістэмы. Найбольш дзіўнай асаблівасцю з'яўляецца пастаяннае, або, як кажуць астраномы, «векавое» паскарэнне руху бліжэйшага спадарожніка Марса Фобаса і яго паступовае набліжэнне да паверхні планеты.

Навука аб руху нябесных цел — нябесная механіка — не дае адказу на пытанне: чым жа выклікана паскарэнне Фобаса? Больш таго, гэтая з'ява, здавалася, супярэчыць яе асноўным прынцыпам. Прафесар Шклоўскі вырашыў яшчэ раз вярнуцца да вывучэння гэтага пытання на падставе сучасных навуковых дадзеных і, у прыватнасці, вынікаў нагляданняў, атрыманых пры дапамозе савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі. Стараннае даследаванне прывяло яго да думкі, што ні так званае прыліўное тармажэнне, ні ўздзеянне электрычных і магнітных сіл, ні якая-небудзь іншая вядомая навукі прычына не могуць вытлумачыць гэтага паскарэння Фобаса. Адзінае рэальнае меркаванне заключаецца ў тым, што на рух Фобаса аказваюць уплыў верхнія пласты марсіянскай атмасферы. Аднак разрэджаная газавая абалонка Марса здольна істотна змяніць рух Фобаса толькі пры ўмове, калі маса гэтага спадарожніка пры яго даволі вялікіх памерах — вельмі малая. А гэта можа быць толькі ў тым выпадку, калі Фобас — пустацелы.

Гэты вывад з'яўляецца вынікам дакладных разлікаў і можа разглядацца як паўнапраўная навуковая гіпотэза. Яе праверка і далейшае развіццё — справа будучыні. Аднак гэтая гіпотэза міжволі прыводзіць нас да шэрагу цікавых меркаванняў.

Перш за ўсё можна сцвярджаць, што натуральны працэс, які прыводзіць да ўтварэння пустых нябесных цел наогул і спадарожнікаў планет у прыватнасці, нам невядомы. У сувязі з гэтым натуральна меркаваць, што Фобас, а магчыма і Дэймас, — не што іншае, як штучныя збудаванні разумных істот — марсіян, створаныя імі многа мільёнаў гадоў таму назад.

Два гіганцкія спадарожнікі,

якія рухаюцца над экватарам планеты, маглі ажыццяўляць шэраг важных функцый, у прыватнасці, трансліраваць тэлевізійныя перадачы.

Безумоўна, мы яшчэ нічога не ведаем пра тое, якога развіцця дасягнула ў свой час цывілізацыя на Марсе, што з ёю адбылося пасля і ў якім стане яна знаходзіцца цяпер. Аб гэтым мы пакуль што можам толькі здагадвацца.

### Яшчэ адна гіпотэза

Некалькі год назад прафесар І. Шклоўскі сумесна з прафесарам В. Красоўскім распрацавалі цікавую гіпотэзу аб уплыве ўспышак так званых «звышновых зорак» на эвалюцыю жыцця на паверхні планет.

«Звышновымі» астраномы называюць зоркі, якія пад уздзеяннем пакуль яшчэ невядомых нам унутраных працэсаў успыхваюць нечакана. Пры гэтым зорка хутка павялічваецца, скідаючы з сябе газавую абалонку. Часам нават адбываецца распыленне ўсёй зоркі.

На працягу некалькіх тыдняў пасля ўспышкі некаторыя звышновыя зоркі выпраменьваюць такую ж колькасць святла, як некалькі мільярдаў сонцаў. У выніку зоркавай катастрофы звычайна ўтвараецца газавая туманнасць. Адна з такіх туманнасцей знаходзіцца ў сузор'і Цяльца, на месцы ўспышкі звышновай зоркі ў 1054 годзе. За сваю форму яна атрымала назву Крабападобнай.

Вывучэнне гэтай туманнасці прывяло вучоных да думкі, што ўспышкі звышновых зорак з'яўляюцца своеасаблівай «фабрыкай» касмічных праменняў.

Некалькі гадоў назад было выяўлена, што Крабападобная туманнасць вылучае магутны паток радыёхваль. А гэта азначае, што ў ёй ёсць вялікая колькасць электронаў, якія рухаюцца з велізарнай хуткасцю. Такія электроны ўяўляюць сабой своеасаблівыя касмічныя радыёстанцыі. Перамяшчаючыся ў міжзоркавых магнітных палях, яны вылучаюць радыёхвалі.

Там, дзе ёсць шпаркія электроны, павінна быць многа іншых зараджаных часцінак, якія рухаюцца з велізарнай хуткасцю, — касмічных праменняў.

Звышновыя зоркі ўспыхваюць не толькі ў нашай галактыцы, але і ў іншых, падобных да яе зоркавых сістэмах. Аднак у нашай галактыцы такія ўспышкі адбываюцца асабліва часта.

Вучоныя падлічылі, што ў сферы радыусам каля 3000 светавых год, якi акружае Сонца, за кожную тысячу год адбываецца ў сярэднім адна ўспышка звышновай зоркі. У непасрэднай жа блізкасці да Сонца, у радыусе прыкладна каля 25 светавых год, такія з'явы адбываюцца радзей.

Улічваючы, што звышновыя зоркі размешчаны ў галактыцы нераўнамерна, І. Шклоўскі і В. Красоўскі падлічылі: за час існавання сонечнай сістэмы магло адбыцца каля 10 успышак блізкіх звышновых зорак. Прыкладна дзве з іх маглі адбыцца ў той перыяд, калі на паверхні Зямлі існавала жыццё.

Да якіх жа вынікаў можа прывесці такая ўспышка?

Туманнасць, што ўтварылася ў выніку ўспышкі, хутка пашыраецца. Аб гэтым сведчыць параўнанне фотаздымкаў Крабападобнай туманнасці, зробленых у розныя гады. Такім чынам, канцэнтрацыя касмічных праменняў у туманнасці павінна з цягам часу паступова памяншацца. Таму пры вельмі далёкіх успышках касмічныя часцінкі ўрэшце цалкам рассейваюцца ў прасторы.

Аднак у тых выпадках, калі радыус туманнасці складае ўсяго 15—20 светавых год, шчыльнасць касмічных праменняў у ёй усё яшчэ ў дзесяткі разоў перавышае іх шчыльнасць паблізу Сонца.

Такім чынам, можна меркаваць, што ў гісторыі нашай планетнай сістэмы былі такія перыяды, калі на працягу некаторага часу шчыльнасць касмічнага выпраменьвання значна перавышала нармальную. Гэта, безумоўна, не магло не адбіцца на раслінным і жывёльным свеце Зямлі.

Сучасная навука ўстанавіла, што радыёактыўныя выпраменьванні могуць аказваць сур'ёзны ўплыў на спадчыннасць.



У клетках жывога арганізма ёсць асобныя ўтварэнні са складанай малекулярнай структурай — храмасомы.

Пад уздзеяннем радыёактыўных выпраменьванняў могуць адбывацца так званыя мутацыі, звязаныя з перабудовай малекулярнай структуры храмасом. У выніку такой перабудовы ў патомкаў могуць з'явіцца новыя якасці, якіх не было ў бацькоў.

Добра вядома, што мутацыі, як правіла, прыводзяць да ўтварэння дэфектыўных форм. Але ва ўмовах натуральнага адбору такія формы асуджаны на немінучае выміранне.

У гісторыі нашай планеты вядомы такія перыяды, калі адна група жывёл і раслін змяняла другую без якой-небудзь барацьбы за існаванне. Так, напрыклад, гіганцкія яшчары, якія ў старадаўнюю (мезазойскую) эру насялялі ваду, сушу і паветра, раптоўна зніклі ў надзвычай кароткі час, саступіўшы свае месца млекакормячым.

Не менш рэзкія змены адбыліся і ў раслінным свеце Зямлі. Надзвычай шырокае распаўсюджанне атрымалі так званыя пакрытанасенныя расліны. Закончыўся перыяд голанасенных, і наша планета хутка пакрылася ліснянымі лясамі.

Многія вучоныя спрабавалі вытлумачыць гэтыя з'явы рознымі геалагічнымі працэсамі, а таксама рэзкімі зменамі клімату Зямлі. Аднак падобныя гіпотэзы не могуць вытлумачыць многіх вядомых навуцы фактаў.

Усё гэта дае падставу меркаваць, што хуткае знікненне гіганцкіх яшчараў і выцясненне голанасенных раслін у канцы мезазойскай эры магло быць выклікана працяглым павелічэннем інтэнсіўнасці касмічнага выпраменьвання, якое адбылося ў выніку ўспышкі блізкай звышновай зоркі.

Пададзены вышэй пункт гледжання дазваляе па-новаму падысці таксама да праблемы ўзнікнення жыцця на Зямлі і іншых планетах.

Паводле сучасных меркаванняў, пярвічныя арганічныя злучэнні — так званыя амінакіслоты — утвараюцца ў атмасферы, якая змяшчае ў сабе сумесь аміяку, метану, вадароду і вадзяной пары. У апошнія гады былі знойдзены спосабы штучнага атрымання арганічных злучэнняў, падобных да тых, якія ўтвараюцца ў жывой прыродзе. У прыватнасці, прафесару Калумбійскага ўніверсітэта Мілеру ўдалося сінтэзаваць пад дзеяннем электрычнага разраду арганічныя злучэнні ў сумесі вадзяной пары, метану, аміяку. Савецкія даследчыкі Паўлоўскі і Пасынская атрымалі амінакіслоты з зыходных неарганічных рэчываў пад уздзеяннем ультрафіялетавых праменняў.

На міжнароднай нарадзе па пытаннях узнікнення жыцця на Зямлі, якая праходзіла некалькі гадоў таму назад у Маскве, было адзначана, што радыёактыўныя выпраменьванні таксама маглі аказаць істотны ўплыў на ўтварэнне пярвічных арганічных злучэнняў.

Даследаванні Шклоўскага і Красоўскага дазваляюць меркаваць, што ўспышка блізкай звышновай зоркі магла аказаць вельмі значны ўплыў на ўтварэнне арганічных злучэнняў. Такім чынам, зусім магчыма, што само ўзнікненне жыцця на Зямлі ў той ці іншай ступені звязана з адной з успышак звышновых зорак. Аднак Зямля надзейна захавана ад касмічных праменняў дастаткова шчыльнай атмасферай, скрозь якую яны амаль не пранікаюць. Таму нават значныя ваганні інтэнсіўнасці касмічнага выпраменьвання ў сусветнай прасторы зусім не ўяўляюць небяспекі для жыхароў Зямлі.

На Марсе ж, як вядома, атмасфера значна больш разрэджаная, чым зямная. Ля паверхні Марса яна мае прыкладна такую ж шчыльнасць, як на вышыні 18—20 кіламетраў над Зямлёй. Таму пярвічныя касмічныя прамені павінны пранікаць скрозь марсіянскую атмасферу значна лягчэй. А гэта азначае, што паток касмічных часцінак, якія ўзніклі ў выніку ўспышкі звышновай зоркі, мог аказаць істотнае ўздзеянне на Марс. Дзякуючы гэтаму жыццё на Марсе сапраўды магло ўзнікнуць

раней, чым на Зямлі і раней дасягнуць высокага ўзроўню развіцця. Але жыхары Марса з яго надзвычай разрэджанай атмасферай увесь час знаходзіліся пад пагрозай. І яны сапраўды маглі загінуць пад уздзеяннем касмічных праменняў, якія ўзнікалі па той ці іншай прычыне. Калі нават насельніцтва Марса цалкам і не загінула, дык, ва ўсякім выпадку, яно магло быць адкінута ў сваім развіцці на тысячагоддзі назад.

У такім меркаванні няма нічога антынавуковага.

**Ці існуе жыццё на Марсе?**

Цяжка ўявіць сабе, што пры любой катастрофе, калі нават яна сапраўды мела месца, жыццё на такой вялікай планеце, як Марс, магло быць знішчана бясследна.

У сувязі з гэтым набываюць асаблівую цікавасць спробы сучасных вучоных выявіць на Марсе раслінны свет. Як вядома, на паверхні гэтай планеты заўважаны цёмныя плямы, якія атрымалі ўмоўную назву «мораў». Характэрная асаблівасць мораў — сезонная змена афарбоўкі, якая вельмі нагадвае змену колеру зямных раслін на працягу года. Але што ўяўляюць сабою марсіянскія моры? Ці гэта сапраўды месцы, пакрытыя расліннасцю? Над вырашэннем гэтай праблемы вучоныя працуюць ужо многа год. Асаблівай увагі заслугоўваюць два факты, якія адносяцца да самага апошняга часу.

У час вялікага супроцьстаяння Марса ў 1956 годзе вучоныя наглядалі жаўтаватую імглу, якая закрывала часам асобныя месцы планеты. Ленінградскаму прафесару Сыцінскаму ўдалося ўстанавіць, што імгла гэтая складалася з тых жа самых часцінак, што і паверхня планеты. Тым самым было даказана, што на Марсе бушуюць магутныя пылавыя буры. Між тым, абрысы мораў з цягам часу застаюцца амаль нязменнымі. Што іншае, акрамя расліннасці, можа так упарта супраціўляцца наступленню пустыні? У 1958 годзе амерыканскі даследчык Сінтан, вывучаючы Марс пры дапамозе пяціметровага паламарскага тэлескопа, устанавіў, што святло, якое адлюстроўваюць моры, валодае асаблівасцямі, характэрнымі для святла, якое адлюстроўваюць арганічныя малекулы.

Гэтыя звесткі пацвярджаюць рэальнасць меркавання аб тым, што на паверхні Марса сапраўды ёсць расліннасць. А там, дзе ёсць расліны, павінны ці, урэшце, павінны былі існаваць і жывёлы, таму што раслінны і жывёльны свет цесна звязаны між сабой. У прыватнасці, расліны паглынаюць вуглякіслы газ, які выдыхаюць жывёлы, выпрацоўваючы ўзамен жыватворчы кісларод.

**Ці прыляталі да нас марсіяне?**

У сувязі з гіпотэзай І. Шклоўскага ўзнікае яшчэ адно натуральнае пытанне: калі развіццё марсіянскай навукі дасягала ў свой час такога высокага ўзроўню, які дазволіў жыхарам гэтай планеты стварыць гіганцкія штучныя касмічныя збудаванні, дык чаму яны не прыляталі да нас на Зямлю?

Адказ на гэтае пытанне можа здацца некалькі нечаканым. Адсутнасць звестак аб знаходжанні марсіян на Зямлі яшчэ не дае нам права сцвярджаць, што яны тут сапраўды ніколі не былі.

Добра вядома, з якімі велізарнымі цяжкасцямі звязана вывучэнне развіцця жыцця на Зямлі па матэрыялах археалагічных знаходак. Толькі зусім нядаўна, напрыклад, атрыманы звесткі аб продках сучаснага чалавека. У той час, калі марсіяне маглі прыляцець на Зямлю, нашых продкаў на зямлі было яшчэ не так многа. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што для прызямлення марсіяне хутчэй за ўсё павінны былі выбіраць высакагорныя раёны, умовы якіх найбольш набліжаюцца да ўмоў Марса. Але даследаванні ў высакагорных раёнах звязаны з велізарнымі цяжкасцямі. Характэрным прыкладам можа служыць да гэтага часу нявырашаная праблема «снежнага чалавека». На Зямлі і цяпер ёсць яшчэ нямала такіх мясцін, куды ніколі не ступала нага даследчыка. Успомніце таямнічае горнае плато, апісанае вядомым англійскім пісьменнікам Конан-Дойлем у рамане «Загублены свет». Апынуўшыся на гэтым плато, героі рамана нечакана сутыкнуліся з даўно вымершымі жывёламі і раслінамі. Таямнічае плато Конан-Дойля сапраўды існуе. Не адзін раз адважныя даследчыкі спрабавалі пранікнуць у гэтую недаступную краіну, але ўсе іх спробы кожны раз заканчваліся няўдачай. На поўначы Паўднёвай Амерыкі ёсць шэраг горных плоскагор'яў, зусім адрэзаных ад знешняга свету стромкімі абрывамі. Яны амаль заўсёды ахутаны воблакамі, і ніхто не ведае, што схавана ў гэтых загадкавых кутках нашай планеты.

Калі аднойчы вучоным усё ж удалося пранікнуць на адно з такіх плаcкагор'яў, яны сустрэлі там пароду грызуноў, якія рэзка адрозніваюцца ад тых, што вядуцца ў гэтай мясцовасці. Пралятаючы над іншымі плато, лётчык заўважыў з самалёта гіганцкі вадаспад. Калі вучоным з вялікімі цяжкасцямі ўдалося прабрацца да вадаспаду, аказалася, што вада ў ім падае з вышыні больш 1 000 метраў, а гэта ў 15 разоў перавышае вышыню славутай Ніягары.

І няма нічога неверагоднага ў тым, што з цягам часу сляды марсіян на Зямлі могуць быць выяўлены...

Аб магчымасці зусім нечаканых адкрыццяў сведчыць вельмі цікавая знаходка, зробленая некалькі год таму назад даследчыцай паўднёваамерыканскага мацерыка Лотрап. У Коста-Рыка і іншых раёнах Цэнтральнай Амерыкі яна знайшла вялікія каменныя шары папярэчнікам каля двух і больш метраў выключна правільнай геаметрычнай формы. Гэтыя загадкавыя шары, зробленыя з белай лавы, сустракаюцца на раўніне сярод бананавых плантацый — далёка ад тых месц, дзе ёсць выхады лававых парод.

Нават цяпер выточванне шароў на станках — далёка не простая задача. Таму цяжка сабе ўявіць, як маглі быць зроблены многія сотні, а магчыма і тысячы вялікіх каменных шароў без прымянення вырчальных прыстасаванняў і дакладных лякал. Цікава таксама, што шары размяшчаюцца на зямлі пэўнымі геаметрычнымі фігурамі і паказваюць на пэўную залежнасць ад старон свету.

Устаноўлена таксама, што шары гэтыя знаходзіліся на сваіх месцах задоўга да іспанскага заваявання, і ім прыпісваецца нават дагістарычная даўнасць. Хто ведае — магчыма таямнічыя шары служылі своеасаблівымі пасадачнымі знакамі для марсіянскіх касмічных караблёў?

Яшчэ адной загадкай, якая магчыма мае адносіны да марсіян, з'яўляюцца так званыя тэктыты, паходжанне якіх не высветлена. Тэктыты — гэта невялікія своеасаблівыя кавалкі аплаўленага шкла разнастайнай формы, якія некаторыя даследчыкі лічаць шклянымі метэарытамі. У розных месцах зямнога шара знойдзены цэлыя залежы тэктытаў. Напрыклад, на востраве Тасманія у Цэнтральнай і Паўднёвай Аўстраліі, на астравах Малайскага архіпелага, у Індакітаі. Здавалася, што размяшчэнне залежаў тэктытаў на паверхні Зямлі сведчыць аб іх касмічным паходжанні — усе яны размяшчаюцца па вялікаму кругу. Аднак хутка гэтая заканамернасць аказалася некалькі парушанай: былі адкрыты залежы тэктытаў у Заходняй Афрыцы. Акрамя таго, знаходкі шкла, якое па знешняму выгляду падобна да тэктытаў, але мае некалькі іншы хімічны склад, былі зроблены ў Каломбіі і Перу.

Нарэшце ў апошнія дзесяцігоддзі пры вывучэнні вялікіх метэарытных кратараў выяўлены новыя шкляныя ўтварэнні, якія атрымалі назву сіліка-глас, што азначае крэмніевае шкло. У адрозненне ад тэктытаў усе без выключэння ўзоры сіліка-гласу маюць няправільную асколачную форму і вельмі празрыстыя. Было выказана меркаванне, што сіліка-глас уяўляе сабою не што іншае, як пераплаўлены ў момант падзення буйнага метэарыта зямны кварцавы пясок. Аднак у 1932 годзе залежы сіліка-гласу былі знойдзены ў Лівійскай пустыні, прычым кавалкі шкла аказаліся рассеянымі

на плошчы ў дзесяткі кіламетраў паміж паралельных град пясчаных дзюн. Тады пачалі шукаць метэарытныя кратары. Але іх не знайшлі. Паходжанне сіліка-гласу ў Лівійскай пустыні так і засталося загадкай. І пакуль што ні адна з існуючых тэорый утварэння тэктытаў і сіліка-гласу не дае нам поўнага вытлумачэння вядомых фактаў. Цікава таксама адзначыць, што на тэрыторыі СССР тэктыты да гэтага часу не выяўлены.

Яшчэ адна знаходка была зроблена зусім нядаўна. На дне Ціхага акіяна даследчыкі заўважылі таямнічы пласт белага шклопадобнага попелу, які займае велізарную прастору каля 500 000 квадратных міль. Раён гэты размешчаны на адлегласці некалькіх сот міль ад берагоў Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі і цягнецца на 750 міль на поўнач і на 820 міль на поўдзень ад экватара. Было ўстаноўлена таксама, што многія часцінкі попелу маюць іголкападобную форму. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што паходжанне таямнічага попелу на дне Ціхага акіяна звязана з нейкімі касмічнымі падзеямі.

Магчыма, асобна кожны з адзначаных вышэй фактаў і не ўяўляе сабой чаго-небудзь выключнага — нявырашаныя пытанні і загадкі ёсць у любой навуцы — аднак усе гэтыя факты разам узятыя у спалучэнні з гіпотэзай аб штучным паходжанні спадарожнікаў Марса прымушаюць сур'ёзна задумацца над пытаннем аб тым, ці не маюць яны якіх-небудзь адносін да марсіян або да наведання нашай Зямлі касманаўтамі іншых планетных сістэм.

Усё сказанае сведчыць аб тым, што сучасная навука ўшчыльную падышла да вырашэння найвялікшай праблемы аб існаванні разумных істот на суседняй нам планеце.

Недалёкі час, калі да Марса памчацца аўтаматычныя ракеты. Гэта дасць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з Фобасам і Дэймасам, больш дакладна вызначыць іх памеры, а магчыма, і рэчывы, з якіх яны складаюцца.

Таямніцы Марса і яго спадарожнікаў будуць раскрыты ў недалёкім будучым.

**В. КАМАРОЎ,**
**лектар Маскоўскага планетарыя.**

## *Спорт*

# ЁСЦЬ ДОБРЫЯ ЗАЯЎКІ, ЧАКАЕМ НОВЫХ ПЕРАМОГ

Неяк мне давялося стрэцца з адным спартыўным спецыялістам і ў шчырай размове ён выказаў думкі аб беларускім спорце.

Цяжка даецца спартыўнае майстэрства. Прыгадайце, колькі разоў Галіне Галуновай не хапала то сантыметра ў прыжках у даўжыню, то якой-небудзь долі секунды ў бар'ерным бегу, то некалькіх ачкоў у пяцібор'і да запаветнай нормы майстра спорту. І толькі ў мінулым сезоне яна стала нарэшце майстрам. А Станіслаў Плаўскі? Ён да гэтага часу «ходзіць у першаразрадніках», хоць ужо даўно мае славу мацнейшага беларускага бегуна на сярэднія дыстанцыі.

Нялёгка падрыхтаваць добрага кідальніка, скакуна з шастом або бар'ерыста. Вось Цімох Лунёў і Анатоль Юлін пакінулі бегавую дарожку, і не знайшлося да гэтага часу раўнацэннай замены ім у бар'ерным бегу. Ходзяць сярод спартсменаў чуткі, што апошні сезон выступаюць Міхаіл Крываносаў і Уладзімір Булатаў. Хто зойме іх месца ў спартыўным страі?

Рэзервы! Вось галоўнае, што хвалюе зараз не толькі спецыялістаў, але ўсю спартыўную грамадскасць.

### Праблема нумар адзін

— Клубны залік? Каму патрэбна гэтая выдумка! — гарачыўся выкладчык кафедры фізвыхавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Маркаў. — Адкуль у нас можа быць дзіцячая валейбольная каманда? У нас жа не спартыўная школа.

— Не будзе дзіцячай каманды, не дапусцім да спаборніцтваў, — спакойна адказалі ў гарадскім Савеце саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый.

Тут правільна зразумелі, што праблему юнацкага спорту — праблему нумар адзін — толькі спартыўнымі дзіцячымі і юнацкімі школамі не вырашыш. Такія школы існуюць даўно, іх вельмі многа. Але да таго часу, пакуль не будзе масавасці ў юнацкім спорце, пакуль па-сапраўднаму не возьмуцца за гэтую справу агульнаадукацыйныя школы, — не створыш спартыўных рэзерваў вялікага спорту.

Клубны залік у спаборніцтвах несумненна прынясе карысць. Ён дапаможа ўзмацніць шэфскую работу над спортам у сярэдніх школах. Зімовае першынство Мінска па футболу, валейболу, баскетболу ўпершыню праводзілася сёлета з абавязковым удзелам дзіцячых юнацкіх каманд.

І ў іншых гарадах рэспублікі пачынаюць уводзіць клубны залік.

Сёлетні каляндар спартыўна-масавых мерапрыемстваў складзены так, што будзе садзейнічаць сапраўднаму ажыўленню і далейшаму развіццю юнацкага спорту ў Беларусі.

Няма бадай такога віду спорту, спаборніцтвы па якому планаваліся б без удзелу моладзі, юнакоў. Узяць, напрыклад, валейбол, дзе адставанне беларускіх спартсменаў прыняло асаблівa зацяжны характар. З 13 розных спаборніцтваў — 8 праводзяцца з удзелам юнакоў. Тут і абласныя спаборніцтвы сярод юнакоў і дзяўчат, і першынство БССР сярод юнакоў 15—16 год. Будуць разыграны кубкі таварыстваў «Дынама» — для мужчын і юнакоў, «Буравеснік» — для каманд жанчын і дзяўчат. У жніўні ў Оршы адбудуцца рэспубліканскія спаборніцтвы паміж камандамі спартыўных таварыстваў і ведамстваў з клубным залікам. Тое ж самае намечана правесці ў баскетболе, футболе, веласіпедным і іншых відах спорту.

Вядома, сярод юных спартсменаў рэспублікі нямала здольных лёгкаат-

летаў, баксёраў, барцоў, веласіпедыстаў, гімнастаў, плыўцоў, якія неўзабаве заменяць сваіх старэйшых таварышаў. У Вільнюсе на спаборніцтвах па скачках у ваду на прыз газеты «Камсамольская праўда» юныя спартсмены Мінска Валя Гардзеева і Валодзя Андрэеў занялі прызавыя месцы. Гродзенскія школьнікі сталі пераможцамі ў ленінградскім турніры юных валейбалістаў. Можна назваць шмат спаборніцтваў — саюзных і рэспубліканскіх — у якіх юныя спартсмены Беларусі паспяхова змагаліся за прызавыя месцы.

Але галоўнае, пра што трэба заўсёды клапаціцца, гэта пра масавасць спорту, пра масавы рост спартыўнага майстэрства. Няхай у кожнага спартсмена расце надзейная змена сярод юных аматараў спорту.

### Вось яны, нашы алімпійцы!

Эдуард Яраш. Гэта хлопец, пра якога аматары спорту загаварылі нядаўна. Былі і іншыя імёны ў бліскучым сузор'і герояў спорту. На спартыўным алімпе былі Марыя Іткіна, Міхаіл Крываносаў, Алег Караваеў, Арнольд Чарнушэвіч, Яўген Новікаў, Аляксей Засухін, Георгі Расацкі, Макс Шавель... Да гэтай пляяды імён можна дадаць нямала іншых, якія добра паслужылі беларускаму спорту, атрымалі прызнанне і папулярнасць далёка за межамі рэспублікі. Эдуард Яраш названы быў толькі летась.

Цяпер імя Яраша вядома далёка за межамі рэспублікі. Таленавіты 19-гадовы спартсмен стаў чэмпіёнам 2-й Спартакіяды народаў СССР па стральбе з малакалібернай вінтоўкі. На еўрапейскім першынстве ў Мілане ён быў другім прызёрам. Алімпійцы павінны былі пацясніцца і даць месца маладому беларускаму снайперу.

Сярод прэтэндэнтаў на пуцёўку для ўдзелу ў сёлетніх Алімпійскіх гульнях ёсць прадстаўнікі нашай рэспублікі ў дзевяці відах спорту. Праўда, у веласіпедзе, боксе і гімнастыцы іх толькі па адным.

Адзін з мацнейшых гоншчыкаў краіны Георгі Расацкі, чэмпіён СССР баксёр Уладзімір Бацвінік і малады гімнаст Мікалай Мілігула будуць змагацца за ганаровае права абараняць у Рыме спартыўны гонар сваёй радзімы.

Чатыры залатыя медалі прывезлі нашы барцы класічнага стылю з сёлетняга чэмпіянату краіны. Чэмпіён свету Алег Караваеў, выдатныя майстры дывана Іван Коршунаў, Мікалай Чучалаў і Сяргей Залускі сталі асноўнымі кандыдатамі ў складзе зборнай алімпійскай каманды. Не так даўно на сустрэчы з венгерскімі барцамі, якія займаюць трэцяе месца ў свеце, яны зноў пацвердзілі свой высокі клас, перамогшы ў бліскучым стылі моцных сапернікаў.

Славіцца Беларусь сваімі веслярамі. Майстры спорту Валянцін Наумаў і Аляксандр Маркаўцоў не раз выходзілі пераможцамі на водных дарожках Еўропы і Савецкага Саюза. Залатыя медалі чэмпіёнаў заваявалі на 2-й Спартакіядзе Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка. Яны першыя адолелі 10-кіламятровую дыстанцыю на байдарцы-двойцы.

Нямала ёсць у нас і выдатных майстроў сталёвага клінка. Славутым спартсменам у нашай краіне і за рубяжом не раз даводзілася «складваць зброю» перад фехтавальшчыкамі Беларусі. Арнольд Чарнушэвіч, трэцяя шпага свету, бліскуча выступаў нядаўна ў Францыі і Англіі. У Ленінградзе на маладзёжным першынстве свету, якое адбылося ў красавіку, прызавое месца заняў Аляксей Нікančыкаў. Высокага майстэрства дабілася і Тацяна Пятрэнка, прызёр першынства свету па рапіры. Чэмпіёнам 2-й Спартакіяды сярод юнакоў стаў Юры Рыбнец. Спадзяемся, што тыя, каму з іх пашанцуе выступаць у Рыме, здолеюць дастойна абараніць спартыўны гонар Беларусі.

Успомнім, нарэшце, аб каралеве спорту — лёгкай атлетыцы. 16 лёгкаатлетаў з Беларусі маюць магчымасць трапіць на Алімпійскія гульні ў Італію. Гэта перш за ўсё заслужаныя майстры спорту Уладзімір Булатаў, Міхаіл Крываносаў і Марыя Іткіна. Многа год яны надзейна абараняюць на міжнароднай арэне спартыўныя сцягі СССР. І сёлетняй вясной Уладзімір Булатаў скокнуў з шастом на 4 метры 34 сантыметры. Амаль на 63 метры кінуў молат Міхаіл Крываносаў.

Спецыялісты сцвярджаюць, што ніхто са спартсменак краіны не бегае так імкліва на віражах, як Марыя Іткіна. Мяркуюць, што на трэцім этапе на віражы ў алімпійскай эстафеце 4×100 метраў пабяжыць беларуская спартсменка. Выдатных вынікаў чакаюць ад яе і на 200-мятровай дыстанцыі. Іткіна ў добрай спартыўнай форме і павінна парадаваць спартыўную грамадскасць новымі рэкордамі.

Сур'ёзную заяўку на паездку ў Рым зрабіў малады майстар Уладзімір Гараеў. На 2-й Спартакіядзе народаў СССР мінскі студэнт заняў трэцяе месца ў трайным скачку, а потым выйшаў пераможцам у матчах з лёгкаатлетамі Англіі і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

Хутка расце майстэрства студэнткі інстытута фізкультуры Аляксандры Жалабковіч. Сёлета яна ўжо некалькі разоў пасылала дыск за 50 метраў. Бліскучую будучыню прадказваюць знаўцы спорту маладому спрынтару Сяргею Сонцаву і скакуну ў даўжыню Анатолю Зірко.

І моладзь, і ветэраны — надзейныя спартыўныя барцы. На іх можна смела спадзявацца. Яны не падвядуць сваіх таварышаў на алімпійскай спартыўнай арэне.

### У добры час!

Падарожніку, які сабраўся ў далёкую і цяжкую дарогу, звычайна гавораць: «У добры час!» Чалавеку, які пачынае вялікую карысную справу, гавораць гэтыя ж цёплыя словы. Скажам і мы іх нашым спартсменам. Яны нядрэнна пачалі новы спартыўны год. Ужо ў сярэдзіне студзеня ў Брэсце на асабістых спаборніцтвах членаў зборнай каманды лёгкаатлетаў былі ўстаноўлены чатыры новыя рэспубліканскія дасягненні. На матчы са спартсменамі прыбалтыйскіх рэспублік Міхаіл Крываносаў кінуў молат на 62 метры 80 сантыметраў, Аляксей Балтоўскі штурхнуў ядро на 16 метраў 46 сантыметраў, устанавіўшы новы рэспубліканскі рэкорд. Планку на вышыні 2 метры пераадолеў і Рамуальд Крашніннікаў. Гэта трэці беларускі спартсмен, які пераадолеў двухметровы рубеж. Мужчыны на гэтых спаборніцтвах выйгралі 10 першых месц з 19, а жанчыны — 7 з 11.

Ва ўсесаюзным першынстве фехтавальшчыкаў спартыўнага таварыства «Дынама», якое праходзіла ў лютым, выдатна выступілі шпажысты Арнольд Чарнушэвіч, Аляксандр Паўлоўскі і Аляксей Нікančыкаў. Яны занялі першыя тры месцы і выйгралі каманднае першынство. У агульным заліку беларускія фехтавальшчыкі аказаліся на другім месцы, прапусціўшы ўперад толькі масквічоў. Яны ж выйшлі пераможцамі і ў матчавай сустрэчы з фехтавальшчыкамі Літвы, Малдавіі і Азербайджана.

Парадавалі сваімі поспехамі і гімнасты. У традыцыйных спаборніцтвах са зборнымі камандамі Ленінграда, Арменіі, Узбекістана і Эстоніі яны занялі першае месца. І ў асабістым заліку першымі былі беларускія майстры Мая Лахцікава і Мікалай Мілігула.

Добрую заяўку зрабілі баксёры. На першынстве Цэнтральнага савета таварыства «Дынама» майстры спорту Аляксей Засухін і Барыс Прупас сталі чэмпіёнамі, а Эдуард Багданоўскі і Анатоль Іваноў — прызёрамі спаборніцтваў. У Гомелі разыграна асабістае каманднае першынство баксёраў «Спартака». І тут поспех спадарожнічаў беларускім спартсменам. Яны занялі другое месца, а майстры спорту Анатоль Хаценчык і Яўген Абакумоўскі заваявалі званне чэмпіёнаў.

Нарэшце, пачынаюць «выходзіць у людзі» валейбалісты. Спартакаўкі Мінска, удзельнічаючы ў розыгрышы першынства краіны сярод каманд класа «Б», выйшлі пераможцамі ў Мінскай зоне, не прайграўшы ніводнай сустрэчы. Яны зрабілі першы ўдалы крок на шляху да мацнейшых — класа «А».

Рэванш за паражэнне ў мінулым годзе ўзялі ў польскіх спартсменаў беларускія плыўцы. На гэтых спаборніцтвах Аляксандр Папко ўпершыню выканаў нарматыў майстра спорту ў плаванні на 400 метраў вольным стылем. Ён жа палепшыў дасягненне рэспублікі ў плаванні на 1500 метраў. У час веснавых спаборніцтваў на прыз «Камсамольскай праўды» беларускія плыўцы ўстанавілі 7 рэспубліканскіх рэкордаў. Аляксандр Папко ўключаны ў склад зборнай каманды СССР.

І, нарэшце, удалы дэбют футбалістаў. Колькі радасці прынеслі аматарам гэтага захапляючага віду спорту першыя матчы футбалістаў каманды «Беларусь»! З лікам — 1 :0 яны перамаглі неаднаразовых чэмпіёнаў краіны — спартакаўцаў Масквы. У цяжкім паядынку з «Шахцёрам» яны таксама праявілі свае лепшыя якасці футбольных байцоў. Дружнымі намаганнямі ўсяго калектыву футбалісты «Беларусі» перамаглі сваіх сапернікаў і суседзяў — вільнюскіх спартакаўцаў.

Сёлетні спартыўны сезон насычан мностввам разнастайных вялікіх і малых спаборніцтваў. Алімпійскі год — не толькі для алімпійцаў! Па ўсёй рэспубліцы будуць праходзіць спартакіяды ў калектывах фізкультуры, першынствы па алімпійскіх відах спорту. Беларускія спартсмены будуць сустракацца ў матчах са сваімі таварышамі з іншых брацкіх рэспублік.

У апошні час яшчэ больш пашырыліся міжнародныя сувязі нашых спартсменаў. Усё больш і больш каманд па розных відах спорту выязджаюць за мяжу, усё больш і больш замежных спартсменаў прыязджаюць у Беларусь.

**М. УЛАДЗІМІРАЎ.**

# Шахматы

пад рэдакцыяй майстра спорту
А. СУЭЦІНА

## З ГІСТОРЫІ БАРАЦЬБЫ ЗА ПЕРШЫНСТВО СВЕТУ

З часу матчавых спаборніцтваў паміж выдатнымі шахматыстамі свету англічанінам Мак-Донелам і французам Лабурданэ зрабілася традыцыяй прысвойваць званне чэмпіёна свету ў адзінаборстве двух мацнейшых шахматыстаў. Такія спаборніцтвы заўсёды пакідалі глыбокі след у гісторыі шахмат, рухалі наперад тэорыю.

Не будзем паглыбляцца ў аддаленыя часы. Прыгадаем, якую велізарную цікавасць выклікалі ў шырокай грамадскасці нядаўнія паядынкі чэмпіёна свету М. Батвінніка з прэтэндэнтам на сусветную карону савецкім гросмайстрам Д. Бранштэйнам, В. Смысловым (апошні іграў з Батвіннікам тройчы і на працягу года «насіў» званне чэмпіёна свету) і, нарэшце, з М. Талем.

У матчах на першынство свету, дзе сустракаюцца лепшыя з лепшых шахматыстаў, якія валодаюць выключнай тэхнікай, велізарнай эрудыцыяй, высокім тактычным майстэрствам, як у люстры, бачны сучасныя шахматныя ідэі. Яны як быццам праходзяць праверку на самых сур'ёзных іспытах.

Цікава, напрыклад, што ў вядомым паядынку 1927 года ў Буэнос-Айрэсе паміж Х. Капабланкам і А. Алёхіным з 34 партый 25 закончыліся з нічыйным вынікам і толькі 9 далі выйгрыш аднаму з партнёраў. Такая ўпартая была барацьба паміж гэтымі двума віртуозамі шахматнай гульні.

Матчавая барацьба шмат у чым адрозніваецца ад турнірнай. Перамога забяспечана таму, хто першы і з самага пачатку здолее ўздзейнічаць псіхалагічна на партнёра, падарваць яго ўпэўненасць у свае сілы. У сувязі з гэтым можна назваць матч 1921 года паміж чэмпіёнамі свету таго часу Э. Ласкерам і Х. Капабланкам. Ласкер, які насіў званне чэмпіёна свету ўжо 27 гадоў, славіўся сваім псіхалагічным майстэрствам. Ён умеў накіроўваць партыі па такім шляху, калі адразу ўскрываліся найбольш слабыя бакі гульні яго партнёраў. Але на гэты раз, у матчы з Капабланкам, яму не ўдалося выявіць слабыя месцы партнёра.

З самага пачатку матча Х. Капабланка захапіў ініцыятыву і крок за крокам наступаў на Ласкера, якому не заставалася нічога іншага, як прызнацца: «Капабланка прымушаў мяне рашаць задачы дастаткова цяжкія, такія, што могуць канчаткова зламаць сілы любога стомленага шахматыста».



Хоць па рэгламенту матч павінен быў складацца з 24 партый, барацьба спынілася пасля 14 партыі. Пры ліку +4—0=10 у карысць Капабланкі Ласкер здаў матч і аб'явіў свайго партнёра чэмпіёнам свету.

Так выглядае адна з драматычных старонак гісторыі барацьбы за першынство свету.

Сёлетняй вясной на працягу амаль двух месяцаў аматараў шахмат хвалявала напружаная барацьба за валоданне сусветнай шахматнай «каронай». Гэтае хваляванне пачалося яшчэ задоўга да таго, як два лепшых шахматысты свету М. Батвіннік і М. Таль селі за шахматную дошку.

Батвіннік і Таль зусім розныя людзі і па колькасці сыграных партый і па працягласці ўдзелу ў шахматных першынствах. Дастаткова сказаць, што Батвіннік на чвэрць стагоддзя старэйшы за свайго партнёра: Батвінніку ўжо 49 год, у той час як Талю—усяго 23 гады. Батвіннік — вядомы спецыяліст у галіне электратэхнікі, доктар тэхнічных навук! Таль — толькі што пакінуў сцены ўніверсітэта, абараніўшы дыпломную работу «Сатыра ў творах «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля». І. Ільфа і Я. Пятрова».

Значна адрозніваюцца яны і ў падыходзе да шахматнай творчасці. Батвіннік — прыхільнік строгага рацыяналізму, яго стыль вызначаецца жалезнай логікай; ён перакананы ў заканамернасці барацьбы, не любіць хуткаспелых атак; тактычная аперацыя ў яго заўсёды падпарадкавана агульнаму плану. Слова «план» наогул вельмі блізкае натуры Батвінніка. Нават у асабістым жыцці ён заўсёды прытрымліваецца строгага распарадку — яго рабочыя гадзіны вельмі прадумана распланаваны.

Таль, наадварот, любіць вострую камбінацыйную барацьбу. Яго стыль больш за ўсё нагадвае стыль першага рускага чэмпіёна свету Аляксандра Алёхіна.

І вось у гэтым матчы сышліся—вопыт і маладосць, цвярозы разлік і творчы парыў, неадхільная логіка і яркая фантазія!

Даўно не было такіх супярэчлівых спрэчак і прагнозаў наконт вынікаў матча! Думкі аўтарытэтных асоб разышліся вельмі рэзка. Напрыклад, гросмайстар П. Керас лічыў, што пераможа М. Батвіннік, а гросмайстар Т. Петрасян быў перакананы ў перамозе М. Таля. Цікавы прагноз аднаго з самых моцных замежных гросмайстраў—югаслава С. Глігорыча. Ён не адважыўся вымавіць рашаючае слова ў карысць аднаго з прэтэндэнтаў, але сказаў, што матч кончыцца з вельмі буйным лікам у карысць аднаго з іх. Малады чэмпіён ЗША Р. Фішар заўважыў, што Таль, безумоўна, іграе лепш, чым ён, але наўрад ці дастаткова добра, каб зрабіцца чэмпіёнам свету.

Калі звярнуцца да гісторыі барацьбы за сусветнае першынство, можна толькі канстатаваць, што яшчэ ніколі ў гісторыі шахмат не было ніводнага прэтэндэнта на сусветнае першынство ва ўзросце 23 год. Стрэлка «ўзроставага барометра» для чэмпіёнаў свету стаіць, як правіла, паміж 30 і 40 гадамі.

Так, усе чэмпіёны свету апошняга часу—Х. Капабланка, А. Алёхін, М. Батвіннік, М. Смыслоў—заваявалі сусветную карону ва ўзросце 35—37 год. А першы чэмпіён свету В. Стэйніц атрымаў гэтае званне, будучы значна старэйшым. Выключэннем з'яўляўся да гэтага часу толькі Эмануіл Ласкер, які стаў чэмпіёнам свету ў 27 год!

І вось Таль, якога называюць за мяжою «шахматнай ракетай XX стагоддзя», першы сярод юнакоў свету яго ўзросту ўступіў у барацьбу за званне сусветнага чэмпіёна.

Матч спраўдзіў прагнозы шматлікіх «балельшчыкаў»—барацьба была вельмі напружанай. Паказальны ў гэтых адносінах наступны фрагмент з шостай партыі матча.





Таль з мэтаю абвастрэння барацьбы сыграў 1. ...Кf4! (Цікавая ахвяра каня, якая дапамагае чорным пачаць моцную контрігру на ферзевым флангу.), 2. gf ef, 3. Cd2, Ф:b2, 4. Лab1 f3, 5. Л:b2? (Імкненне зрабіць ігру прасцейшай зусім зразумелае, але гэта памылковае рашэнне. Правільна было 5. C:f3 Ce5+, 6. Кpg2 C:b1, 7. Л:b1 Фc2, 8. Лc1, і чорныя вымушаны былі б фарсіраваць нічыю паўторам хадоў. Цяпер жа чорныя дамагаюцца поспеху.) 5. ...fe, 6. Лb3 Лd4!, 7. Ce1 Ce5+, 8. Кpg1 Cf4!, 9. К:e2 Л:c1, 10. К:d4 Л:e1+, 11. Cf1 Ce4, 12. Кe2 Ce5, 13. f4 Cf6, 14. Л:b7 C:d5, і чорныя рэалізавалі перавагу.

Матч закончыўся, як мы ведаем, перамогай Міхаіла Таля.

### КАМБІНАЦЫЙНЫ ЎДАР

Як часта можна пачуць выраз: «Праціўнік ажыццявіў камбінацыйны ўдар, што вырашыла вынік партыі». Так, камбінацыйны ўдар, здаецца, найбольш моцны тактычны сродак у шахматнай барацьбе. Ён як быццам робіць рэзкую пераацэнку каштоўнасцей, г зн.



усяго таго, што паслядоўна назбіралася ў выніку карыстання пазіцыйнымі сродкамі.

Разам з тым камбінацыйны ўдар прыносіць і эстэтычнае задавальненне сваёй прыгажосцю, эфектыўнасцю. Таму кожны, хто хоча іграць камбінацыйна, павінен развіваць у сабе фантазію. Без яе цяжка і нават немагчыма авалодаць камбінацыйным майстэрствам.

Праілюструем гэта на невялікім, але вельмі характэрным прыкладзе.

Пазіцыя ўзята з партыі двух майстроў пачатку нашага стагоддзя — Лявіцкага (белыя) і Маршаль (чорныя) (Браслаўль, 1912 г.).

Ужо самы павярхоўны прагляд партыі гаворыць пра тое, што пазіцыя насычана камбінацыямі. Становішча белых выглядае небяспечным, таму што ў іх пад боем і ферзь і ладдзя, і хоць у іх лішняя фігура, пазіцыя белых здаецца вельмі незайздроснай. Але ж ход за чорнымі, і гэта можа рэзка змяніць становішча. Усялякія адыходы ферзём, аднак, нічога не даюць чорным, таму што белыя проста бяруць ладдзю на h3 і выйграюць.

Больш глыбокае вывучэнне пазіцыі паказвае, што ў чорных ёсць нямала падстаў для атакі на каралеўскім флангзе. Чорныя ладдзі стаяць на адкрытых лініях. Вельмі актыўны конь. Старанныя пошукі могуць прывесці да прыгожага камбінацыйнага ўдару, які быў прыменены ў гэтай партыі: 1. ...Фg3!!

Прапануем чытачам самастойна разабраць варыянты, якія ўзніклі, і паказаць, чаму чорныя выйграюць фарсіравана пасля гэтага ходу.

Прапануем нашым чытачам самастойна рашыць наступны эцюд.



Белыя пачынаюць і выйграюць.

Прозвішчы тых, хто прышле правільныя рашэнні, будуць апублікаваны ў часопісе. Тэрмін прысылкі рашэнняў — месяц пасля выхаду гэтага нумара часопіса ў свет.

# Гумар і сатыра

### ПЕРАД ПАРТРЭТАМ ДРУГА



Не дай мне хвіліны
Адной змарнаваць.
Жыву я. Не трэба
Мяне шкадаваць.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

Такім я запомніў
Цябе праз гады.
Табе ўжо за трыццаць,
А ўсё малады.

А ўсё малады
Ты, паэт, небарак.
Хоць пішаш гадамі,
А ў вершах — юнак.

Юнак-юнаком
Між дзябёлых сяброў,
Між добрых паэтаў
І хлопцаў-дубоў.

Ты, пэўна, наперад
Ішоў бы смялей
І песні спяваў бы
Куды весялей,

Калі б падганяла
Цябе «Маладосць»,
Каб не разбірала
На крытыка злосць,

Калі б не чакаў,
Што напіша ў «ЛІМ»
Пра кніжку тваю
Рэцэнзент-падхалім.

Ад гэтай пародыі
Ты не памрэш,
А новы і лепшы
Напішацца верш.

**Сабасцян СТАРОБІНСКІ.**

### Алегу ЛОЙКУ, КРЫТЫКУ І ПАЭТУ

Яго манера хвацкая,
Яго пяро нязвычнае:
І вершы кандыдацкія,
І крытыка лірычная.

**Міхась ДРОЦІК.**



НА ФУТБОЛЬНЫЯ ТЭМЫ




Неўраджай!

Супрон ХВОШЧ

### НЕЗАДАВОЛЕНЫ ПАЧЫНАЮЧЫ

— Скажы, часы насталі —
Зусім не росцяць талент.
Так мала чулых нянь, аднак, —
Крычыць увесь чырвоны ён.
А ў Пушкіна была адна
Арына Радзіёнаўна...

### ЯГО КРЭДА

Ён піша пра шышкі, праз слёзы слаты
Паэмы, лібрэта, санэты.
Хай творы не ўвойдуць у фонд залаты —
Літфонд больш цікавіць паэта.



Касмічны ўдар.



Сцэнка ля фантана.

Мал. В. Швяцова.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





Цюльпаны. Фота А. Дзітлава.